# У С Т У П

Раскол Рускай праваслаўнай царквы, які адбыўся ў другой палавіне XУII ст. у выніку сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў і царкоўнай рэформы патрыярха Нікана, з’явіўся сур’ёзнай праблемай у гісторыі не толькі Рускай дзяржавы, але і памежных з ёю краін. У Беларусі, больш дакладна на беларускіх землях (што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага), прышлыя старaабраднікі стварылі своеасаблівую гісторыю старaабрадніцкага руху, і адметную культуру побыту, абрадаў і звычаяў. Для рускага ўрада і Рускай праваслаўнай царквы (далей - РПЦ) існаванне старaабрадніцкага руху было сур’ёзнай як унутранай, так і знешнепалітычнай праблемай. Цар і ўлады разумелі, што такі рух у любы момант можа перарасці ва ўзброеную барацьбу, прыкладам чаго і стала паўстанне манахаў Салавецкага манастыра (1669 – 1676 гг.). Даследчык “расколу” В. Кельсіеў, параўноўваючы рух казацтва са старaабрадніцкім рухам, пісаў: “Казачество было прибежищем всему недовольному обществом, но оно жило само для себя. Эта бессознательность убила казачество. Последним из его героев был Степан Разин.

В его время, около половины XУII в., когда казачество отживало и падало под властью самодержавия, является новый представитель свободы, тоже не имеющий сознания, но проповедующий и ничего не щадящий для проповеди – раскол” [2. С. XXУIII - XXIX].

Узнікненне і развіццё старaабрадніцкага руху ў Расіі супала з перыядам палітычных і грамадскіх змен, якія патрабавалі ад дзяржавы вялізарных затрат сіл і сродкаў, і былі перакладзены на плечы народа. Рэфарматарскі рух з аднаго боку, а прыгонніцтва з другога, выклікалі рашучае супраціўленне народа. Пачатак старaабрадніцкага руху быў звязаны яшчэ і з выпраўленнем царкоўных кніг. Запрошаны ў Маскву з Афона ў XУI ст. вучоны манах Максім Грэк для перакладу царкоўных кніг з грэчаскай мовы выявіў памылкі ў перакладах. Калі Максім Грэк адзначыў недакладнасці ў перакладзе яго абвінавацілі ў тым, што ён “…порочит русских святых чудотворцев, спасавшихся по старым книгам”. Потым яшчэ некалькі груп вучоных манахаў высвятлялі правільнасць перакладу, а іерархі грэчаскай царквы, якія прыязджалі ў Маскву, зазначалі розніцу ў абрадах РПЦ.

Другая палавіна XУII ст. азначалася рэформамі патрыярха Нікана (увядзеннем новых абрадаў і выпраўленнем кніг) і расколам РПЦ на афіцыйную праваслаўную царкву і абаронцаў старога абраду. Апошнія заслугоўваюць увагі як носьбіты характэрных асаблівасцей рускага народа.

У стараабрадніцтве выявілася глыбокая рэлігійнасць у спалучэнні з сілаю пачуцця і волі, што вяло нават да фанатызму. Барацьба за свае рэлігійныя перакананні, свабода духу парадзілі стараабрадніцкую ідэалогію.

Ідэалогія стараабраднікаў – гэта сістэма іх поглядаў на свет, на ход гістарычнага працэсу, на падзеі ў дзяржаве і на сваё месца ў іх. Нягледзячы на тое, што стараабрадніцкая ідэалогія з’яўлялася састаўной часткай феадальна-царкоўнай ідэалогіі ў Рускай сярэдневяковай дзяржаве, тым не менш яна мела свае адметныя асаблівасці, што ў сваю чаргу дало мажлівасць выдзеліць стараабрадніцкую ідэалогію ў самастойнае вучэнне. Сфарміраваная сістэма поглядаў у стараабрадніцтве мела процілеглы характар у адносінах да афіцыйнай РПЦ.

Актуальнасць пастаўленай у манаграфіі праблемы стараабрадніцтва на Беларусі ў канцы ХУІІ – пачатку ХХ ст.ст. вызначаецца дзвюмя акалічнасцямі.

Першая акалічнасць: у беларускай гісторыяграфіі ёсць манаграфіі, ў якіх разглядаецца гісторыя розных рэлігійных канфесій, але аб гісторыі стараабрадніцтва на беларускіх землях фундаментальнага даследавання няма; на беларускіх землях абаронцы старога абраду з’явіліся яшчэ да афіцыйнага расколу Рускай праваслаўнай царквы; з пражываннем стараабраднікаў на беларускіх землях былі звязаны складаныя міждзяржаўныя адносіны, і немалаважна, што іх дзейнасць насіла і носіць багаты духоўна-культурніцкі характар; вывучэнне гісторыі стараабрадніцтва на Беларусі з’яўляецца пашырэннем ведаў аб беларускай гісторыі і аб адной з самых складаных з’яў у рускай гісторыі.

Другая акалічнасць датычыць як гісторыі стараабрадніцтва, так і пытанняў суіснавання абаронцаў старога абраду побач з вызнаўцамі іншай веры на беларускай зямлі. Гісторыя сведчыць аб тым, што ўлады Рычы Паспалітай талерантна ставіліся да ўсіх рэлігій, а паміж прадстаўнікамі канфесій не было процістаяння. У гістарыяграфіі гісторыі Беларусі яшчэ зусім мала навуковых прац, дзе разглядаюцца пытанні новых падыходаў да разумення сутнасці расколу і віны ў гэтым усіх галін царскай улады і РПЦ.

Спыняючыся на першай акалічнасці, трэба зазначыць, што стараабраднікі ў Расіі заўсёды адносіліся да ліку гнаных. Павышаная ўвага да гэтай царквы з боку ўлад, у тым ліку і цароў, тлумачыцца тым, што ідэалогія стараабрадніцтва ў многім супярэчыла ідэалогіі афіцыйнай праваслаўнай царквы; стараабраднікі былі расселены на тэрыторыі ўсёй Расіі, а іх колькасць у сярэдзіне ХІХ ст. складала не менш $^{1}/_{8}$ часткі насельніцтва [1. С. 10]; уплыў стараабрадніцтва распаўсюджваўся на ўсе галіны эканамічнага, грамадскага і культурнага жыцця краіны. Імкнучыся да эканамічнай, і духоўнай свабоды, да вызвалення ад ганенняў з боку

ўрада абаронцы старога абраду пакідалі спрадвечныя месцы жыхарства і перасяляліся ў іншыя дзяржавы.

Разглядаючы другую акалічнасць, заўважым, што ўсе дзяржавы на працягу свайго гістарычнага развіцця вырашалі пытанне аб рэгуляванні адносін паміж свецкай і духоўнай уладамі. У кожнай паасобнай дзяржаве гэтае пытанне вырашалася з улікам мясцовых сацыяльна-эканамічных і культурных асаблівасцей, форм дзяржаўна-палітычнага ладу, узроўня развіцця навуковых ведаў, і распаўсюджання рэлігійнай ідэалогіі. На розных стадыях развіцця грамадска-палітычнай фармацыі пытанне адносін, свецкай і духоўнай улад мела свае асаблівасці. Так, у перыяд развіцця феадалізму ў Расіі існавала ідэалагічная манаполія царквы, быў моцны саюз царквы з феадальнай дзяржавай, меў сваю спецыфіку ўзровень і характар свядомасці народных мас. Панаванне царкоўнай ідэалогіі ў феадальным грамадстве грунтавалася на значнай падтрымцы дзяржавы, якая патрабавала ад царквы асвячэння наяўнай сістэмы. Усё гэта прыводзіла да барацьбы ў форме ерасі, бунтаў і расколу народных мас з пануючай царкоўнай ідэалогіяй.

Аналіз гістарычнага развіцця стараабрадніцкага руху ў канцы ХУІІ - пачатку ХХ стст. дазваляе выдзеліць восем этапаў. Першы этап – гэта - унутрыцаркоўная барацьба Нікана і яго прыхільнікаў з праціўнікамі ўнутрыцаркоўных рэформ (1653 - 1663 гг.). У гэты час як прыхільнікі, так і праціўнікі рэформ яшчэ не ўяўлялі ўсіх узрушэнняў і глыбіні супрацьстаяння. Ужо ў гэты час абаронцы старога абраду невялікімі групамі пачалі пасяляцца на беларускіх землях. Прычынай такіх перасяленняў часцей за ўсё на гэты час была эканамічная зацікаўленасць.

Другі этап (1664 - 1682 гг.), можна назваць этапам шырокага ўнутрырасійскага грамадскага канфлікту, у які былі ўцягнуты ўплывовыя прадстаўнікі і іншых дзяржаў. Унутрыцаркоўная палітыка была вынесена на суд шырокай грамадскасці, у ролі экспертаў выступалі вучоныя-манахі іншых краін. У гэты перыяд чытае свае пропаведзі і збірае вялікую колькасць сваіх прыхільнікаў пратапоп Авакум. Адначасова афіцыйная царква на чале з царом спрабуе выратаваць становішча, пазбаўляючы арганізатара рэформ Нікана патрыяршага сану. Колькасць абаронцаў старога абраду, якія перасяліліся на беларускія землі, павялічвалася. Прычынай перасялення, акрамя эканамічнай зацікаўленасці, былі пошукі бяспечных месц жыцця і адпраўлення рэлігійных абрадаў.

Трэці этап (1683 – 1698 гг.) характарызуецца пашырэннем стараабрадніцтва - яно трапляе на ўскраіны дзяржавы і ў вялікай колькасці выходзіць за яе межы, у тым ліку і на беларускія землі. У гэты час баяры і афіцыйная праваслаўная царква распраўляюцца з лідэрамі стараабрадніцтва, адзначаюцца выпадкі самаспалення стараабраднікаў.

Апошнім народным выступленнем у Расіі ў ХУІІ ст. было стралецкае паўстанне (1698 г.), якое праходзіла пад стараабрадніцкімі лозунгамі. Царыца Соф'я робіць першыя спробы вярнуць стараабраднікаў з Рэчы Паспалітай у Расію.

Чацвёрты этап (1698 - 1734 гг.) характарызуецца правядзеннем царскімі ўладамі актыўнай "запрашальнай" палітыкі, мэта якой - вярнуць стараабраднікаў на ранейшае месца жыхарства. У гэтыя гады актывізуецца дзейнасць стараабрадніцтва, асабліва на беларускіх землях: Невялікае мястэчка Ветка з суседнімі слабадамі становіцца цэнтрам усяго папоўскага стараабрадніцтва, (на той час Веткай называлась і тэрыторыя дзе пасяліліся стараабраднікі) робяцца спробы займець свайго епіскапа, узнікаюць кнігапісныя цэнтры, на Ветцы пішуцца цікавыя дагматычна-палітычныя сачыненні, складаецца свой статут.

Пяты этап (1735 - 1764 гг.) характарызуецца выданнем вялікай колькасці царскіх указаў і ўрадавых пастаноў, якія абмяжоўвалі правы і свабоды стараабраднікаў. Паколькі "запрашальная" палітыка не давала вынікаў, царскія войскі двойчы ўварваліся на беларускія землі і здзейснілі выгнанне стараабраднікаў. Асабліва пацярпела Ветка, дзе ў асноўным жылі папоўцы. У выніку двух выгнанняў - у 1735 г. і ў 1764 г. - былі знішчаны стараабрадніцкія паселішчы, цэрквы, манастыры, вялікая колькасць рукапісных і друкаваных кніг, а таксама ікон знікла бясследна.

Для шостага этапа (1765 - 1800 гг.) характэрна была з боку ўрада палітыка як талерантнасці, так і строгасці ў адносінах да стараабраднікаў. Нягледзячы на праведзеныя ўрадавымі войскамі выгнанні, перасяленне стараабраднікаў за мяжу не спынілася. У 1800 г. пачынаецца яшчэ адзін "эксперымент" над стараабраднікамі – схіленне іх да праваслаўя - гэтая палітыка атрымала назву аднаверства. Стараабраднікі не спынялі перасялення ў іншыя месцы на Беларусі: яны трапляюць у Мінскую губерню, у прыватнасці ў Бабруйскі і Барысаўскі паветы.

Для сёмага этапа (1801 - 1861 гг.) характэрна актыўная аднаверская палітыка, якая праводзілася як урадам, так і РПЦ. У гэты час былі створаны сакрэтна-нарадавыя камітэты, задача якіх заключалася ў зборы статыстычных дадзеных аб стараабрадніках і складанне для ўлад канкрэтных парад па рабоце з "раскольнікамі". У гэты час закрываліся стараабрадніцкія цэрквы і манастыры. У першай палавіне XIX ст. у Расіі былі прыняты самыя жорсткія законы ў адносінах да стараабраднікаў. Царскі ўрад намагаўся ўвесці гэтыя законы і на далучаных да Расійскай імперыі беларускіх землях. Аднак унутрыпалітычныя абставіны на беларускіх землях прымушалі царскі ўрад, у многіх выпадках часова, уступаць стараабраднікам якія тут пражывалі.

Восьмы этап ахоплівае (1862 - 1905 гг.). Пачатак яго характарызуецца адсутнасцю прадуманых з боку ўрада дзеянняў, якія далі б магчымасць змяніць сітуацыю; нежаданнем афіцыйнай праваслаўнай царквы ісці на кампрамісы; няўзгодненасцю ўрадавых і мясцовых пастаноў і рашэнняў; захаваннем сакрэтнасці ў адносінах да стараабрадніцтва. Прадаўжалася палітыка закрыцця стараабрадніцкіх цэркваў і манастыроў. У стараабраднікаў, якія жылі на беларускіх землях, узніклі праблемы з выкупам і арэндай зямлі. І ўсё ж пачатак ХХ ст. прынёс для абаронцаў старога абраду і станоўчыя вынікі. Царскія ўказы і ўрадавыя рашэнні 1905 – 1906 гг. рэгламентавалі правы і абавязкі стараабраднікаў.

Для напісання манаграфіі выкарыстоўваліся галоўным чынам пісьмовыя крыніцы – архіўныя і стараабрадніцкія рукапісы. Акрамя таго, аўтар выкарыстоўваў сабраны ім этнаграфічны матэрыял. У рабоце выкарыстана і манаграфічная літаратура, якая была напісана ў розныя перыяды.

У працэсе працы над манаграфіяй аўтар сабраў вялікі архіўны матэрыял па гісторыі стараабраднікаў на беларускіх землях, які не ўводзіўся ў навуковы абарот. Асаблівая ўвага ўдзяляецца архіўнаму матэрыялу сабранаму ў Нацыянальным гістарычным архіве рэспублікі Беларусь, Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве, Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў, Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (у С-Пецярбургу).

Вялікую цікавасць уяўляюць стараабрадніцкія рукапісы. Напрыклад, у рукапісах размешчаных у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў С-Пецярбургу, такіх як “Сборник старообрядческий, конец ХУІІІ в.” (фонд Колобова, № 260), “Старообрядческий сборник выписок о молении за царскую власть, конец ХУІІІ в.” (фонд Колобова № 270), “Сборник церковно-уставный, старообрядческий, ХУІІІ в.” (ОЛДП, 0 – 142), “Сборник религиозно-нравственный, старообрядческий, ХІХ в.” (фонд Тихонова, №491) ідзе гаворка пра падзеі ў стараабрадніцкім жыцці, маральных нормах, таінствах, змешчаны тут таксама тэксты спрэчак паміж стараабраднікамі беспапоўцамі і папоўцамі якія жылі на Ветцы.

Адначасова аўтар праводзіў этнаграфічныя экспедыцыі ў месцах, дзе і цяпер жывуць стараабраднікі: Браслаўскі, Шаркоўшчынскі раёны Віцебскай вобласці; Веткаўскі, Добрушскі, Гомельскі раёны Гомельскай вобласці; Барысаўскі, Валожынскі раёны Мінскай вобласці.

Даследчыя працы, якія выкарыстаны пры напісанні манаграфіі, можна раздзяліць на чатыры групы. Да першай адносяцца працы, якія ўзніклі ў свецкім і духоўным асяроддзі, яны напісаны, як правіла, адданымі прыхільнікамі праваслаўя. Да такіх адносяцца: А. И. Журавлев “Полное историческое известие о древних стригольниках, так называемых,

старообрядцах, о их учении, делах и разногласиях". Спб. 1799 г., П. С. Смирнов "История русского раскола старообрядчества". Рязань. 1893 г., Еп. Макарий "История русского раскола, известного под именем старообрядчества". Спб. 1889 г., И. Т. Никифоровский "На ниве противораскольнической миссии". Витебск. 1904 г., Еп. Питирим "Пращица против вопросов раскольнических". М., 1752 г. і інш. У гэтых працах знаходзім негатыўныя і варожыя адносіны да стараабраднiцтва, а сам змест прац адлюстроўвае афіцыйны пункт погляду ўрада і РПЦ. Напрыклад, у кнізе "Сочинения Ивана Посошкова" (М., 1863 г. Ч-2) аўтар стараабраднікаў, якія адышлі ад праваслаўнай царквы і распаліся на розныя сагласы, параўноўвае "са сляпымі сабачанятамі, што распаўзаюцца ў розныя бакі; з кратамі, бо не могуць бачыць свету; з кажанамі, якія хаваюцца днём у сваіх дуплінах (С.201).

Другую групу складаюць працы, напісаныя рэвалюцыйнымі і дэмакратычнымі гісторыкамі ў другой палавіне XIX – пачатку XX стст. Да іх адносяцца А. П. Щапов "Русский раскол старообрядчества рассматриваемый в связи с внутренним состоянием русской церкви и гражданственности в XУII и первой половине XУIII вв.". Казань. 1858 г., В. Кельсиев "Сборник правительственных сведений о раскольниках". Лондон. Вып. 1, 1860 г., Владимир Бонч-Бруевич "Материалы к истории и изучению русского сектанства и раскола". Спб., Вып. 1, 1908 г., А. С. Пругавин "Старообрядчество во второй половине XIX в. Очерки из новейшей истории раскола" М., 1904, С. Ф. Платонов "Памятники истории старообрядчества XУII в.". Л., Вып. 1, т. 1, 1927 г. і іншыя. Гэтыя аўтары ў сваіх працах паказалі сувязь стараабраднiцтва з сялянскай антыфеадальнай ідэалогіяй, з барацьбой народных мас за свабоду супраць абсалютысцкай манархіі, закранулі пытанні культуры стараабраднікаў. Напрыклад, В. Кельсіеў пісаў: "Раскол не умеет высказывать, но умеет страдать за следующие желания: он хочет полной свободы совести, свободы исповедания всем толкам, нестесненного никакими внешними постановлениями… Пускай всякая вера сама собой покажет плод евангельской добродетели". [2. С.XXУIII - XXIX].

Да трэцяй групы адносяцца працы па вывучэнні стараабрадніцкіх рукапісаў. Дарэвалюцыйныя даследчыкі даследавалі і выдалі вялікую колькасць твораў стараабрадніцкіх пісьменнікаў XУII ст. і XУIII ст., а таксама ў 1905 – 1917 гг. шэраг твораў выдалі самі стараабраднікі. В. Г. Дружинин "Подлинная рукопись поморских ответов и ее издания". Спб., 1912 г., Н. И. Субботин "Ивана Алексеева сочинения против мнимого священства поповцев" М., 1890 г., А. К. Бороздин "Протопоп Аввакум. Очерк истории умственной жизни русского общества в XУII в.", Спб., 1900

г., Я. Л. Барсков "Памятники первых лет русского старообрядчества", Спб., 1912 г. і іншыя.

Чацьвёртую групу складаюць працы беларускіх гісторыкаў. Гісторыя рэлігійных канфесій як сфера асобных даследаванняў сфарміравалася ў беларускай навуцы за апошнія дваццаць гадоў. Але яшчэ раней першым з беларускіх даследчыкаў звярнуўся да гісторыі РПЦ, у тым ліку і стараабрадніцтва М. М. Нікольскі ў сваёй кнізе "История русской церкви". М.: Л., 1931 г. Найбольшая колькасць даследаванняў была зроблена ў галіне вывучэння гісторыі Рускай праваслаўнай царквы і каталіцызму. Па гісторыі РПЦ выйшлі працы: М. С. Корзун "Русская православная церковь на службе эксплуататорских классов. X век – 1917 г.", Мн., 1984 г.; "Русская православная церковь 1917 – 1945 годы", Мн., 1987 г; Г. М. Філіст "Введение христианства на Руси: Предпосылки. Обстоятельства. Последствия", Мн., 1988 г; В. П. Оргіш "Древняя Русь. Образование Киевского государства и введение христианства.", Мн., 1988 г. і інш. Па гісторыі каталіцызму напісаны работы Я. М. Бабосавым, В. Г. Доктаравым, К. К. Койтай, Т. П. Кароткай, Я. М. Марашам, Д. М. Мацясам, К. С. Пракошынай і інш. У 1987 годзе выйшла калектыўнае даследаванне "Католицизм в Белоруссии: традиционализм и приспособление". Праводзіліся даследаванні і па іншых канфесіях.

Так, М. М. Нікольскі ў сваёй кнізе называе прычыны расколу РПЦ, аналізуе рэлігійна-сацыяльныя рухі ў другой палавіне XYII ст.; разглядаючы асаблівасці стараабрадніцтва ў XYIII ст., звязвае рост гандлёвага капіталу з дзейнасцю пасадскіх стараабраднікаў (аўтар называе тры накірункі ў стараабрадніцтве: баярскае, пасадскае і сялянскае) [5. С. 234]. М. С. Корзун, разглядаючы стараабрадніцтва як своеасаблівы этап у гісторыі РПЦ, звяртаецца толькі да пытання сацыяльнай сутнасці царкоўнага расколу. Аднак у сваіх працах М. М. Нікольскі і М. С. Корзун не разглядаюць гісторыю рускага стараабрадніцтва на беларускіх землях, у іх працах няма аналізу адносін паміж Расіяй і Рэчай Паспалітай у пытаннях аб рускіх стараабрадніках.

Асобным накірункам гісторыка-рэлігійных даследаванняў стаў аналіз рэлігійнасці як з'явы традыцыйнай народнай культуры, прычым толькі асобныя аўтары пачалі разглядаць народную культуру, у залежнасці ад царкоўных інстытутаў. На наш погляд, недахопам, беларускіх гісторыкаў з'яўляецца тое, што разглядаючы традыцыйную народную культуру, яны паказвалі яе залежнасць толькі ад найбольш буйных рэлігійных канфесій, пакідаючы без увагі меншыя па колькасці канфесіі, у тым ліку і стараабрадніцтва. Падобнае назіраем і ў працах навукоўцаў іншых краін. Але ў апошні час такі падыход стаў змяняцца. Так, А. С. Ряжев у кандыдацкай дысертацыі аб стараабрадніцтве ў Расіі, адзначае:

“Расширение подобных изысканий на позднейшие века русской истории показало, что общественный феномен народной религиозности не в меньшей, но даже в большей степени зависел от оппозиционной церкви, занимавшей в XУII – начале XX в. в России господствующее положение, течения в российском православии, именно староверия” [4. С. 3].

У Беларусі толькі ў 80-я гады на стыку гісторыі рэлігіі і гісторыі народнай культуры праявілася зацікаўленасць да стараабрадніцтва ў гістарычным і сацыялагічным плане. У 1992 годзе выйшла манаграфія Т. П. Кароткай, К. С. Пракошынай і іншых аўтараў “Старообрядчество в Белоруссии”, у якой матэрыял выкладзены ў філасофска-сацыялагічным плане. Зыходзячы з мэты даследавання, аўтары манаграфіі гістарычную частку падаюць агульным планам.

У 1994 годзе выйшла манаграфія Вольгі Фадзеевай “Беларускі ручнік”, яе аўтар, расказваючы пра рэгіянальныя асаблівасці, спосабы вырабу ручніка і яго аздаблення, закранае пытанні абрадавага выкарыстання ручніка ў месцах пражывання стараабраднікаў. Пэўную цікавасць уяўляюць артыкулы супрацоўніка Веткаўскага музея народнай творчасці С. І. Лявонцевай. У тэзісах “Ветковские старообрядческие рукописи. Диалог книги и человека” аўтар распавядае пра рукапісную спадчыну Веткі [3. С. 155-158]. У 1998 годзе ў рэспубліцы з’явілася калектыўная манаграфія пад агульнай рэдакцыяй У. І. Навіцкага - “Канфесіі на Беларусі” (канец XУIII – XX ст.). У гэтай манаграфіі В. В. Грыгор’ева дае агульную характарыстыку стараабрадніцтва на Беларусі па губернях у другой палавіне XIX – пачатку XX ст. Закранаецца таксама і пытанне адносін паміж праваслаўнымі свяшчэннікамі і стараабраднікамі.

Дадзеная манаграфія з’яўляецца першым спецыялізаваным даследаваннем гісторыі стараабрадніцтва на Беларусі ў канцы XУII – пачатку XX стст. Работа выканана пераважна на малавядомых архіўных крыніцах, частка дадзеных з якіх выкарыстана аўтарам у публікацыях.

Шмат увагі ў манаграфіі ўдзяляецца разгляду прынцыпова важных матэрыялаў аб стараабрадніцтве з крыніц, знойдзеных як у Беларусі, так і ў Расіі, Літвы і Польшчы.

У працэсе напісання манаграфіі паўстала пытанне адносна выбару тэрмінаў паняццяў *староверство* і *старообрядчество*, *старовер* і *старообрядец* і перакладу іх на беларускую мову. Адносна перакладу зазначым, што *старовер* і *старообрядец, староверчество* і *старообрядчество* ў беларускіх слоўніках перакладаюцца толькі як *старавер* і *стараверства.* У рускіх тлумачальных слоўніках названыя паняцці падаюцца як сінонімы. Напрыклад, у слоўніку В. Даля *старообрядчество* і *староверство* падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле, хаця ў самім тлумачэнні паняццяў ідзе размежаванне, падаецца

featuresрознае значэнне: “…*старовер* более общее название, включая иногда и прямых раскольников, а *старообрядец* – единоверец благословенной церкви” (С. 318). У слоўніках Ушакова і Ожэгава, у 4-томным “Словаре русского языка”, паняццю *старовер* даецца сінонім *старообрядец.* Аднак у 4-томным “Словаре русского языка” слоўнікавы артыкул *старообрядец* мае наступнае тлумачэнне: “Человек, принадлежащий к одной из религиозных сект старообрядчества” (1984, т.IУ, С.251).

У сваёй працы мы ўжываем тэрміны ***стараабраднік і стараабрадніцтва.*** Каб абгрунтаваць гэта, звернемся зноў да тлумачальных слоўнікаў і пакажам, што словы *вера* і *абрад* не з’яўляюцца сінонімамі, яны розныя па сэнсу: абрад – “Сукупнасць строга акрэсленых дзеянняў, якімі суправаджаецца выкананне рэлігійных рытуалаў або бытавых традыцый” (ТСБМ, т.1, С.70); Вера – “2. Стан свядомасці, звязаны з прызнаннем існавання Бога, перакананні ў рэальным існаванні чаго-небудзь звышнатуральнага” (СРЯ, т.1, С.149). Калі ўлічыць, што адной з прычын расколу РПЦ былі пытанні царкоўнага абраду, то, на наш погляд, больш адпаведнымі з’яўляюцца тэрміны ***стараабрадніцтва*** і ***стараабраднік.***

Адзінае стараабрадніцтва ў першай палавіне ХУІІІ ст. падзялілася на папоўцаў і беспапоўцаў. Беспапоўцы адмовіліся ад большасці таінстваў, што дазволіла пэўнай групе гісторыкаў ужываць слова “***стараверы***” у адносінах да папоўцаў, якія не ставілі пад сумненне дагматы праваслаўя. Мы лічым, што слова “***стараабраднік***” з’яўляецца больш познім і больш канкрэтна вызначае першапачатковую сутнасць расколу РПЦ.

У навуковай літаратуры няма дакладна акрэсленага значэння паняццяў *саглас* і *толк*. У сваёй працы мы тэрмінам *саглас* азначаем буйны падзел стараабрадніцтва па асаблівасцях веравучэння на збеглапапоўцаў, папоўцаў, прымаючых белакрыніцкую іерархію, беспапоўцаў: паморцаў, федасееўцаў, філіпаўцаў, нетаўцаў і да т.п. У нашай працы тэрмін *толк* азначае больш дробны, чым *саглас* падзел стараабрадніцтва па асаблівасцях веравучэння. У навуковай літаратуры тэрмін *толк* адначасова азначае і больш буйны, і больш дробны, чым *саглас*, падзел стараабрадніцтва.

Аўтар у сваёй манаграфіі даследуе праблему стараабрадніцтва на Беларусі з гістарычнага пункту гледжання, ні ў якім разе не ўмешваючыся ў пытанні багаслоўя.

# Літаратура

1. Ершова О.П. Раскол и власть. /отношения государства и старообрядчества в 50-60 г. Х1Х в./. Дис. канд. ист. наук. М., 1991.

2. Кельсиев В. Сборник правительственных сведений о раскольниках. Лондон, 1860.
3. Леонтьева С.И. Ветковские старообрядческие рукописи. Диалог книги и человека. В: Старообрядчество. История. Культура. Современность. М., 1996.
4. Ряжев А.С. Иргизские старообрядческие общины во второй половине ХУІІІ – первой половине XIX в. Дис. канд. ист. наук. М., 1995.
5. Никольский Н.М. История русской церкви. 3-е изд. М., 1985.

# ГЛАВА 1

# СТАНАЎЛЕННЕ СТАРААБРАДНІЦТВА

## 1.1. Перадумовы фарміравання стараабрадніцтва

Да ХУІІ ст. духоўным кіраўніком у Маскоўскай Русі была Візантыя, якая выхоўвала рускіх людзей у варожасці да іншаземцаў. Таму некалькі стагоддзяў Маскоўская дзяржава жыла адасоблена ад Захаду, а візантыйскі ўплыў ахопліваў усе бакі жыцця. Паводле заўвагі Кастамарава, рускі дух быў па-рабску скаваны візантыйскімі ланцугамі. Аднак падзеі ХУ стагоддзя на грэчаскім Усходзе не спрыялі Візантыі. Ранейшы высокі аўтарытэт грэкаў пачаў падаць у вачах маскоўскага грамадства. Яшчэ Іван Грозны ў спрэчках з Пасевіным зазначаў, што “грэкі нам не Евангелле”, і такі погляд у ХУІ стагоддзі становіцца агульнараспаўсюджаным. Трэба адзначыць, што давер да грэкаў быў страчаны ўжо з часу Фларэнцыйскага сабора 1439 г., калі грэкі падпісалі унію з папам рымскім. Рускія з таго часу асцерагаліся грэкаў, як страціўшых набожнасць і чысціню нораваў. Гэтак жа мала прызнаваўся аўтарытэт Візантыі ў царкоўных справах, таму што грэчаскай царкве былі ўласцівы неспакой і разлад, на большай частцы тэрыторый не было сваіх школ і грэчаскім іерархам прыходзілася вучыцца ў лацінскіх школах і акадэміях, а ўмовай прыёму было адрачэнне ад грэчаскай веры [20. С. 3 – 6, 21 – 25].

Ужо ў ХУ ст. не мелі грэкі сваіх друкарняў, таму выпускаць кнігі прыходзілася ў лацінскіх друкарнях, а гэта давала магчымасць лацінянам уносіць свае папраўкі ў грэчаскія тэксты. Пасля таго, як Візантыя заняпала пад ударамі турак, страчваецца яе сусветна-гістарычная роля, якая пераходзіць да Масквы: апошняя становіцца прадаўжальнікам грэчаскай манархіі. Маскоўскія кніжнікі пачынаюць перарабляць візантыйскія тэорыі

на рускі лад. Збавіўшыся ад візантыйскай васальнай залежнасці, маскоўскі князь узводзіцца ў ранг самадзержца, ён атрымлівае стырно ўлады над святымі Божымі прастоламі святой сусветнай царквы. Усё гэта сведчыць аб фактычным узмацненні ўлады маскоўскіх князёў і ператварэнні іх з князёў-памешчыкаў у князёў-самадзержцаў.

На Русі ўсталявалася адзінства дзяржавы і веры, з богаслужэннем на царкоўна-славянскай мове, што ў значнай ступені садзейнічала згуртаванню народа. У іншым становішчы апынуліся паўднёва-заходнія землі Украіны і Беларусі. У XIII – першай палавіне ХУІ стст. на тэрыторыі Беларусі працягвалася фарміраванне і ўдасканальванне феадальных адносін, пераразмяркоўваўся галоўны сродак вытворчасці – зямля. Змяняліся формы землеўладання і землекарыстання. Сельскагаспадарчая праца стала асновай эканамічнага жыцця, ёю займалася большасць насельніцтва. Галоўным заняткам людзей было земляробства, жывёлагадоўля, рамяство, а таксама бортніцтва, рыбалоўства, паляванне. Новыя эканамічныя адносіны былі звязаны з развіццём раместніцтва і гандлю. У Вялікім княстве Літоўскім, у якое ўваходзілі беларускія землі, адбывалася бурнае развіццё рамеснай вытворчасці. Апрацоўка металаў запатрабавала такіх спецыялістаў, як кавалі, слесары, кацельшчыкі, меднікі, лудзільшчыкі, бляхары.

Праваслаўе, іерархічна звязанае з Кіеўскім мітрапалітам, трапляе ў Вялікае княства Літоўскае з Полацкай Русі. Трэба адзначыць, што вялікія князі літоўскія такія, як Ягайла і Вітаўт, ацэньваючы ролю рэлігіі ў дзяржаве, намагаліся знайсці выйсце з рэлігійнай розні паміж праваслаўем і каталіцызмам. У пачатку ХУ ст. па прапанове Вітаўта сабор епіскапаў выбраў мітрапалітам Грыгорыя Цамблака. Незадаволеная гэтым Масква рабіла намаганні, каб Царградскі патрыярх адмяніў гэтае рашэнне. Аднак Цамблак застаўся мітрапалітам і пазней прымае ўдзел у Канстанцінопальскім саборы як прадстаўнік праваслаўнай літоўска-беларускай царквы.

У кіруючых літоўскіх групоўках узнікае думка пра унію з мэтаю раз’яднання Русі Заходняй з Руссю Маскоўскай. З 1468 г. кіеўскім мітрапалітам з’яўляўся Грыгорый Балгарын. Ён прыняў унію і паабяцаў папе рымскаму і каралю Рэчы Паспалітай прывесці да уніі ўсю Заходнюю Русь. Адбыўся падзел царквы на ўсходнюю і заходнюю. Афіцыйна лічылася, што заходнеруская царква прызнала унію з Рымскай царквою. Унія, абвешчаная на царкоўным саборы ў Берасці ў 1596 г., з’явілася спробай аб’яднання каталіцкай і праваслаўнай цэркваў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Асноўная палітычная ідэя уніі заключалася ў кансалідацыі вакол дзяржаўнай улады Рэчы Паспалітай людзей розных веравызнанняў.

Навязванне ідэй уніі выклікала народны пратэст, які ўспрымаўся як сцяг нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Руская праваслаўная царква, са свайго боку, перашкаджала збліжэнню паўночна-заходняй Русі з лацінскім Захадам, называючы яго ератычным. Напрыклад, свяшчэннікаў, пасвечаных Кіеўскай мітраполіяй, дазвалялася дапускаць да богаслужэння ў рускіх землях толькі тады, калі ад іх прынята споведзь і пры наяўнасці паручыцеля ў іх дабравернасці.

У расійскіх гандлёва-рамесных гарадах, падобных на заходнееўрапейскія гарады, зараджаліся антыфеадальныя ератычныя рухі. Прыкладам гэтага быў Ноўгарад. Тут у другой палавіне ХІУ – ХУ стст. узнікла ерась “стрыгольнікаў”. Апошнія выступалі супраць прадажнасці праваслаўнай царквы, супраць пабораў, адмаўлялі пакаянне перад свяшчэннікам, таінства свяшчэнства.

Маскву непакоіла збліжэнне Ноўгарада з Літвой. У стварэнні цэнтралізаванай рускай дзяржавы, пасля заняпаду Канстанцінопаля ў 1454 г., вялікае значэнне набывае рэлігія. Усталяванне турэцкага панавання на Балканах разглядалася як Божая кара для Візантыйскай імперыі за фларэнтыйскае вераадступніцтва. Пасля гэтых падзей позіркі рускага цара і царквы скіроўваюцца да Казані і Астрахані. Але яшчэ заставаўся непакорны Ноўгарад, і царква пачынае ідэалагічную апрацоўку насельніцтва за далучэнне Ноўгарада і яго ўладанняў да Масвы. У 1478 г. быў далучаны Ноўгарад, у 1485-м – Цвер, а ў 1510 г. – Пскоў. На ўсходзе заваяваныя Казань і Астрахань былі аб’яўлены рускімі гарадамі і павінны былі стаць гарадамі хрысціянскімі, тут устанаўлівалася асобная епархія. Першы архіепіскап казанскі і свіяжскі Гурый адправіўся ў сваю епархію з Масквы вясной 1555 г.

Руская дзяржава на захадзе выкарыстоўвала не толькі зброю, але і праваслаўны крыж. Узброенае процістаянне Усходу з Захадам уключаецца ў рэлігійныя дактрыны старажытнарускай набожнасці. Іван Грозны распачаў вайну са Швецыяй, Даніяй, Літвой і Польшчай. Цяжкай і не папулярнай у народзе была Лівонская вайна, якая пачалася ў 1558 г. паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім і перанеслася на тэрыторыю апошняга. У 1562 г. маскоўскія войскі стаялі ля сцен Віцебска, Оршы, Дуброўна, Шклова, Копысі. 15 лютага 1563 г. быў захоплены Полацк. Дзяржаве патрэбны быў тэрмінова саюзнік. У выніку доўгіх і цяжкіх перагавораў 1 ліпеня 1569 г. была падпісана Люблінская унія. З гэтага часу дзве дзяржавы, Літва і Польшча, уяўлялі сабой адну – Рэч Паспалітую. Баючыся магчымага збліжэння з Рэччу Паспалітай паўночна-заходніх рускіх зямель, цар Іван IУ у 1570 г. разграміў Ноўгарад і Цвер.

З ХУІІ ст. адкрываецца новая старонка ў рускай гісторыі: пачынаецца зліццё невялікіх мясцовых рынкаў ва ўсерасійскі рынак. Дробна-таварная

вытворчасць і грашовы абарот атрымліваюць далейшае развіццё, узмацняецца працэс грамадскага раздзялення працы, узнікаюць прыгонныя мануфактуры і прыгонныя гаспадаркі.

Працэс запрыгоньвання сялян знайшоў сваё адлюстраванне ў прынятым у 1649 г. новым зводзе законаў – Саборным улажэнні, які юрыдычна аформіў прыгоннае права.

Становішча Расіі пагаршала і няўдалая дзяржаўная знешняя палітыка. Пераўзбраенне арміі і будаўніцтва абаронных ліній на поўдні запатрабавалі новых вялізарных затрат, а гэта ў сваю чаргу прыводзіла да росту падаткаў.

Эксплуатацыя народа, жабрацтва і голад сталі звычайнай з'явай у Расіі. Патрыярх Нікан у пісьме да цара зазначаў: "Ты всем проповедуеш поститься, а теперь и неведомо, кто не постится ради скудности хлебной; во многих местах и до смерти постятся, потому что есть нечего. Нет никого, кто был бы помилован: нищие, слепые, вдовы, чернец и черницы, все данями обложены тяжкими; везде плач и сокрушение; нет никого веселящегося в дни сии" [9. С. 243].

Набліжэнне новага сацыяльна-эканамічнага крызісу ў Расіі супала з хуткім ростам народна-вызваленчага руху. У 1648 г. пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага пачалася вызваленчая вайна ўкраінскага і беларускага народаў. Яна была выклікана феадальным, рэлігійным і нацыянальным прыгнётам з боку магнатаў і шляхты Рэчы Паспалітай, каталіцкага і ўніяцкага духавенства. Гэтыя падзеі прывялі да руска-польскай вайны 1654 – 1667 гг.

Значную ролю ў жыцці краіны адыграла царква. Дзяржава і царква спрабавалі змякчаць сацыяльныя супярэчнасці, прычым абедзве ажыццяўлялі сваю дзейнасць з пазіцыі пануючага саслоўя. Характэрным было і тое, што і дзяржава і царква прэтэндавалі на прыярытэт. Спроба мітрапаліта Філіпа процістаяць Івану Грознаму закончылася не ў яго карысць. Саюз царквы і дзяржавы быў устаноўлены ў Расіі пры Міхаіле Раманаве, які ўзначальваў царскі прастол, а яго бацька, патрыярх Філарэт, ажыццяўляў кіраўніцтва царквою.

У XУII ст. царква стала найбольшым феадалам: ёй належала вялікая колькасць сялянскіх двароў у Расіі. Царква мела свае промыслы, займалася ліхвярствам, атрымлівала даходы ад манастырскіх і царкоўных белых слабод. Храмы і асабліва манастыры ў XУII ст. вызначаліся велізарным багаццем. Такое становішча выклікала незадавальненне прыхаджан: папы і манахі ў іх вачах страчвалі свой прэстыж.

Трэба зазначыць, што ўвесь час зніжаўся аўтарытэт Візантыі як духоўнага лідэра. Дзеля карыслівасці грэчаскія іерархі выкарыстоўвалі розныя сродкі, у тым ліку і ліслівасць, каб расхвальваць рускую

набожнаць. Яны пры гэтым стараліся давесці, быццам з моманту заваявання Візантыі туркамі ў ёй пачалі высыхаць ручаі Божай мудрасці. Прыязджалі ў Маскву вялікімі групамі і працяглы час жылі за кошт царскага двара, збіралі ахвяраванні. Усё гэта прывяло да таго, што грэчаскім іерархам пачалі адмаўляць у граматах. Грэкі ў сваю чаргу не вельмі добразычліва ставіліся да маскоўскага люду. Гэта адзначалі многія сучаснікі, у 1650 г. адзін з іх даносіў Пасольскаму прыказу: "…которые гречане в Волотской земле и те московских и киевлян русских людей ненавидят, а которые и приехали и тех называют собаками" [32. С. 143].

Бязлітасная класавая барацьба ў Расіі, страта прэстыжу афіцыйнай Рускай праваслаўнай царквой знайшлі сваё адлюстраванне ў такой з'яве, як раскол.

У сярэдзіне XУII ст. адбываецца рэзкая палярызацыя асноўных класаў феадальнага грамадства. У сацыяльна-эканамічным развіцці намячаюцца два пункты погляду: першы – празаходне-дваранскі, прыхільнікі гэтага погляду свае інтарэсы звязвалі з Захадам; другі пункт погляду быў праўсходне-сялянскі.

У рэлігійнай сферы таксама існавалі два розныя падыходы да пытання царкоўнай арганізацыі. Ва ўмовах феадалізму найбольш прымальнай была манархічная форма кіравання. Аднак у народзе ўжо зараджаліся і крытычныя адносіны да ўлады, з'явілася паняцце "добрага цара".

Знешняя палітыка Расіі, а таксама пачатак рэфарміравання царквы ў першай палавіне XУII ст. прывялі да стварэння ў Маскве гуртка "Ревнителей благочестия", у яго ўвайшлі Нікан, які быў тады архімандрытам, пратапапы Іван Няронаў, Авакум, Данііл, Логін, Лазар і іншыя. У гурток уваходзілі таксама прадстаўнікі свецкай прыдворнай знаці, а ўзначаліў яго духоўнік С. Ваніфацьеў. Галоўнай мэтай гуртка было аднаўленне праваслаўя ў яго чысціні шляхам выпраўлення богаслужэбных кніг і ліквідацыі непарадкаў у царкоўным жыцці. А найбольш важныя прыхільнікі Нікана – Авакум, Няронаў, Логін і іншыя – ішлі яшчэ далей. Яны прапаноўвалі спрасціць некаторыя абрады, скараціць працягласць малебнаў, выказвалі думку аб неабходнасці ўзаконення практыкі выступлення свяшчэннаслужыцеляў з пропаведзямі, складзенымі імі па розных жыццёвых пытаннях. Прадстаўнікі гуртка выступалі за ператварэнне царквы ў больш дзейсную сілу ўздзеяння на масы.

Аднак ужо ў пачатку 50-х гадоў гурток распадаецца, паміж аднадумцамі пачалася барацьба, прычынай якой была праблема выпраўлення кніг. Нікан, напрыклад, настойваў на прывядзенне кніг у адпаведнасць з візантыйскімі, а Авакум, падтрымліваючы ідэю ліквідацыі памылак, выступаў супраць сляпога, бяздушнага выпраўлення па грэчаскіх узорах. Ён выступаў супраць такой навізны ў царкве, якая зводзілася да

ўстаранення адрозненняў паміж рускай і грэчаскай богаслужэбнай практыкай. Авакум і Логін патрабавалі абапірацца на рашэнні Стогаловага сабора 1551 года.

Галоўным выканаўцам рэформы стаў Нікан. Нікан нарадзіўся 24 мая 1605 г. у сялянскай сям'і ў сяле Вельдзяманава Княгінінскага павета Ніжагародскай губерні. Пры хрышчэнні атрымаў імя Мікіта. Мікіта быў высокі, волатаўскага складу, з выразным поглядам. У дзіцячыя гады ён, не паладзіўшы з мачахай, збёг у Макараўскі Жаўтаводскі манастыр Кастрамской губерні. У бацькоўскі дом Мікіта вярнуўся ў 20-гадовым узросце. Праз пэўны час быў свяшчэннікам у сяле Лыскова, што каля Волгі. На другім беразе ракі знаходзіўся знакаміты Макараўскі кірмаш. Маскоўскія купцы, якія прыязджалі сюды, даведаліся пра добрага мясцовага свяшчэнніка і запрасілі яго ў Маскву. На працягу дзесяці гадоў ён служыў у адным з маскоўскіх прыходаў. Нечакана паміраюць тры яго сыны, і ўзрушаны гэтым Мікіта разам з жонкай прымаюць рашэнне "выйсці з міру". Было вырашана, што жонка пастрыжэцца ў Маскоўскім Аляксееўскім крамлёўскім манастыры, а муж паедзе на Салаўкі ў Анзерскі скіт пад кіраўніцтва старца Елеазара. Тут Мікіта ў 31 год свайго жыцця пастрыгся ў манахі і ўзяў імя Нікан. Жывучы ў поўнай адзіноце, ён прачытаў шмат царкоўнага пісьменства і святых твораў. Аднойчы мудры Елеазар узяў Нікана як саветніка, з сабою ў Маскву, дзе яны былі прадстаўленыя цару Міхаілу Фёдаравічу.

У 1648 г. Нікан зноў трапляе ў Маскву. Малады цар Аляксей Міхайлавіч вырашае пакінуць Нікана ў Маскве. Нікан стаў архімандрытам у Нова-Спаскім манастыры, паміж ім і царом усталявалася сяброўства. Неўзабаве цар запрасіў Нікана на мітраполію Вялікага Ноўгарада, дзе ён атрымаў асобыя паўнамоцтвы. Менавіта ў гэты час ён вызначае галоўную мэту свайго жыцця і царкоўнага служэння: гэта перамога над свецкім светапоглядам з мэтай падпарадкавання дзяржавы царкве. Сваёй благачыннай дзейнасцю, роляй ва ўціхамірванні бунту ў Ноўгарадзе Нікан заваяваў вялікую папулярнасць у народзе. З прыхільнасцю да Нікана ставіўся і цар. Нікан дабіваўся любові да сябе не толькі па асабістых матывах, але і з мэтай дасягнення падпарадкавання свецкай улады ўладзе царкоўнай.

Калі памёр патрыярх Іосіф, кандыдатамі на патрыяршаства сталі мітрапаліт Растоўскі Варлаам, епіскап Угліцкі Антоній і Нікан. Выбралі Нікана, але пасля саборнага выбрання (1652 год) ён яшчэ доўгі час не згаджаўся прыняць патрыяршаства. Гэта быў зручны момант, каб атрымаць выключныя паўнамоцвы, і Нікан цягнуў час. А час працаваў на яго. Цар з духавенствам і баярамі ва Успенскім саборы слёзна прасілі Нікана стаць патрыярхам. Іменна ў гэты момант апошні і запатрабаваў ад

іх выключных абяцанняў і клятваў. “Если вам угодно, чтобы я был патриархом, произнесите обет в этой соборной церкви, что вы будете содержать евангельские догматы и соблюдать правила святых Апостолов и святых отец и законы благочестивых царей. Если обещаетесь слушать и меня, как вашего главного архипастыря и отца во всем, что буду возвещать вам о догмах Божьих и правилах, если дадите мне устроить церковь, то я по вашему желанию и прошению не стану более отрекаться от великого архиерейства” [6. С. 137 – 138]. Жаданае абяцанне Нікан атрымаў ад цара і сабора. Гэта адбылося 22 ліпеня 1653 г. Нікану было 47 гадоў. Відаць, цар і ўдзельнікі сабора мелі на ўвазе, што змяненне царквы будзе адбывацца са спробай змены Улажэння 1649 г. А сам Нікан у гэтым бачыў адну з галоўных сваіх задач [18. С. 1 – 10, 15 – 21, 65 – 73, 97 – 108, 120 – 127].

Улажэнне 1649 г. прадугледжвала многія змяненні. Аднак Улажэнне яшчэ не закранала земляробчую царкоўную базу: зямля заставалася ў руках архірэяў і манастыроў. У падпарадкаванне свецкай уладзе адыходзіла судовая функцыя над насельніцтвам царкоўных маёнткаў і часткова адміністрацыйная функцыя. Дамагаючыся цэнтральнай улады, цар паступова забіраў у свае рукі і ўладу, і адміністрацыю, і фінансы. У новых умовах дзяржаве неабходны быў яшчэ большы запас зямель для разліку са служылым саслоўем, патрэбна была хаця б частка царкоўных і манастырскіх зямель. Саборнае Улажэнне 1649 г. скасоўвала прывілеі духавенства, манастыроў і цэркваў. Хаця царква яшчэ доўга заставалася буйнейшым землеўладальнікам, рэформы, якія адбываліся ў гэты час, былі гістарычна неабходныя і заканамерныя.

Праблемай было тое, што ніводны з бакоў не меў канкрэтных планаў: царква вызначала сваю ролю як вечную кананічную норму, а дзяржава, з яе нованароджанымі формамі вытворчых адносін, не ведала, як ёй дзейнічаць. Патрэбна была ўсім зразумелая тэорыя, якая абгрунтоўвала б гістарычную неабходнасць перамен. Нявызначанасць у расстаноўцы сіл прыводзіла да кампрамісаў. Напрыклад, саборнае Улажэнне 1649 г. мела выключэнне для патрыяршых зямель. За патрыярхам было пакінута вотчыннае права: яго епархія-вобласць выключалася з вядзення Манастырскага Прыказа, людзей судзілі па-старому, г.зн. судзілі іх патрыяршыя прадстаўнікі.

Аднак у першай палавіне XVII ст. нягледзячы на ўсе разнагалоссі ў дзяржаве, у прадстаўнікоў дзяржаўнай улады, галоўным чынам у баяраў, і ў большасці вышэйшага духавенства было адно агульнае імкненне: далучыць да Расійскай дзяржавы землі Украіны і Рэчы Паспалітай. Падтрымліваў іх ідэі і патрыярх Нікан. Пацверджанне гэтаму знаходзім у кнізе М.А. Філіпава “Патриарх Никон”. У гутарцы з царскім духоўнікам Сцяпанам Ваніфацьевым Нікан, гаворачы аб выпраўленні царкоўных кніг, пераканаўча даводзіў: “…нашей церкви необходимо держаться строго

того, что признается греческой церковью: иначе не будет церковного единения с церквями Малой, Белой Руси и Литвы, а в таком случае не будет и политического единения”. Не згаджаючыся з думкай Нікана, Ваніфацьеў адказаў: “Царство Иисуса Христа несть от мира сего, нечего поэтому припястать к вере земные дела” [36. С. 180].

Прычынай пачатку расколу паслужыла рэформа патрыярха Нікана, якая заключалася ў выпраўленні царкоўных кніг і некаторым змяненні царкоўных абрадаў у адпаведнасці з абрадамі, прынятымі грэчаскай царквою, ад якой у свой час пайшло рускае праваслаўе. Цэнтральным пунктам гэтых рэформ было выпраўленне богаслужбовых кніг.

Трэба адзначыць, што яшчэ да Нікана, у 1636 г., дзевяць ніжагародскіх свяшчэннікаў падалі патрыярху Іосіфу чалабітную аб бязладдзі ў царкве. Сярод прыхільнікаў царкоўных рэформ былі і будучыя правадыры стараабрадніцтва – Іван Няронаў, Авакум і іншыя. Яны выказвалі ідэю выпраўлення кніг. Абаронцаў даўніны не спыняла пастанова Стогаловага сабора (1551 г.), згодна з якой, пасля ўстаранення памылак, якія ўкраліся ў “непорочную христианскую веру”, устанаўліваліся “на вякі” нацыянальна-царкоўныя асаблівасці рускага праваслаўя. А калі ўлічваць, што неабходнага матэрыялу для паправак не было, то выпраўляць кнігі было вельмі складана. Аднак з моманту, калі грэкафільскія сімпатыі ў Маскве сталі перамагаць, праблемы спросціліся. З мэтай аб’яднання ўсходняй царквы з рускай патрэбна было толькі параўнаць кнігі маскоўскія з грэчаскімі тэкстамі і прывесці іх да адпаведнасці. Гэты пункт погляду падтрымлівалі і выпраўленцы кніг, вучні Кіеўскай духоўнай акадэміі – Епіфаній Славінецкі, Арсеній Суханаў. Але калі ўзяць пад увагу, што грэчаскія кнігі друкаваліся ў лацінскіх друкарнях, а тэксты выпраўлялі лаціняне, то кнігі гэтыя лічыліся не дастаткова аўтарытэтнымі.

Пункт погляду абаронцаў даўніны заключаўся ў тым, што тагачасныя кнігі друкаваліся толькі ў Маскве, а тут аўтарытэтнымі лічыліся толькі кнігі, перакладзеныя са старажытнагрэчаскіх арыгіналаў. Такіх кніг было вельмі мала: паводле даных патрыяршай бібліятэкі, рукапісных і друкаваных грэчаскіх арыгіналаў было каля шасці. Грэкафілы яшчэ да Нікана выказвалі ідэю аб неабходнасці правядзення царкоўнай рэформы, у якой узгадняліся б асноўныя палажэнні з усходняй царквою.

У 1650 г. на Афоне, у сербскім Хіландарскім манастыры, адбылася падзея, якая ўсхвалявала не толькі масквічоў, але і іншых праваслаўных вернікаў. Цару стала вядома, што тут рускія богаслужэбныя кнігі, якія ён пасылаў у афонскія манастыры, утрымліваюцца ў нядбайным стане, перарабляюцца іх тэксты, а іконы, якія дасылаў цар грэчаскім старцам, прадаваліся на торгах.

Дзякуючы добра пастаўленай друкарскай справе Масква мела магчымасць пасылаць у славянскія ўсходнія манастыры богаслужбовыя кнігі. У вялікай колькасці яны пасылаліся ў часы патрыярха Філарэта Нікіціча (1619 – 1633 гг.).

Атрымаўшы маскоўскія богаслужбовыя кнігі, славянскія афонскія манастыры пачалі адпраўляць па іх богаслужэнне. І адразу было заўважана, што паміж рускім і грэчаскім царкоўным ладам і абрадамі існуюць адрозненні. Але калі ўлічваць, што на Афоне славянскія манастыры знаходзіліся побач з грэчаскімі, то кожны манастыр ведаў, што робіцца ў суседнім. Розніца ў ладзе і абрадах выклікала розныя крыватолкі, галоўнымі пытаннямі якіх былі: адкуль пайшлі адрозненні, хто адступіў ад старажытнага ладу і абрадаў, хто мае рацыю – рускія ці грэкі?. Афон раздзяліўся на дзве групоўкі, якія мелі процілеглыя пункты погляду: першая была грэчаскай і пануючай на Афоне, другая – складалася пераважна з сербаў, у якіх асабліва моцна было развіта нацыянальнае пачуццё супраць прыгнёту і насілля грэкаў. Грэкі-афаністы адстойвалі той пункт погляду, што грэчаскі лад, кнігі і абрады адпавядаюць старажытным і парушэнняў не маюць. Маскоўскіх кніг яны зусім не прызнавалі і сцвярджалі, што ў гэтыя кнігі ўнесены дапаўненні і выдумкі праўшчыкаў. Зыходзячы з гэтага, грэкі называлі маскоўскія кнігі ератычнымі, прапанавалі іх спаліць, а тых, хто карыстаўся імі, адлучыць ад царквы.

Інтарэсы дзяржавы паставілі перад Ніканам вельмі складаныя рэлігійна-палітычныя задачы. Першая – гэта рэфармаванне царкоўных догм і абрадаў, неабходнасць прывесці іх у адпаведнасць з праваслаўнымі паўднёва-заходняй Русі. Гэта было асабліва патрэбна ў час барацьбы за ўз’яднанне Украіны з Расіяй. Другой задачай было вырашэнне пытання аб уладаннях. Дзеля фактычнай барацьбы з абмежаваннямі ўласніцкіх правоў царкоўнай гаспадаркі, Нікан актыўна пашыраў межы сваёй патрыяршай тэрыторыі, якая пры ім дасягнула значных памераў. Цар, “забыўся” Улажэнне 1649 г. і ахвяраваў Нікану маёнткі.

Ад Масквы на сотні вёрст распасціраліся патрыяршыя землі – на поўначы – Валагодская, Наўгародская, Архангельская. Ад Наўгародскай губерні адышлі Крысцецкі, Валдайскі, Старарускі паветы. З Цвярскога краю – Асташкоўская вобласць, горад Ржэў; на Волзе – рыбныя ловы ў Казанскім і Астраханскім краях; на паўднёвым захадзе многа зямель было ўзята ў Польшчы. На поўдні да патрыяршых адышлі землі амаль да крымскіх стэпаў. Паводле сведчання Паўла Алепскага, да Нікана ў патрыяршых уладаннях налічвалася да дзесяці тысяч дамавых гаспадарак. Пры Нікане іх колькасць вырасла да дваццаці пяці тысяч. У гэтай унутранай царкоўнай імперыі Нікан пабудаваў тры манастыры: Іверскі манастыр, што каля горада Валдая (Наўгародская вобласць), Крыжовы на

востраве Белага мора каля вусця ракі Анегі, і Васкрасенскі манастыр, які назвалі "Новы Іерусалім" (каля горада Васкрасенска, недалёка ад Масквы) [6. С. 140 – 141].

У 1654 г., у год абвяшчэння ўз'яднання Украіны з Расіяй, Нікан сабраў царкоўны сабор у Маскве, які канчаткова зацвердзіў прывядзенне рускіх царкоўных абрадаў і кніг у адпаведнасць з грэчаскімі.

"Новая вера" адрознівалася ад старой па многіх абрадах. Стагоддзямі прызнанай сутнасцю хрысціянскага веравучэння быў сімвал крыжа, выява якога залежала ад складання пальцаў. У старажытнарускім пальцаскладанні два пальцы сімвалізавалі двухадзінства Ісуса Хрыста як Бога і чалавека, а тры сагнутыя – Божую Тройцу. Для абаронцаў даўніны ідэя ўвасаблення Бога ў чалавека была бліжэйшай, больш зразумелай, чым ідэя траістасці Бога. Ніканіяне на гэтае пытанне мелі свой погляд: для крыжа яны прынялі сімвал Тройцы – трохперсцевае складанне. У старых кнігах, у Сімвале Веры (8 член), напісана: "И в Духа Святого, Господа истинного и животворящего", а пасля выпраўлення слова "истинного" было знята.

У адпаведнасці з прынцыпам двухадзінства Хрыста ў праваслаўі праводзілася богаслужэнне ў гонар Хрыста-богачалавека з выкарыстаннем сугубай алілуйі – двойчы паўтаралася "алілуйя, алілуйя". Новаўвядзеннямі Нікана сугубая алілуйя замянілася трохгубай, г.зн. слова "алілуйя" паўтаралася тройчы. Абвешчана была і арфаграфія імя Хрыста: замест "Исус" пачалі пісаць "Иисус", што прыхільнікамі даўніны разглядалася як адрачэнне ад сапраўднага Сына Божага. Старажытнарускі сімвал крыжа, сімвал пакут Господніх, прадугледжваў яго відарыс і выкананне васьміканцовым: чатыры канцы крыжавіны распяцця плюс канцы перакладзін: верхняй – дошкі з цітлам І. Х. Ц. С. і ніжняй – падножжа. Ніканіянства, не забараняючы васьміканцовага крыжа, уводзіла асноўную форму – чатырохканцовы крыж.

Акрамя пералічаных, былі і іншыя абрадавыя новаўвядзенні: абнясенне дзіцяці ў час хрышчэння вакол купелі; хаджэнне ў час вянчання вакол аналоя "па сонцу", пасля новаўвядзенняў хаджэнне адбывалася "супраць сонца"; богаслужэнне на сямі просвірах замянялася на богаслужэнне на пяці просвірах; традыцыйныя зямныя паклоны забараняліся – іх замянялі нізкія паклоны; было загадана не выкарыстоўваць абразы старарускага пісьма, а замяніць іх новымі. Старажытны царкоўны "знаменны" спеў па "кругах" (своеасаблівых нотных знаках – манодыя, г.зн. аднагалоссе, спеў ва ўнісон), пачаў замяняцца шматгалосым, харавым спевам па нотах. Змянялася царкоўная архітэктура, напрыклад, забаранялася ўзвядзенне шатровых храмаў, якія шырока будаваліся ў XVI ст.

Гэтыя рэформы выклікалі шырокі пратэст, у першую чаргу ў народзе і сярод ніжэйшага духавенства: у рэформах Нікана ўбачылі замах на нацыянальныя асновы. Барацьбу з рэформамі ўзначаліў усімі прызнаны Авакум. Яго падтрымалі епіскап Павел Каломенскі, пратапоп Іван Няронаў, поп Логін, дыяк Фёдар.

Праціўнікі новаўвядзенняў на чале з пратапопамі Авакумам і Няронавым абвінавачвалі Нікана ў адступленні ад старажытнага богаслужэння. Па сутнасці, пратэст з'явіўся адлюстраваннем адносін большай часткі духавенства да цэнтралізацыі дзяржаўнага і царкоўнага кіравання, якое закранала інтарэсы як свецкіх, так і духоўных феадалаў. Напрыклад, саборнае Улажэнне 1649 г. абмяжоўвала рост царкоўнага землеўладання духавенства і баяр. У гарадах было забаронена арганізоўваць так званыя "белыя слабоды", дзе жылі незалежныя ад баяр і духавенства людзі, якія займаліся вытворчасцю і гандлем і не плацілі падаткаў. Духавенства было пазбаўлена такой крыніцы даходаў як судовыя пошліны. Усё гэта аказвала істотнае ўздзеянне на ліквідацыю феадальнай раздробленасці.

Першапачаткова Авакум і яго прыхільнікі абвінавачвалі Нікана ў тым, што ён прыніжаў ролю цара, ажыццяўляў рэформу самастойна, чым і парушаў прынцып саборнасці царквы. Рашэнні патрыярха вялі да цэнтралізацыі царкоўнага кіравання, а гэта закранала інтарэсы часткі духавенства. Асаблівасцю было яшчэ і тое, што неаднароднае ў эпоху феадалізму духавенства падзялілася на лагеры. Вышэйшае духавенства, якое мела вялікія ўладанні і ўладу, прыгнятала і абкрадвала ніжэйшае духавенства, якое па сутнасці было бяспраўным і таму нядобразычліва і недаверліва ставілася да свайго кіраўніцтва, г.зн. вышэйшага духавенства, варожа сустрэла замену старых абрадаў на новыя. Значная частка ніжэйшага духавенства была непісьменнай і не магла эфектыўна карыстацца друкаванымі кнігамі. У выніку частка ніжэйшага духавенства выступала наогул супраць існаваўшых парадкаў і самаго цара.

У вырашэнні пытанняў аб рэлігійнай рэформе былі ўцягнуты свецкія феадалы, якія ў выніку змяненняў у вытворчых адносінах у выніку ліквідацыі феадальнай раздробленасці пазбаўляліся сваіх прывілеяў і траплялі ў складанае становішча. У адстойванні старых абрадаў Авакума падтрымлівалі князі Даўгарукія, Адаеўскія, Салтыковы, Трубяцкія, баяры Міласлаўскія, Стрэшнікавы, Марозава, Данілава і іншыя. Адначасова ў барацьбу ўключаецца купецтва, якое было незадаволена гандлёвай палітыкай царскага ўрада. У гандлі ўсё больш ільгот атрымлівалі чужаземцы.

Адкрытая агітацыя супраць Нікана пачалася ў 1654 г., адрузу ж пасля яго ўказа аб адмене дванаццаці паклонаў. Гэтае працістаянне Авакума і прынята лічыць пачаткам расколу Рускай праваслаўнай царквы.

У 1655 г. у Маскве з удзелам Антыахійскага патрыярха Макарыя, адбыўся царкоўны сабор, на якім былі праклятыя прыхільнікі двухперсця. Тут быў прыняты занава надрукаваны служэбнік, перакладзены з грэчаскага друкаванага служэбніка, у якім былі рэкамендаваныя для выкарыстання ўсе грэчаскія папраўкі, прапанаваныя Макарыем.

Ці мог Нікан спыніць свае рэформы або зрабіць іх бязбольнымі? У 1655 г. Нікан мог вырашыць канфлікт, калі б прыслухаўся да вучоных манахаў і скарыстаў іх дапамогу. Ён мог бы змяніць тактыку і пазбегнуць катастрофы.

У маі 1655 г. у Маскву вяртаецца грэк Мануіл Канстанцінаў з адказамі Канстанцінопальскага патрыярха Пайсея. Патрыяршая грамата была падпісана, акрамя Пайсея, яшчэ 24 мітрапалітамі, адным архіепіскапам і трыма епіскапамі. Патрыярх Пайсей стараўся стрымаць энтузіязм, і неразумную ўпартасць Нікана, выказваў зусім іншы, чым Нікан, погляд на абрады. Пайсей выказваў думку, што ерась парушае адзінства царквы. Грамата патрыярха Пайсея, як вынікае, не ўхваляла рэформы Нікана. У Нікана яшчэ быў час, каб усё выправіць, але моцнае ўздзеянне на яго аказаў патрыярх Макарый, - і дарогі назад быць не магло.

Настойваючы на сваім, Нікан прымае захады для падаўлення рэлігійнай апазіцыі. У 1656 г. быў склікаты чарговы сабор, які абвясціў адлучэнне ад царквы ўсіх стараабраднікаў. Яшчэ перад саборам, 12 лютага 1656 г., у дзень памяці св. Мілеція Антыахійскага, Нікан у змове з Макарыем, пачаў агітацыю ў карысць трохперсця. Пасля літургіі ў Чудавым манастыры, у прысутнасці царскай сям’і і вялікай колькасці народу, Нікан прачытаў пролагавае павучанне, прысвечанае св. Мілецію, зрабіў тлумачэнне таго месца ў павучанні, на якое абапіраліся абаронцы старога абраду ў апраўданне двухперсця. Нікан паспяхова выкарыстаў абставіны: у Чудавым манастыры прысутнічаў пераемнік Мілеція Антыахійскага патрыярх Макарый, які зрабіў тлумачэнне незразумелага месца ў карысць трохперсця.

Вялікая калісьці дружба паміж царом і Ніканам пачынае гаснуць. 8 ліпеня 1658 г. адзначалася свята Казанскай багародзіцы, быў хрэсны ход. Цар не прысутнічаў у Казанскім саборы ні на адной службе. 10 ліпеня ў Маскве адбылося свята Рызы Гасподняй, якое было прынесена з Персіі ў час панавання цара Міхаіла. Перад абедняю да Нікана з’явіўся князь Юрый Рамаданоўскі з царскім загадам, каб Нікан не чакаў цара на абедню ва Успенскім саборы. Акрамя таго, Рамаданоўскі перадаў патрыярху трывожную для яго інфармацыю: “Царское величество на тебя не гневен,

ты пишешься великим государем, а у нас один великий государь – царь. Царское величество почтил тебя как отца и пастыря, но ты этого не понял, теперь царское величество велел мне сказать тебе, чтоб ты впредь не писался и не назывался великим государем, и почитать тебя впредь не будет"[27. Т.11.С. 204].

Пасля гэтай размовы Нікан адправіўся ў сабор, адслужыў абедню, а ў павучанні народу заявіў, што "з гэтага часу я вам болей не патрыярх". У пісьме, якое перадаў цару баярын Аляксей Трубяцкой, Нікан прасіў цара падарыць яму келлю. Гэтыя падзеі моцна ўсхвалявалі цара, аднак ён да Нікана не з'явіўся. Трубяцкой вярнуў Нікану яго пісьмо, перадаўшы пры гэтым патрыярху ад імя цара, каб ён патрыяршаства не пакідаў, а што датычыцца келлі, дык іх на патрыяршым двары шмат. Выбару Нікану болей не было, а дарогі назад, пры яго характары, - тым болей. І патрыярх адпраўляецца ва Уваскрэсенскі манастыр, знаходзячыся ў якім, шукае адказы на пытанні: як утрымацца ў ранейшым становішчы, як захаваць свой гонар, свае багацці? У пісьмах да цара ён просіць не злавацца дарэмна, быць міласэрным.

У Маскве пачалі рыхтавацца да выбрання новага патрыярха. Аб гэтым даведваецца Нікан і пры сустрэчах з духавенствам выказвае думкі аб тым, што яго стаўленікі, якія калісьці падпісаліся слухаць і паважаць яго, забываюць аб гэтым. Самым моцным аргументам Нікана было тое, што ён патрыяршаства не пакідаў і Божай ласкі не пазбаўлены. У адным са сваіх пісьмаў цару Нікан зазначаў, што "каб выбраць патрыярха праведна, надзвычайна і законна, трэба склікаць сабор і няхай ён вырашыць".

Гэтыя выказванні і пісьмы Нікана ўсхвалявалі не толькі цара. Станавілася зразумелым, што на Русі могуць з'явіцца два патрыярхі. Цар і яго акружэнне трапілі ў вельмі складанае становішча: ні ў адным дакуменце не было правіла, якое б давала магчымасць скінуць архірэя, які пакінуў свой прастол, але ад архірэйства не адмовіўся.

У пачатку 1660 г. цар загадаў склікаць сабор і прапанаваў духавенству разабрацца ў узнікшым пытанні. Было праведзена спецыяльнае следства, дапрошана мноства сведкаў і толькі пасля гэтага сабор вынес рашэнне. У рашэнні адзначалася, што Нікан прастол патрыярха пакінуў па сваёй волі: указвалася, што калі епіскап сам адрачэцца ад епіскапства, то праз шэсць месяцаў трэба выбіраць другога епіскапа. Акрамя таго, сабор зазначаў, што Нікан павінен быць пазбаўлены архірэйства, гонару і свяшчэнства. Такім чынам, рашэннем сабора давалася права пасвяціць у духоўны сан новага патрыярха, а Нікан пазбаўляўся свяшчэнства.

Здавалася б, рашэнне гэтага заблытанага і непрыемнага пытання як для цара, так і для ўсёй царквы падыходзіла к канцу. Аднак падзеі разгортваліся далей. Першы вучоны аўтарытэт Масквы Епіфаній

Славеніцкі падаў пратэст, у якім спаслаўся на тое, што ў рашэннях першага і другога сабораў не знайшоў правіла, што давала б магчымасць скінуць архірэя, які пакінуў свой прастол, але ад архірэйства не адмовіўся. А ўдзельнікі сабора, 1660 г. прымаючы рашэнні, спасылаліся іменна на папярэднія саборы.

Пісьмо вучонага старца спыніла справу. Епіфаній Славеніцкі выказаў і шэраг заўваг: як быць са старым патрыярхам, калі будзе выбраны новы; нельга выбіраць новага патрыярха без ведама і згоды старога, а без гэтага выбары будуць незаконнымі. Тым болей, што сам Нікан заявіў: выбранага без яго патрыярха ён не благаслаўляе.

Цар Аляксей Міхайлавіч больш за ўсё баяўся саграшыць, прывёўшы ў выкананне рашэнні сабора 1660 г. У адным з пісьмаў цару Нікан папрасіў дазволу вярнуцца ў Маскву, абяцаючы пры гэтым благаслаўленне новага патрыярха. Але цар Нікана вяртаць не збіраўся і ў 1662 г. цар прыняў рашэнне склікаць сабор з запрашэннем усяленскіх патрыярхаў. Сабор пачаў працу ў канцы 1666 г. На ім прысутнічалі два ўсходнія патрыярхі – Пайсей і Макарый, якія мелі граматы з паўнамоцтвамі Канстанцінопальскага і Іерусалімскага патрыярхаў. Пасля доўгіх разбораў 12 снежня 1666 г. спецыяльная камісія сабора прад'явіла Нікану абвінавачванні: "Проклинал российских архиереев в неделю православия мимо всякого стязания и суда; покинутием престола заставил церковь вдовствовать восемь лет и шесть месяцев; ругаясь двоим архиереям, одного называл Иродом, другого Пилатом; когда был призван на собор, по обычаю церковному, то пришел не смиренным обычаем и не переставал порицать патриархов, говоря, что они не владеют древними престолами, но скитаются вне своих епархий, суд их уничижил и все правила средних и поместных соборов, бывших по седьмом вселенском, всячески отверг; Номоканон назвал книгою еретическою, потому что напечатан в странах западных; в письмах к патриархам православнейшего государя обвинил в латинстве, называл мучителем неправедным, уподоблял его Иеровоаму и Осии, говорил, что синклит и вся российская церковь приклонились к латинским догматам: но порицающий стадо, ему врученное, не пастырь, а наемник; архиерея один сам собою низверг; по низложении с Павла, епископа коломенского, мантию снял и предал на лютое биение, архиерей этот сошел с ума и погиб безвестно, зверями ли заеден, или в воде утонул, или другим каким-нибудь образом погиб; отца своего духовного повелел без милости бить, и патриархи сами язвы его видели; живя в монастыре Воскресенском, многих людей, иноков и бельцов, наказывал не духовно, не кротостию за преступления, но мучил мирскими казнями, кнутом, палицами, иных на пытке жег" [27. Т.11. С. 257 – 258].

Калі абвінавачванні былі аб’яўлены, патрыярх Александрыйскі зняў з Нікана клабук і панагію і сказаў яму, каб больш патрыярхам не называўся і не пісаўся, а называўся проста манахам Ніканам. Месцам зняволення скінутага патрыярха быў прызначаны Ферапонтаў Белазерскі манастыр.

Нягледзячы на тое, што Нікан быў звергнуты, яго царкоўная рэформа была зацверджана. Пасля сабора 1666 – 1667 гг. Руская праваслаўная царква распалася на дзве часткі: праваслаўную пануючую і стараабрадніцкую, якая не прызнавала новаўвядзенняў. Абаронцы старога абраду не прызнавалі трохперсцевага крыжа, хаджэння супраць сонца (замест па сонцу) у час богаслужэння, чатырохканцовага крыжа, напісання імя “Иисус” з двума “и” і г.д.

У маі 1667 г. сабор прызнаў прыхільнікаў старога абраду “раскольнікамі” і адлучыў ад царквы. Стараабраднікі трапілі пад уздзеянне Улажэння 1649 г., па якому за злачынства супраць веры і царквы вызначалі пакаранне смерцю. Аднак смяротнай карай, за выключэннем кіраўнікоў расколу, нікога не каралі. Пратапоп Авакум быў сасланы ў Пустазерскі астрог, туды ж былі высланы дыяк Феадор, поп Лазар, якім адрэзалі языкі.

Барацьба дасягнула незвычайнага размаху, калі асноўнай сілай руху за старыя абрады сталі сяляне і гарадская бедната, даведзеныя да крайняй галечы. Аб’яднаўшыся, яны падняліся на барацьбу за свае правы, супраць бязлітаснай эксплуатацыі, нязносных умоў жыцця. А калі ўлічыць, што пануючай формай грамадскай свядомасці ў той час з’яўлялася рэлігія, то большасць вернікаў атаясамлівала новаўвядзенні з сацыяльнай несправядлівасцю. Такім чынам, барацьба сялянства і гарадской беднаты супраць сацыяльнага і рэлігійнага ўціску прыняла форму барацьбы за “старую веру”. Раскол стаў свайго роду сацыяльным пратэстам пад рэлігійным сцягам. Арыштаваныя абаронцы даўніны адстойвалі вучэнне сваіх айцоў, за што паролі ім ноздры, закоўвалі ў кайданы і адпраўлялі на галеры. Аднак стараабраднікі не адракаліся ад сваёй веры: Дзяніс Савельеў, Пётр Мартынаў, Лявонцій Грыгор’еў, Конан Якаўлеў, Логін Папоў, Клім Матвееў на допыце сцвярджалі, што будуць пакланяцца толькі іконам старога пісьма і выкарыстоўваць дарэформенныя кніжкі [15. Ф.7, воп.1, спр.87, арк.1 – 4]. Паступова багаслоўскія спрэчкі адыходзілі на другі план, галоўнымі праблемамі станавіліся сацыяльныя. У асобных выпадках справа даходзіла да ўзброеных сутыкненняў. Асабліва ўпартае супраціўленне аказваў Салавецкі манастыр, які абараняўся восем гадоў. У 1682 годзе ў Пустазерску за вялікае знеслаўленне царскага дома пратапоп Авакум са сваімі аднадумцамі быў спалены на кастры [15. Ф.210, кн.16, слупок. 983(11), арк.76 - 78]. Пасля прыходу да ўлады Соф’і спальванне стараабраднікаў на кастры стала законам. Гэта прывяло да

распаўсюджвання чуткаў аб з’яўленні ў свеце антыхрыста, хуткім канцы свету, страшным судзе.

Стараабраднiцтва было зароджана сацыяльнымi супярэчнасцямi самадзяржаўна-прыгоннага ладу. Яно вырасла з нетраў так званага расколу Рускай праваслаўнай царквы, фармальнай падставай якога з’явілася царкоўная рэформа ў другой палавіне XУII ст. Аднак было б няправільным атаясамліваць раскол са стараабраднiцтвам. Раскол – гэта канкрэтна-гiстарычная з’ява, абмежаваная рамкамi XУII ст., i па свайму сацыяльнаму зместу ён быў значна шырэйшы, чым стараабраднiцтва, якое выйшла з расколу.

Царкоўны сабор 1666 - 1667 гг. з удзелам грэчаскiх iерархаў царквы, на рашэнні якога стараабрадніцкія кіраўнікі ўскладалі вялікія надзеі, не пакiнуў у iх iлюзiй аб магчымасцi мiрнай перамогi над “ератыкамi-нiканiянцамi”. Адзiнай iх надзеяй стала арганiзацыя шырокай народнай кампанii непадпарадкавання рэфармаванай царкве, якую яны аб’явiлi антыхрыстовай. Каб пачаты рух быў паспяховым, неабходна было арганізаваць шырокую прапаганду стараабраднiцкага вучэння, асноўныя iдэалагiчныя пастулаты якога былi на той час ужо распрацаваныя.

Раскол быў пратэстам не толькi супраць баяр, але i супраць царквы. З выступленняў абаронцаў старога абраду станавiлася зразумелым, што i баярская дума, i царква павiнны быць народнымi i ўсе новыя абрады павiнны ўводзiцца згодна з патрабаваннем народа. Калi пачалiся рэпрэсii супраць прыхiльнiкаў Авакума, абаронцы даўнiны адышлi на ўскраiны дзяржавы i за мяжу яе, прапаведавалi там iдэi абароны народных асноў.

У сваю чаргу раскол не толькi прывёў да аслаблення РПЦ як феадальнай структуры ў грамадстве, але i аслабiў уплыў новай царкоўнай iерархii на масы; раскол аслабiў актыўнасць народа ў дзяржаўным i грамадскiм жыццi. Менавiта гэта прывяло да балючага для Расii адміністрацыйнага шляху рэалiзацыi культурных i сацыяльна-эканамiчных рэформ, якiя праводзiлiся ў далейшым.

## 1.2. Стварэнне сагласаў i толкаў у папоўстве

Барацьба з мангола-татарамi, а таксама асаблiвасцi ўнутранага сацыяльна-эканамiчнага развiцця вызначалi ўсходнюю арыентацыю Маскоўскай дзяржавы. Аслабленне Крымскага ханства, шэраг ваенных перамог стварылi ўмовы ў Маскоўскай Русi для перамяшчэння сялян вялiкiмi групамi i нават цэлымi паселiшчамi. Галоўная прычына перамяшчэнняў – уцёкi ад феадальнага ўцiску, ад прыгоннiцтва. Сялянства засяляла землi Сярэдняй i Нiжняй Волгi, Дона, рухалася таксама i на

поўнач. У аснове сялянскай псіхалогіі ляжала вера ў добрага цара, патрыярхальны сямейны лад, рэлігійны містыцыз, асаблівасцю эканомікі была прымітыўная натуральная гаспадарка. Прыгоннае права, моцныя рэлігійныя традыцыі, кансерватызм народу, ідэі перавагі рускага праваслаўнага народа над усімі іншымі народамі, шматлікія ўнутраныя супярэчнасці, - усё гэта было асновай захавання ідэі стараабрадніцтва і расколу ў рускай праваслаўнай царкве.

Шырокі рух за стары абрад, які ахапіў Маскоўскую дзяржаву, не быў аднародным. Ідэі "старой веры", чысціні старажытнай набожнасці вызнавалі як прыгонныя сяляне і бяспраўныя гараджане, так і купцы і баяры. Яны ў гэтай барацьбе мелі розныя мэты, але імкненні, як правіла, былі аднолькавыя. Стараабрадніцкі рух з самага пачатку стаў набываць сацыяльную афарбоўку, хоць як адкрытая апазіцыя праявіўся найперш сярод нізавога духавенства.

З выдатных служкаў царквы толькі епіскап Павел адкрыта выступаў супраць царкоўнай рэформы. У канцы ХУІІ ст. царкоўная і свецкая ўлады занепакоены былі і нізавым духавенствам, якое пратэставала супраць іх дзеянняў і магло стаць дэтанатарам, здольным уцягнуць масы ў барацьбу.

Цара і баяр, больш за ўсё, непакоіў Авакум, калішні аднадумец Нікана, а цяпер галоўны тэарэтык прыхільнікаў старога абраду, а таксама маскоўская група яго паслядоўнікаў. 26 жніўня 1667 г. Авакум з трыма аднадумцамі быў прыгавораны да ссылкі ў Пустазерск, дзе і быў пакараны смерцю. У 1670 г. быў арыштаваны, а пазней пакараны смерцю, апакаліптычны прапаведнік, паэт Аўраамій. Маскоўская група паслядоўнікаў Авакума пасля пакарання смерцю Аўраамія і смерці баярыні Марозавай засталася без лідэраў і тэарэтыкаў. У Маскву пачаў часта прыязджаць ігумен Дасіфей, які спрабаваў аб'яднаць стараабраднікаў. Негледзячы на арышты і пакаранні смерцю, не змяншалася група паслядоўнікаў Авакума, у Маскве яны складалі найболей уплывовую сілу. Акрамя Дасіфея актыўную работу праводзіў другі вучань Авакума – ігумен Сяргей, вядомы пад свецкім імем Сімяона Крашанціннікава. Яшчэ адным тэарэтыкам і агітатарам за стары абрад быў у той час свяшчэннік Іоў Цімафееў, які пазней са старцам Карніліем і ігуменам Дасіфеем вёў пропаведзь на Доне.

З ліку паслядоўнікаў і вучняў Авакума трэба ўпамянуць папа Казьму і папа Стэфана. Поп Казьма з царквы "Усіх Святых", што на Кулішках, быў адным з першых эмігрантаў, якія накіроўваліся з Масквы на паўднёвы-захад і ў Старадуб'е на Украіне. Пра Казьму Авакум пісаў: "Козьма добрый человек, - я в его церкви и детей своих духовных причащал (в 1664 г). Со мною говаривал; он обедню поет в алтаре, а я на клыросе у него певал" [15. Ф.210, кн.16, слупок 983/11/, арк.76].

Абаронцы старога абраду і паслядоўнікі Авакума з’явіліся ва ўсіх кутках рускай зямлі. Памор’е, што побач Салаўкоў і Пустазерска, стала ў 60-х гадах ХУІІ ст. галоўнай апорай стараабрадніцтва. Галоўнымі цэнтрамі былі Траецкі Сунарэцкі манастыр, заснаваны манахам Кірылам, і Куржэнскі манастыр, заснаваны старцам Еўфрасінам. У цэрквы манастыроў часта прыязджаў ігумен Дасіфей. Названыя манастыры адыгралі важную ролю ў пашырэнні “расколу” на Поўнач.

Яшчэ адным месцам пражывання абаронцаў старога абраду сталі скіты каля Анежскага возера і на шляхах ад яго да Салаўкоў. Тут пасяляліся беглыя манахі Салавецкага манастыра, якія пакінулі яго перад пачаткам асады.

Самым вядомым і таленавітым прапаведнікам старога абраду быў салавецкі эклезіярх дыякан Ігнацій. Ён напісаў шэраг прац у абарону “старой веры”, заснаваў знакамітую Выгаўскую абшчыну. Выдатнымі тэарэтыкамі і распаўсюджвальнікамі старога абраду былі чорны дыякан, манах Пімен, старац Генадзій, старац Іосіф Сухой.

Адсутнасць на Поўначы інстытута прыгоннага права, дваранства давала магчымасць абаронцам старога абраду захаваць важнейшыя традыцыі земскай дэмакратыі. У сацыяльных адносінах жыццё было тут больш аднабаковым, што дазваляла пазбягаць унутраных канфліктаў, а ў параўнанні з прыгонным правам, гэта цанілася вельмі высока. Поўнач Ніканаўскія рэформы не прыняла, “бачачы” у іх спробы цэнтра навязаць земскай дэмакратыі свой парадак кіравання і новае царкоўнае жыццё.

На Поўначы, акрамя царкоўна-абшчынных парадкаў, важнае месца ў супраціўленні ўладам і ніканаўскай царкве займала даўняя прывязанасць насельніцтва да свабоды. Свабода была галоўнай заваёвай тэарэтыкаў даўніны, воінаў Ноўгарада, Вяткі і Пскова. Тут вырашэнне зямельных пытанняў было індывідуальнай справай свабодных сялян і рамеснікаў, а ў царкоўным і манаскім жыцці захоўваўся дух заволжскіх старцаў, якія не прызнавалі ні цэнтралізацыі свецкага жыцця, ні загадаў у духоўным жыцці.

Добра наладжаная эканамічная сувязь Поўначы з Сібір’ю і Уралам аказала і ў гэтых землях станоўчы ўплыў на распаўсюджванне ідэй абаронцаў старога абраду. Місіянерскія ідэі “расколу” знайшлі ў Сібіры спрыяльную глебу, а традыцыі самакіравання і свабодалюбства на Поўначы былі моцныя з часоў каланізацыі. Таму на гэтыя землі прыходзілі людзі, якія не хацелі нікому падпарадкоўвацца. Улады свецкія тут сустракалі рэдка, а духавенства было ў малой колькасці, таму ўсякія спробы ўвесці ў жыццё што-небудзь новае з абрадаў успрымалася карэнным насельніцтвам як імкненне да закабалення. Абароннай

дзейнасцю насельніцтва быў адыход у глыбіню Сібіры, таму к канцу ХУІІ ст. значная частка насельніцтва Сібіры засталася са старымі абрадамі.

Ідэі стараабраднiцтва былі падтрыманы на Сярэдняй і Ніжняй Волзе, у Астрахані і асабліва на Доне. На данскіх землях пражывала казацтва, неаднароднае, мала забяспечанае, яно было настроена больш свабодалюбіва, сярод іх было многа абаронцаў даўніны, асабліва ў паўночных раёнах Дона.

Сярод прапаведнікаў старога абраду на Доне трэба назваць старца Карнілія і ігумена Дасіфея [4. С. 69]. Паколькі Карнілій жыў у “пустыні” з пустазерцам Епіфаніем, то можна дапусціць, што сувязь пустазерцаў з Донам наладзілася іменна дзякуючы яму.

У 1672 годзе на рацэ Чыры, прытоку Дона, чорны святар Іоў Цімафееў, які прыйшоў з Поўначы з дзесяццю аднадумцамі, заснаваў невялікі манастыр. Гэтыя манахі падтрымлівалі сувязь з пустазерскімі скітамі [15. Ф.210, кн.16, слупок 983/11/, арк.76 – 78]. У другой палавіне 70-х гадоў гэты стараабрадніцкі манастыр налічваў ужо больш за дзвесце манахаў і манашак, стаў галоўным цэнтрам стараабрадніцтва на Доне. Сувязь з Масквою, Салаўкамі і іншымі цэнтрамі стараабрадніцтва падтрымлівалі манахі-вандроўнікі.

На землях на поўдзень і паўднёвы-захад ад Масквы стараабрадніцкія абшчыны былі рэдкімі. Паколькі большасць гарадоў і вёсак на поўдзень ад Акі былі “маладымі” то там адданасць старому абраду не была такой моцнай, як на Поўначы і ў Сібіры. Тут стараабраднікі былі ў асноўным выхадцамі з Масквы, а створаныя імі абшчыны сталі ланцужком, што звязваў Маскву і новыя стараабрадніцкія паселішчы. Пастулова землі гэтых паселішчаў пашырыліся да мяжы з Рэччу Паспалітай. Стараабраднікі з’явіліся ў Старадуб’і, а потым на Ветцы, на землях сённяшняй Беларусі. “Сувязным” у зносінах стаў горад Калуга.

Незвычайная сацыяльная разнароднасць удзельнікаў абароны даўніны прывяла да таго, што стараабрадніцтва ўжо ў канцы ХУІІ ст. распалася на дзве плыні – папоўства і беспапоўства, якія пазней распаліся на сагласы і толкі.

У папоўства выдзеліліся найбольш заможная частка стараабраднікаў, якія з прычыны эканамічнага становішча не хацелі карэнных пераўтварэнняў грамадства і імкнуліся да прымірэння з дзяржавай і пануючай царквою. Папоўцы былі, можна сказаць, “царыстамі” аднак прызнаць цара-рэфарматара памазаннікам божым, тым больш кіраўніком царквы, адмаўляліся, спасылаючыся на евангельскую догму: “Кесарава – кесару, божае – богу”. Стараабрадніцкія святары ў сваіх богаслужэннях упаміналі імя імператара, але называлі яго толькі “высакародным”, а не “набожным і благаверным”, як патрабавалася па

ніканаўскай рэформе. [27. Т.8. С. 554]. Папоўцы адкрыта і актыўна выступалі супраць урадавай царквы, якую лічылі “прадажнай блудніцай”.

Вось што гаворыцца ў адным са стараабрадніцкіх рукапісаў: “Господь наш Исус Христос, сказал: “один раб двум господам работать не может”; но он же говорит: “…воздадите ибо кесаря кесареви, а божие богови”; поэтому царю следует только подати и оброки собирать; ему в духовные дела вмешиваться не следует. Духовное духовным рождается; какая же нужда царю за веры в крепости сажать? Пускай всякая вера сама собою окажет плод евангельской добродетели; нет необходимости мучением приводить в веру по подобию языческому. Как архиереям неприлично входить в распоряжение войском, так и государю не следует касаться веры…” [7. С. 210 – 213].

Даследчык стараабрадніцтва В.І. Кельсіеў адзначаў: “Образование и развитие поповщины, совпадает с эпохой появления и введения на Руси европейских нововведений в государственном устройстве и народном быте. Эти нововведения начались при царе Алексее Михайловиче и приняты в наибольшем объеме при Петре I. Раскол русской православной церкви также начался при Алексее Михайловиче, а развился при Петре I. … По мере уклонения правительства от русской народности, усиливается и раскол… Словом, поповщинский раскол есть оппозиция старины против нововведений правительства, которое, по неотразимой силе исторического хода событий, должно было уклониться от застарелых обычаев, чтобы вывести Россию из китайского застоя. Раскольническая оппозиция действует во имя веры; явление вполне соответствующее духу русского народа и не первое в русской истории. …Нельзя не заметить, что образование поповщинского раскола было с одной стороны следствием интриг двора царя Алексея Михайловича. Этот государь взошел на престол 15 лет и, отличался благодушием и благоразумием, не имея крепкой воли и с самого начала царствования попал под влияние любимцев. Образовались партии: одна была за старый порядок вещей, другая за нововведения, начавшиеся входить в Россию” [7. С. 175].

У папоўцаў былі свае святчэннікі і ўвесь духоўны лад. Яны лічылі, што пераемнае права правядзення таінстваў, якое перадаецца пасвячэннем і намазаннем, захавалася толькі ў пяці ўсяленскіх цэрквах, адна з якіх – руская. Паколькі таінствы праведныя, а рашэнні ўсяленскіх і іншых сабораў не страцілі сілу і нязменныя, то існуючая з часоў Нікана праваслаўная царква з яе рэформамі ёсць царква ератычная, а ў ёй гаспадарыць антыхрыст. Архірэі і святчэннікі гэтай царквы грэшныя таму, што, маючы на сабе памазанне, ігнаруюць законы старых часоў, кожны дзень уводзяць змены, якія супярэчаць паданню і святататствуюць. Адсюль папоўцы рабілі высновы: цар, які з’яўляецца абаронцам гэтай

царквы, улада і ўсё, што яе акружае, ёсць слугі антыхрыста, грэшнікі. А кожны, хто не захоўвае пасты, брые бароды, жэніцца на іншаверцы, купляе ад іншаверцаў, прызнае новоўвядзенні ў абрады і культ, іншымі словамі, той, хто парушае правілы бацькоў, ёсць сын пагібелі.

Іконы візантыйскага роспісу, асаблівая алілуйя, васьміканцовы крыж, літургія на сямі просвірах, напісанне слова “Исус”, бароды, хрэсны ход, адзенне і г.д., - усё гэта было для папоўцаў больш чым звычай.

Папоўства бярэ свой пачатак з той самай крыніцы, што і беспапоўства, адрозненнем было тое, што папоўцы прымалі збеглых папоў. Унутрыпалітычныя падзеі ў Рускай дзяржаве прывялі да таго, што папоўства станавілася неаднародным, у ім утварыліся розныя сагласы. Даследчыкі называюць розную колькасць гэтых сагласаў, напрыклад, даследчык стараабрадніцтва ХУІІІ ст. А.І. Жураўлёў асноўнымі называе пяць: *веткаўскі, дыяканаўскі, перамазанаўскі (іаржэнцы), епіфанеўскі, чарнобальскі* [5. С. 206]. Даследчык стараабраднiцтва ХІХ ст. П.С. Смірноў колькасць сагласаў даводзіць да дзесяці. Адзначым, што з-за разыходжанняў у тлумачэнні паняццяў “саглас” і “толк” дакладна вызначыць колькасць сагласаў цяжка.

Як ужо адзначалася, папоўства першапачаткова з’явілася ў выглядзе збеглапапоўства, першыя абшчыны якога былі заснаваны ў Ніжагародскім, Данскім, Чарнігаўскім краях і ў Рэчы Паспалітай.

У канцы ХУІІ ст. ніжагародская і чарнігаўская землі былі цэнтрамі расколу. Стараабраднікі сяліліся ў чарнігаўскіх лясах, ля рэк Белбаш і Кержанец. Усе, хто прыязджаў сюды, сяліліся скітамі, якія насілі назвы ад імёнаў ідэйных настаўнікаў. Найбольш вядомымі былі мужчынскія скіты: Сафонаў, Лаўрэнцьеў, Ануфрыеў, Дыяканаў, Арсенеў [5. С. 265]. Скіты аднаго і таго ж сагласа аб’ядноўваліся пад адзіным кіраўніцтвам “айца” або “старца”. Існавалі і жаночыя скіты, у якіх справамі кіравалі “маці”. Жыццёвыя справы ў сагласах вырашаліся на агульных сходах, дзе таксама праводзіліся духоўныя адправы, якія выконвалі збеглыя папы або свяшчэннікі-манахі. У стараабраднікаў на Кержанцы не было свайго храма, таму ўсе адправы адбываліся ў хатах. Поп Дзіянісій меў вялікі запас міра і свяшчэнных дароў, таму сюды па дары прыязджалі людзі з розных месцаў, якія разносілі славу пра Кержанец.

У апошнія гады ХУІІ – першай палавіне ХУІІІ стст., у сагласах на Кержанцы разгарнуліся спрэчкі з-за пісьмаў Авакума, у якіх той у грубай форме выкрываў дыяка Феадора. Прапаведнікам і абаронцам ідэй Авакума быў старац Ануфрый, прыхільнікі якога ўвялі чытанне пісьмаў Авакума нават на царкоўнай службе, што ў сваю чаргу выклікала шмат спрэчак і супярэчанняў. Пасля кансультацый з Масквою было прынята рашэнне адмовіцца ад пісьмаў. Адмова Ануфрыя не падпарадкавацца гэтаму

рашэнню прывяла да ўтварэння толка ануфрыян. Аднак, пасля смерці Ануфрыя ў 1717 г. толк перастаў існаваць.

Прыцягваў папоўства і Дон. Ролю арганізатара і духоўнага айца тут выконваў Іоў ураджэнец Літвы, пасвечаны Філарэтам у іерэі. Да "расколу" далучыўся з самага пачатку, выдзяляўся празарлівасцю і неадступнасцю ад сваіх ідэй. У 1669 г. заснаваў Льгоўскі манастыр у Рыльскім павеце. Але ўмовы жыцця, якія былі тут, не задавальнялі Іова і ён адпраўляецца далей: ля ракі Чыры будуе манастыр і царкву, якую не паспеў асвяціць з-за сваёй смерці. Справу Іова прадоўжыў добра вядомы ў тых мясцінах ігумен Дасіфей, які асвяціў пабудаваную Іовам царкву і служыў у ёй пяць гадоў. Будучы чалавекам празорлівым, Дасіфей назапасіў шмат дароў, якія яшчэ доўгі час пасля яго смерці раздавалі іншыя свяшчэннікі. Весткі пра храм на Чыры хутка разнесліся па Доне, тут пачало збірацца многа людзей і ўлады зацікавіліся храмам. А Дасіфей у 1688 г., каб пазбегнуць небяспекі, перамяшчаецца за Астрахань, дзе на рацэ Кума ён жыў яшчэ некалькі гадоў са сваімі вучнямі.

У Чарнігаўскай губерні цэнтрам папоўства стала Старадуб'е. Ідэі расколу сюды прынёс маскоўскі свяшчэннік Казьма, які не падпарадкаваўся рашэнням сабора 1666 – 1667 гадоў і ўцёк з Масквы да свайго сябра, старадубскага палкоўніка Гаўрылы Іванова. З Казьмою ўцяклі яшчэ дваццаць яго аднадумцаў. Іваноў загадаў атаману Ламаку адвесці Казьму і яго аднадумцаў у мястэчка Пануроўку. У 1669 г. каля ракі Рэўна яны пачалі будаваць скіты [33. С. 425]. Пагалоска пра Старадуб'е распаўсюджвалася хутка, і неўзабаве тут сабралася вялікая колькасць паслядоўнікаў "расколу". У старадубскіх лясах яны заснавалі чатыры слабады: Сіні Калодзеж, Белы Калодзеж, Замешава і Шалома. Сюды з Бялёва са сваім сынам Дзмітрыем прыйшоў Стэфан, які заснаваў яшчэ адну слабаду – Міцькоўку. Стэфан і Казьма адпраўлялі ўсе службы, акрамя літургіі, таму што не было храма. Праз пэўны час лік слабод вырас у некалькі разоў: Клімаўскі пасад, Зыбкаўская, Клінцоўская, Лужкоўская, Злынская, Міцькоўская, Шаломаўская, Яленская, Дабранская, Воранаўскі пасад, Дзямееўка, Чуровічы, Цімошкін перавоз, Свяцкая, Ардон, Млінка, Радуль [5. С. 222].

Пералічаныя слабады маглі быць роўнымі па размаху будаўніцтва і багаццю з некаторымі расійскімі гарадамі. Па волі лёсу ўсе жыхары слабод указам Петра I былі пераведзены з сялян у мяшчан і раздзелены як грамадзяне па гільдыях. Многія з іх сталі купцамі, рамеснікамі, некаторыя наладзілі розныя промыслы, адкрылі свае заводы. У першай чвэрці XУIII ст. колькасць насельніцтва ў гэтых слабодах складала больш за 50 тыс. чалавек. Жыхароў Старадуб'я адзін з даследчыкаў характарызаваў наступным чынам: "Народ сей от природы наследственно суеверен, груб,

предприимчив и обманчив, но поворотлив, к делам способен, трудолюбив и обходителен, словом такой, который удобно просветиться может” [5. С. 222 - 223].

Да Паўночнай вайны (1700 –1721 гг.). жыхары старадубскіх слабод не былі вядомыя ні царкве, ні ўраду. У час баявых дзеянняў шведы дайшлі да рубяжоў Старадуб’я і былі спынены стараабраднікамі, якія мужна змагаліся і захапілі шмат палонных. У час перадачы палонных шведаў Пятру I, цар упершыню даведаўся пра старадубскіх стараабраднікаў. Пётр I загадаў палкоўніку Іяргальскаму перапісаць насельніцтва слабод, а потым замацаваў іх імянным указам за царом. Менавіта гэтыя абставіны далі магчымасць старадубскім стараабраднікам бесперашкодна займацца промысламі, рамесніцтвам, гандлем, свабодна карыстаючыся купецкім капіталам.

Астатніх уцекачоў цар таксама памілаваў і яны былі залічаны ў рэкруты. Што датычыць зямель, на якіх жылі стараабраднікі, то цар сваім указам назаўсёды перадаў ім гэтыя землі.

Пра падзеі ў Старадуб’і было вядома мясцовай духоўнай і свецкай уладзе, аднак яны пакуль не звярталі ўвагі на стараабраднікаў. Прыгнёт абаронцаў даўніны ў Старадуб’і пачаўся толькі пасля стралецкага бунту ў Маскве. Пасля смерці Фёдара Аляксеевіча (1682 г.) і ўступлення на прастол Іаана Аляксеевіча і Пятра Аляксеевіча рэгентам стала Соф’я. Падзеі, што адбываліся ў Маскве і іншых месцах і былі звязаны з выступленнямі стараабраднікаў, прымусілі Соф’ю прымаць рашэнні па “усмирению” “расколу”: на імя чарнігаўскага архірэя і старадубскага палкоўніка Сімяона яна даслала ўказ, каб уцекачоў з старадубскіх слабод вярнулі на іх радзіму і перавялі ў праваслаўе [12. Ф.1297, воп.1, спр.2045, арк.3ад; 28. С. 129]. Стараабраднікі пэўны час хаваліся, а потым адна іх частка вярнулася ў Старадуб’е, а другая разам са сваімі свяшчэннікамі дзеля большай бяспекі перабралася на беларускія землі ў Рэч Паспалітую, на Ветку.

Першы, хто прыняў на Ветцы свяшчэннікаў новага пасвячэння, быў свяшчэннік Феадосій (Варыпін). Рабіў ён так таму, што з цягам часу змяншалася колькасць свяшчэннікаў старога, даніканаўскага пасвячэння. Сярод першых прынятых былі брат Феадосія Аляксандр і Барыс з Калугі.

Ужо ў першай палавіне XVIII ст. папоўства канчаткова адасобілася ад беспапоўства. Разам з тым у папоўстве пачалі ўзнікаць рознагалоссі і спрэчкі, што прывяло да ўтварэння трох новых сагласаў: *веткаўскага, дыяканаўскага і епіфанеўскага.*

*Веткаўскі саглас* адрозніваўся тым што: а) веткаўцы ўжывалі ўласнае міра (састаў з пахучых рэчываў, выкарыстоўваемы для свяшчэннага памазання), якое было зварана яшчэ настаяцелем Феадосіем. Гэтым мірам

яны памазвалі пераходзячых з праваслаўя, а таксама выкарыстоўвалі яго пры хрышчэнні дзяцей і дарослых; б) у час службы веткаўцы праводзілі трохразовае каджэнне наступным чынам: два разы прама, а трэці – упоперак; в) у веткаўцаў былі свае правілы прыняцця свяшчэннікаў і вернікаў пераходзячых з праваслаўя ў стараабраднірцтва. Так, да Феадосія яны перахрышчвалі ўсіх, хто пераходзіў да іх; перахрычванне збеглых папоў мела сваю асаблівасць: каб свяшчэннік не страчваў свяшчэнства, у ваду яго пагружалі ва ўсім свяшчэнніцкім адзенні. З цягам часу пагружэнне ў ваду замянялася больш простым рытуалам: свяшчэннік павінен быў прайсці пост і пакаяцца ў сваіх грахах, і толькі пасля гэтага ён прыходзіў у царкву, куды запрашалі кума і куму, увесь лад хрышчэння адбываўся паслядоўна. Той, каго хрысцілі, не апускаўся ў ваду, яго толькі абводзілі вакол купелі "па-салонь". Асобныя часткі цела памазвалі мірам, пры гэтым адзенне не здымалі, а толькі прыпадымалі. Лічылася, што пры такім дзействе не можа знясца само свяшчэнства. Такім жа чынам перахрышчваліся і прыхаджане, г.зн. без апускання ў ваду і мірапамазання. Некалькі чалавек станавіліся ў радок, і перад кожным выстаўлялася ёмістасць з вадою, якая і была купеллю. Пазней, ужо ў пабудаваных новых цэрквах, міран пачалі прымаць праз мірапамазанне, а збеглых папоў – пасля праклінання імі ерасяў афіцыйнай праваслаўнай царквы - без мірапамазання.

У абрадавай практыцы веткаўцаў былі і іншыя асаблівасці: а) яны выкарыстоўвалі іконы, пісаныя мастакамі іншай веры; б) не прызнавалі самаспаленне; в) запасныя дары давалі старцам і старыцам, жанчынам і дзяўчатам, мужчынам, усе яны маглі прычашчаць другіх; г) прымалі ежу разам з праваслаўнымі, не накладваючы за гэта епітымію, грахом не было таксама хадзіць разам з праваслаўнымі ў лазню; д) вянчанне адбывалася ў хатах; е) стараабрадніцкія папы ў час сваёй адсутнасці маглі пакінуць замест сябе мужчын, якія мелі права прымаць тых, хто прыходзіў ад праваслаўнай царквы, спавядаць хворых перад смерцю і адпускаць ім грахі (грахі павінны былі быць запісанымі на паперы).

Веткаўскі саглас быў шырока вядомы, яго парадкаў прытрымліваліся ў навакольных слабадах, а таксама на Доне, у Старадуб'і, на Кержанцы, у Маскве і іншых месцах.

*Дыяканаўскі саглас або дыяканаўства.* Ідэйным кіраўніком яго быў дыяк Аляксандр. У час спрэчак па дагматычных пытаннях з веткаўцамі Аляксандр выявіў разыходжанне ў вучэнні і абрадах айцоў сваіх і веткаўцаў. Гэтыя разыходжанні заключаліся ў наступным: а) веткаўцы няправільна выкарыстоўвалі міра. Прыходзіўшых да іх ад праваслаўнай царквы памазвалі сваім мірам; б) крыж чатырохканцовы вучылі называць хрыстовым і прыраўноўвалі яго да васьміканцовага; в) веткаўцы ўжывалі

як малітву “Господи Исусе Христе, Боже наш, помилуй нас” так і малітву “Господи Исусе Христе, Сыне Божий, помилуй мя грешного”; г) веткаўцы каджэнне ладанам у час службы рабілі тры разы, г.зн. двойчы прама і трэці раз упоперак. Аляксандр лічыў, што, згодна з царкоўным статутам, каджэнне трэба рабіць крыжападобна; г.зн. адзін раз прама, другі – упоперак. Ён схіліў да гэтага папа Дзмітрыя, які ў гэты час кіраваў духоўным жыццём на Кер436анцы, а таксама пэўную частку народа. Усё гэта не было ўзгоднена з Веткай. Аднаму і другому каджэнню Аляксандр даў свае назвы: веткаўскае трохразовае назваў звычайным, а сваё крыжападобнае – статутным. Пры гэтым ён кіраваўся тым, што гэта ёсць найвышэйшы дагмат веры. Калі ў 1706 годзе, у час хрэснага ходу на раку ў дзень Багаяўлення, Аляксандр стаў кадзіць па-свойму, народ хацеў разарваць “наватара”, і Аляксандр вымушаны быў уцякаць.

У час спрэчак веткаўцы прапанавалі адмовіцца ад новаўвядзенняў і кадзіць па-ранейшаму. Аднак ідэйныя айцы ў 1717 г. падпісалі так званы “міравы скрутак”, які прызнаваў, што “в дъяконовом ските кадят по уставу” [28. С. 128; 16. С. 50 - 52], пасля чаго спрэчкі спыніліся і была прызнана дыякоўская прапанова.

У адрозненне ад ануфрыян, якія не прызнавалі чатырохканцовы крыж, дыякоўцы лічылі яго сапраўдным крыжам Хрыстовым. Вучэнне аб выратавальнай сіле малітвы Ісусавай, у якой былі словы “Божа наш”, стала характэрнай прыметай дыякоўскага сагласа. Адвяргаючы міра, прыгатаванае на Ветцы, дыякоўцы сцвярджалі, што яны маюць сваё старажытнае міра, асвечанае архірэямі, якія былі да Нікана. Каб яно пастаянна існавала, падлівалі ў яго алей па правілу св. Матфея Іерусалімскага. Тых, хто далучаўся да старaабраднiцтва прымалі ў свой саглас праз памазванне гэтым мірам, без асобага ладу прымалі збеглых папоў. Нягледзячы на нязгоду з Веткай, дыякоўцы прымалі ад веткаўскай царквы святыя дары. Яны пастпова адышлі ад ідэі шанавання чатырохканцовага крыжа. Так арганізацыйна і ідэйна ўтварылася дыякоўства, якое было вядома яшчэ пад назвай новакадыльства.

Трэцім у папоўстве стаў *епіфанеўскі* саглас, або *епіфанеўства.* Папоўства ў старaабрадніцтве характарызавалася аднароднасцю. Генератарам ідэй тут выступілі гандляры, якія змагаліся за ўласную царкву, аднак у палітычным плане ішлі на збліжэнне са свецкай уладай.

Сацыяльна-эканамічны крызіс, які ахапіў Расію яшчэ задоўга да адмены прыгоннага права, не абмінуў папоўства, колькасць папоўцаў пачала змяншацца: адны, расчараваўшыся, вярталіся ў лона афіцыйнай царквы, другія – працягвалі шукаць адказы на пытанні, што існавалі ў старaабрадніцтве з моманту яго ўзнікнення.

Паступова ў папоўстве з’явілася праблема наяўнасці свайго духавенства. Адразу пасля расколу папоўцы не мелі недахопу ў свяшчэнніках, якія часта пакідалі ніканаўскую царкву. Пасля перахрышчвання і пакаяння з пракляццем ніканаўскіх ерасяў папоўцы прыйшлі да паўторнага мірапамазвання (або перамазвання). І тут у папоўцаў узніклі праблемы: скончыліся запасы міра. Справа ў тым, што міра павінна было быць асвечана вышэйшымі царкоўнымі іерархамі, а такіх у папоўцаў не было. І яны пачалі шукаць епіскапа, таму што толькі епіскап меў права пасвяціць сваё духавенства і варыць міра.

У 1724 г. у трохі заблытаных абставінах быў пасвечаны ў епіскапы манах Козельскага манастыра Кіеўскай епархіі Епіфаній Якаўлеў. Пасвячэнне адбылося ў Ясах, выканаў яго малдаўскі мітрапаліт Георгій. Епіфаній быў авантурным, напорыстым, але разам з тым веруючым і добрым чалавекам. Пасля частых арыштаў і ўцёкаў Епіфаній у 1734 г. трапляе на Ветку і пачынае тут служыць службы ў сакосе і амафоры, як епіскап. Здавалася б, што папоўцы, і ў прыватнасці веткаўцы, займелі свайго епіскапа. Аднак у 1735 годзе Епіфаній быў арыштаваны рускімі войскамі, якія перайшлі мяжу Рэчы Паспалітай. Яго прывезлі ў кіеўскую крэпасць, дзе ён захварэў і ў хуткім часе памёр. Пахавалі веткаўскага епіскапа пры царкве прападобнага Феадосія ў кіеўскай крэпасці як міраніна. Епіфаній мала дапамог веткаўцам, ён толькі пасвяціў некалькі свяшчэннікаў [28. С. 437; 16. С. 57 - 65].

Гэтая падзея выклікала ўтварэнне новага епіфанеўскага сагласа ў папоўстве. Нічым асаблівым ён не адрозніваўся ад веткаўскага сагласа. Епіфанеўцы вызначаліся вялікай прыхільнасцю да Епіфанія і маліліся за яго ў цэрквах, не толькі як за епіскапа, але і як за пакутніка. Паслядоўнікі Епіфанія ўвесь час наведвалі яго магілу ў Кіеве.

Паслядоўнікаў епіфанеўства было мала, жылі яны на Ветцы і ў старадубскіх слабадах. Пад канец ХУІІІ ст. мелі свае цэрквы і манастыры. Сто адзінаццаць гадоў давялося папоўцам жыць без свайго епіскапа. (Пра гэта размова пойдзе пазней).

Амаль семдзесят гадоў Ветка была цэнтрам папоўства. Аднак пасля так званых “выганак” 1735 г. і 1764 г. яе роля перайшла да Старадуб’я (за 80 вёрст ад Веткі).

З часам у папоўстве пачалі ўзнікаць спрэчкі адносна парадку прыняцця ўцекачоў, а ў канцы 70-х гадоў ХУІІІ ст. яны сталі частымі. У выніку ў беглапапоўстве ўзнікае толк перамазанцаў, адмаўляючых прыняцце збеглых папоў згодна з трэцім ладам, перамазанцы складалі большасць.У гэты час узнікаюць два новыя цэнтры збеглапапоўцаў: Рагожскія могілкі ў Маскве і Іргіз у Саратаўскай губерні.

Рагожскія могілкі былі заснаваны ў 1771 г., калі ў Маскве лютавала чума і памірала шмат людзей. Папоўцы, якія абгрунтаваліся ў Маскве, ужо мелі невялікія могілкі паблізу Цвярскога манастыра і за цвярскімі варатамі. У час чумы, папоўцы атрымалі новую дзялянку для пахавання за Пакроўскай заставай. Гэтая зямля належала вёсцы Новааляксандраўка Андронаўскай слабады, населенай стараабраднікамі. Князь Арлоў дазволіў пабудаваць на могілках капліцу для адпявання памёрлых. З гэтых месц пачынаўся гандлёвы шлях на Уладзімір і Ноўгарад. Ля дарогі, недалёка ад Масквы, была вёска Рагожа (пазней г.Багародск, цяпер г.Нагінск) і Рагожская ямская слабада. Новыя могілкі і атрымалі назву Рагожскіх. Тады гэтыя могілкі сталі агульнарускім цэнтрам усяго папоўства [1. С. 198 – 201; 209 - 212]. У 1776 г. рагожцы пабудавалі вялікую мураваную капліцу ў імя святога Міколы. У 1804 г. была пабудавана другая мураваная капліца (зімовая) у імя Нараджэння Хрыстова. Да сярэдзіны XIX ст. на могілках пражывала да 1600 вернікаў. Могілкі былі абнесены высокай агароджай з варотамі, тут была зроблена цэлая сістэма патаемных хадоў. Тры храмы мелі багатае ўбранне, у іх былі іконы Рублёва і іншых мастакоў, размяшчалася залатое і срэбнае начыненне з каштоўнымі камянямі. Рызы свяшчэннікаў былі з дарагіх тканін, упрыгожаныя каштоўнасцямі. Асобна былі пабудаваны сіроцкі дом, дом псіхічных хворых, прытулак і стараабрадніцкае вучылішча, а таксама тры багадзельні [11. С. 4,6,17,36,37]. У пачатку 90-х гадоў ХУIII ст. на могілках пражывала 20000 прыхаджан, у 1822 г. – 35 тыс., а ў 1825 г. – 68 тыс. [28. С. 134]. Акрамя пералічаных пабудоў, тут былі канторы, канцылярыі, бібліятэкі з рэдкімі кнігамі. На могілках быў і жаночы манастыр. Капітал могілак налічваў мільёны рублёў.

Пасля разбурэння і заняпаду Веткі, частка папоўства перайшла на раку Іргіз у Саратаўскую губерню. З цягам часу Іргіз таксама адыграў ролю ў гісторыі стараабрадніцтва. Неабходна адзначыць, што ў Саратаўскую губерню стараабраднікі трапілі адразу пасля ніканаўскіх рэформ. Тут пабываў Сцяпан Разін, бунт у Камышыне таксама звязаны з гэтымі мясцінамі. Адсутнасць строгага чыноўніцкага нагляду давала магчымасць стараабрадніцтву развівацца тут без асаблівых перашкод.

У1762 г. па берагах Іргіза былі заснаваны тры скіты: Пахомеўскі, Ісаакеўскі, Аўраамеўскі [15. Ф.248, воп.42, спр.3627, арк.1 – 5ад; 12. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.8; 28. С. 135]. З гэтымі скітамі было звязана адраджэнне стараабрадніцтва. Вядома і тое, што ў адным з названых скітоў старцам Філарэтам быў благаслаўлёны Пугачоў. Росквіт Іргіза і распаўсюджванне яго ўплыву былі звязаны з манахам Сергіем Юршавым. Ён быў старэйшы сын маскоўскага купца Пятра Юршава. У 1776 г. Сергій Юршаў з Веткі перасяліўся на Іргіз. На час яго прыходу тут было ўжо пяць скітоў:

Пахомеўскі, Маргарытынскі, Анфісінскі, Ісаакіеўскі, Аўраамiеўскі. Усе яны знаходзіліся недалёка ад г.Волжска. У 1780 г. Юршаў атрымаў ад Саратаўскіх улад дазвол на багаслужэнне, а неўзабаве, побач са скітамі, была пабудавана вялікая і багатая царква. Пасля пабудовы царквы скіты атрымалі назву манастыроў: верхні, Ісаакіеўскі, быў названы Успенскім (1783 г.), ніжні, Аўраамiеўскі, атрымаў назву Васкрасенскага (1786 г.), сярэдні, Пахом'еўскі – Нікольскага (1788 г.), жаночыя скіты, Маргарыцінскі і Анфісінскі, – Пакроўскага і Успенскага [28. С. 135]. Сергіем Юршавым быў напісаны статут царкоўнага богаслужэння і мірскога жыцця. Дзейнасць манаха Сергія прыцягнула ўвагу вялікай колькасці стараабраднікаў, і яны, як калісьці імкнуліся на Ветку, цяпер, пачалі перасяляцца ў іргізскія скіты.

Жыццё на Іргізе было строга рэгламентаванае. Кожны манастыр узначальваў ігумен, якога выбіралі пажыццёва. Першапачаткова, каб стаць манахам або паслушнікам іргізскага манастыра, дастаткова было толькі жадання, з цягам часу была ўстаноўлена плата.

Узнікненне Рагожскіх могілак і Іргіза спарадзіла яшчэ адзін толк у папоўстве, які атрымаў назву *перамазанцаўскі.* У 1777 г. на Рагожскіх могілках збеглых папоў прымалі другім ладам, г.зн. праз памазванне мірам, а міра было ўжо на зыходзе, і таму поп Васілій Чабаксарскі і дыяк Фёдар Міхайлаў, у прысутнасці іншых свяшчэннікаў, зварылі новае міра. Не ўсе стараабраднікі на Іргізе і ў Старадуб'і адабралі гэта. Адкрыта выказалі свой пратэст старадубцы – ігумен Пакроўскага манастыра Міхаіл (Калмык) і манах Успенскага манастыра Нікадзім. На іх пярэчанні рагожскія стараабраднікі адказалі, што не будуць падпарадкоўвацца старадубцам, таму што апошнія парушаюць дагматы, у прыватнасці, папоў і міран, якія да іх прыходзяць, прымаюць без мірапамазання. Каб вырашыць спрэчкі, склікалі ў Маскве сабор, які атрымаў назву перамазанскага. На сабор прыехаў з Старадуб'я Міхаіл (Калмык) і Нікадзім, з Кержанца – Іона Курносы, з Улангерскага скіта – старац Адрыян, з Іргіза - старац Сергій і манах Лаўр, ад маскоўскай абшчыны былі поп Мацвей і Васілій [28. С. 135]. Удзельнікі сабора, які адбыўся ў канцы 1779-га – пачатку 1780 гадоў, правялі каля 10 пасяджэнняў, якія праходзілі ў гарачых спрэчках. Асноўным прадметам спрэчак было пытанне аб парадку прыняцця збеглых папоў і прыхаджан. Адна частка ўдзельнікаў сабора, у тым ліку Міхаіл (Калмык) і Нікадзім, абаранялі веткаўскі статут, згодна з якім збеглыя папы і міране прымаліся без памазвання мірам, г.зн. трэцім ладам. Другая частка ўдзельнікаў сабора абараняла правы Рагожскіх могілак. Удзельнікі сабору да адзінай думкі не прыйшлі, а Нікадзім са сваімі аднадумцамі дэманстратыўна пакінуў сабор.

Вырашыць спрэчку ўзяўся Сергій Юршаў. Трэба зазначыць, што ў гэты час, Іргіз у папоўстве адыгрываў вядучую ролю, яго духоўныя лідэры карысталіся вялікім аўтарытэтам, а Старадуб'е для перамазанцаў ужо не было ранейшым аўтарытэтам. У папоўстве, не без удзелу Сергія Юршава, усталяваўся пункт погляду, быццам толькі ва Успенскім іргізскім манастыры нязменна захавалася апостальскае вучэнне і сапраўднае міра. Паступова права прыёму збеглых папоў перайшло толькі да Іргіза, і ўсе перамазанцы жадалі атрымаць свяшчэнніка іменна адтуль. Гэта дало магчымасць збіраць вялікія сумы грошай, якія траціліся на абнаўленне і будаўніцтва храмаў і ўтрыманне манахаў і манахінь.

Хуткае пашырэнне збеглапапоўства, як у прынцыпе і ўсяго стараабрадніцтва, звязана з асаблівасцямі "расколу". "Раскол" як пратэст супраць прыгонніцтва і афіцыйнай праваслаўнай царквы набывае ў ХУІІІ ст. пераважна той характар, які абумоўліваецца слабымі бакамі дзяржаўнага кіравання. Так, у эпоху рэлігійных ганенняў пры Пятры І "раскол" меў царкоўную афарбоўку, а пры палітычных ганеннях – палітычную; пры Кацярыне ІІ, калі ганенні былі прыпынены, але захавалася ненармальнае сацыяльнае становішча народа і прыгоннае права, "раскол" прыняў сацыяльную і эканамічную афарбоўку. Такім чынам, у гісторыі "расколу" у канцы ХУІІ – ХУІІІ стст. можна выдзеліць тры перыяды: а) перыяд да Пятра І – "раскол" як рэлігійная секта, б) перыяд да Кацярыны ІІ – як палітычная апазіцыя, в) пасля Кацярыны ІІ "расколу" была характэрна арганізацыя прамысловых і гандлёвых абшчын. Таму тыя свабоды, якія стараабраднікі атрымалі пры Кацярыне ІІ і ў наступны перыяд, садзейнічалі расшырэнню ўплыву як Іргіза, так і ўсяго папоўства. Так, іргізскія манахі былі вызвалены ад рэкруцкай павіннасці. З урадавай казны было выдзелена 12 тыс. рублёў на аднаўленне храмаў, знішчаных пажарам. Манастыры валодалі вялікай колькасцю зямлі (12534 дзесяцін), на што было рэскрыптнае пацвярджэнне ў 1797 і 1798 гадах імператара Паўла [28. С. 141 - 142]. Усё гэта давала магчымасць утрымліваць стараабрадніцтва матэрыяльна. Значэнне Іргіза пацвярджае і тое, што ва ўрад з розных месц паступалі заявы дазволіць браць папоў з Іргіза. 26 сакавіка 1822 г. паступіла яшчэ адно царскае зацвярджэнне адносна збеглых папоў. У ім гаварылася: калі за збеглымі папамі няма крымінальнага злачынства, то пакідаць іх у стараабраднікаў, як людзей, якіх не цэняць. Там, дзе ў стараабраднікаў не было цэркваў і малітоўных дамоў пражываць збеглым папам не дазвалялася. Тут гаварылася таксама пра неабходнасць вядзення стараабрадніцкімі свяшчэннікамі метрычных кніг, аб чым кожны год прадстаўляць ведамасці грамадзянскаму начальству [12. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.13 – 13ад].

Адносіны да старaабрадніцтва змяніліся на горшае пры імператары Мікалаі І. Калі быў спынены прыток свяшчэннікаў у папоўства, 24 мая 1827 г. міністэрства ўнутраных спраў забараніла старaабрадніцкім свяшчэннікам пераходзіць з павета ў павет для адпраўлення рэлігійных службаў, а тым больш з губерні ў губерню: "... решительно им сие воспретить; в случае же переездов их, если не будут иметь надлежащих видов, поступать с ними, как с бродягами" [12. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.13ад - 14]. 8 лістапада 1827 г. быў выдадзены ўказ імператара, які забараняў пераход праваслаўных свяшчэннікаў у "раскол", а хто знаходзіўся ў "расколе", пакінуць у спакоі: "... чтобы ныне находящихся оставить в покое, но новых не дозволять отнюдь принимать" [26. С. 77]. У 1841 г. спыніў сваё існаванне апошні іргізскі манастыр [28. С. 142]. На рагожскіх могілках у 1853 г. быў толькі адзін свяшчэннік. Службы з удзелам свяшчэннікаў праводзіліся тайна, а абедні – у начны час. Папоў замянялі манастырскія "устаўшчыкі".

У папоўстве вядомы яшчэ шэраг сагласаў, у першую чаргу саглас *чарнобальцаў і суслаўскі.* Пасля разарэння Веткі большасць яе жыхароў пасялілася ў Старадуб'і. Першае і другое выгнанне старaабраднікаў з Веткі адмоўна адбілася на захаванні веткаўскіх асноў і звычаяў. Паступова ў Старадуб'і паміж старaабраднікамі пачаліся сваркі па пытаннях веры і парушэнні маральных норм. Такое становішча не задавальняла многіх вернікаў і частка манахаў і недухоўных пад кіраўніцтвам Іларыёна, Нікіфара Ларыёнава і Паўла Грагор'ева ў 1775 г. пакінула Старадуб'е і накіравалася ў Рэч Паспалітую. Пасяліліся яны ў мястэчку Чарнобыль, землі якога належалі пану Хаткевічу. Тут была пабудавана царква і манастыр. Чарнобыльцы адрозніваліся тым, што: а) не пакланяліся васьміканцоваму крыжу, калі на ім не было выявы распяцця Хрыста; б) адмаўлялі прысягу; в) верылі ў блізкі канец свету і запэўнівалі, быццам ведаюць час канца; г) лічылі вялікім грахом брыццё барады; д) не маліліся за цара і за царскую сям'ю па форме, вызначанай свяшчэнным Сінодам; е) не прымалі тых, хто прыходзіў з пашпартамі, а ўбачыўшы яго, - рвалі, кажучы пры гэтым, што там пячатка антыхрыста [5. С. 341].

Сваю гісторыю мае і *суслаўскі* саглас. З Арла і Каломны ў слабаду Злынку, што ў Старадуб'і, перасялілася некалькі купцоў, якіх прынялі ў дыяканавы саглас. На той час у Старадуб'і склалася практыка прымаць збеглых папоў не толькі з Вялікарасіі, але і з Маларасіі, дзе хрышчэнне адбывалася паліваннем. Менавіта такое хрышчэнне купцы называлі несапраўдным і выказваліся за тое, каб прымаць толькі тых свяшчэннікаў, якія былі пастаўлены вялікарасійскімі епіскапамі. Акрамя таго, епіскапы павінны былі мець на сабе пасвячэнне, якое перайшло ад маскоўскіх патрыярхаў Філарэта і Іосіфа. З-за гэтага купцы аддзяліліся ад

дыяконства, утварыўшы свой саглас, які назвалі па імені аднаго з сваіх кіраўнікоў – Фёдара Суслава – суслаўскім [7. С. 169].

Пасля выдання ўказа ад 26 сакавіка 1822 г. утварыўся *лужкоўскі* саглас. Прычынай яго ўзнікнення было тое, што частка папоўцаў адмаўлялася весці метрычныя кнігі. Ва ўказе была пастаўлена пад сумненне праўдзівасць свяшчэнства папоўцаў, якія вядзенне манастырскіх кніг лічылі ерассю. Першымі выказалі сваё абурэнне стараабраднікі пасада Лужкі ў Старадуб'і, якія выступілі супраць метрычных кніг, называючы гэта стратай сапраўднага свяшчэнтсва. Лужкоўцы адстойвалі ранейшае тайнае збеглае свяшчэнства і вырашылі не мецъ зносін з іншымі папоўцамі. Лужкоўцы, пасля таго як займелі свяшчэнніка, пачалі прымаць у свой саглас трэцім ладам, а тых, хто ўцёк ад афіцыйнай царквы, - другім ладам. Асаблівасцю лужкоўскага сагласа было і тое, што тут лічылі ерассю прыносіць за цара неабходную просвіру. Лужкоўцы мелі сваіх паслядоўнікаў на Урале, Доне, за мяжою – ў Малдавіі, у Гусліцы.

У стараабрадніцтве выдзяляўся папоўскі саглас, якія прымаў *белакрыніцкае* свяшчэнства. Тут мы вернемся да пакінутага намі пытання пра пошукі папоўцамі новага епіскапа. Раней было сказана, што пасля таго як епіскап Епіфаній быў арыштаваны, а адбылося гэта ў 1735 г., папоўцам давялося сто адзінаццаць гадоў чакаць новага епіскапа.

Вырашэнне сваёй праблемы папоўцы пачалі з стварэння ўласнай Белакрыніцкай мітраполіі. Гэтае пынанне мае значэнне не толькі для гісторыі стараабрадніцтва, але і для палітыкі Расіі таго часу. Роля ж мітрапаліта Амвросія, які быў запрошаны абаронцамі старога абраду, ацэньваецца неадназначна як гісторыкамі стараабраднікамі, так і гісторыкамі афіцыйнай Рускай праваслаўнай царквы.

З 1826 г. царскі ўрад зноў пачынае палітыку прыцяснення абаронцаў даўніны. 8 лістапада 1827 г. была прынята пастанова аб свяшчэнніках, якія знаходзіліся пры Рагожскіх могілках у Маскве. У ёй гаварылася, што свяшчэннікаў, якія знаходзіліся там на час прыняцця пастановы, "пакінуць у спакоі", але ў далейшым новых не прымаць. 4 студзеня 1834 г. была выдадзена яшчэ адна пастанова адносна Рагожскіх могілак: "… ні ў якім разе не дазваляць заставацца ў Маскве прыезджым з іншых месц раскольнікам або збеглым папам ні па якой прычыне не дапускаць іх да адпраўлення рэлігійных трэбаў і не дазваляць ім часова знаходзіцца на Рагожскіх могілках" [31. С. 77].

Пасля гэтага стараабраднікі звярнуліся да імператара з просьбай дазволіць ім, на падставе дараваных правоў, прымаць свяшчэннікаў і дыяканаў. У адказе, якога чакалі больш як тры гады, прапаноўвалася прыняць аднаверства, распаўсюджванне якога было тады самай галоўнай мэтай як урада, так і афіцыйнай Рускай праваслаўнай царквы.

Пасля адказу ўрада ў Маскве адбыўся з’езд уплывовых прадстаўнікоў стараабраднiцтва. Ад Веткі быў пасланы састарэлы ігумен Лаўрэнцьеўскага манастыра Сiмяон, які яшчэ ў 1798 г. стаў ігуменам пасля Фiяфiлакта. Са Стардуб’я прыехалі ігумен Пакроўскага манастыра Рафаіл, старац Іпаліт, старац і ігумен Нiкольскага манастыра Сергій, якога вельмі паважалі стараабраднiкi.

На з’ездзе выступіў Іаан Ястрабаў. Ён прапанаваў заснаваць за мяжою архірэйскую кафедру. Ігумен Лаўрэнцьеўскага манастыра Сiмяон падтрымаў яго і прапанаваў для ажыццяўлення гэтай задачы даволі вопытных манахаў, якія неаднаразова былі за мяжою. Архірэйская кафедра за мяжою патрэбна была стараабраднiкам для таго, каб пазбавіцца ад уціску з боку ўрада і афіцыйнай царквы.

Пасля правядзення падрыхтоўчай работы 9 снежня 1783 г. аўстрыйскі імператар Іосіф II дазволіў задунайскім стараабраднікам перасяліцца ў Букавіну, дзе яны атрымалі прывілеі: вызваляліся ад рэкруцкай пастойнай павіннасці, атрымалі права судзіць сваім судом тых аднавернікаў, якія правінаваціліся ў чым-небудзь.

Стараабраднікі пабудавалі ў Белай Крыніцы царкву святых Казьмы, Даміяна і Міколы і заснавалі манастыр. У ліпені 1843 г. манахі манастыра Алімпій Міларадаў і Павел Васільеў звярнуліся да аўстрыйскага імператара з просьбай даць дазвол запрасіць епіскапа з любой краіны, акрамя нядобразычлівай Расіі, паколькі памерлі ўсе іераманахі манастыра. Адначасова яны заявілі, што манастыр будзе існаваць за кошт іх уласных зберажэнняў.

Просьба манахаў у хуткім часе была задаволена. У Царградзе знайшлі грэчаскага мітрапаліта Амвросія (Андрэя Паповіча). Ён быў звольнены з Баснійскай мітраполіі з той прычыны, што спачуваў насельніцтву Босна-Сараева падчас паўстання супраць турэцкай няволі. На пытанне, на чым ён баку, Амвросій адказаў: “За кого народ – за того и владыка” [30. С. 19 - 20]. Амвросій, грэк па паходжанні з в.Маістра, што непадалёк ад г. Энаса, які тады належаў да Турцыі, выхадзец з духоўнага роду: быў 23 святарам у сваім родзе. Усе свае чыны ён атрымаў у розных месцах на сваёй радзіме. У 1835 г. быў назначаны мітрапалітам у Боснію, а ў 1841 г. з мітраполіі высланы ў Царград. Калі яго наведалі ўпаўнаважаныя ад Белакрыніцкага манастыра, яму было 63 гады. Пасля доўгіх угавораў Амвросій згадзіўся стаць стараабрадніцкім епіскапам.

У Канстанцінопалі паміж упаўнаважанымі з Белакрыніцкага манастыра і Амвросіем было падпісана пагадненне. Мітрапаліт Амвросій абавязваўся прыняць стараабрадніцкую рэлігію і стаць вярхоўным пастырам над усімі духоўнымі і свецкімі людзьмі – абаронцамі старога абраду; пасля прыбыцця ў Белакрыніцкі манастыр прыняць па

хрысціянскаму абавязку духоўнага айца з мясцовых свяшчэннікаў і выканаць для далучэння да царквы тое, што будзе прапанавана духоўным айцом, згодна з саборным правілам святых айцоў; пасля гэтага пасвяціць у епіскапы аднаго з свяшчэннікаў белакрыніцкага духавенства і назначыць яго сваім намеснікам.

Са свайго боку манастыр абавязваўся: утрымліваць мітрапаліта і назначыць яму жалаванне 500 чырвонцаў у год аўстрыйскім золатам, пакуль будзе жыць і захоўваць правілы святых айцоў і манастырскі статут без парушэнняў. Акрамя таго, манастыр абавязваўся за свой кошт перавезці з Босніі мітрапаліта і сям'ю сына, купіць ім у Белай Крыніцы ў пажыццёвае карыстанне дом з дваром і агародам. У выпадку смерці мітрапаліта, сын атрымліваў плату паводле рашэння манастыра. Упаўнаважаныя кляліся мітрапаліту ў вернасці і ў захаванні падпісаных пагадненняў святым Евангеллем і цалавалі яго [7. С. 157].

Прыехаўшы ў сталіцу Аўстрыі, Амвросій папрасіў імператара даць аўстрыйскае грамадзянства і заявіў аб гатоўнасці здзяйсняць статут стараабрадніцкай царквы, праводзіць богаслужэнні па старажытнаму ладу. Адначасова Амвросій падаў імператару грамату, атрыманую ім у 1835 г. ад архіепіскапа Канстанцінопальскага, новага Рыма і ўсяленскага патрыярха Грыгорыя, якая сведчыла аб праўдзівасці яго духоўнага сану і дазваляла яму служыць у Бешыкташскай царкве.

Імператар дазволіў Амвросію весці богаслужэнне па старадрукаваных кнігах, але, разам з тым, праз свае службы праверыў, ці няма за мітрапалітам парушэнняў. І толькі пасля таго, як былі атрыманы станоўчыя звесткі, загадаў выдаць Амвросію аўстрыйскае грамадзянства і апублікаваць, што ў стараабраднікаў ёсць свой мітрапаліт.

26 верасня 1846 г. Амвросій прыехаў у Белакрыніцкі манастыр. Тут ён быў прыняты па абавязку і правілах святых айцоў. Амвросій пракляў свае памылкі і ерасі і прыняў стараабрадніцтва. Праклящце ерасяў праведзена было па трэбніку, па трэцяму ладу.

У гэты час у Белакрыніцкім манастыры наспявала спрэчка. Некаторыя манахі выказвалі сумненні ў правільнасці хрышчэння грэкаў: гаварылі, што Амвросій не пагружэнец, а абліванец, таму што грэкі прынялі гэты абрад ад папістаў. Спрэчкі зайшлі так далёка, што была створана спецыяльная камісія, якая наведала радзіму мітрапаліта Амвросія г.Энас. Членам камісіі быў “устаўшчык” Міхаіл Іваноў. У адным з пісьмаў у Маскву ён пісаў, што ў горадзе, дзе нарадзіўся Амвросій, як і ва ўсёй Грэцыі, няма сапраўднага трохпагружальнага хрышчэння, іх толькі апускаюць у ваду да плячэй, а потым з той жа купелі тройчы абліваюць праваю рукой, а некаторых увогуле толькі абліваюць, не апускаючы ў ваду [2. С. 14].

Аднак і пасля гэтага, пытанне засталося канчаткова не вырашаным. Трэба зазначыць, што і сёння гэтае пытанне з’яўляецца дыскусійным нават у стараабрадніцтве. З гэтай прычыны выкажам некаторыя меркаванні. Калі Амвросій быў запрошаны на Белакрыніцкую мітраполію, яму было 63 гады. А камісія, якая наведала радзіму мітрапаліта, правядзенне таінства хрышчэння даследавала пазней, і не выключана, што Амвросія хрысцілі апусканнем у ваду, але камісія ўжо не магла выявіць і пацвердзіць гэты момант. Засталося толькі выказванне самога Амвросія. Цікавы і той факт, што ў пісьмах мітрапаліта і яго сакратара, змешчаных у “Архіве раскольніцкага архірэя Амвросія”, аб гэтым нічога не гаворыцца.

Аднак вернемся да гістарычных падзей. У снежні 1847 г. мітрапаліт Амвросій быў выкліканы ў Вену з прычыны прэтэнзій з боку Расіі і Грэчаскага патрыярха.

Прычына была ў наступным. У міністэрства ўнутраных спраў Расіі, а адтуль цару, увесь час паступалі звесткі аб тым, што папоўскія сагласы паступова аб’ядноўваюцца. Гэта звязвалася з заснаваннем Белакрыніцкай мітраполіі. У Расіі баяліся, што папоўства атрымлівае самабытную арганізацыю за межамі Расіі. У маі 1847 г. ва ўказе імператара “Аб назіранні за зносінамі нашых раскольнікаў з замежнымі” патрабавалася, каб пры з’яўленні ў Расіі стараабраднікаў з-за мяжы для перамоў з “нашымі сектантамі”, браць прыбыўшых пад стражу. Сакрэтна правесці дазнанне і дзейнічаць згодна з існуючымі законамі [8. С. 179].

Расійскі ўрад баяўся ўмацавання сувязей белакрыніцкіх стараабраднікаў з чарнігаўскімі і веткаўскімі. Чарнігаўскія скіты ў той час адыгрывалі вялікую ролю, аб чым сведчыць іх гісторыя. Адсюль выйшаў Емельян Пугачоў, і чарнігаўскія “раскольнікі” пад яго кіраўніцтвам ледзь не разбурылі імператарскую Расію, а жыхары белакрыніцкіх скітоў уяўлялі новую небяспеку. Урад баяўся, што сувязі Белай Крыніцы з Масквою ідуць праз чарнігаўскія пасады, праз Тулу, праз Арлоўскую губерню населеных нашчадкамі розных збеглых.

З Тулы і Масквы дарогі вялі ва ўсе стараабрадніцкія паселішчы. Іменна ад гэтых двух гарадоў па ўсёй Расіі разносіліся ідэі свабоды і барацьбы за стары абрад. Чарнігаўскія пасады былі прыстанішчам збеглых: тут пачыналася глухая вайна з урадам.

У пасланні Грэчаскага патрыярха змяшчаліся адкрытыя пагрозы і прапанова Амвросію вярнуцца ў сваю епархію. Пры ўмове вяртання мітрапаліта ў Царград яму абяцалі мітраполію.

Мітрапаліт Амвросій даў адказ на дзевяць пытанняў, якія былі пастаўлены Расіяй, а патрыярху напісаў, што ён вярнуцца не можа : “Я пришел в Буковину по позволению самого Австрийского самодержателя, и не бродяжничества ради, но по призванию самого народа, не имевшего у

себя духовного пастыря, которых я не хищением похитил, не отнял от кого , не внес насильно в чужое стадо, ни в чужую епархию и ниже свою покинул без вины и удалился в чужие пределы, а на моей митрополии первой еще 5 лет прежде сей моей отлучки, кроме всякого моего порока и греха, уже определен другой пастырь противу всех священных правил, то подобно ли мне там быть, где священные правила попираются” [7. С. 161].

Каб пазбегнуць канфлікту з Расіяй, аўстрыйскі імператар 22 лютага 1847 г. загадаў: Белакрыніцкую мітраполію на пэўны час закрыць. Манахаў з-за мяжы выслаць на сваю радзіму, а мясцовых адправіць у сельскія абшчыны. Мітрапаліту Амвросію было забаронена застацца на Букавіне. Створана была спецыяльная камісія, якой трэба было разабрацца ў сітуацыі, якая склалася, каб спыніць скаргі з боку Расіі. Акрамя таго, аўстрыйскі імператар загадаў не прымаць ад Амвросія ніякіх грамат, а ў Вене дазволіў застацца толькі тыдзень. Амвросій звярнуўся да імператара з просьбай не высылаць яго з Аўстрыі, паколькі, па-першае, ён мае аўстрыйскае грамадзянства, а па-другое, ён не мае ні сіл, ні духу вяртацца жывым у Турцыю да патрыярха.

Калі камісія прыехала ў Белую Крыніцу і па сутнасці закрывала манастыр, у Вене адбыўся палітычны пераварот: імператара прымусілі падпісаць канстытуцыйныя законы, а міністра ўнутраных спраў князя Метэрніха, якога лічылі галоўным віноўнікам у сітуацыі, ледзь не забілі.

Згодна з канстытуцыяй, усім нацыям і рэлігіям аб’яўлялася поўная свабода. У Белакрыніцкім манастыры зноў пачалося жыццё. Аднак мітрапаліт Амвросій з сынам, нявесткаю і ўнукам адправіліся на вечнае пасяленне ў г.Цыль. Белакрыніцкі манастыр узначаліў намеснік Амвросія Кірыл, але апошні не атрымліваў ужо нічога на ўтрыманне.

Утварэнне і пастаянны рост папоўства супалі з часам увядзення ў Расіі еўрапейскіх новаўвядзенняў у дзяржаўным ладзе і народным побыце. Арганізатарам новаўвядзенняў стаў цар Аляксей Міхайлавіч, а Пётр І увёў іх найбольш шырока. Раскол рускай праваслаўнай царквы таксама пачаўся пры Аляксеі Міхайлавічы, а расшырыў свае межы і ўплыў пры наступных царах. Па меры ўсілення ўрадавых мер супраць “расколу” абаронцы даўніны знаходзілі ўсё больш сваіх аднадумцаў. Папоўцы сталі апазіцыяй даўніны супраць новаўвядзенняў урада, які, улічваючы гістарычны ход падзей, павінен быў адмовіцца ад ранейшых звычаяў і абрадаў, традыцый і асноў, каб вывесці Расію з працяглага застою. Папоўская апазіцыя дзейнічала ў імя веры, пастаянна ўтвараючы новыя сагласы ці толкі. Такая з’ява цалкам адпавядала духу рускага народа і была не першай у рускай гісторыі. Народная апазіцыя, якая выступіла супраць ненацыянальнасці праўлення Ілжэдзмітрыя, загубіла яго ў імя веры. Мінін і Пажарскі, узначаліўшы народнае апалчэнне, якое выступіла супраць

ненацыянальнасці ўрада, аб’явілі, што змагаюцца за дом Прасвятой Багародзіцы.

Царкоўны раскол апошняй трэці XVII ст. выліўся ў складаную сацыяльна-рэлігійную з’яву. Па сваіх маштабах, характары і ідэалогіі папоўцы істотна адрозніваліся ад рознага роду ерасяў, сектаў, якія існавалі ў Расіі. Прызвычаіўшыся жыць у рэлігійным і культурным процістаянні, будучы ў пастаянным праследаванні як з боку ўлад, так і з боку афіцыйнай праваслаўнай царквы, старaабраднікі папоўцы здолелі захаваць старадаўнія рускія традыцыі; музычнае, культурнае, кніжнае, іканапіснае майстэрства; гаспадарча-бытавы ўклад. Лёс распарадзіўся так, што яны вымушаны былі пастаянна мяняць або абараняць сваю культава-абрадавую практыку. Стараабраднікі папоўцы пакінулі значны след не толькі ў гісторыі і культуры Расіі, але і ў гісторыі і культуры суседніх дзяржаў, і таму яны ўяўляюць бясспрэчную цікавасць для вывучэння.

## 1.3. Гісторыя беспапоўскіх сагласаў і толкаў

Прыгнечаная частка стараабраднікаў, якая адмаўляла ўсякі кампраміс з дзяржавай і афіцыйнай праваслаўнай царквою, утварыла беспапоўства. Яго карані маюць свае асаблівасці як сацыяльныя, так і гісторыка-геаграфічныя.

Кліматычныя ўмовы поўначы Русі не спрыялі земляробству, таму гэтае месца мала прыцягвала памешчыкаў. У асноўным тут жылі чарнасошныя сяляне, якія існавалі за кошт розных промыслаў: рыбалоўства, палявання, солеварэння, здабычы рачнога жэмчугу, збіральніцтва ягад і грыбоў, распрацоўкі балотных руд. Частка сялян займалася кавальскімі справамі, будаўніцтвам суднаў, чаканкай на срэбры і золаце, вышываннем залатой ніткаю.

Геаграфія гандлю пашыралася, і тавар з поўначы стаў трапляць на рынкі іншых рэгіёнаў, а з развіццём дробнатаварнай вытворчасці выкарыстоўвалася праца здольнікаў, хутка расло маёмаснае расслаенне сялян. У канцы XVII ст. у паўночна-заходніх раёнах Русі на змену сялянскай дробнатаварнай вытворчасці прыйшла заводская прамысловасць, што прывяло да перападпарадкавання буйным гаспадаркам дробных вытворцаў і росту сярод апошніх незадавальнення.

Будаўніцтва Пецярбурга прывяло да зменаў звычнага гандлю на поўначы: пачала змяншацца роля Архангельскай ярмаркі, частка гандлёвага тавару пайшла праз Пецярбург.

На поўначы Пётр I праводзіў і іншыя эксперыменты, у прыватнасці, тут сталі ўтварацца гандлёвыя кампаніі. Была ўстаноўлена манаполія на лоўлю рыбы, на адстрэл марскіх і іншых звяроў, уведзена забарона на выраб нестандартнага вузкага палатна.

Абмежаванні закранулі і заходні гандаль: амаль усім пскавічам было забаронена адпраўляць лён, лес і вырабы сваіх промыслаў у Рыгу, Рэвель, Нарву. [34. С. 22].

Такім чынам, доўгі час на поўначы ствараліся ўмовы для ўзнікнення народнай апазіцыі, якая ў той перыяд набывала палітычную афарбоўку ў выглядзе рэлігійнага пратэсту, або "расколу". Але тут "раскол" меў своеасаблівы характар. Калі на поўдні ўтваралася патрыярхальнае папоўства, то на поўначы – плебейскае, у яго ўваходзілі паўсялянскія элементы. Як вынікае, беспапоўства - гэта светапогляд неаднародных сялян, якія паступова збаўляліся ад шматвяковых традыцый. У беспапоўстве галоўнымі пытаннямі абмеркаванняў і спрэчак сталі Бог і цар. Беспапоўства характарызавалася стыхійнасцю пратэсту супраць сацыяльнага зла, пошукам праўды як нябеснай, так і зямной.

Яшчэ ў 1654 г. ідэолаг расколу І. Няронаў гаварыў аб тым, што ў выніку рэформы Нікана руская праваслаўная царква страціла набожнасць [10. С. 70]. У далейшым у найбольш радыкальна настроеных абаронцаў "старой веры" з'яўляецца суджэнне аб тым, што ў свеце ўсталяваўся антыхрыст, ён знішчае ў праваслаўі сапраўдную веру, а свяшчэнства трапіла ў ніканаўскую ерась, прапаведнікі новага пад выглядам чатырохканцовага крыжа стварылі сабе куміра пад імем Иисус (з дзвюма літарамі "и"), пакланяюцца антыхрысту, апаганілі таінствы, змянілі верапавучальныя прынцыпы і г.д. Ужо першапачаткова беспапоўцы адмовіліся ад інстытута свяшчэнства (адсюль іх назва), а значыць, не было патрэбы праводзіць шэраг таінстваў, дзе неабходна прысутнасць свяшчэнніка. Канчаткова беспапоўства сфарміравалася ў 90-х гадах XVII ст. У ім паступова пачалі ўтварацца свае сагласы: *паморскі саглас, федасееўскі, філіпаўскі (спальшчыкі або марэльшчыкі), нетаўскі (спасавы саглас), пастуховы (адамантавы саглас)*. Неабходна адзначыць, што з пералічаных сагласаў у далейшым утварыўся яшчэ не адзін дзесятак розных толкаў.

У 1692 г. ў Ноўгарадзе адбыўся першы тайны стараабрадніцкі сабор, кіраўніцтва якім здзяйсняў дыякан Феадосій Васільеў. Ужо на гэтым саборы не было ні адной духоўнай асобы. Пры пералічэнні ўдзельнікаў сабора першымі стаялі настаўнікі, а не духавенства. Гэтым арганізатары

сабора падкрэслівалі прынцып настаўніцкай роўнасці, які ставіўся адным з галоўных у беспапоўскай царкве. На гэтым і на наступным саборах рашэнні прымаліся ад імя ўсіх яго ўдзельнікаў. Першы Наўгародскі сабор забараняў шлюбы і дзетанараджэнне членам сваёй царквы. Тлумачылася гэта адсутнасцю божага дару, свяшчэнства і таінстваў, а сумеснае жыццё ў шлюбе і нараджэнне дзяцей аб'яўлялася грахом. Сабор прыняў таксама рашэнне аб забароне зносін беспапоўцаў з іншаверцамі, незалежна ад таго, ніканіяне гэта, папоўцы ці хто-небудзь іншы. Актыўную ролю ў правядзенні сабора адыгрывалі Цімафей Іеўлеў, Харытон Карпаў, Феадосій Васільеў.

Важнае значэнне ў гісторыі беспапоўства меў і другі Ноўгарадскі сабор, які адбыўся ў 1694 г. На ім было зацверджана 20 асноватворных прынцыпаў беспапоўства. Першы прынцып меў значэнне дагмату, у ім гаварылася аб тым, што антыхрыст канчаткова пасяліўся ў свеце. Антыхрыст вызначаўся як разумовы індывідыум, што пануе ў патрыяршай царкве, якая разам з дзяржавай зрабілася "антихристовым воинством". Далей сцвярджалася, што божы дар закончыўся, перастала існаваць свяшчэнства, а разам з ім адпала неабходнасць у таінстве еўхарыстыі і шлюбу, якія павінны праводзіцца толькі свяшчэннікам. Зыходзячы з пералічаных вывадаў, заставалася толькі таінства споведзі і хрышчэння, якія ў пэўных умовах маглі праводзіцца і недухоўнымі. Таінства хрышчэння ў афіцыйнай царкве беспапоўцы таксама не прызнавалі, таму сабор другім і трэцім прынцыпам абавязваў перахрышчваць усіх, хто пажадае да іх перайсці (у тым ліку і папоўцаў).

Прынцыпы з 4-га па 17-ты датычылі пытанняў шлюбу. Было прынята рашэнне жыць усяму брацтву нявінна і берагчы сябе ад савакуплення з жонкамі. Парушэнне гэтых прынцыпаў пагражала пакараннямі аж да канчатковага адлучэння ад царквы. Ранейшыя шлюбы аб'яўляліся несапраўднымі.

Прынцыпы 18-ты і 19-ты апісвалі дзеянні па ачышчэнні яды, купленай у іншаверцаў. 20-ты прынцып абавязваў беспапоўцаў строга выконваць усе саборныя правілы, складзеныя айцамі [29. Приложение. С. 40 - 42]. Стараабрадніцкая эсхаталогія і вучэнне аб антыхрысце з'явіліся своеасаблівым адлюстраваннем пратэсту супраць прыгнёту. Асаблівасцю ў беспапоўстве з'явілася і патрабаванне да ўсіх – не браць шлюбу. Першапачаткова яно вылілася ў ідэю набліжэння канца свету і неабходнасць аскетычнага жыцця. У далейшым на працягу ўсёй гісторыі беспапоўства пытанні аб шлюбе ставіліся ў палемічных дыскусіях, якія адлюстроўвалі розныя пункты погляду.

Пасля ўказаў царэўны Соф'і адносна абаронцаў даўніны і выхаду "Статей" у 1685 г. (аб адносінах да стараабраднікаў), Масква страчвае

значэнне цэнтра стараабраднiцтва. Жорсткае ганенне стараабраднікаў прымусіла іх перасяліцца на ўскраіны дзяржавы і за мяжу.

Частка беспапоўцаў пасяліліся ў Памор'і. Такія паветы, як Павянецкі Аланецкай губерні і Кемскі Архангельскай губерні, займалі сотні кіламетраў непраходных зямель. Цэнтрам беспапоўцаў-паморцаў стаў Выгаўскі манастыр у Аланецкім краі. Першым на беразе суровага Выга пасяліўся старац Карнілій. У 1694 годзе сюды прыйшоў былы дыякан з Шуньгі Даніла Вікулін і два браты з роду князёў Мышэцкіх – Сямён і Андрэй Дзянісавы. Выгаўская абшчына стала адным з найбольш буйных пасяленняў стараабраднікаў. У 1695 г. памёр Карнілій. Перад смерцю ён назначыў Данілу Вікуліна айцом і настаўнікам, а Андрэя Дзянісава - суддзёю і правіцелем агульнага паселішча. У 1706 г. на рацэ Лексе за 20 кіламетраў ад мужчынскага паселішча быў пабудаваны жаночы манастыр, настаяцельніцай якога стала Саламія, сястра Андрэя Дзянісава.

У арганізацыі жыцця выгаўцы ў многім былі абавязаны братам Дзянісавым. Прырода надзяліла іх вынослівасцю і рэдкім душэўным дарам. Андрэй у Кіеве вывучаў граматыку і рыторыку, быў здольным прамоўцам. Ён быў знаёмы з царэўнай Соф'яй Аляксееўнай. Сямён вызначаўся добрай памяццю, вастрынёй розуму. Ён напісаў два сачыненні "О взятии государем царем Алексеем Михайловичем Соловецкого монастыря и о избиении бывших там мятежников" і "О страдальческой кончине собратий своих, от Аввакума произшедших, кои все за бунты и мятежи казнены и перерублены". У "Поморских ответах" Сямён і яго брат далі адказы на пытанні, якія ім былі пастаўлены ўрадам [5. С. 116 - 117].

Жыццё паморскіх стараабраднікаў было строга рэгламентаванае. Першапачаткова абшчына кіравалася ідэямі хрысціянскай роўнасці. Статут патрабаваў мець усё агульнае. Выгаўцы мелі два манастыры: Выгаўскі Багаяўленскі, дзе жылі манахі і "бельцы" (не манахі), і Лексінскі Хрэсны, дзе жылі замужнія жанчыны і дзяўчаты. Абодва манастыры ўнутры і знадворку былі аздобленыя. У кожным з іх была свая капліца са званіцаю, дзесяткі келляў, бальніца для старых і хворых, гасцініца, пральня, ліцейная, шавецкая майстэрня, двор для жывёлы. Да манастыроў прымыкалі скіты, дзе жылі стараабраднікі. Тут была строгая сістэма кіравання. Звычайным жыццём кіравалі старасты і выбарныя, якія зацвярджаліся ўрадам і падпарадкоўваліся царкоўнаму сабору "общежительства". У склад сабора ўваходзілі старцы-духоўнікі, эклiепарх, келар, стараста і прадстаўнікі ад скітоў. Усе спрэчныя пытанні і пытанні жыцця Выга вырашалі большасцю галасоў на саборы. Члены сабора сачылі за строгім захаваннем статута ўсімі, хто жыў на тэрыторыі стараабраднікаў. Крымінальных злачынцаў адлучалі ад абшчыны і выганялі са скітоў.

Браты Дзянісавы напісалі статут, у якім былі закладзены строгія правілы царкоўных службаў, (саборных і келейных), распісаны пост, нявіннае (без шлюбу) пражыванне, удзел у вытворчай працы. Кожны, хто прыходзіў сюды, павінен быў аддаць сваю маёмасць у агульнае карыстанне. Вялікая ўвага ўдзялялася паслуху старэйшынам [28. С. 100].

Пры братах Дзянісавых Выгаўскі манастыр дасягнуў высокага матэрыяльнага становішча. Тут было арганізавана земляробства і жывёлагадоўля, летнія і зімовыя марскія промыслы. Былі пабудаваны і эфектыўна працавалі заводы: гарбарны, цагельны, лесапільны. Была пабудавана таксама прыстань на рацэ Пігматцы, дзе швартавалася вялікая колькасць караблёў. Усё гэта дазволіла весці актыўны гандаль прадметамі мясцовых промыслаў – звярынымі шкурамі, рыбай, алеем, ільном – з Масквою, Пецярбургам і іншымі буйнымі гарадамі.

Другой крыніцай сродкаў для падтрымання Выга быў грашовы збор з беспапоўцаў, якія жылі ў іншых мясцінах. Даходы паступалі ад памінальных запісак, міласціні багамольцаў, продажу міра.

З асаблівай павагай тут ставіліся да адукацыі. У манастыры сабралі выдатную бібліятэку: многа старажытных кніг, на якіх былі подпісы цароў і духоўных асоб. Тут знаходзіліся таксама старажытныя евангеллі, іконы, крыжы, свяшчэннае адзенне і творы гістарычнага, філасофскага, палітычнага і павучальнага характару. Былі адкрыты таксама школы, дзе рыхтавалі багамазаў (іканапісцаў) для напісання ікон старажытнага пісьма, пісцоў – для напісання стараабрадніцкіх кніг, былі таксама агульнаадукацыйныя школы (школа граматы), дзе вывучалі рыторыку і правілы ўмелага пісьма.

У Выгаўскім манастыры былі напісаны павучальныя прынцыпы. Першы: тых хто прыходзіць да іх веры паўторна хрысціць; другі: верыць у тое, што антыхрыст прыйшоў і гаспадарыць цяпер нябачна, г.зн. духоўна, ён знішчыў у царкве ўсе таінствы і свяшчэнства; трэці: шлюбнае жыццё не прызнавалася, што тлумачылася адсутнасцю праваслаўнага свяшчэнства. Усе абавязаны былі жыць цнатліва, а жанатых пасля перахрышчвання разводзілі на “чыстае” (паасобнае) пражыванне; чацвёрты: у малітвах і службах не маліць Бога за “здравие государя” і імператарам не называць; пяты: не адмаўляць самаспальванне, а за самазабойцаў маліць Бога, прызнаючы іх святымі пакутнікамі; шосты: чатырохканцовы крыж не прызнаваць і ганіць як пячатку антыхрыста; сёмы: на васьміканцовым крыжы не рабіць надпісу “Иисус Назарянин Царь Иудейский”, а рабіць надпіс: “Царь Славы IC XC Сын Божий” [5. С. 124].

Выгаўскі манастыр быў не толькі цэнтрам беспапоўства, але і апорай усяго стараабрадніцтва да першай палавіны XIX ст., паслядоўнікамі Сямёна і Андрэя Дзянісавых былі выгаўскія ігумены і настаўнікі: Пётр

Пракоф'еў, Іван Філіпаў, Лявонцій Федасееў, Мануйла Пятроў, Стахій Осіпаў, Нікіфар Сямёнаў, Андрэй Барысаў.

Аднак у перыяд царавання імператара Мікалая І становішча Выга пачало змяняцца. У 1836 г. Выгаўскаму манастыру забаронена было называцца асобнай абшчынай, набываць у асабістае карыстанне нерухомую маёмасць [28. С. 102].

За Памор'ем улады ўстанавілі пастаянны нагляд. У 1840 г. указам імператара стараабраднікам было забаронена выкарыстоўваць звон. Епархіям давалася права, па іх выбару, знімаць званы з храмаў стараабраднікаў [12. Ф.1297, воп.1. спр.6675, арк.119], а ў 50-я гады ХІХ ст. былі закрыты манастыры абаронцаў старога абраду. З часам выгаўскія скіты сталі сёламі дзяржаўных сялян. Частка стараабрадніцкіх храмаў была закрыта, а замест іх адкрыты храмы праваслаўнай царквы.

У Паморскім сагласе ўтварыліся толкі *наважонаў і трапаршчыкаў.* Наважоны выступалі за права шлюбу з благаслаўлення праваслаўнай царквы. Аўтарам гэтай ідэі быў старадубскі беспаповец Іван Аляксееў. Трапаршчыкі з'явіліся пасля таго, як імператару стала вядома, што на Вызе не моляцца за цара. Спецыяльная камісія Сената была накіравана на Выг для вывучэння сітуацыі. Каб пазбегнуць інцыдэнту некаторыя паморцы вырашылі маліцца за цара, але шлюб не прызнавалі. Яны і атрымалі назву трапаршчыкаў.

На пачатку ХУІІІ ст. шырокі размах атрымаў рух абаронцаў старога абраду ў паўночна-заходніх гарадах Расіі, асабліва ў Пскове, Ноўгарадзе, Яме, дзе беспапоўцы занялі найбольш радыкальныя пазіцыю. Лідэрам тут выступаў дзячок Феадосій Васільеў. За мяжою ў Невелі, ён арганізаваў абшчыну са сваіх аднадумцаў, якая паклала пачатак *федасееўскаму* сагласу або *федасееўству.* Гэта была першая беспапоўская абшчына гарадскога тыпу, якая мела строгую дысцыпліну.

Узнікненне федасееўства, а разам з тым, і іншых сагласаў і толкаў звязана з асаблівасцямі развіцця феадальна-прыгонных адносін і зараджэння элементаў капіталізму. Другая прычына драблення беспапоўства была ў прыстасаванні рэлігійнай ідэалогіі да зменлівай сацыяльна-эканамічнай палітыкі царызму.

Існавалі тры прычыны развалу паморскага сагласа: а) федасееўцы былі супраць таго, што памаране не прызнаюць на крыжы надпіс І.Н.Ц.І.; б) федасееўцы ніколі не маліліся за цара, як гэта рабіла частка беспапоўцаў-паморцаў; в) памаране, купляючы на базары прадукты, перасталі іх ачышчаць малітвамі і паклонамі ад апаганення.

У федасееўстве былі сфармуляваны галоўныя верапавучальныя прынцыпы: а) новая праваслаўная царква ёсць прыяцель старых і новых ерасяў; б) прадстаўнікі новай царквы вераць не ў Бога, а ў антыхрыста,

якога прапаведуюць пад імем “Иисус”; в) антыхрыст так моцна запанаваў у свеце, што знішчыў усе таінствы, акрамя трох галоўных дабрачыннасцей – веры, надзеі і любові; г) хрышчэнне ў праваслаўнай царкве праводзіцца не ў імя святой Тройцы (Боскіх іпастасяў), а ў імя сатаны.

Былі ў федасееўцаў і асаблівасці культу. Перад абедам, у час паклонаў, адкрывалі ўвесь посуд з ежаю і пітвом для асвяшчэння малітваю ад усіх нячыстасцяў. У пячных кафлях свідравалі дзіркі дзеля таго, каб у час малітвы дар божы праходзіў у гаршкі. Не кланяліся іконам, якія размяшчаліся ў ківотах пад шклом. У малельнях стаялі ў адных параспяразаных паўкафтанах з “леставками” і з “подручниками”. Каджэнне ладану ад настаўніка прымалі адкрытымі далонямі і, прыцісн уўшы іх крыжападобна да грудзей, кланяліся. Забаранялася хадзіць у агульную лазню. Не маліліся федасееўцы чужым іконам, а свае хавалі ад чужога вока і маліцца да іх нікога не дапускалі [5. С. 137 - 139].

У абшчыне Феадосія Васільева пражывала 700 жанчын і 600 мужчын. І тыя і другія павінны былі прытрымлівацца строгай цнатлівасці. Шматгадзінныя службы, строгая дысцыпліна, падпарадкаванне свайму настаўніку, агульная маёмасць – усё гэта было асаблівасцю федасееўскага сагласа. У абшчыне была свая малельня, багадзельня, бальніца, шматлікія гаспадарчыя пабудовы, дзе пастаянна і бясплатна працавалі беспапоўцы-федасееўцы.

Федасееўцы адрозніваліся ад манахаў афіцыйнай праваслаўнай царквы. У іх не было “обета” і пострыгу, яны прадстаўлялі аб’яднанні або групы людзей. Гэта быў асаблівы свет людзей, якія лічылі, што менавіта іх Бог выбраў для вcase ратавання. Па сваёй арганізацыі жыцця, уяўленню свайго месца ў свеце яны былі падобныя да пратэстантаў. Падыход федасееўцаў да пытання ўласнасці дапамог ім набыць новы погляд на гаспадарчыя пытанні. З асяроддзя федасееўцаў выйшла нямала прадпрымальных людзей, якія былі ўжо далёка ад манастырскага падыходу да ўласнасці і якія думалі ўжо і пра ўласнае багацце.

Беспапоўская абшчына Феадосія Васільева ў 1709 г. была разрабавана польскімі салдатамі. Феадосій вяртаецца ў Расію. З дазволу цара, абшчына размясцілася пад Псковам. Аднак частка федасееўцаў засталася ў г.Невелі, перасялілася ў Невельскі, Віцебскі, Полацкі, Лепьскі і іншыя паветы.

Пасля смерці Феадосія Васільева (1711 г.) федасееўцы рассяліліся па гарадах і іншых паветах, дзе для іх пражывання былі спрыяльныя ўмовы. З’явіліся яны і ў Маскве, а з узнікненнем Праабражэнскіх могілак, якія былі заснаваны ў 1771 г., федасееўцы зрабілі іх сваім новым цэнтрам.

Норавы і звычаі федасееўцаў былі вельмі строгія. Да праваслаўных федасееўцы адчувалі вялікую нянавісць, невыкупным грахом лічылі любы дотык “царкоўнікаў” (так яны называлі праваслаўных) да сваіх рэчаў.

Напрыклад, купляючы ежу на рынку, акурвалі яе ладанам, які атрымоўвалі з Грэцыі. Усю неабходную вопратку шылі самі, на сваіх галовах выстрыгалі макаўкі, а на рукавах насілі ліствіцы, якія апраналі на шыю перад сном. Праходзячы каля праваслаўнай царквы, федасееўцы затыкалі вушы і затульвалі нос, каб "не слышать львиного рыкания и не обонять вонию дъявола". Новы год лічылі з першага верасня, сцвярджаючы, што менавіта ў гэты дзень створаны свет, "ужо яблыкі паспелі". Таму і Ева спелым яблыкам спакусіла Адама.

Адасоблены свет, у якім жылі федасееўцы, звязваў іх паміж сабою, патрабаваў строгага выканання іх звычаяў: штодзённа адбываліся працяглыя чытанні ранішніх малітваў з "Положеным началом", апоўдні – малітва для выгнання "беса полуденна", вячэрнія правілы патрабавалі паясных і зямных паклонаў. Абед і вячэра пачыналіся і заканчваліся паклонамі. Непарушна захоўвалася чысціня шлюбаў, хоць і без вянчання, а толькі па благаслаўленню.

Значнае месца ў гісторыі федасееўскага сагласа займаюць маскоўскія купцы Фёдар Анісімаў Зянкоў і Ілья Кавылін. Першы меў у Маскве фабрыку па вырабу сукна, а другі на Вядзенскіх гарах – вялікія цагельні. Зянкоў у сваім доме наладжваў першыя сустрэчы сваіх аднаверцаў, а таксама стварыў першую грамадскую малельню. Прыходзілі сюды тайна толькі давераныя людзі. У гэты час у Маскве пачалася страшная эпідэмія чумы, пік якой прыйшоўся на 1771 год. Кавылін і Зяньковў і яго сястра звярнуліся да ўлад горада з просьбай дазволіць адкрыць каранцін для агляду ўсіх, хто выходзіць з Масквы, а таксама адвесці месца пад могілкі для памершых ад чумы. Усё гэта яны збіраліся рабіць за свой кошт. Страх уладаў перад маштабамі эпідэміі паскорыў прыняцце рашэння ў карысць заявіцеляў. Пад каранцін была набыта зямля ў сялян сяла Чаркізава, якія адносіліся да дварцовага ведамства. Тут, пры дарозе з Масквы, была пастаўлена застава і часовыя палаткі для агляду людзей. Пазней, гэтыя палаткі ператварыліся ў мураваныя дамы Праабражэнскага багадзельнага прытулка.

У прытулку кармілі галодных, давалі прыстанішча састарэлым, хворым. Федасееўцы, якіх на той час налічвалася 20 двароў, адносіліся да людзей з любоўю і сардэчнасцю. Пагалоска аб прытулку хутка разнеслася па Маскве, і сюды пацягнуліся і тыя, хто не збіраўся пакідаць Маскву. Прышэльцы без пярэчання выконвалі правілы сямі паклонаў перад ядой і пасля яе, без чаго ніхто да ежы не дапускаўся. У малітвах падкрэслівалася, што паморак, бедствы і голад – вынік ніканаўскіх рэформаў. Паміраючых ад чумы перахрышчвалі ў стараабраднікаў, якія перад смерцю адракаліся ад сваёй маёмасці ў карысць прытулку.

Усё гэта дало магчымасць за непрацяглы час сабраць вялізарнае багацце і даць прытулак усім жадаючым. Бліжэй да зімы пачалі будаваць жыллё. Матэрыял прывозіўся з усёй Масквы. Калі даваць ацэнку дадзеным падзеям, то трэба выдзеліць дзве акалічнасці. Канешне, дзейнасць федасееўцаў была накіравана на пашырэнне свайго ўплыву і росту сваіх радоў. Але немалаважны і той факт, што калі ўлады Масквы апынуліся ў разгубленасці перад чумой, старабраднікі, рызыкуючы заразіцца, дапамагалі хворым і галодным. Яны праяўлялі той хрысціянскі клопат аб людзях, якому вучылі іх старагрэчаскія рукапісы, як падказвала ўнутранае сумленне.

Кавылін і Зянькоў з дапамогай купцоў Івана Афанасьевіча Пазуменшчыкава і Аляксея Сяргеевіча Суконшчыкава пабудавалі малельню, харчэўню, асобныя памяшканні для мужчын і жанчын. Абшчына стала манастыром, дзе пасля эпідэміі засталася вялікая колькасць людзей. Тут было арганізавана навучанне дзяцей устаўнаму чытанню, пісьму, спевам.

Кавылін займаўся не толькі матэрыяльнымі пытаннямі манастыра – ён быў яшчэ і духоўным настаўнікам. Пабываў у розных абшчынах, у тым ліку і ў Данілаўскім Выгарэцкім манастыры, які быў вядомы строгімі норавамі. Аднак Кавылін заўважыў, што жывуць тут манахі не па федасееўскіх правілах, а па паморскіх, а ў малельнях гучала малітва за цара. Усё гэта Кавыліну не спадабалася. І калі ён вярнуўся ў Маскву, дзе на Праабражэнскіх могілках быў госцем настаўнік федасееўскага сагласа са Старадуб'я Пётр Фёдараў, то ўсе свае сумненні, адносна правіл Данілаўскага выгарэцкага манастыра Кавылін выказаў Фёдараву. У прыватнасці Кавылін падкрэсліваў, што калі на Праабражэнскіх могілках прызнаць паморскія правілы, то абшчына распадзецца, таму што гэтыя правілы прызнаюць шлюб, а гэта дазваляе прыхаджанам бесперашкодна вяртацца да праваслаўнай царквы [7. С. 7 – 9,11 – 13,16 - 18].

Пётр Фёдараў быў адным з тэарэтыкаў і ветэранаў федасееўства, вызначаўся мудрасцю і майстэрствам прамоўцы. Яго паважалі аднаверцы за строгае захаванне федасееўскіх правілаў, сам вёў манаскае жыццё. Жыў у старадубскіх лясах і выдатна ведаў асаблівасці абрадаў у сагласах. Ён прапанаваў Кавыліну прыняць веткаўскія правілы на Праабражэнскіх могілках, аб якіх ведалі ва ўсіх уплывовых сагласах, сведчаннем таму служыць пасланне паморцаў да веткаўцаў (16. С. 123 – 126). Пётр Фёдараў сам адправіўся ў Старадуб'е і ў 1778 г. прывёз адтуль арыгінал веткаўскага статута. Справа ў тым, што на гэты час у Старадуб'і жыла вялікая колькасць старабраднікаў якія, былі выселены з Веткі царскімі войскамі ў 1735 і ў 1764 гадах. Веткаўскі статут шанаваўся гэтак жа, як і апостальскія

пастановы. Ён быў складзены веткаўскімі тэарэтыкамі стараабрадніцтва і даваў апісанне ўсіх бакоў жыцця верніка.

На Праабражэнскіх могілках у гэты час пачалі адчуваць няхватку пеўчых і чытальнікаў. І тут Старадуб’е і Ветка аказалі дапамогу: Пётр Фёдараў прывёз адтуль падрыхтаваных дзяўчат, якія арганізоўвалі службу згодна з веткаўскімі звычаямі, навучалі ўстаўнаму пісьму пеўчых.

У 1798 г. на Праабражэнскіх могілках была пабудавана двухпавярховая лячэбніца. Тут у прытулках жыло каля 500 чалавек абодвух палоў, а 3000 прыхаджан наведвалі малельні.

Прыход на прастол імператара Аляксандра І дазволіў Праабражэнскім могілкам узмацніць сваё значэнне і ўплыў. За 29 гадоў існавання могілак яны сталі адной з самых багацейшых абшчын у Расіі. Пачатак XIX стагоддзя стаў для федасееўцаў часам пашырэння іх уплыву. Карыстаючыся Маніфестам ад 15 кастрычніка 1801 г., беспапоўцы пачалі новае будаўніцтва на Праабражэнскіх могілках. Вялікія грошы ахвяраваў ім купец Грачоў, які будучы асабіста знаёмы з князем Куракіным і Марцье, дапамог федасееўцам у тым, што Праабражэнскія могілкі атрымалі назву Багадзельнага дома, які падпарадкоўваўся толькі паліцэйскаму нагляду. Такім чынам, Праабражэнскія могілкі былі выведзены з-пад кантролю рускай праваслаўнай царквы. У гэты час на могілках жыло каля 1500 чалавек.

Каб аддзякаваць цару і мецць яго давер, Кавылін адаслаў цару прашэнне з прапановай назваць могілкі Аляксандраўскімі. Такія дзеянні Кавыліна выклікалі розныя меркаванні сярод федасееўцаў: так, мешчанін Кандрацій Фядотаў аб’явіў, што зварот Кавыліна да цара незаконны, таму што веткаўскія правілы забараняюць стараабраднікам мецць праваслаўнага кіраўніка. Спрэчкі прывялі да стварэння новага толку пад кіраўніцтвам Кандрація Фядотава, а толк атрымаў назву *кандрацьеўства*.

Цар не прыняў прапанову Кавыліна, паколькі ў ёй было шмат пунктаў, якія давалі яшчэ большыя правы Праабражэнскім могілкам.

У 1809 г. памёр Кавылін. Кіраўніцтва могілкамі было даручана купцу Рыгору Ганчарову. На гэты момант капітал могілак складаў больш як 2 млн. рублёў.

У 1812 г., перад уваходам Напалеона ў Маскву беспапоўцы-федасееўцы выязджалі ва Уладзімірскую губерню, а пасля ўцёкаў Напалеона вярнуліся на могілкі. У хуткім часе ў кіраўніцтве федасееўцаў узнікла спрэчка з-за распараджэння маёмасцю. Было вырашана выбраць папячыцельства. Вылучаныя лідэры Гнусін, Грачоў і Стукачоў звярнуліся ў дэпартамент Маскоўскага магістрата з просьбай зацвердзіць папячыцельства. У спрэчку ўмяшаўся духоўны настаўнік Анціп Андрэеў, які заявіў аб парушэнні веткаўскага статута. У артыкуле 21-м гэтага

статута гаварылася аб непадпарадкаванні сапраўдных хрысціян іншаверскаму суду. Андрэеў у знак пратэсту пакінуў Праабражэнскія могілкі і перасяліўся ў свой дом, тое ж зрабілі і яго аднадумцы. Так утварыўся яшчэ адзін толк у федасееўстве.

У сваёй гісторыі Праабражэнскія могілкі звязаны яшчэ адной падзеяй са Старадубска-Веткаўскім рэгіёнам. У 1822 г. з Клінцоўскага пасада Старадубскага павета Чарнігаўскай губерні па загаду імператара, у Маскву, была перавезена старaабрадніцкая друкарня, у якой працавалі і майстры, выселеныя з Веткі ў час выгнання. У друкарні меркавалася друкаваць кнігі праваслаўнай царквы пад наглядам Маскоўскай сінадальнай друкарні і мясцовага епархіяльнага архімандрыта. Для Праабражэнскіх могілак, як, зрэшты, і для ўсяго старaабрадніцтва, пачынаўся цяжкі час.

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, Ветка займала значнае месца ў гісторыі як Праабражэнскіх могілак, так і ўсяго федасееўскага толка. Веткаўскі статут лічыўся важнейшай крыніцай у жыцці і веравызнанні. Створаныя яшчэ ў канцы ХУІІ – пачатку ХУІІІ стагоддзяў веткаўскія старaабрадніцкія школы розных напрамкаў, рыхтавалі даволі адукаваныя на той час кадры.

Раскол у беспапоўстве не спыняўся. Прычын тут было некалькі. Па-першае, адсутнічала багаслоўская фармулёўка, якая б хоць трохі задавальняла ўсіх. Па-другое, з самага пачатку беспапоўцы займалі адмоўную пазіцыю ў адносінах дзяржавы і грамадства, а адступленні з боку ідэйных айцоў у плане паслаблення федасееўскіх абрадаў прыводзілі да ўзнікнення новых толкаў. Па-трэцяе, дзеянне старaабраднікаў не заўсёды спараджала радыкальныя толкі, якія маглі быць больш памяркоўнымі, чым іх папярэднікі. Гэта, зразумела, прыводзіла да ланцуговай рэакцыі. У сярэдзіне ХУІІІ стагоддзя паміж федасееўцамі ўзніклі спрэчкі адносна літар, над якімі ставіліся цітлы, адкуль і назва *цітлаўства.* Паводле вучэння федасееўцаў, цітла павінна стаяць над літарамі І.Н.Ц.І. (Исус Назарянин Царь Иудейский), а паморцы ставілі цітлу над літарамі Ц.С.І.Х.С.Б. (Царь Славы Исус Христос Сын Божий). Аднак пасля смерці Феадосія частка паслядоўнікаў пачала схіляцца да пункту гледжання паморцаў. У 1791 г. сабор, які праходзіў на Праабражэнскіх могілках, пацвердзіў цітлу І.Н.Ц.І, а нязгодных з гэтым вырашана было адлучыць. Тых, хто заставаўся верным вучэнню настаўніка, назвалі цітлаўцамі. Цітлаўства было шырока распаўсюджана ў Пецярбургскай і Наўгародскай губернях.

У пачатку ХІХ стагоддзя з федасееўскага сагласа выдзеліліся і іншыя толкі. Некаторыя федасееўцы пачалі адыходзіць ад прынцыпу цнатлівасці і патрабавалі ад сваіх кіраўнікоў дазволу браць шлюб. Калі ж, такога

дазволу не атрымлівалі, то вянчаліся ў праваслаўных царквах. Па гэтай прычыне ў Пецярбургу ў 1809 г. быў скліканы сабор федасееўцаў, на ім прынялі рашэнне, якое дазваляла хрысціць дзяцей "новоженов" без разводу мужа і жонкі, і хоць таінства шлюбу не было ўведзена, пачалі даваць благаслаўленне "новоженам". Частка федасееўцаў з Пецярбурга, пад кіраўніцтвам купца Арыстава, не згадзілася з такім рашэннем і ўтварыла *арыставы* толк. Яны пражывалі на землях сённяшняй Беларусі, Польшчы і Літвы – Сувалскай, Ковенскай і Віленскай губернях, у г.Рызе, а таксама ў С-Пецярбургу [28. С. 104].

Дзяленне закранула і паморцаў. Яшчэ ў першай палавіне XУІІІ стагоддзя выдзеліўся *філіпаўскі* саглас, прыхаджане якога атрымалі яшчэ назву *спальвальнікі і марыльшчыкі.* Кіраўніком іх быў былы стралец Фоцій Васільеў, у манастве Філіп. Жывучы ў Выгаўскім манастыры, ён выконваў ролю духоўнага айца. Пасля смерці Андрэя Дзянісава Філіп паспрабаваў стаць галоўным на Вызе і аспрэчваў гэтае права ў Сямёна, брата Андрэя. Спецыяльны сабор у 1737 г. гэтую спрэчку вырашыў у карысць Сямёна. Хаця ўдзельнікі спрэчкі і памірыліся, ў душы засталіся ворагамі. Пасля многіх скандалаў Філіпу давялося пакінуць манастыр на Вызе і перайсці ў Надзеждзін скіт, а праз год ён пабудаваў сваю келлю на рацэ Умбе. За кароткі час тут пасялілася многа аднадумцаў Філіпа. Яны вызначаліся большым радыкалізмам, чым паморцы, а самаспальванне ўзвялі ў догму, як спосаб ачышчэння душы ад грахоў. Адмовіліся маліцца за цара, начыста адмаўлялі шлюб. Царкоўнае хрышчэнне лічылі няправільным з прычыны выкарыстання чацвёртага "амин". Пакланяліся толькі сваім іконам. Пераконвалі аб прышэсці антыхрыста. У 1743 г. урадавыя войскі прыбылі на раку Умбу, каб арыштаваць Філіпа, але ён і 70 яго аднадумцаў зачыніліся ў памяшканні і падпалілі сябе. У хуткім часе пасля смерці Філіпа ў агні згарэў яго вучань Цярэнцій са сваімі 98 паслядоўнікамі. Новы настаўнік Матфей у 1750 г. таксама згарэў у агні са сваімі паслядоўнікамі [28. С. 111 - 113].

Урад жорстка падаўляў стараабрадніцкую апазіцыю. Пераканаўчым прыкладам могуць быць выгнанні з Веткі ў 1735 г. і 1764 г. Сваімі нечалавечымі ўчынкамі царскі ўрад замацоўваў у свядомасці стараабраднікаў думку аб тым, што менавіта ён, урад, і ёсць праява антыхрыста. Пасля падаўлення сялянскіх паўстанняў у народзе "снова настало состояние тупого, отчаянного, бессознательного самоотрицания – терпения. Зверство да бессмысленный вечный испуг – это, конечно, единственные психические продукты, какие могла произвести подобная жизнь" [35. С. 203], - адзначаў даследчык стараабрадніцтва І. Харламаў.

Дзмітрый Растоўскі ў сваёй кнізе аб самаспальванні стараабраднікаў пісаў: “Таже во избы на то в лесах уготованыя, затворяху оныя, и закрепивши вход, сожигаху” [24. Артыкул 2, глава 8, с. 33].

Нягледзячы на радыкалізм філіпаўцаў, іх таксама абвінавацілі ў згодніцтве з уладай антыхрыста. Віною лічылі: а) атрыманне філіпаўцамі пашпартаў; б) уплату падаткаў; в) удзел у судах; г) пахаванне памерлых на праваслаўных могілках; д) запіс у “раскольніцкія” спісы. У другой палавіне ХУІІІ ст. нязгодныя з філіпаўцамі стараабраднікі аб’ядналіся вакол пастуха Васілія Сцяпанава і ўтварылі *пастуховы* або *адамантавы* толк. Асаблівасці веравучэння гэтага толка наступныя: а) адамантаўцы лічылі, што антыхрыст прыйшоў у свет і даў усім людзям сваю пячатку ў выглядзе грошай. Адсюль была выпрацавана адна з умоў жыцця – не браць у рукі грошы. Сцяпанаў са сваімі аднадумцамі зыходзіў у дадзеным выпадку з таго, што на грошах ёсць выява двухгаловага арла, у сярэдзіне якой коннік, які пападае кап’ём у змея. Іменна гэты змей дадзены людзям у выглядзе вобраза ад самога антыхрыста; б) не прымалі тых, хто прыходзіў з пашпартамі, сцвярджаючы, што на іх ёсць пячатка антыхрыста; в) адмаўлялі самазабойства; г) тых, хто перахрысціўся і запісаўся ў двайны “раскольнический оклад”, асуджалі за тое, што назвалі сябе “раскольнікамі”, а веру сваю – “раскольніцкай”, чым самавольна падпісаліся адступнікамі ад Хрыста і веры; д) устанавілі забарону на развод; е) асуджалі перахрышчаных за тое, што яны жылі ў грамадстве ў гарадах і вёсках, чым апаганілі сябе грамадскімі справамі. Асаблівасць адамантаўцаў у тым, што яны адмаўляліся хадзіць па бруку, зыходзячы з таго, што брук прыдуманы і зроблены ў антыхрыстаў перыяд. А адсюль рабіўся вывад аб тым, што са сваіх скітаў выходзіць нельга, усё для харчавання неабходна вырошчваць самім [5. С. 149 - 150].

Больш радыкальным за філіпаўскае вучэнне было вучэнне *багамольцаў*, або *бегуноў*. Заснавальнікам бягунства быў Еўфімій з Пераяслаўля, які жыў пэўны час сярод філіпаўцаў і добра ведаў іх вучэнне. Назіраючы за жыццём філіпаўцаў, ён абвінавачваў іх у тым, што яны ідуць на супрацоўніцтва з уладамі, чым парушаюць запавет бацькоў. Еўфімій склаў “Разглагольствование” з 39 пытанняў і перадаў яго настаўнікам філіпаўцаў з просьбай даць адказ. Не атрымаўшы адказу ён пачаў тлумачыць свае погляды. Так, Еўфімій заявіў, што антыхрыст не духоўная з’ява, а фізічная асоба, якой быў памёрлы імператар Пётр І. “Апокалипсический зверь, - пісаў Еўфімій, - есть царская власть, икона его – власть гражданская, тело его – власть духовная” [28. С. 115]. Таму трэба знішчыць усякую сувязь з грамадствам і дзяржавай, вучыў настаўнік, не браць пашпартаў, не звяртацца ў суд, не ісці на ваенную службу, не плаціць падаткі. Выйсце прапанавалася наступнае: паколькі адкрыта

змагацца нельга, то “достоить таитися и бегати”, гэта значыць не мець ні хаты, ні сям’і, а пастаянна хавацца ад сувязей з антыхрыстам. Акрамя гэтага, згодна з парадай свайго аднадумца Іаанна, Еўфімій прыйшоў да высновы, што ўсякі, хто жадае ўступіць на шлях барацьбы з антыхрыстам, павінен сам прыняць новае хрышчэнне і сам сябе хрысціць. У 1772 г. ён самахрысціўся. У 1792 г. Еўфімій памёр і ў ролі настаўніцы пачала выступаць Ірына Фёдарава, сялянка з Цвярской губерні. Яна пасялілася ў в.Сапёлкі, за 15 вёрст ад Яраслаўля. У хуткім часе сяло стала сталіцай бягунства, а сам толк стаў называцца *сапёлкаўскім*.

Паслядоўнікі бегуноў жылі ў Яраслаўскай, Кастрамской, Аланецкай і Уладзімірскай губернях, а таксама ў Заходняй Сібіры, у Маскве, С-Пецярбургу. З часам Ірына Фёдарава са сваімі аднадумцамі перайшла на аседлае жыццё, прымаючы бегуноў і даючы ім прытулак.

Сярод беспапоўцаў-паморцаў быў шэраг памяркоўных толкаў. Адзін з іх – гэта *наважоны, або навапаморцы.* Першымі прапаведнікамі шлюбнага жыцця ў бягунстве былі Нікалай Касаткін з Чарапаўца, Мірон Васільеў з Пашахонскага павета, Міхаіл Кандрацьеў з Наўгародскай губерні. Гэты толк узнік у Маскве ў 70-х гадах ХУІІІ ст. Тэарэтык яго Васілій Емельянаў прапанаваў “бессвященнословный” шлюб. Вянчанне свяшчэннікам было заменена вянчаннем недухоўнай асобы, але абавязковым было спяване малебна Збавіцелю і Багародзіцы. Сам Емяльянаў вянчаў усіх, хто звяртаўся да яго. Масква доўгі час заставалася цэнтрам “брачников” (тых хто браў шлюб). Тут Емяльянаў заснаваў Пакроўскую капліцу, дзе адбывалася вянчанне. Капліцу называлі яшчэ, Монінай (па прозвішчы купца). Сваё шырокае распаўсюджанне “бессвященнославные” шлюбы атрымалі ў час панавання Мікалая І: яны адбываліся амаль усюды, дзе існавалі паморскія толкі. Асаблівасцю ў вучэнні наважонаў (іх называлі яшчэ шлюбнікамі) было тое, што яны маліліся за цара.

З ліку буйных і маючых свае асаблівасці сагласаў беспапоўцаў трэба выдзеліць яшчэ *нетаўцаў,* або *спасавы* саглас, які ўзнік яшчэ ў першым дзесяцігоддзі ХУІІІ стагоддзя і першапачаткова называўся *козмінствам*, - ад імені заснавальніка Козмы. Нетаўцамі сталі называцца таму, што адмаўлялі наяўнасць праваслаўнага свяшчэнства, сцвярджалі, што няма выратавальнага таінства, абшчэственнага багаслужэння, боская ласка адляцела на неба. Аб шляхах выратавання, як лічылі нетаўцы, ведае толькі Збавіцель (Спас), на яго ўся надзея. Іх яшчэ называлі спасавай згодай. Нетаўцы сцвярджалі, што няма сапраўднай святой прычасці пачынаючы з 7-га ўсяленскага сабора; не маліліся за цара; адвяргалі манаства; адмаўлялі царкоўныя спевы і службу; лічылі, што запанаваў антыхрыст; хрышчэнне і шлюб здзяйснялі ў праваслаўныў цырквах; хрышчэнне іншы раз здзяйснялі і бацькі і павітуха (*бабушкін толк*), іх яшчэ называлі *самахрышчэнцы*, таму

што часам яны і самахрысціліся; тых, хто да іх прыходзіў, не перахрышчвалі. Нетаўства было распаўсюджана галоўным чынам сярод сялянства Сярэдняга Паволжа, на Урале, Поўдні і ў Сібіры.

Такім чынам, у выніку эканамічнага развіцця і расслаення насельніцтва стараабраднііцтва дробіцца на сагласы і толкі, а паслядоўнікі іх лічаць толькі свой саглас ці толк адзіна правільным і праўдзівым. За ўсімі іх багаслоўскімі расколамі і спрэчкамі былі не толькі клопаты аб чысціні старажытнай набожнасці, але і праблема сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Беспапоўства ўяўляла катэгорыю сялян, якія гублялі пад сабою трывалую апору шматвяковых феадальных асноў. Бог і цар, іх месца ў жыцці – гэтыя дзве жыццёва важныя праблемы народнай свядомасці феадальнага перыяду – займалі галоўнае месца ва ўсіх разважаннях і спрэчках. Стараабраднікам-беспапоўцам быў уласцівы стыхійны пратэст супраць сацыяльнага зла і пошук не толькі нябеснага, але і зямнога жыцця. Сведчаннем таго з'яўляецца перасяленне беспапоўцаў на Выг, потым у Наўгародскую і Пскоўскую губерні, а адтуль – за мяжу, а таксама іх гаспадарчая дзейнасць. Усім рацыянальным ідэям стараабраднікаў-беспапоўцаў быў уласцівы рэлігійны фанатызм.

Рэлігійныя карані беспапоўства адносяцца да эсхаталагічных уяўленняў аб надыходзе канца свету, другога прышэсця Хрыста і Божага суда. Адказ на жыццёвыя пытанні настаўнікі шукалі ў Апакаліпсісе, і заяўлялі, што папярэднікам Хрыста на зямлі быў антыхрыст – цар зла, а ніканаўская царква стала антыхрыставай служанкаю. Цар Пётр І таксама антыхрыст. Прыняўшы падобныя палажэнні, беспапоўцы пачалі сцвярджаць, што ніканаўская царква, падпарадкаваўшыся антыхрысту, страціла боскую ласку.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, беспапоўцы захавалі старадаўнія рускія традыцыі. Як і папоўцам, беспапоўцам давялося пастаянна абараняць і змяняць сваю культава-абрадавую практыку, з той толькі асаблівасцю, што ў беспапоўцаў яна была больш простай.

Беспапоўцы стварылі сваю самабытную культуру, якая мае глыбокія карані і на беларускіх землях.

Больш трохсот гадоў назад пачаўся перыяд, у якога барацьба з "дрэнным" старым у імя "добрага" новага пачыналася з чарговага ўказа цара або ўлад: "З заўтрашняга дня ўсе павінны выконваць …". Народ павінен быў рабіць штосьці такое, чаго ніколі не было, і адрачыся ад таго, што каранямі адыходзіла ў незапамятную старажытнасць. У разасланай па ўсіх галоўных прыходах "Памяти" ад 21 лютага 1653 г. патрыярх Нікан патрабаваў замяніць зямныя паклоны паяснымі і двухперсцевы крыжовы сімвал – трохперсцевым. Ці ў пальцаскладанні была сутнасць веры? Калі

ўлічыць, што двухпальцавы крыжовы сімвал быў прыняты разам з хрышчэннем Русі, то загадны характар “Памяти” стаў прычынай нечуванага абурэння ўсіх слаёў грамадства. Пачатак жа самога расколу Рускай праваслаўнай царквы быў пакладзены рэформай Нікана, якая заключалася ў выпраўленні царкоўных кніг і царкоўных абрадаў. Не трэба думаць, што Авакум, Няронаў, Лазар і іх аднадумцы былі наогул супраць усякіх змяненняў у багаслужэбнай практыцы або ў багаслужэбных кнігах. Па сутнасці, яны першыя і пачалі рабіць спробы ажыццяўлення некаторых змяненняў у абраднасці. Яны не былі супраць ідэі выпраўлення кніг, лічылі толькі аўтарытэтнымі не тагачасныя грэчаскія кнігі, а старажытныя грэчаскія рукапісы.

Жорсткая барацьба былых прыхільнікаў Нікана супраць яго рэформ тлумачылася тым, што Нікан абмяжоўваўся толькі фармальным выпраўленнем кніг і абрадаў, у той час, як на думку “ревнителей благочестия”(Авакума, Няронава, Лазара і інш.), у выпраўленні мелі патрэбу ў першую чаргу не кнігі і абрады, а сам царкоўны побыт, правы духавенства, а галоўнае – гэта сам побыт рускага чалавека. Супярэчылі перакананням “ревнителей благочестия” і ўведзеныя Ніканам парадкі царкоўнага кіравання: Нікан заахвочваў стаўленіцтва, умацоўваў патрыяршае адзінаўладдзе, а “ревнители благочестия” кіраванне ўяўлялі на прынцыпах дэмакратычных асноў выбарнасці і шырокай саборнасці.

Будучы першапачаткова з’явай толькі царкоўнага жыцця, раскол у далейшым закрануў усе бакі грамадскага жыцця: стаў прычынай міграцыі людзей, “запаліў” вогнішчы самаспальвання, нарадзіў турмы і катаванні. У выніку антынародных дзеянняў улад і царквы рускі чалавек у другой палавіне XУII ст. у сваім родным доме аказаўся ізгоем. Ваяваць са знешнім ворагам, весці гаспадарку ён умеў добра, але ў сітуацыі, якая склалася, разгубіўся. Народу былі незразумелымі крокі цара і патрыярха, калі яны аб’явілі ератычным усё тое, што выхоўвалася стагоддзямі, змяшчалася ў кнігах, па якіх засвойвалі першапачатковую грамату дзеці. Гісторыя рыхтавала рускаму народу цяжкія выпрабаванні не на адно стагоддзе, а адзіны ў сваёй веры народ раздзяліўся на абаронцаў даўніны (стараабраднікаў) і прыхільнікаў ніканаўскай царквы. Сацыяльна-эканамічныя і ідэалагічныя ўмовы канца XУII – пачатку XУIII ст. прывялі да таго, што самі стараабраднікі пачалі дзяліцца на сагласы і толкі, а ўнутрыпалітычнае становішча Рускай дзяржавы прымусіла іх мігрыраваць за мяжу. Апынуліся абаронцы старога абраду і на беларускіх землях, аб чым пойдзе размова ў наступнай главе.

# Літаратура

1. Андреев В.В. Раскол и его значение в народной русской истории. Спб., 1870.
2. Архив раскольнического архиерея Амвросия. Ставрополь, 1893.
3. Волков В.И. Сведения о начале распространения и разделении раскола и о расколе в Витебской губерни. Витебск, 1886.
4. Дружинин В.Г. Раскол на Дону в конце ХУІІ века. Спб., 1889.
5. Журавлев А.И. (Иоаннов) Полное историческое известие о древних стригольниках, и новых раскольниках, так называемых старообрядцах, о их учении, делах и разногласиях. Спб., 1799.
6. Карташев А.В. Очерки об истории русской церкви. М., 1992. Т. 2.
7. Кельсиев В.И. Сборник правительственных сведений о раскольниках. Лондон, 1860. Вып. 1.
8. Кельсиев В.И. Сборник правительственных сведений о раскольниках. Лондон, 1861. Вып. 2.
9. Ключевский В.О. Собрание сочинений. М., 1957. Т. 3.
10. Материалы из истории раскола. М., 1875. Т. 1.
11. Мельников П.И. Исторические очерки поповщины. // Русский вестник. 1866. №5.
12. Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь.
13. Обзор Витебской губерни за 1881 год. Витебск, 1882.
14. Обзор Витебской губерни за 1884 год. Витебск, 1885.
15. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў.
16. Расійская дзяржаўная бібліятэка ў С. Пецярбургу. Зал рукапісаў. ОЛДП – 142.
17. Там жа. Збор Колабава Н.Я. №48.
18 Там жа. Збор Колабава Н.Я. №192.
19 Там жа. Збор Колабава Н.Я. №193.
20 Там жа. Збор Колабава Н.Я. №255.
21 Там жа. Збор Колабава Н.Я. №255.
22 Там жа. Збор Колабава Н.Я. №260.
23 Там жа. Збор Ціханава П.Н. №74.
24 Ростовский Д. Розыск о раскольнической Брынской Вере, о учении их, и изъявлении, яко вера их неправа, учение их душевредно и дела их не богоугодна. Киев, 1776.
25 Сементовский А. Этнографический обзор Витебской губерни. Спб., 1872.
26 Собрание постановлений по части раскола. Лондон, 1863. Т. 1. Вып.1.
27 Соловьев С.М. Собрание сочинений. М., 1991.
28 Смирнов П.С. История русского раскола старообрядчества. Рязань, 1893.
29 Смирнов П.С. Внутренние вопросы в расколе в ХУІІ в. Спб., 1898.
30 Старообрядчество. Опыт энциклопедического словаря. Составители: Вургафт С.Г., Ушаков И.А. М., 1996.
31 Старообрядческая мысль // 1910. №2.
32 Старообрядческая мысль // 1910. №3.
33 Старообрядец // 1906. №3.
34 Туган-Барановский М. Русская фабрика в прошлом и настоящем. М., 1922.
35 Харламов И. Странники // Русская мысль. 1884. №4.
36 Филиппов М.А. Патриарх Никон. М., 1994.

# ГЛАВА 2
# ЭВАЛЮЦЫЯ СТАРААБРАДНІЦКАГА РУХУ НА БЕЛАРУСІ

## 2.1. Асноўныя рэгіёны распаўсюджвання старaабрадніцтва на Беларусі ў канцы ХУІІ – ХУІІІ стст.

Як ужо адзначалася, у аснове зараджэння стараабрадніцтва былі сацыяльныя супярэчнасці самадзяржаўна-прыгоннага ладу. Яно вырасла з нетраў расколу Рускай праваслаўнай царквы, фармальнай падставай якога з'явіліся царкоўныя рэформы ХУІІ ст. Па свайму сацыяльнаму зместу раскол быў значна шырэйшы за стараабрадніцтва, якое ў сваю чаргу выйшла з яго.

Першыя звесткі пра стараабраднікаў на беларускіх землях адносяцца да другой палавіны ХУІІ ст. Гэты перыяд характарызуецца глыбокім эканамічным заняпадам гарадоў і сельскай гаспадаркі, асноўнымі прычынамі якога былі шматлікія войны: казацка-сялянская (1648 – 1654), руска-польская вайна (1654 – 1667), польска-шведская вайна (1655 – 1660), Паўночная вайна (1700 – 1721).

У выніку ваенных дзеянняў многія гарады, сельскія воласці і вёскі былі знішчаны. Частка насельніцтва загінула ў войнах, памерла ад эпідэмій і голаду. Калі ў 1650 г. на Беларусі жыло 2,9 млн. чалавек, то ў 1667 – 1673 гг. – не больш за 1,4 млн. Да 1700 года колькасць насельніцтва ўзрасла да 2,2 млн., але пасля Паўночнай вайны зноў зменшылася да 1,5 млн. чалавек. Чалавечыя страты былі такімі вялікімі, што спатрэбілася 125 гадоў, каб па ліку жыхароў беларускія землі дасягнулі ўзроўню сярэдзіны ХУІІ ст. [63. С. 66.].

У другой палавіне ХУІІ – першай палавіне ХУІІІ стст. зменшылася колькасць ворных зямель, з-за вялікіх людскіх страт узмацнілася феадальная эксплуатацыя сялянства. На ўсходзе, дзе ў асноўным сяліліся стараабраднікі, у чыншавых сялян існавала грашовая павіннасць. На паўднёвым усходзе і ў цэнтры Беларусі, дзе сяліліся ў асноўным стараабраднікі папоўцы, у цяглавых сялян пераважала адработачная павіннасць. А ў цэлым на землях Беларусі сяляне выконвалі грашовую, адработачную, і натуральную павіннасці.

Аднак, негледзячы на пералічаныя праблемы, якія існавалі на беларускіх землях, што ўваходзілі ў Рэч Паспалітую, стараабраднікі імкнуліся трапіць на землі гэтай дзяржавы. З’яўленне абаронцаў старога абраду на беларускіх землях звязана з абвастрэннем класавых супярэчнасцей у Рускай дзяржаве ў ХУІІ ст. і з барацьбой вакол царкоўнай рэформы. Перасяленне за мяжу, асабліва ў Рэч Паспалітую, давала стараабраднікам магчымасць зберагчы маёмасць і старыя абрады, таму што тут не лічылі “раскол” ерассю, вернікаў не падвяргалі ганенням.

Аб цяжкім становішчы абаронцаў старога абраду ў Расіі сведчаць сумы грашовых збораў. Напрыклад, у 1732 г. у маскоўскіх гарадах і паветах было 9587 стараабраднікаў, з якіх належала ўзяць за “раскол” 31853 руб. 14 $^{5}/_{8}$ кап. Рэальна было сабрана 23701 руб. 52 ¾ кап. А з усіх губерняў і гарадоў імперыі ад стараабраднікаў было атрымана 80506 руб. 37 $^{3}/_{8}$ кап. З 1724 г. па 1731 г. з іх і барадачоў было сабрана за “раскол” і за бароды акладу 52421 руб. (з губерняў і правінцый), а ў іншых месцах 48303 руб. золатам [53. Ф.248, воп.14, кн.778, спр.18, арк.164 – 165; 185].

Стараабраднікі траплялі на паўночныя землі Рэчы Паспалітай з Памор’я і Ноўгарада. У выніку перасялення на паўночныя землі ў большасці траплялі паморцы, федасееўцы і філіпаўцы. Яны аселі ў гарадах Дынабурзе, Браславе, Полацку, Себежы, Невелі, Віцебску, Лепелі, Веліжы; у Полацкім ваяводстве; Аршанскім і Віцебскім паветах Віцебскага ваяводства.

На паўднёва-ўсходнія землі большай часткай траплялі папоўцы і ў невялікай колькасці беспапоўцы (паморцы і федасееўцы). У гэтым раёне асноўнымі гарадамі іх пасяленняў былі Орша, Сянно, Чэрыкаў, Магілёў, Копысь, Гомель, Ветка, а таксама землі Мсціслаўскага ваяводства і Рэчыцкага павета Менскага ваяводства.

Перасяленню стараабраднікаў на землі Рэчы Паспалітай спрыялі і яе ўнутраныя абставіны. Так, войны сярэдзіны ХУІІ ст., а таксама Паўночная вайна нанеслі гарадам і мястэчкам вялізарныя страты. Большасць з іх была разбурана і спалена. Каб выправіць становішча, улады прынялі спецыяльныя пастановы, згодна з якімі ў другой палавіне ХУІІ ст. вызваляліся ад выплаты падаткаў на некалькі гадоў Віцебск, Полацк, Браслаў, Орша, Магілёў, Ашмяны, Гродна, Брэст і некаторыя іншыя гарады. Вялікія страты былі прычынены паветам. Напрыклад, Браслаўскі павет пад час войнаў быў поўнасцю знішчаны. Працавітыя і прадпрымальныя стараабраднікі траплялі першапачаткова ў гэтыя гарады і паветы, выкарыстоўваючы падатковыя прывілеі і магчымасць хуткай адаптацыі і назапашвання капіталу.

У кожным з названых рэгіёнаў жыццё стараабраднікаў мела свае асаблівасці. Беспапоўцы, якія ў большасці пасяляліся на паўночных

беларускіх землях, складалі найбольш прыгнечаную частку сялянства і іншых саслоўяў, таму яны адмаўлялі любы кампраміс з дзяржавай і пануючай царквой. У сваіх службах яны ў асноўным адмаўляліся маліцца за цара. Пад уплывам гэтых асаблівасцей складалася духоўнае жыццё беспапоўцаў. Яны не будавалі вялікіх і багатых храмаў; часта пераязджалі з месца на месца, што не давала магчымасці весці іх дакладны ўлік; яны былі больш адасобленымі і замкнутымі.

Да папоўцаў, якія пасяліліся пераважна на паўднёва-усходніх землях, адносіліся ў асноўным заможнае сялянства, рамеснікі, купцы. Ідэалогія папоўцаў давала ім магчымасць будаваць, прычым вельмі хутка, храмы, якія нічым не ўступалі праваслаўным храмам.

Эканамічнае жыццё характарызавалася многімі агульнымі рысамі. Паны, на землях якіх пасяляліся стараабраднікі абаранялі іх і карысталіся іх паслугамі. П.П. Сямёнаў у “Живописной России”, спасылаючыся на А. Семянтоўскага, адзначае, што абаронцы старога абраду сваім выглядам і адзеннем, хатнім бытам рэзка адрозніваліся ад беларусаў. Яны вольныя людзі, яны заўсёды былі багацейшымі, заўсёды адрозніваліся цвярозасцю і стрыманасцю ў жыцці [58. С. 284].

Асаблівае месца ў гісторыі стараабрадніцтва на Беларусі займае Ветка. Як сведчыць часопіс “Старообрядец”, іерэй Казьма, які служыў у Маскве ў царкве “Усіх святых”, што на Кулішках, пасля дамоўленасці з аднадумцамі вырашыў адправіцца ў Старадуб’е з мэтай захавання старажытнацаркоўнай набожнасці. З прыхаджанамі ён у 1669 г. прыбывае ў Старадуб’е да свайго сябра палкоўніка Гаўрыіла Іванова. Казьме і яго аднадумцам было адведзена мястэчка Пануроўка на рацэ Рэўня. Да іх хутка пачалі прыходзіць тыя, хто быў нязгодны з рашэннямі сабора 1666-67 гадоў – жыхары розных месц Маскоўскай Русі. Прыбыў і свяшчэннік Стэфан з Бялёва з сынам Дзмітрыем. На працягу некалькіх гадоў у старадубскіх лясах і балотах былі заселены чатыры слабады: Белы Калодзеж, Блакітны Калодзеж, Замешава і Шалома. Стэфан з сынам Дзмітрыем заснавалі яшчэ слабаду Міцькоўку. Абодва свяшчэннікі адпраўлялі ўсе службы, акрамя літургіі, бо не было храма. Так працягвалася да смерці цара Фёдара Аляксеевіча (1682 г.).

Першым, хто звярнуў увагу на стараабраднікаў Старадуб’я, была царыца Соф’я. Яна выдала ўказ на імя старадубскага палкоўніка Сімяона і чарнігаўскага архірэя, каб беглых людзей, якія жывуць у старадубскіх лясах, схілялі да новай веры і вярталі на іх былыя землі. Стараабраднікі пачалі разбягацца. Частка іх вярнулася праз пэўны час у Старадуб’е. Тады Казьма і Стэфан, параіўшыся з блізкімі аднадумцамі, вырашылі ісці ў Рэч Паспалітую. Пасля прыходу на беларускія землі яны пасяліліся на востраве

Ветка, дзе рэкі Сож і Ветка ўтваралі вусце, які займаў у акружнасці не больш дзвюх вёрст. Землі гэтыя належалі пану Халецкаму [4. С. 63].

Халецкі быў рады прышлым. Справа ў тым, што абаронцы старога абраду, якія да яго прыходзілі, сяліліся на запушчаных землях і дбайна іх апрацоўвалі. Акрамя таго, Халецкі атрымліваў ад іх аброк, што таксама яго задавальняла. Ён жа абяцаў у выпадку неабходнасці абараняць прышэльцаў усімі сіламі. Даследчыкі А.С. Дэмбавіцкі і П.І. Мельнікаў адносяць гэтую падзею да 1685 года [6. С. 656; 25. С. 51].

Жыццё на востраве было арганізавана прыкладна так, як і ў Старадуб'і. Хутка на востраве Ветка сабралася вялікая колькасць прыхільнікаў старога абраду. За некалькі вёрст ад вострава былі створаны слабады: Касецкая, Раманаўская, Лявонцьеўская і Веткаўская. І тут Казьма і Стэфан адпраўлялі ўсе службы, акрамя літургіі.

Геаграфічнае размяшчэнне веткаўскіх слабод, палітычнае становішча Рэчы Паспалітай давалі надзею лідэрам і іх прыхільнікам на доўгае пражыванне. Яшчэ больш узмацнілася становішча старaабраднікаў на гэтых землях, калі зрабіла свае высновы спецыяльная ўрадавая камісія (сакратар камісіі А.М. Пацей), створаная ў 1690 годзе "для азнаямлення з новай верай". Камісія не знайшла ніякай схізматычнасці і канстатавала, што стараабраднікі не належаць да ліку небяспечных для дзяржавы і царквы сектантаў [19. С. 33]. Такія абставіны дазвалялі паляпшаць умовы жыцця, у тым ліку і духоўнага.

На Ветцы не было званоў. Казьма хацеў набыць званы для склікання аднадумцаў на службу. Стэфан не згаджаўся і даводзіў, што звон можа выявіць сховішча, а лепш жыць ціха. Розныя погляды прывялі да сваркі двух сяброў-аднадумцаў, і Стэфан пайшоў з Веткі ў Лоеў і жыў там у слабадзе Карпавай, дзе і памёр. Неўзабаве памёр і Казьма, які спачатку жыў у Ветцы, а потым у слабадзе Касецкай [5. С. 84].

У дзевяты год ад засялення Веткі за 20 вёрст ад яе была заселена слабада Былеў. На другі год пасля засялення Былева прыйшоў сюды з Льгоўскага манастыра свяшчэннік манах Іаасаф, былы кялейнік старца Іова, які памёр на Доне. Да Іаасафа, які пасяліўся за пяць вёрст ад Былева, народ ставіўся недаверліва з-за таго, што ён меў хрышчэнне старое, а пасвячэнне новае, хаця сам Іаасаф сцвярджаў, што цвярскі архірэй па просьбе старца Іова пасвяціў яго паводле старых кніг і старажытнага ладу. З гэтай прычыны Іаасафу прыйшлося ажыццявіць падарожжа на Дон, да ціхвенскага ігумена Дасіфея, каб атрымаць параду. Толькі пасля вяртання Іаасафа зноў да Былева, адносіны да яго змяніліся. Якраз у гэты час памёр на Ветцы Казьма і жыхары яе прапанавалі Іаасафу адслужыць у іх велікоднае богаслужэнне, а праз некаторы час веткаўцы запрасілі яго да сябе. Па прапанове Іаасафа ў слабадзе Ветка былі пабудаваны першая

царква і манастыр, але асвяціць іх ён не паспеў, бо хутка памёр. “Шмат слёз было, таму што быў Іаасаф спакойным і прыветлівым, разважлівым, прыстойнасці ўсіх вучыў” [61. С. 426 - 428].

Пераемнікам Іаасафа стаў свяшчэннік Феадосій (Варыпін), які з іерэямі Аляксандрам і Рыгорам, без дыякана, у 1695 г. па благаславенню, дараванаму ад праасвяшчэннага Паўла, епіскапа Каломенскага, асвяціў царкву, пабудаваную Іаасафам, у імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы дзевы Марыі на старажытным антымінсе [9. С. 325; 60. С. 129], які прывязла з Масквы вядомая ў той час вучаніца Авакума Малання Былеўская [54. Ф.796, воп.17, спр.170, арк.2ад.]. Падпісаў гэты антымінс устаўшчык Афанасій, які лічыўся адукаваным мужам і жыў у скіце, заснаваным на Ветцы. Феадосій з Аляксандрам і Рыгорам правялі таксама набожную літургію па старажытнаму царкоўнаму чынапалажэнню. У веткаўскай царкве стала пастаянна праводзіцца такая літургія.

З гэтага часу пачынаецца новая эпоха ў гісторыі Веткі і ў гісторыі ўсяго папоўства. Вестка аб падзеях на Ветцы разнеслася шырока. Сюды прыходзілі ўсё новыя і новыя людзі. Ветка становіцца цэнтрам папоўства. Людзей прыцягвала бяспечнасць прыстанішча, розныя выгоды жыцця, а больш за ўсё, новапабудаваная царква, якая тады была адзінай у папоўцаў. Вакол Веткі было заснавана 14 слабод: Касецкая, Дубовы Лог, Папсуеўка, Мар’іно, Мільча, Красная, Касцюковічы, Буда, Крупец, Гродня, Ніўкі, Грабоўка, Тарасаўка, Спасаўка [6. С. 656], у якіх налічвалася ў другой чвэрці ХУІІІ ст. каля 40 тысяч жыхароў. Сама Ветка была вялікім і прыгожым паселішчам. Царкву акружаў манастыр, у якім было да 800 манахаў. Пазней, як сцвярджаў у 1722 г. перавернуты з стараабрадніцтва ў праваслаўе Іван Бяляеў, каля Веткі ўзніклі яшчэ 9 слабод: Былеўская – мела 85 двароў; Побуж – 65 двароў; тут жылі стараабраднікі, якія запісаліся ў Маскве ў двайны аклад і ўцяклі на Ветку; акрамя таго, тут жылі і чухонцы – 30 двароў; Купрэеўка – 35 двароў; Купранка – 20 двароў; пятая слабада маскоўскіх жыхароў – 50 двароў; шостая слабада наўгародскіх жыхароў – 25 двароў; сёмая слабада ніжагародскіх жыхароў - 25 двароў; восьмая – Данская – 65 двароў; дзевятая слабада складалася з прыезджых людзей розных чыноў [20. С. 151].

Асаблівасцю веткаўцаў было і тое, што яны ўжывалі ўласнае міра, якое зварыў ім, з прычыны змяншэння запасаў старажытнага міра настаяцель Феадосій. Адсюль па благаславенню Феадосія і яго пераемнікаў, манахі і манахіні разносілі запасныя дары ў папоўскія скіты – данскія, ніжагародскія, а таксама ў іншыя месцы. Дакладнай даты смерці Феадосія намі не знойдзена, прыблізна 1710 – 1720 гг.

Памежнае размяшчэнне веткаўскіх і суседніх старадубскіх слабод уплывала на ўрадавую палітыку, як Маскоўскай Русі, так і Рэчы

Паспалітай, у адносінах да стараабраднікаў, якія мелі магчымасць у любы час пакінуць свае землі і пайсці за рубеж. Гэта прымушала рускі ўрад клапаціцца аб тым, каб абаронцы старога абраду памежных слабод заставаліся на сваіх месцах.

Як вядома, пачатак палітыкі "уважительных" адносін да старадубскіх стараабраднікаў паклаў Пётр I. Актыўнасць расійскага ўрада дзеля ўплыву на памежныя стараабрадніцкія слабоды тлумачылася яшчэ і тым, што гэтыя паселішчы выкарыстоўваліся як прынады для беглых абаронцаў старога абраду, якія пасяляліся ў Рэчы Паспалітай. У 1715 г. жыхароў старадубскіх слабод перавялі "на государево имя", быў зроблены іх перапіс, за імі былі замацаваны землі, якія яны займалі, усім быў прызначаны падушны аклад. Гэта дало асновы дынамічнага развіцця слабод, а неўрадлівасць глебы вызначала гандлёва-прамысловы характар іх эканомікі.

Аднак у цэлым Пётр I, як і яго папярэднікі, праводзіў жорсткую палітыку ў адносінах да стараабраднікаў. Так, указам ад 19 лістапада 1721 г. усім архірэям і духоўным управіцелям было загадана: 1) кожны архірэй павінен быў мець запісныя прыходы, спавядальныя і неспавядальныя кнігі, на тых, хто не спавядаўся, накладваць штрафы; 2) ва ўсіх прыходах скласці кнігі наяўных мужчын і жанчын, адзначыўшы там праваслаўных і стараабраднікаў. Тых, хто прыбываў, адзначаць, да каго прыбылі, а тых, хто выбываў – куды выбылі; 3) назіраць за свяшчэннікамі, якія сюды прыйшлі. Яны павінны хадзіць на ранішнія і вячэрнія службы, а таксама і ў іншыя святы, а калі не ходзяць, акрамя хваробы, "о таком усмотрев поименно доносить"; 4) тых, хто адыходзіць, запісваць, куды яны адпраўляюцца, зрабіць пячатныя знакі кожнага прыхода і адзначаць гэтымі знакамі адпаведныя паперы; 5) "раскольнікаў" нідзе не прымаць, зямлі ім не даваць, у пабудаваныя дамы і палацы жыць не пускаць. За гэтым сачыцьураднікам і старастам [53. Ф.284, воп.14, кн.765, спр.4, арк.95 - 100].

Як вядома, стараабраднікі адрозніваліся знешне нашэннем барады і адметнага адзення. Каб гэтае адрозненне ўстараніць у 1722 г., у Расіі, выдадзены быў загад, згодна з якім кожны, хто насіў бараду і адметнае адзенне, у год павінен плаціць дзесяць рублёў. А "люди, которые имеют торги под Ригой, в городах и слободах Малороссии, равносильно как греки и поляки и носившие бороды и платья, имущества их конфисковывать и предать публичному наказанию" [53. Ф.284, воп.14, кн.808, спр.1, арк.2 - 3]. Такім чынам, Пётр I, з аднаго боку, імкнуўся стрымліваць стараабраднікаў на памежных землях шляхам стварэння для іх больш спрыяльных умоў жыцця ў параўнанні з іншымі тэрыторыямі, а з другога боку, рабіў усё, каб ліквідаваць вонкавае культавае адрозненне.

Палітыка стрымлівання абаронцаў старога абраду ў памежных слободах прывяла да развіцця апошніх як з аднаго, так і з другога боку мяжы. Старадуб'е і Ветка становяцца сур'ёзнымі гандлёвымі і рамеснымі цэнтрамі. Адзін з вядомых даследчыкаў старaабрадніцтва ў XIX ст. М. І. Лілееў з гэтай нагоды адзначае: "В первой половине XУIII в. Ветка занимала уже видное положение в раскольническом мире поповщины и сделалась главой последней отрасли раскола; к Ветке прислушивались и духовно подчинялись поповцы Москвы и Поволжья, Дона и Яика, как и поповщинские колонии раскола в Юго-Западной и Юго-Восточной России" [20. С. 152].

Чуткі аб Ветцы, аб жыцці і занятках абаронцаў старога абраду, аб іх колькасці ўвесь час даходзілі да імператарскага двара, турбавалі вышэйшае кіраўніцтва афіцыйнай праваслаўнай царквы. А калі Ветка стала значным гандлёвым і рамесным цэнтрам, калі ў Сенаце падлічылі, што ў Старадуб'е прыязджае на жыццё з Расіі старaабраднікаў больш, чым з Рэчы Паспалітай, то пачалі распрацоўваць тактыку "высялення" з Веткі "русских беглых".

Перасяленне за мяжу вялікай колькасці расійскіх грамадзян адмоўна паўплывала на эканамічны стан народнай гаспадаркі: рэзка зменшылася колькасць дзяржаўных павіннасцей, спыніліся казённыя работы, станавіліся безжыццёвымі паселішчы, казна адчула вялікую нястачу грашовых сродкаў. Расія баялася, што Рэч Паспалітая можа выкарыстаць рускіх людзей супраць рускай дзяржавы, а "прыклад" такі падалі ў пачатку XУIII ст. някрасаўцы, якія ўступілі ў рады турэцкай арміі.

У другой палавіне XУIII ст. на паўночных беларускіх землях, галоўным чынам паблізу расійскіх межаў – усходняя частка Дынабургскага, Рэжыцкага і частка Люцынскага паветаў – з беспапоўскага накірунку жылі федасееўцы [11. С. 48]. Дакладных дадзеных пра час пасялення старaабраднікаў па ўсіх беларускіх гарадах, мястэчках і вёсках не знойдзена. Вядомыя пакуль паасобныя даты і падзеі, а больш поўны матэрыял прадстаўлены XIX і XX ст. Справа ў тым, што старaабраднікі, як правіла, пранікалі на беларускія землі тайком і сяліліся ў глухіх і непраходных лясах. Праходзіў час, пакуль іх паселішчы станавіліся вядомыя землеўласнікам, на абшарах якіх старaабраднікі жылі. Вялікую цікавасць, у плане атрымання гістарычнай інфармацыі пра першыя пасяленні і першыя пабудаваныя старaабраднікамі храмы на беларускіх землях, уяўляе "Дегуцкий летописец", які быў знойдзены ў 1973 г. у час археаграфічнай экспедыцыі Пушкінскага Дома ў Прыбалтыцы. Падзеі летапісу адносяцца як да гісторыі Расіі, так і да гісторыі сумежных дзяржаў.

Першыя паселішчы стараабраднікаў федасееўцаў былі адасобленымі, размяшчаліся здалёк ад паселішчаў іншаверцаў. Стараабраднікі стараліся захаваць чысціню сваёй веры, свае абрады, звычаі і традыцыі. "Дегуцкий летописец" сведчыць, што стараабраднікі спачатку з'явіліся ў Дынабургскім павеце.

У рукапісным аддзеле Літоўскай нацыянальнай бібліятэкі імя Марцінаса Мажвідзіса намі знойдзены цікавы рукапісны дакумент: "Положение старообрядцев в Ковенской губернии", дзе паведамляецца, што пасяленне ў губерню стараабраднікаў розных сагласаў адбылося ў 1655 г. [22. F.19, Nr.78, арк.3], а аднымі з першых месц, дзе яны пасяліліся, былі землі вакол Браслава, Салок і Відзаў. Таму можна меркаваць, што на землях сучаснай Браслаўшчыны стараабраднікі з'явіліся ў 1655 г. яшчэ да афіцыйнага расколу Рускай праваслаўнай царквы. У 1660 г., як адзначаецца ў "Дегуцком летописце", у вёсцы Лігінішкі, паблізу ракі Дзвіны недалёка ад г.Дынабурга, быў заснаваны храм, а ў 1667 г. сюды прыйшоў свяшчэннаіерэй Цярэнцій, "старажытнаправаслаўнага хрышчэння і пасвячэння існы, які святаайцоўскія паданні моцна і надзейна захоўвае". Далей гаворыцца, што прыбыў ён з сынам і жыў набожна [7. С. 186].

Вялікі ўплыў на федасееўцаў, якія жылі на беларускіх землях, зрабіла з'яўленне тут у 1699 г. (разам з сынам і маці) арганізатара і ідэйнага натхняльніка сагласа Феадосія Васільева, які першапачаткова распаўсюджваў сваё вучэнне на наўгародскіх землях у ваколіцах Старой Русы.

Пасля выхаду ў 1695 г. "Статей" царэўны Соф'і, дзе звярталася сур'ёзная ўвага на стараабраднікаў [9. С. 323; 13. С. 413], адносіны да іх змяніліся. Калі ў 1697 г. у наўгародскіх землях федасееўцаў пачалі праследаваць, Феадосій Васільеў перайшоў мяжу Рэчы Паспалітай і пасяліўся ў Невельскім павеце, Крапівінскай гміне, у лясных уладаннях Канінскага, недалёка ад вёскі Русанавай [14. С. 61 - 62]. Услед за ім, сюды сталі перасяляцца яго аднадумцы.

Таму да складзенага А. Заварынай пераліку паветаў Вялікага Княства Літоўскага, дзе першапачаткова жылі стараабраднікі, неабходна дадаць Браслаўскі і Невельскі паветы.

За кароткі тэрмін у Крапівінскай гміне былі пабудаваны два манастыры: мужчынскі і жаночы, дзе пражывала 700 жанчын і 600 мужчын. І тыя і другія павінны былі прытрымлівацца строгай цнатлівасці. Жаночы манастыр быў аддзелены ад мужчынскага. Шматгадзінныя службы, строгая дысцыпліна, паслушэнства настаўніку, абагуленасць маёмасці былі асаблівасцю федасееўскага сагласа. У абшчыне былі свая

малельня, бальніца, шматлікія гаспадарчыя пабудовы, дзе пастаянна і бясплатна працавалі беспапоўцы федасееўцы.

Феадосій Васільеў карыстаўся ў аднадумцаў вялізарным аўтарытэтам: ён быў начытаны, энергічны і ўпэўнены ў правільнасці сваіх ідэй. Яго ведалі ў самых аддаленых месцах. Наяўнасць двух манастыроў дазваляла даваць прытулак многім збеглым стараабраднікам.

Чуткі аб федасееўскіх манастырах прыцягнулі ўвагу польскіх салдат, якія пачалі часта наведвацца сюды, каб рабаваць федасееўцаў. Аднойчы ў час набегу ўзнікла перастрэлка, у выніку якой быў забіты хавальнік каштоўнасцей Данііла, а многія стараабраднікі былі параненыя [14. С. 62; 10. С. 139 - 140]. Шмат клопатаў прыносілі федасееўцам і расійскія салдаты, якія таксама наведваліся сюды. Такія ўмовы жыцця і неадназначная палітыка да стараабраднікаў у Расіі, прымусілі Феадосія Васільева вярнуцца на рускія землі. У 1709 г. ён прыбывае ў Ноўгарад і не без удзелу Захарыя Бядрынскага, дамаўляецца з князем Аляксандрам Меншыкавым аб перасяленні сваіх аднадумцаў з-за мяжы ў Вязаўскую ў Вялікалуцкім павеце, якая стала новым рэлігійным цэнтрам для часткі федасееўцаў, таму што многія з федасееўцаў засталіся ў г.Невелі, перасяліліся ў Невельскі, Віцебскі, Полацкі, Лепельскі і іншыя паветы, а яшчэ адна група – у Курляндыю, дзе стараабраднікі жылі ўжо з 1659 года [3. С. 179; 7. С. 181]. Такім чынам, можна меркаваць, што федасееўцы пасяліліся на землях цяперашніх Віцебскага, Полацкага і Лепельскага раёнаў у 1655 – 1710 гг.

Вязаўская была для федасееўцаў часовым прытулкам. Неўрадлівыя землі, вялікая колькасць стараабраднікаў на невялікай тэрыторыі прымушалі іх перасяляцца ў іншыя месцы. Намаганнямі памешчыка Дзмітрыя Неганоўскага ўдалося знайсці новае жытло ў паселішчы Рапіна Юр'еўскага павета каля Пскова (Юр'еў – Тарту). Перасяленню федасееўцаў Васільеў удзяляў шмат увагі, яго турбавалі многія пытанні. Калі ж ён прыбыў для іх вырашэння ў Ноўгарад, то быў выдадзены ваяводам Якубам Каршаковым мітрапаліту Іову. Не вытрымаўшы турэмных допытаў, 23 жніўня 1711 г. Феадосій Васільеў памёр і быў пахаваны ў Ноўгарадзе. Стараабраднікі дабіліся дазволу перавезці яго цела ў Рапіна, дзе 27 лістапада 1711 г. адбылося перапахаванне Феадосія Васільева, яго паслядоўнікі яб'явілі святым [23. С. 55 – 57; 60. С. 105; 14. С. 62 - 63].

Пасля смерці Феадосія Васільева федасееўцы зноў пачалі перасяляцца за мяжу – на землі Віленскага ваяводства, галоўным чынам у цяперашні Браслаўскі раён Беларусі і Зарасайскі раён Літвы, дзе ўжо жылі іх аднадумцы. Браслаў, Відзы (на беларускай зямлі), Зарасай, Вількамір,

Свянцяны (на літоўскай зямлі) сталі цэнтрамі федасееўскага стараабрадніцкага руху.

Новую хвалю перасяленняў выклікалі два царскія ўказы. Указ 1716 г. патрабаваў увядзення двайнога акладу, складання спісаў стараабраднікаў і спавядання ў праваслаўнай царкве, указ 1718 г. прадугледжваў абавязковае наведванне стараабраднікамі праваслаўнай царквы ў святочныя дні і спавяданне [50. Т.У. №2991. С.166; 54. Ф.796, воп.44, спр.34, арк.5], а за неспавяданне – грашовыя штрафы [50. Т.У. №3169. С. 544 - 545; 54. Ф.796, воп.44, спр.34, арк.5]. У 1719 г. быў ліквідаваны стараабрадніцкі цэнтр у Рапіна [9. С. 269].

Калі ў Расійскай імперыі ХУІІІ стагоддзе пачыналася для стараабраднікаў усё новымі праблемамі, то ў Рэчы Паспалітай прыхільнікі старога абраду здзяйснялі, як і прадстаўнікі іншых канфесій, сваю рэлігійную дзейнасць свабодна. На літоўскіх землях у 1710 г. была пабудавана малельня ў Пушчы, у 1728 г. – у Гудзішках, у 1742 г. – у Каралішках, у 1736 г. – у Дзегуцях. У Курляндыі ў 1735 г. пабудавана малельня ў мястэчку Езяросы, у 1740 г. – у вёсцы Вайцішкі [7. С. 168, 190, 195 - 197]. Упамянуты “Дегуцкий летописец” сведчыць, што на землях сённяшняга Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці першая малельня была пабудавана ў Відзах і благаслаўлена духоўным айцом Філімонам Пятровічам і Сцяпанам Афанасічам у 1764 г. [7. С. 197].

У пачатку ХУІІІ ст. на літоўскіх і беларускіх землях зноў апынуліся галоўныя кіраўнікі федасееўцаў пад кіраўніцтвам сына Феадосія Васільева Еўстрація Федасеева. У 1724 г. сюды ўцёк уплывовы настаўнік Ігнацій Трафімаў, які быў кіраўніком у ваколіцах Старой Русы [16. С. 690 - 692].

Другім месцам буйнога пасялення стараабраднікаў стала ўсходняя частка цяперашняй Віцебскай вобласці. (Тады гэта былі Полацкае і Віцебскае ваяводствы). У гэтых месцах, як адзначае ў сваёй кнізе В.І. Волкаў, беспапоўцы федасееўцы пасяліліся ў пачатку ХУІІІ ст. [3. С. 42,47]. Пра першае ж з’яўленне вялікаросаў у Полацкім ваяводстве А. Семянтоўскі паведамляе наступнае: “Великороссы появились в г.Динабурге между 1656 и 1667 годами, когда город этот носил название Борисово-Глебска и начиная с 1563 г. в течение последующих 18 лет в городе Полоцке и его окрестности”, а ў Віцебску яны з’явіліся яшчэ раней – у 1552 г. А. Семянтоўскі называе іх духаборцамі [57. С. 16 - 17].

На цяперашняй тэрыторыі Віцебскай вобласці жылі і стараабраднікі папоўцы. У 1735 г. і 1764 г. папоўцы веткаўскага сагласа пасяляюцца ў Віцебску, Полацку, Лепелі і іх ваколіцах. У гэтыя гады па царскіх указах з Веткі і яе ваколіц было здзейснена два выгнанні і частка стараабраднікаў, якім удалося пазбегнуць “лавушак” рускіх войскаў, перасяліліся ў гэтыя мясціны [4. С. 60 - 66]. Гвалтоўнае высяленне стараабраднікаў было

здзейснена таксама з паўночна-ўсходніх зямель Рэчы Паспалітай у 1736 г. На адным з соймаў Літоўскай дзяржавы адзначалася, што рускімі войскамі гвалтоўна выселена больш за 60 тыс. федасееўцаў [20. С. 295 – 296,299,302].

Вялікае значэнне ў гісторыі федасееўскага сагласа мае так званы польскі сабор, які згодна з "Дегуцким летописцем" адбыўся ў 1751 г. у Гудзішках (паблізу мястэчка Казачызна) Новааляксандраўскага павета. Тут яшчэ ў 1728 г. Еўстраціем Федасеевым, сынам Феадосія Васільева, была пабудавана "богоспасаемая обитель" [7. С. 195,196]. Да таго, як быў знойдзены "Дегуцкий летописец" месцам правядзення польскага сабора, паводле сцвярджэння В. Волкава, быў Себежскі павет [3. С. 35]. Першым, хто заўважыў недакладнасць у вызначэнні месца правядзення сабора, - быў польскі даследчык Е. Іванец.

У рабоце польскага сабора прыняло ўдзел 17 духоўных настаўнікаў, якія выпрацавалі, узгаднілі і зацвердзілі 48 пунктаў польскіх артыкулаў: для прыкладу, уставы "О пребывании христианского жительства" і "О церковных вещах". Пастановы сабора былі вельмі строгія. Так, ежу стараабраднікам дазвалялася гатаваць толькі з сваіх прадуктаў, а хто вымушаны быў купіць на торгу прадукты ў іншаверцаў, павінен быў выканаць сто паклонаў. Калі ж купля зробленая без вострай неабходнасці, то кара была ў сто паклонаў да зямлі ў храме. Ва Уваскрэшанне Хрыстова і ў вялікія святы забаранялася ездзіць (хадзіць) на кірмаш і гандляваць. Калі гэтая забарона парушалася з-за неабходнасці, то назначалася сто паклонаў да зямлі, а калі без неабходнасці, то кара была ў трыста паклонаў да зямлі ў храме. Юнакам, дзяўчатам і жонкам забаранялася наведваць кірмаш, хадзіць па лясах, чужых вёсках. За невыкананне гэтага патрабавання належала выканаць трыста паклонаў да зямлі ў храме.

Кожны павінен быў мець духоўнага айца, шанаваць яго і пастаянна спавядацца яму. За парушэнне гэтага патрабавання было адлучэнне ад стараабрадніцтва.

Тых, хто піў "гарэлае" віно і піва "ад рук жыдоўскіх і ад няверных", каралі постам у дванаццаць дзён і кожны дзень па сто паклонаў да зямлі. Забаранялася мыцца ў лазнях разам з нехрышчонымі і іншаверцамі, карыстацца адным посудам. У выпадку адступлення ад гэтага патрабавання неабходна было выканаць трыста паклонаў да зямлі ў храме. У сераду і пятніцу забаранялася наладжваць баню і мыцца ў ёй, за парушэнне гэтага патрабавання неабходна было выканаць сто паклонаў да зямлі ў храме.

Тыя, хто спявалі чартоўскія песні, ігралі ў карты і вагарны, ігралі на дудках і брыдка лаяліся, пускаліся ў скокі і ў Вялікдзень каталі яйкі, гойдаліся на арэлях і ездзілі на конях – павінны былі выканаць 500

паклонаў у храме. Тым, хто наведваў вешчуноў або запрашаў іх у свой дом, хто варажыў у варажбітак, неабходна было “исправиться правильно” у духоўнага айца.

Строгая кара была за разбой. Калі хто-небудзь біў стараабрадніка і пачынаў бойку або ўзводзіў паклёп, гаварыў няпраўду ўладам, то такога патрэбна было біць і ён павінен быў зрабіць тысячу паклонаў да зямлі ў храме.

На польскім саборы былі прыняты захады ў абарону ўласнасці. Так, за гвалтоўны захоп чужой уласнасці і яе невяртанне належала злачынцу звязаць і біць, а духоўны айцец павінен быў адлучыць яго ад царквы. Сабор пацвердзіў існаваўшыя палажэнні веры, а таксама прыняў шэраг рашэнняў адносна сямейных сувязей. Сямейным забаранялася мець дзяцей, іх сталі называць “староженами”. Калі ў іх нараджалася адно дзіця, то іх выганялі з абшчыны на паўгода, калі нараджалася другое – на год, трэцяе – на два гады. Новыя сем’і ствараць забаранялася, тых хто іх ствараў, - выганялі з абшчыны і называлі “новоженами” [52. С. 3 - 10].

Манастыр у Гудзішках пашыраў свой уплыў на федасееўцаў. Аднак у 1755 г. ён перастаў існаваць. Яго выявілі рускія салдаты, якія накіроўваліся да прускай мяжы. Военачальнік Захарый Чарнышоў пасля доўгіх разборак заявіў, што на зваротным шляху знішчыць манастыр. Перажыўшы зіму, стараабраднікі падзялілі маёмасць і разышліся ў розныя бакі [28. С. 34 - 36]. Пра далейшы лёс большасці федасееўцаў апавядае “Дегуцкий летописец”. Адна група федасееўцаў накіравалася ў Старадуб’е, у Злынскі пасад, дзе ў 1756 г. пад кіраўніцтвам Фядулы Дзмітрыча пабудавалі Пакроўска-Норскі манастыр. Але і тут ім не было суджана доўга жыць спакойна. 6 сакавіка 1768 г. Кіеўская губернская канцылярыя данесла Свяшчэннаму Сіноду пра пабудаваныя без дазволу непадалёк ад стараабрадніцкіх слабод Клімава і Злынкі дзве цэрквы. У сваю чаргу Свяшчэнны Сінод 21 ліпеня 1768 г. паведаміў Сенату, што, паколькі “…в манифестах 1762 и 1764 гг., равно и в прочих о раскольниках состоявшихся узаконениях не упомянуто того, чтобы им иметь особенные церкви и часовни, то оным церквям и часовням быть не должно, дабы из того православным развращения последовать не могло” [26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.10ад - 11].

Другая група федасееўцаў накіравалася ў Салоцкі Ключ, дзе ў 1756 г. у Дэгуцях пабудавала царкву [7. С. 196 - 197]. (У далейшым гэта Новааляксандраўскі павет Віцебскай губерні, а цяпер Зарасайскі раён Літоўскай рэспублікі).

У другой палавіне ХУІІІ ст. адбывалася перасяленне стараабраднікаў далей на захад, у глыбіню Рэчы Паспалітай. Вядомыя таксама выпадкі зваротнага перасялення ў Расію: калі першапачаткова землеўладальнікі не

абкладвалі стараабраднікаў падаткамі, то праз пэўны час пачалі самавольна павышаць чынш. Абаронцы старога абраду аддавалі перавагу перасяленню на каралеўскія землі, якія паступова станавіліся ўласнасцю буйных землеўладальнікаў, а перасяленцы траплялі ў іх залежнасць. Напрыклад, у Полацкім ваяводстве ў Забор'і больш за 300 сем'яў стараабраднікаў былі замацаваны да маёнтка графа Храптовіча і толькі каля 1818 г., па рашэнні Сената, адпушчаны на волю [57. С. 18]. Такая ж сітуацыя была і ў Рэчыцкім старостве на землях Корфаў [11. С .80 – 81,85 - 87].

З другой палавіны 50-х гадоў ХУІІІ ст. рускі ўрад на заходняй мяжы стварае "описные раскольничьи слободы", жыхары якіх карысталіся свабодай у адпраўленні культу. (З 1715 г. былі вызвалены з-пад улады мясцовых феадалаў). Гэтыя слабоды былі своеасаблівымі "прынадамі" для стараабраднікаў, што жылі на беларускіх землях. Так, у "мнении" сходу стараабраднікаў Віцебска, (каля 1756 г.) было выказана жаданне перасяліцца ў Расію перш за ўсё ў "описные слободы" [53. Ф.248, воп.113, спр.1578, арк.1 – 2ад; 59. Т.23, С.15 - 16]. Аднак у цэлым гэты крок урада не спрыяў значнаму перасяленню стараабраднікаў у Расію.

У канцы 70-х гадоў ХУІІІ ст. на землях Віцебшчыны з'яўляюцца філіпаўцы. Дзяленне стараабрадніцтва на сагласы і толкі закранула і паморцаў, з якіх першымі выдзеліліся філіпаўцы, якія яшчэ мелі назву спальвальнікі і марэльшчыкі. Кіраўніком філіпаўцаў, як ужо адзначалася, выступіў былы стралец Фоцій Васільеў, у манастве Філіп. В. Волкаў адзначае, што філіпаўцы прыйшлі на Віцебшчыну з Наўгародскай губерні, каб пазбегнуць урадавага суда за рабаванне праваслаўныў цэркваў і манастыроў. З гісторыі вядома, што ў 1765 г. філіпаўцы ўварваліся ў Зелянецкі праваслаўны манастыр Наўгародскай епархіі, выгналі адтуль манахаў, абрабавалі царкву (забралі з сабою іконы і старажытныя рэчы) і падпалілі манастыр. Частка філіпаўцаў самаспалілася ў гэтым манастыры. Зыходзячы з гэтага, трэба меркаваць, што філіпаўцы ўцяклі на Віцебшчыну, не раней як у 1765 г [3. С. 36,42,50].

У Мінскім ваяводстве стараабраднікі з'явіліся ў 1735 г., пасля выгнання іх з Веткі. Пасяліліся яны ў непраходных лясах Бабруйскага і Барысаўскага паветаў, якія з часам сталі пастаянным месцам жыхарства для беспапоўцаў федасееўскага і філіпаўскага сагласаў. Другая хваля перасяленняў у Бабруйскі і Барысаўскі паветы была ў 1765 г., калі стараабраднікаў паўторна выгналі з Веткі. Першапачаткова абаронцы старога абраду арэндавалі зямлю, а потым пачалі набываць яе ва ўласнасць [Обзор Минской губернии за 1875 г. Мн., 1876. С. 93].

На Бабруйшчыне з'яўляюцца чыста стараабрадніцкія паселішчы: Капусціна слабада, вёскі Туркі і Салоціна, якія належалі філіпаўцам. У

Барысаўскім павеце федасееўцы пасяляюцца ў вёсках Будніца і Бабарыкі. У 1735 – 1765 гг. у Капусцінай слабадзе і названых вёсках з’яўляюцца першыя малельні [40. С. 580].

Рэлігійны “раскол” ва ўмовах Расіі XУIII ст. з’яўляўся тэалагічнай абалонкай сацыяльнага пратэсту народных мас, які прыгонны ўрад настойліва і жорстка падаўляў. Дзеянні ўрада прывялі да таго, што абаронцы старога абраду трапілі на беларускія землі, якія ў той час уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Талерантнасць у адносінах да стараабраднікаў, ненасілле ў складзе думак і адносінах да іншадумцаў былі характэрнымі для ўлад Рэчы Паспалітай. Рускія перасяленцы асвойвалі неабжытыя месцы, ствараючы пры гэтым высокаэфектыўную вытворчасць і арганізуючы жыццё па ўзору жыцця сваіх бацькоў і дзядоў. Знаменальна, што менавіта на беларускіх землях стараабраднікі пабудавалі свае першыя храмы і манастыры, якія па хараству і багаццю не ўступалі маскоўскім праваслаўным храмам. Ветка на доўгі час стала цэнтрам усяго папоўства.

Абаронцы старога абраду хутка ўліваліся ў сістэму эканамічных адносін у Рэчы Паспалітай, вырашаючы адначасова пытанні аб умацаванні эканамічнай базы стараабрадніцкіх абшчын і фарміраванні рэлігійна-ідэалагічных стымулаў. Аднак, пры складанай сістэме суадносін гэтых аспектаў і паводзін Расіі ў адносінах да Рэчы Паспалітай, найбольш важным для актыўнага ўдзелу стараабраднікаў у генезісе новага эканамічнага ўкладу быў характар іх рэлігійнага вучэння. Першыя свае крокі ў гэтых адносінах свяшчэннікі Казьма, Іаасаф, Феадосій на Ветцы, духоўныя настаўнікі Феадосій Васільеў, Філімон Пятровіч, Сцяпан Афанасьевіч на Віцебшчыне зрабілі на беларускай зямлі.

Пашырэнне ўплыву Веткі на ўсе стараабрадніцкія цэнтры ў Расіі, а таксама безвыніковасць “запрашальнай” палітыкі расійскага ўрада ў адносінах да сваіх суграмадзян прывялі да пошуку Расіяй іншых шляхоў вырашэння пытання.

Нягледзячы на ўсе спробы, якія прымаліся як свецкімі, так і духоўнымі расійскімі ўладамі з мэтай спынення дзейнасці стараабрадніцтва як у дзяржаве, так і за яе межамі, - стараабрадніцтва не толькі не спыняла свайго існавання, але і працягвала развівацца. Уплыў стараабраднікаў пашыраўся на ўсе сферы эканамічнага, палітычнага і грамадскага жыцця Расіі.

## 2.2. Выгнанне старaабраднікаў з Беларускіх зямель у 1735 і 1764 гг.

Раскол Рускай праваслаўнай царквы ў сярэдзіне ХУІІ ст. з'явіўся адной з самых складаных падзей у Расіі і пэўным чынам паўплываў на далейшую гісторыю дзяржавы. Наступствам расколу стала адначасовае існаванне на працягу трох стагоддзяў дзвюх рускіх праваслаўных цэркваў – афіцыйна прызнанай і стараабрадніцкай. Выявіўшы кантрасты і супярэчнасці, што напластаваліся за стагоддзі ў духоўным і палітычным жыцці Расіі, раскол назаўсёды раздзяліў рускую духоўную гісторыю на "даніканіянцаў" і "пасляніканіянцаў". Па сваіх маштабах, характары і ідэалогіі абаронцы старога абраду істотна адрозніваліся ад сект і ерасяў, якія існавалі на Русі.

Як ужо адзначалася, адносіны Рускай афіцыйнай праваслаўнай царквы і царскіх улад да стараабраднікаў не былі адназначныя. На працягу стагоддзяў абаронцы старога абраду праследаваліся і былі гнаныя. У пошуках лепшага жыцця стараабраднікі ішлі за межы дзяржавы, часта на захад, на землі Рэчы Паспалітай. Сур'ёзную ўвагу на "замежных" стараабраднікаў звярнула Анна Іаанаўна. Яшчэ ў першыя гады яе праўлення (1730 – 1733) цэнтральны рускі ўрад атрымаў дакладныя звесткі аб тым, што ў межах Гомельскага староства, у так званых веткаўскіх слабадах, жыло больш 40 тыс. збеглых вялікарускіх людзей і стараабраднікаў [20. С. 293].

Паколькі польскі бок неахвотна выдаваў стараабраднікаў, то для Расіі адзіным спосабам іх вяртання заставалася выкарыстанне ваеннай сілы. Ажыццяўленне гэтага было магчыма перш за ўсё ў той перыяд, калі ў Рэчы Паспалітай назіралася ўнутраная нестабільнасць. У іншыя часы расійскі ўрад з вялікай асцярогаю падыходзіў да ўводу войск на тэрыторыю суседняй дзяржавы. Больш таго, у 1732 г. было спынена будаўніцтва "линий и засек… для удержания от побега крестьян", таму што рускія ўлады баяліся "не дастся ль какого подозрения польской стороне в агрессивных намерениях России" [53. Ф.248, воп.22, спр.1428, арк.215 - 239]. Зручная сітуацыя была выкарыстана Расіяй у час унутранай барацьбы ў Рэчы Паспалітай у 1733 – 1735 гг.

17 лютага 1734 г. выйшаў царскі ўказ, у якім збеглым расійскім людзям прапанавалася дабраахвотна вярнуцца на рускія землі і гарантавалася "прощение вин за побеги" [53. Ф.248, воп.113, спр.1578, арк.38 - 42]. Якою ж была рэакцыя рускіх перасяленцаў? Сапраўды, пасля ўказаў ад 17 лютага 1734 года і ад 16 сакавіка 1734 г. "О позволении

выходцам из Польши беглым людям и крестьянам, отдаленным от прежних своих жилищ, селиться в Украине” [55. С.44] назіралася вяртанне назад, аб чым сведчаць спецыяльныя спісы, складзеныя на памежных фарпастах. Аднак, як вынікае з гэтых спісаў, перасяленняў было мала. У спісах перасяленцы дзяліліся на дзве групы: а) на выхадцаў з сем’ямі, якія нарадзіліся ў Вялікарасіі і б) на ўраджэнцаў у Рэчы Паспалітай, якіх бацькі нарадзіліся ў Вялікарасіі, але невядома якіх памешчыкаў і якой губерні. У асноўным перасяленне ішло на маларасійскія землі, якія калісьці былі для гэтых жа людзей часовым прытулкам перад адыходам за мяжу. Кіеўская губернская канцылярыя патрабавала весці строгі ўлік усіх, хто вяртаўся. Так, на Пераяслаўскім фарпасту былі складзены “Списки Переяславские и подлинные”. У графу “Родившиеся в Великороссии” было запісана 567 сем’яў, а ў графу не народжаныя ў Вялікарасіі – 89 сем’яў. У спісах былі таксама графы: час уцёкаў, чыімі сялянамі былі, дзе жылі за мяжою. Што датычыць месца пражывання, то называлася Гомельскае староства з населенымі пунктамі Ветка, Гомель, Гародня, Хальч, якія належалі панам Халецкаму і Красінскаму. Усе перасяленцы былі пераважна памешчыцкімі сялянамі, а таксама манастырскімі і дварцовымі, часткова пасадскія людзі, старадубскія слабаджане. Час уцёкаў быў розны, але галоўным чынам гэта першыя 30 гадоў ХУІІІ ст. [20. С. 294].

Аднак перасяленне з-за мяжы расійскіх падданых не было масавым. Ды і перасяляліся ў асноўным тыя, хто не здолеў на землях Рэчы Паспалітай абзавесціся маёмасцю або быў змушаны да перасялення спецыяльнымі рускімі паведамляльнікамі, якія працавалі сярод перасяленцаў. Таму было вырашана здзейсніць перасяленне на рускую тэрыторыю ўсіх збеглых сілаю. З гэтай мэтай быў распрацаваны спецыяльны план.

Адначасова з выхадам указа ад 17 лютага 1734 г. пачалося з боку Расіі прымусовае высяленне рускіх людзей з Рэчы Паспалітай. Паводле складзенага плана, усіх уцекачоў, якія знаходзіліся ў Літве і Польшчы, з жонкамі і дзецьмі, з маёмасцю меркавалася вывесці адначасова і хутка. Гэтую аперацыю павінны былі здзейсніць рускія войскі. Першы корпус, які стаяў у Літве, павінен быў выводзіць людзей да Рыгі і да Смаленска. Другі корпус, які стаяў на Валыні, павінен быў выйсці з усімі захопленымі да Кіева.

Што датычыцца Веткі і слабод, якія знаходзіліся вакол яе, то тут быў своеасаблівы план. У адпаведнасці з распараджэннямі Анны Іаанаўны, кабінет міністраў загадаў Кіеўскаму генерал-губернатару Вейзбаху і Б. Мініху ў жніўні 1734 г. сфарміраваць "особливый корпус”, каб “беглецов, которые на Ветке и в других местах поселились .., не обождав.. совершенного ис Полши войск выступления.., захватить и в российские

пределы вывести” [53. Ф.248, воп.113, спр.1578, арк.38 – 42; 50. Т.IX. №6534,6612]. Гэты корпус павінен быў пачаць свае дзеянні да выхаду з Рэчы Паспалітай расійскіх войскаў, туму што Ветка і навакольныя старaабрадніцкія слабоды знаходзіліся недалёка ад мяжы.

Існавала яшчэ адна прычына, якая паскорыла выгнанне старaабраднікаў. У пачатку 40-х гадоў XVIII ст. веткаўцы пачалі актыўна вырашаць пытанне аб арганізацыі сваёй царкоўнай іерархіі і прыняцці епіскапа. Была падабрана і кандыдатура. У 1733 г. у Ветку прыбыў старaабрадніцкі епіскап Епіфаній Рэвуцкі, які быў вядомы як Кіеўскі іераманах. Ён быў урачыста прыняты веткаўцамі і на “архирейское действо определен”. Гэтая падзея не задавальняла і раздражняла афіцыйную праваслаўную царкву. Названыя прычыны вызначалі меры ўрада да выгнання.

У 1734 г. палкоўнік Якаў Рыгоравіч Сыцін з пяццю палкамі салдат акружыў Ветку і навакольныя слабоды. Ім было ўзята ў палон 11035 сялен і 758 манахаў і манашак [53. Ф.248, воп.7, спр.387, арк.420 – 421; воп.8, спр.452, арк.662 – 663ад; 54. Ф.796, воп.16, спр.433, арк.1 - 4]. Азоўскі полк суправаджаў з веткаўскіх слабод і манастыроў старaабраднікаў, а таксама манахаў і манашак. Усе яны выводзіліся ў Старадуб’е. Адсюль рассыланнем у месцы папярэдняга жыцця кіраваў секунд-маёр Мяшчэрскі, які складаў спісы адпраўленых “раскольнікаў”. У спісах былі графы: з якіх месц прыбылі, якія маюць пасады, куды адпраўляюцца і агульная колькасць. Паводле складзеных спісаў Мяшчэрскага, з-за мяжы выведзена 15443 старaабраднікаў і 1056 манахаў і манашак [54. Ф.796, воп.16, спр.433, арк.67ад,279ад]. Сярод манахаў былі: скарбнік Павел (з Калугі), іераманахі Васіль Барсаў (з Цвяры), Іоў Цімафееў (з Рыльска), Герасім Пятроў (з Растова), Сцяпан Яраўцаў (з Таркцы), келар Майсей Барксаў (з Масквы), панамар Ісаак Селязнёў (з Калугі), манах Сава Кабылін (з Масквы). Усяго 226 манахаў. Сярод манахаў было 106 дзяцей [54. Ф.796, воп.16, спр.433, арк.47 – 51ад,67ад]; манахіні: Анастасія – ігуменн я, Дарафея Талкачова (з Рыльска), Елізавета Керпячнякова (з Калугі), Елена Керпячнякова (з Калугі), Аляксандра Талмачова (з Курска), Феадосія Каменева (з Курска), Надзежда Варсаноф’ева (з Таржка), Яфімія, Фёкла, Мар’яна Варсаноф’евы (з Таржка) [54. Ф.796, воп.16, спр.433, арк.52 – 66ад]. Сыцін меў загад: пакінуць Ветку толькі пасля таго, як усё будзеператворана ў попел.

Палонныя жыхары Веткі і іншых слабод вярталіся ў Расію на былыя месцы свайго жыхарства, а найбольш актыўныя і небяспечныя пашыральнікі ідэй старaабрадніцтва накіраваны былі на пасяленне на асобныя тэрыторыі. Асабліва строгія адносіны былі да свяшчэннікаў. Епіскап Епіфаній у 1735 г. быў арыштаваны і накіраваны ў Кіеў, дзе памёр

у турме. Свяшчэнна манаха Іова, які быў начальнікам на Ветцы, таксама арыштавалі і саслалі ў Іверскі Валдайскі манастыр, дзе ён і памёр. Свяшчэнна манах Варанофій быў арыштаваны і сасланы ў Спасапрэабражэнскі Пераяслаўскі манастыр і там памёр. Многія свяшчэннікі знаходзілі прытулак, дзе маглі. Удалося выратавацца заснавальніку Лаўрэнцьеўскага манастыра манаху схімніку Лаўрэнцію, які жыў тады ў пустынным скіце каля ракі. Калі салдаты пачалі акружаць яго скіт, Лаўрэнцій схаваўся пад раскідзістым дубам, і падняўшы ўгору рукі, звярнуўся з малітвай да архістратыга Міхаіла. І малітва была пачута: галіны дуба апусціліся і схавалі Лаўрэнція. У гонар гэтай падзеі жыхары Веткі ўвялі свята "Цуда святога архангела Міхаіла", якое яны святкавалі 7 верасня. У Лаўрэнцьеўскім манастыры гэтае свята адзначалася заўсёды.

Арыштаваны былі і стараабрадніцкія настаўнікі: іераманахі Іоў, Марый Чарной, дыякан Герасім, панамары Ісайя, Ісава, манахі Варлаам, Серапіон, поп Дзмітрый Протадыяканаў. Перапраўкай у сталіцу вывезеных з веткаўскіх слабод стараабрадніцкіх настаўнікаў займаўся генерал князь Аляксей Шахоўскі. Усе стараабрадніцкія настаўнікі знаходзіліся пад строгай аховай і былі закаваныя ў калодкі, якія знімалі толькі пры напісанні палоннымі "обличительных" (праклінанне сваіх памылак) пісьмаў, або калі яны ішлі на размовы з членамі Сінода. Архіепіскап Піцерым, які таксама праводзіў са стараабраднікамі "беседы" загадваў суправаджаць духоўных настаўнікаў строгай ахоўваю.

Пасля доўгіх допытаў дыякан Герасім адмовіўся ад "раскола" і быў пасвечаны ў іерадыяканы афіцыйнай праваслаўнай царквы, атрымаў неабходнае жалаванне і месца ў прыходзе.

Асабістыя рэчы арыштаваных настаўнікаў забіралі. Вось што, напрыклад, значылася ў вопісе маёмасці іераманаха Іова: шуба аўчынная, "ряжа" суконная чорная (старая), лямец з падушкай, суконная манція, тонкая світка, коўдра, камілаўка, рукавіцы, два грабяні (адзін касцяны, другі рагавы), нажніцы жалезныя ў футляры, два злоты 76 кап. У вопісе маёмасці панамара Ісавы ўказана: дзве аўчынныя шубы, каровін лямец, падушка звычайная, адрэз тканіны суконный, адны боты, адны чаравікі, світка пярэстая паласатая, параманція шытая шоўкам, два касцяныя грабяні, адны рукавіцы са скуры казла, сальніца акаваная, грошай 92 кап [54. Ф.796, воп.17, спр.170, арк.1,10,11,31 – 31ад,49ад].

Трэба зазначыць, што за духоўнымі настаўнікамі ўстанаўліваўся строгі нагляд. 21 сакавіка 1736 г. імператрыца ў сваім указе адзначала: "А где раскольнические злые учителя явятся, то таковых ловить и отдавать гражданскому начальству, и содержать их в самых крепких местах, под крепким караулом" [54. Ф.796, воп.17, спр.169, арк.1ад - 2]. Распараджэннем Сената ад 7 мая 1736 г. усе старасты і іншыя адказныя

асобы, а таксама памешчыкі павінны былі весці назіранне за выселенымі з беларускіх зямель "раскольнікамі" [54. Ф.796, воп.17, спр.169, арк.1].

Праз год веткаўскія стараабраднікі пачалі збірацца зноў і за пяць гадоў Ветка была заселена. Майстры збудавалі тут капліцу, падобную на былую царкву. У капліцы былі ўстаноўленыя іканастас і звон. Кіравалі работамі свяшчэнна манах Дзянісій, іерэй Іаан, свяшчэннік Лазар, свяшчэнна манах схімнік Грыгорый і свяшчэнна манахі Валерыян і Міхаіл (Калмык). Усе яны пазней служылі ў новай капліцы, каля якой па прапанове свяшчэнна манаха Валерыяна была пабудавана царква ў імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы. Царкву будавалі і аздаблялі лепшыя майстры, і мела яна выгляд лепшы за ранейшую царкву, а ў 1757 г. на радасць вернікаў яна была адкрыта. На асвячэнні быў выкарыстаны антымінс старой царквы, прысутнічала пяць святароў: Валерыян і Пётр Веткаўскія, Сяргей Дабранскі, Грыгорый, Іаан, ад іншых месц – адзін дзяк. Адначасова будаваўся манастыр, на час адкрыцця якога ў Ветцы было 1200 манахаў, акрамя тых, хто не прыняў пастрыг. Паступова сталі засяляцца і бліжэйшыя слабады, будаваліся новыя скіты, Ветка пачала набываць ранейшы выгляд.

Як бачым, дабіцца поўнага высялення стараабраднікаў як з веткаўскіх слабод, так і з усёй Рэчы Паспалітай рускаму ўраду не ўдалося. Аднак наступствы выгнання адмоўна паўплывалі на становішча казны Рэчы Паспалітай: ад дзяржаўных служачых многіх месцаў, адкуль былі высланы стараабраднікі, паступалі скаргі на тое, што няма з каго збіраць падаткі і няма каму выконваць дзяржаўныя павіннасці – засталіся пустымі многія вёскі. У 1736 г. агульная сума гадавых страт у Гомельскім старостве польскай манетай складала – 12833 злотых 8 гр. [21. ДА 3774, арк.1308ад]. Сума агульных страт ад выгнання, здзейсненага Сыціным у польскіх злотых складала 27753 злотых 13 гр. [21. ДА 3774, арк.1310]. Агульная сума чыншавых страт у некаторых населеных пунктах Гомельскага староства была такая: у мястэчку Гомель – 632 зл. 3 гр., у вёсках: Добруш – 93 зл., Карма – 1050 зл., Старыя Туркавічы – 1050 зл., Маркавічы – 916 зл., Волкавічы – 581 зл. [21. ДА 3774, арк.1308].

Для вырашэння лёсу выселеных з Веткі і другіх месц стараабраднікаў была створана спецыяльная камісія з ваенных, якая размяшчалася ў Ноўгарадсеверску. Абаронцы старога абраду былі першапачаткова расселены ў навакольных мясцінах Маларасіі, пасля чаго быў праведзены іх дакладны перапіс. Потым паэтапна іх перасялілі на ранейшае месца жыхарства.

Старадубскія стараабраднікі, куды перасялілі частку веткаўцаў, плацілі грашовы ўказны аклад, а з канца 20-х гадоў ХУІІІ ст. выконвалі яшчэ і агульныя павіннасці з усімі маларасіянамі, якія жылі на памежжы. У

1736 г. быў праведзены перапіс, згодна з якім стараабраднікі, на памежных з Рэччу Паспалітай землях былі занесены ў падушны аклад у памеры $2148{,}74^{2}/_{4}$ рубля [53. Ф.248, воп.29, спр.1830, арк.524], акрамя гэтага яны выконвалі розных павіннасцей у 1736 г. на 6829,66 руб., а ў 1737 г. – $9242{,}89^{1}/_{2}$ руб [53. Ф.248, воп.40, спр.2941, арк.204ад - 209].

Расійскія ўлады праводзілі палітыку па ўмацаванню стараабрадніцкіх слабод, перад якімі ставіліся задачы: пераманьваць збеглых абаронцаў старога абраду , якія жылі ў Рэчы Паспалітай; быць фарпастамі на памежжы; прыносіць даходы казне. У 1740 г. быў юрыдычна афармлены дазвол даваць стараабраднікам магчымасць адлучацца за мяжу па гандлёвых справах. Ва ўказе "Об отпуске раскольников из Малороссии за границу для промыслов со срочными паспортами и с надлежащим за них поручительством" [55. С. 56], тэрмін знаходжання за мяжою вызначаўся не болей чым адзін год. Стараабраднікі Старадуб'я і Веткі разгарнулі ажыўлены гандаль. У Ветку прывозіўся і вывозіўся любы тавар. Дадзеныя абставіны сталі прычынай сенацкага разбору пытання аб старадубскіх слабадах. У 1766 г. у данясенні загадвалася: пры старадубскіх "слободах надлежит купечество учредить… купцам при волостной конторе быть записанным, и положить их в равный против великороссийских купцов оклад" [53. Ф.248, воп.42, спр.3626, арк.246 - 247].

Адносна ўмацавання памежных з Рэччу Паспалітай раёнаў, ва ўказе імператрыцы ад жніўня 1763 г. адзначалася : "Укреплять свои рубежи, строить мощные строения, ежели поляки начнут строить свои сооружения, то разорять их до основания, а если защищать будут военными людьми, то без драки поразумением их прогнать, а для того со своей стороны послать достаточную команду, а лучше подобрать такое время, когда там не будет войск…" [53. Ф.12, воп.1, спр.118, арк.3 - 4], а ў лістападзе таго ж года Кацярыны ІІ пісала графу, генерал-паручыку Мельгунову: "…подозрительные строения на Польской стороне жечь без разбирательства" [53. Ф.12, воп.1, спр.118, арк.5].

З сярэдзіны ХУІІІ ст. для эканамічнага развіцця як Расійскай імперыі, так і Рэчы Паспалітай былі характэрны дзве процілеглыя тэндэнцыі: узмацнялася прыгоннае права, працягваўся рост феадальнай эксплуатацыі і разам з тым, актыўна развіваўся капіталістычны спосаб вытворчасці, што спарадзіла пачатак распаду прыгонніцтва.

Бяспрэчна, што гэтыя ў эканамічным развіцці зрухі паўплывалі і на эвалюцыю стараабрадніцтва. Спачатку на тэрыторыі Рэчы Паспалітай стараабраднікі карысталіся пэўнымі ільготамі, але з цягам часу трапілі ў поўную залежнасць ад памешчыкаў. (Выхад з прыгонніцтва для абаронцаў даўніны Паўночна-Заходняга краю, як будзе паказана далей, звязаны быў з вялізарнымі цяжкасцямі). Нягледзячы на цяжкасці, з сярэдзіны ХУІІІ ст.

збеглыя сяляне стараабраднікі ўсё часцей пасяляліся не ў глухіх раёнах, а на ўскраінах і ў наваколлі гарадоў, у гандлёва-прамысловых сёлах, дзе ўжо развівалася капіталістычная вытворчасць.

Дадзеная з’ява была характэрнай для тых стараабрадніцкіх абшчын, якія ператвараліся ў своеасаблівая цэнтры першаснага накаплення капіталу і мелі пэўныя сумы свабодных грошай, укладваемых у розныя сферы. Такімі цэнтрамі станавіліся гарады Вялікага княства Літоўскага Віцебск, Полацк, Гарадок, Валожын, Невель, Рэжыца, Браслаў, Глыбокае, Сянно, Гомель, Беліца, Рагачоў, Барысаў, Бабруйск, мястэчка Ветка і шэраг іншых населеных пунктаў. Так, у Віцебску існавала некалькі ўплывовых стараабрадніцкіх абшчын: Віцебская Пакроўская абшчына, якая прызнавала свяшчэнства Белакрыніцкай іерархіі; абшчына старапаморскага беспапоўскага сагласа і абшчына беспапоўскага паморскага сагласа, а ў г.Беліцы ўплывовай была абшчына стараабраднікаў, якія прымалі свяшчэнства. З другога боку, гарадскія стараабрадніцкія абшчыны ў любы час маглі даць збеглым аднадумцам сялянам часовае жыллё. Адначасова ў сярэдзіне XVIII ст. пашыраецца маёмаснае расслаенне гарадскіх абшчын, з’яўляюцца бедныя, немаёмасныя стараабраднікі і заможныя – купцы, гаспадары дробных прадпрыемстваў, домаўласнікі, рамеснікі. Заможныя, даючы прыстанішча збеглым, выкарыстоўвалі іх ужо як наёмную сілу, таму што ўжо ва ўмовах феадальна-прыгоннага ладу ў гарадах адчуваўся вялікі недахоп рабочых рук.

У другой палавіне XVIII ст. стараабрадніцкія абшчыны актыўна прыцягваліся ў капіталістычную вытворчасць і ў Расіі, асабліва ў Маскве, што тлумачыцца высокім узроўнем развіцця капіталізма ў той час у гэтым горадзе.

З другой палавіны XVIII ст. рускія ўлады ўзмацняюць кантакты з прадстаўнікамі стараабрадніцкіх абшчын на заходняй граніцы, умацоўваючы “описные раскольнические слободы”. Спадзяванні ўлад не збыліся, аднак з боку абаронцаў старога абраду была рэакцыя на гэтыя дзеянні ўрада. Так, у “мнении” абшчыннага сходу стараабраднікаў Віцебска, які адбыўся каля 1756 г., было выказана іх жаданне ўладкавацца на пасяленне толькі ў “описные слободы” [53. Ф.248, воп.113, спр.1578, арк.1 – 2ад; 59. Т. 23. С. 15 - 16]. Ільготы ў “описных слободах” у большай ступені прыцягвалі выхадцаў з самой Расіі, чым з-за мяжы. Паводле дадзеных перапісу, у 1729 г. тых, хто прыйшоў з Расіі, было крыху больш за 400 чалавек, а за 1729 – 1736 гг. з-за мяжы вярнулася толькі 1299 чалавек [53. Ф.248, воп.29, спр.1797, арк.224 - 225]. (прыкладна па 162 чалавекі ў год).

Палітычныя абставіны для Рэчы Паспалітай у другой палавіне ХУІІІ ст. былі напружанымі, а Расія ўсё больш праяўляла інтарэс да яе земляў. Каб прыцягнуць у Расію стараабраднікаў, з-за мяжы, меры супраць іх сталі мякчэйшымі і паблажлівымі, а палітыка ў адносінах да Рэчы Паспалітай – абвостранай. У дакладзе “О пользе от защиты Россиею православных, живущих в Польше”, іераманах Феафан Лявонцьевіч у пачатку 70-х гадоў ХУІІІ ст. на Свяшчэнным Сінодзе гаварыў пра гэтую карысць: “1. Карысць для расійскай казны ад атрымання польскіх грошай і атрымання ад сваіх людзей інфармацыі аб планах Польшчы. 2. Атрыманне самай сакрэтнай інфармацыі аб планах Польшчы і абарона расійскіх палітычных інтарэсаў. 3. Магчымасць атрымання правінцый па трактату 1686 г. 4. Расійскай дзяржаве можна будзе заняць на 600 вёрст самай лепшай урадлівай зямлі з усходнім праваслаўным народам. 5. Спрэчкі ў самой Польшчы прывядуць да таго, што самі палякі папросяць сабе караля з Расіі. 6. Інтарэсы Расіі павінны больш адстойвацца з пратэстанцкімі, а не з каталіцкімі дзяржавамі” [53. Ф.12, воп.1, спр.111, арк.3 - 5].

У выніку паспяховых руска-турэцкіх войн 1768 – 1774 гг. і 1787 – 1791 гг. узнікла спрыяльная для Расіі знешнепалітычная сітуацыя. Расійскі ўрад вырашаў свае задачы і на заходнім накірунку. Настойліва рабіліся спробы стварыць ізаляваныя ачагі стараабрадніцкай каланізацыі на ўсходзе краіны і затрымаць рост насельніцтва “раскольніцкіх слабод” на левабярэжжы Украіны і ў Рэчы Паспалітай. Аднак неэфектыўнасць расійскай дыпламатыі па абароне заходняй мяжы і памылкі ў палітыцы ўрада да праблемы стараабрадніцтва сталі прычынай шматразовага ўводу рускіх войск у Рэч Паспалітую.

Другому выгнанню стараабраднікаў з беларускіх зямляў папярэднічала шматразовая “запрашальная” работа. 21 мая 1761 г. Сенат вынес пастанову: “…для наибольшего их (старообрядцев) к возвращению поощрения в податях и в слагающихся работах … льготы на 6 лет давать…, и чтоб определяемые над ними команды ничем не отягощали и не изнуряли, но во всем бы между тамошними выходцами был добропорядок содержан” [53. Ф.248, воп.41, спр.3340, арк. 788 – 788ад].

З прыходам на царстваванне Кацярыны ІІ у пэўнай ступені прызнаецца значэнне народнага земства. Яго ідэі праявіліся ва ўвядзенні мясцовага самакіравання, а камісія “Уложения” была асвячэннем земскіх правоў. Выбарны пачатак, уведзены ў асяроддзі дваранства (з 1762 г. дваранства пертваралася з служылага саслоўя ў земства) і іншых саслоўяў, таксама з’яўляўся асновай аднаўлення земскай даўніны. Народнасць прызнавалася галоўнай крыніцай жыцця дзяржавы. І калі паслабіліся ганенні, стараабрадніцтва ператварылася ў эканамічную абшчыну.

19 ліпеня 1762 г. Кацярына II падпісала Маніфест "О приглашении живущих в Польше в Российские земли", дзе гаварылася: "…положили мы главным намерением нашим, чтоб всегдашнее старание иметь о целости нашей Империи, и благоденствии верных подданых наших … многия оставя свои дома и угодия скитаются и укрываются в соседственном с нами королевстве Польском и в княжестве Литовском; то мы по матерней ко всем подданным любви, не можем без сожаления вспомнить о таких любезное Отечество свое оставивших … Мы матерински об них милосердуя, желаем чтоб они чувствовали также Императорскую нашу милость, как и другие верные подданные наши, и потому всех отлучившихся выше показанным образом … увещеваем, чтоб они от сего времени без всякого опасения и страха возвращались в свое Отечество в ближния пограничныя Наши Губернии, провинции и города". Таму, хто не вернецца, пагражала вяртанне сілаю: "… каждой в прежнее свое жилище и место без всякаго затруднения отправляем будет" [53. Ф.248, воп.42, спр.3627, арк.1ад – 3ад]. Усім збеглым стараабраднікам, калі вернуцца ў Айчыну, аб'яўлялася поўнае прабачэнне, дазвалялася сяліцца ў любых месцах і самім выбіраць спосаб жыцця, дадзены былі ім і розныя льготы, дазвалялася насіць бараду і хадзіць у любым адзенні. Забаранялася знявага стараабраднікаў у грамадскіх месцах. Абаронцы старога абраду паступова сталі дапускацца па спрэчным пытанням да прысягі і сведчання, а таксама назначацца на грамадскія службы.

У імператарскім указе ад 14 снежня 1762 г. адзначалася: "… всем живущим за границею российским раскольникам объявить, что им позволяется выходить и селиться особливыми слободами, не только в Сибире на Барабинской степи и других порожних отдельных местах, но и в Воронежской, Белогородской и Казанской губерниях…" [54. Ф.796, воп.44, спр.4, арк.5]. А Сенат сваім маніфестам ад 14 снежня 1762 г. аб'вяшчаў: "…выходить в Россию бежавшим за границу раскольникам, и селиться особыми слободами, где они имеют быть содержаны на основании узаконений в двойном окладе и будут иметь свободу записаться в крестьянство и купечество, и при поселении от всяких податей и работ получат льготы на шесть лет" [26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.8]. Аднак і пасля гэтых зваротаў царыцы і Сената, вялікіх перасяленняў стараабраднікаў з-за мяжы не было. І тады Кацярына II зноў звярнулася да насілля.

У выніку "возвратного похода" войска з сямігадовай вайны ў Расію былі вернуты ў 1763 г. практычна ўсе стараабраднікі, якія трапілі ў паласу перамяшчэння войска. У 1764 г. у Польшчу быў накіраваны генерал-маёр Маслаў з мэтаю: "…забрания российских беглых подданых, невполном растоянии границы находящихся" Адразу ж Маславым было выведзена

2027 стараабраднікаў, [53. Ф.248, воп.42, спр.3627, арк.147] а за час усяго "вяртання" каля 20 тыс. чалавек рознага полу, [62. С. 543] большая частка была саслана ў Сібір.

Уварванне на землі Вялікага княства Літоўскага ў канцы 1763 г. і пачатку 1764 г., здзейсненае ў сувязі з абвастрэннем пытання аб "дысідэнтах" пасля каранацыйнага сейму, дало магчымасць расійскаму ўраду знішчыць цэнтр стараабраднікаў на Ветцы. Для выгнання іх з беларускіх зямель выкарыстоўваліся смаленскія палкі, а дзе яны адсутнічалі, было загадана стварыць спецыяльныя каманды, якія зацвярджаліся ваеннай калегіяй. Кожны полк павінен быў "ачысціць" пэўную тэрыторыю і зрабіць ведамасць на выведзеных з-за мяжы стараабраднікаў. Вось як выглядалі запісы: "Рыжскі полк выселіў розных сялян памешчыкаў і дваравых людзей, што прыбылі з Яраслаўля: мужчын – 399 чалавек, жанчын – 406. Сярод іх Якаў Філіпаў з жонкай і сынам, Нікіфар Сямёнаў, Іван Андрэеў, Грыгорый Кашчэнаў з жонкай, сынам і дачкою. Разанскі полк высяляў стараабраднікаў з ваколіц Беліцы. У колькасным падліку: мужчын – 408, жанчын – 427. Сярод іх: Сямён Качаноўскі з жонкай, сынам і дачкою, іерэй Качаноўскі з жонкай і сынам, Клім Качаноўскі з жонкай, сынам і дачкою, Міхаіл Качаноўскі з жонкай. Пяхотная каманда выселіла 185 мужчын і 172 жанчыны. Сярод іх: вяземскі купец Мартын Скараходаў" [53. Ф.248, воп.42, спр.3627, арк.152ад – 157ад].

Акрамя таго, рабіліся ведамасці на ўсіх стараабраднікаў на памежных пастах, у якіх, указвалася прозвішча, узрост, сямейнае становішча, адкуль родам, дзе жыў за мяжою, які меў маёмасны цэнз. Такія ж ведамасці з дадатковым апісаннем умоў жыцця на беларускіх землях складаліся ўрадавымі канцылярыямі. Напрыклад, у 1764 г. Вялікалукская ўрадавая канцылярыя склала спісы на 2004 чалавек, якія прыбылі з Польшчы. Разанская ўрадавая канцылярыя рассяліла 39 чалавек муж. полу з сем'ямі, а Смаленская – 1885 чалавек, з іх 133 чалавекі з Беліцы [53. Ф.248, воп.42, спр.3627, арк.236 – 244ад,262 – 334,340 - 341ад].

Далейшы лёс расійскіх стараабраднікаў вызначаўся ўказам Сената ад 11 мая 1765 г.: "Оных Российских беглецов несамовольно возвратившихся губернаторам, воеводам, и прочим пограничным начальникам принимая для лучшей предосторожности и разбирательства будущих иногда споров записывать: которых они городов и уездов, сел и деревень, чьих помещиков или других каких ведомств. Сколько лет мужчинам и женщинам и другие приметы. Когда вышли из России сами или их предки, и где кто в подушном окладе положены или не положены и потом посылать для укоплектования полков в Сибирь и на поселение. Прибывших в крепости записывать в рекруты: от 14 до 18 и от 40 до 50 лет

за половину, а от 18 и до 40 за целого рекрута” [54. Ф.796, воп.46, спр.140, арк.2ад - 3].

“Раскольнікі” накіроўваліся: у Сібірскую губерню – паблізу Табольска, Усць-Каменагорскую крэпасць, па рэках Убе, Ульбе, Бярозаўцы, Глыбокай; у Астраханскую губерню – ад Саратава ўверх па рацэ Волзе; у Арэнбургскую губерню – па рацэ Сукмары; у Белагародскую губерню – у Валуйскі павет [54. Ф.796, воп.44, спр.34, арк.6ад].

Урад вёў работу па “растлумачэнню” насельніцтву веравучэнскіх і абрадавых асаблівасцей стараабраднікаў, выселеных з беларускіх зямель. 23 кастрычніка 1765 г. была прынята пастанова праўдзейнага стацкага саветніка і сінадальнага обер-пракурора І.І. Мелісіно аб неабходнасці надрукаваць у Санкт-Пецярбургу і Маскве складзенае аб “раскольніках” павучанне ў колькасці 4800 экземпляраў. У Санкт-Пецярбургу друкаванне адбывалася пад кіраўніцтвам настаўніка іераманаха Платона, а карэктарскія функцыі выконваў спраўшчык Ліст. У сінадальнай друкарні на 16 снежня 1765 г. было надрукавана 1200 экземпляраў агульным коштам 378 руб. 75 кап. Кожная кніга каштавала 31 капейку з ½ і $^{1}/_{6}$ часткамі капейкі. Астатнія 3600 экземпляраў былі надрукаваны да 25 лютага 1766 г. у маскоўскай друкарні, дзе агульныя расходы склалі 862 руб. 50 кап. [54. Ф.796, воп.1, спр.296, арк.1,15,17,19,27].

Наступствы ад выгнання стараабраднікаў Маславым былі па аб’ёму большымі, чым выгнанне праведзенае Сыцінымі. Матэрыяльныя страты ў 1765 г. склалі толькі ў мястэчку Гомель і слабадзе Спасавай 3614 $33^{2}/_{3}$ тымфаў, а падатковыя страты – 3014 $33^{1}/_{3}$ тымфаў [21. ДА 3787, арк.8 – 8ад]. Страты ў Засожскай воласці склалі 46084 тымфаў [21. ДА 3787, арк.47ад]. Большая колькасць стараабрадніцкіх слабод, вёсак засталася без людзей. Гаспадарка прыйшла ў заняпад, землі запусцелі, бо апрацоўваць не было каму. У слабадзе Спасавай да выгнання жыло 119 гаспадароў, а пасля выгнання засталося 37, сярод якіх: Васіль Аляксееў, Бенадыкт Сафонаў, Якаў Арцімонаў, Юсцiон Феклістаў, Бенедзікт Якаўлеў, Фёдар Андрэеў, Павел Сафрэнцьеў, Дзмітрый Афанасьеў, Міхайла Ігнатоўскі, Ларыён Крыханаў, Цімафей Цітоў, Фёдар Афанасьеў, Васіль Ткач і інш. У гэтай жа слабадзе былі мужчынскі і жаночы манастыры, з якіх забралі адпаведна 25 і 36 манахаў і манашак [21. ДА 3787, арк.6ад, 7 - 7ад]. Вялікая колькасць абаронцаў старога абраду была выселена з Засожскай воласці. Поўнасцю былі выселены вёскі: Крупец Новы (62 гаспадары, агульныя страты 823.9½ тымфаў), Ніўкі (страты 660 тымфаў), Дуброўка (страты 284 тымфы), у вёсцы Лагуноўка да выгнання было 40 гаспадарак, засталося 13 (страты 271 тымф), у вёсцы Гародня з 63 гаспадароў засталося 2 (страты склалі 320 тымфаў) [21. ДА 3787, арк.9ад,11,14ад,31]. З Перадсожскай воласці з вёскі Красная, дзе жыло 47 гаспадароў з сем’ямі

выгналі 28, у вёсцы Мільча з 17 гаспадароў – выгналі 15 [21. ДА 3787, арк.58ад - 59].

Царскім войскам было загадана спаліць усе царкоўныя і жылыя будынкі. Жыхары Веткі і навакольных слабод шукалі шляхі выратавання цэркваў і матэрыяльных каштоўнасцей святынь. Вялікую работу ў гэтым накірунку правёў Аляксей Васільевіч Хрушчоў, які жыў у Клімаве. Служыў Хрушчоў пры валасной канторы бурмістрам і карыстаўся вялікім аўтарытэтам ва ўсіх слабадах. Разам са слабодскімі старастамі ён звярнуўся да Маслава, які нішчыў Ветку, з прашэннем дазволіць вывезці веткаўскую Пакроўскую царкву. Калі Маслаў дазволіў, Аляксей Хрушчоў загадаў войтам сабраць вазы, на якія загрузілі разабраную царкву і павезлі яе па сушы, бо веткаўцы добра яшчэ памяталі сумную гісторыю з перавозам царквы водным шляхам па Іпуці. І на гэты раз царква была вывезена ў Старадуб’е і пастаўлена паміж пасадамі Клімава і Міцькоўка ў глыбіні лесу, каля дзвюх крыніц. І гэтая царква была таксама прыгожа аздобленая. Цяпер з царквою прыехаў свяшчэннік Міхаіл (Калмык) разам з свяшчэннікамі і манахамі і 19 снежня 1765 г. асвяціў царкву ў імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы на старажытным антымінсе, але ўжо не на тым, што быў у Ветцы. Пры асвячэнні прысутнічалі чатыры веткаўскія свяшчэннікі: начальніцкі свяшчэннаманах Міхаіл, свяшчэннаманах Пётр, іерэй Грыгорый, іерэй Іаакім. У хуткім часе пры царкве быў пабудаваны Пакроўскі манастыр. Свяшчэннаманах Міхаіл (Калмык) узначаліў манастыр і кіраваў усімі свяшчэннікамі Старадуб’я і наваколля.

Традыцыі і звычаі Веткі пераносіліся ў іншыя месцы. У 1772 г. свяшчэннаманахам Міхаілам (Калмыком) была асвечана царква ў імя святога Міколы Цудатворца пры тым жа Пакроўскім манастыры, у 1774 г. ён асвяціў царкву ў імя Прасвятой Багародзіцы ў пасадзе Зыбкай, а ў 1779 г. – царкву ў імя Прасвятой Багародзіцы ў пасадзе Клімава, у 1787 г. – царкву ў імя Прасвятой Багародзіцы ў Казанскім манастыры.

Усе гэтыя цэрквы называлі веткаўскімі, таму што яны пайшлі ад веткаўскай Пакроўскай царквы. Іх адрознівала аднолькавасць дзеянняў і аднадумства. Веткаўская царква ў папоўстве лічылася вышэйшай, паколькі ў ёй пасля ніканаўскага расколу захаваліся без змен усе дагматы і паданні, чыны і ўставы, абрады і звычаі.

Пасля таго, як у 1764 г. Ветка была спалена, веткаўскія стараабраднікі рассяліліся па ўсёй Расіі і ў 70 - 80 гг. ХУІІІ ст. стварылі новыя ўплывовыя цэнтры стараабрадніцтва.

Неаднолькава склаўся лёс веткаўцаў на расійскіх землях. На Алтаі і ў Забайкаллі ўзнік шэраг вёсак, населеных “палякамі” (так пачалі называць абаронцаў старога абраду, пераселеных з Рэчы Паспалітай). Вольная сялянская каланізацыя басейна ракі Бухтармы стварыла тут цікавы свет

“каменщиков” – збеглых сялян, салдат, бергалаў, якія шукалі ў гарах, у “камянях” сховішча ад падаткаў, заводскай баршчыны, вайсковай службы, праваслаўнага царкоўнага прыгнёту. Заканадаўства пачатку 1760-х гадоў аб вяртанні ў Расію стараабраднікаў, што жылі за яе межамі, было спрыяльным для Сібіры. Становішча перасяленцаў з Рэчы Паспалітай на новым месцы вызначалася Маніфестам ад 14 снежня 1762 г. з той толькі розніцай, што шасцігадовая льгота замянялася чатырохгадовай.

На Алтай перасяленцы з беларускіх зямель прыбылі ў чэрвені 1766 г. Частка іх засталася ў вёсках Шаманаіха, Кацярынінская, адразу намнога павялічыўшы ў іх колькасць насельніцтва. Большасць перасяленцаў стварыла новыя вёскі – Сякісаўскую, Баброўскую, Вярхубінскую. Буйнейшым цэнтрам “палякаў” стала вёска Стараалейская. У хуткім часе з гэтых паселішчаў выдзеліліся новыя вёскі – Вялікая рэчка, Быструха, Малая Убінка. Пачалося паступовае рассяленне “палякаў” уверх па рэках Убе і Ульбе, Глыбокай. Цікава, што гэтая міграцыя, як адзначае ў сваёй доктарскай дысертацыі Н.Н. Пакроўскі, на даволі вялікай тэрыторыі не прывяла да растварэння веткаўскіх “палякаў” у асяроддзі сібірскіх стараабраднікаў. Веткаўскія стараабраднікі вякамі трывала захоўвалі адасобленасць і спецыфічныя рысы свайго побыту.

У апошняе 10-годдзе ХУІІІ ст. і ў XIX ст. паселішчы “палякаў” распаўсюдзіліся на тэрыторыях сямі алтайскіх валасцей. Адметным паказчыкам іх адасобленасці з’яўляецца тое, што нават з даволі блізкімі да іх бухтармінскімі стараабраднікамі змешвання не адбылося. Сучасныя даследчыкі пастаянна адзначаюць, што кожная з тутэйшых стараабрадніцкіх сем’яў ведае, ад каго яна бярэ свой род – ад “палякаў” ці ад “ясашных” (мясцовых).

Паўтары тысячы перасяленцаў, як адзначае Н.Н. Пакроўскі, склалі адметны і цікавы арэал на этнаграфічнай карце Алтаю. Яны вызначаліся адзінствам і кемлівасцю першапраходцаў. “Палякі” хутка асвоіліся на новым месцы, завялі моцную гаспадарку, умела запазычылі земляробчы вопыт ад карэннага насельніцтва. Назіральнікі, якія пабывалі тут у ХУІІІ ст., аднадушна адзначалі заможнасць пераселеных з Веткі стараабраднікаў. Перасяленцы хутка сталі на ногі не толькі дзякуючы багатай алтайскай прыродзе і сваёй працавітасці, але яшчэ і таму, што некалькі гадоў яны пражылі без “клапатлівай апекі” сібірскай адміністрацыі, свецкага і духоўнага нагляду. Асаблівасцю было і тое, што “палякі” катэгарычна адмаўляліся запісвацца ў праваслаўе [49. С. 319 - 326].

Вялікая частка стараабраднікаў, высланых з мястэчка Ветка і іншых слабод, была накіравана на поўдзень Расіі, на Іргіз (землі на рацэ Іргіз, цяпер Казахстан). Тут яны паспрабавалі арганізаваць сваё духоўнае жыццё на ўзор веткаўскага, аднак усе іх дзеянні кантраляваліся і адразу

спыняліся. Ужо ў канцы 1765 г. у Свяшчэнны Сінод паступіў данос ад астраханскага і стаўрапольскага епіскапа Мяфодзія “О выехавших из-за границы и поселившихся в Астраханской епархии раскольниках”, дзе паведамлялася, што прышлыя з-за мяжы і запісаныя ў падвойны аклад “раскольнікі” пасяліліся непадалёк ад Саратава, за Волгай, па рацэ Іргіз. Манахі часта прыязджаюць у Саратаў і ходзяць у сваім адзенні па торгах і кабаках. Тайна наведваюць дамы ўплывовых сем’яў і спакушаюць іх у “раскол”. У іх веру перайшло ўжо многа багатых людзей. Вядуць агітацыю і сярод прастога народа. Далей епіскап Мяфодзій паведамляў, што ён для перапісу стараабраднікаў на Іргізе пасылаў папа саратаўскай Раждзественскай царквы Івана Фёдарава з падзячым. Яны ў сваіх справаздачах паведамлялі, што на Іргізе ёсць чатыры мужчынскія паселішчы манахаў і два жаночыя, шэсць скітоў бельцаў з жонкамі і дзецьмі і дваццаць двароў іх аднадумцаў. Паведамлялася і тое, што стараабраднікі трымаюць у сябе людзей без усякіх відаў.

Непакоілі Мяфодзія і іншыя дзеянні “раскольнікаў”: манахі-стараабраднікі ва ўсіх мужчынскіх скітах самавольна пабудавалі капліцы, куды жыхары Масквы і іншых гарадоў і вёсак, якія прыязджалі сюды, навезлі шмат вялікіх і малых ікон, а таксама старых кніг. Прывезены былі і медныя званы. У капліцах манахі адпраўлялі службы паводле сваіх абрадаў, званілі ў званы, хрысцілі дзяцей.

У канцы даносу Мяфодзій рабіў выснову: “Если вышеупомянутое своеволие продолжится и воспрещения к пресечению означеного соблазна не последует, то по их разврату в народе последовать могут большие настроения”.

Да даносу былі прыкладзены спісы стараабраднікаў, складзеныя Іванам Фёдаравым. У першым мужчынскім скіце жылі: настаяцель, манах Ісайя – 90 гадоў; манах Ісайя – 60 гадоў; манахі: Іерахім, Ігнацій, другі Ігнацій, Феадосій, Сергій, Ляона, Ілья, Макарый, Іона, другі Іона, Іосіф. Бельцы: Андрэй Грыгор’еў з сынам, Іван Міхайла, сын яго Фёдар. Усяго 13 манахаў. З другога жаночага скіта былі занесены ў спіс: ігуменця, манашка Анісія – 35 гадоў, манашкі: Марфа, Аляксандра, Вера, Аляксандра другая, Капіталіна, Анісія, Марына, Іраіда, Елена, Анфіса, Марфа, Капіталіна другая, Агаф’я. Беліцы: Мар’я Іванова, Еўдосся Сяргеева, Анна Харламава, Анна Епіфанава, Анна Сяргеева. Тут таксама жылі браты ігуменні Анісіі Фядот і Сяргей Івановы, дзядзька іх Сяргей. Усяго 25 чалавек. Ва ўсіх спісах Івана Фёдарава значылася 128 веткаўскіх стараабраднікаў [54. Ф.796, воп.46, спр.308, арк.1 - 7].

У 1775 г. колькасць абаронцаў старога абраду ў Іргізскіх слабадах, паводле перапісу Вілімсона, складала 780 чалавек. Перасяленцы былі

далучаны да Малынаўскай дварцовай воласці [53. Ф.248, воп.113, спр.1578, арк.54 - 60].

Стараабрадніцкі рух на беларускіх землях у ХУІІІ ст. па сваёй ідэалогіі, побыту, культуры тыпалагічна суадносіўся з такім жа рухам у памежным Старадуб'і і шэрагу іншых расійскіх рэгіёнах. Аднак спецыфіка беларускіх зямель і працяглае жыццё стараабраднікаў у Вялікім княстве Літоўскім накладвалі пэўны адбітак на мясцовыя стараабрадніцкія звычаі і традыцыі, якія прыцягвалі дзясяткі тысяч абаронцаў старога абраду з Расіі. З прычыны абмежаванай тэрыторыі і невялікай колькасці сагласаў і толкаў беларускія землі сталі тым месцам, дзе абаронцы старога абраду здолелі стварыць строгую цэнтралізацыю, кіруючыя цэнтры, напісаць свой Статут. Тут таксама рабіліся спробы займець свайго епіскапа і стварыць адзіны стараабрадніцкі папоўскі цэнтр. Усё гэта трывожыла расійскі ўрад, які не хацеў мець каля сваіх граніц непакорлівых і, што таксама важна, з'арганізаваных падданых. З мэтай іх вяртання на ранейшае месца жыхарства расійскі ўрад праводзіў так званую "запрашальную" палітыку, якая, аднак, вялікага поспеху не мела. Вынікам гэтай палітыкі сталі два выгнанні стараабраднікаў рускімі войскамі ў 1735 г. і ў 1764 г., якія насільна ўварваліся ў межы Рэчы Паспалітай.

Пасля выгнання Ветка перастала быць цэнтрам стараабраднікаў-папоўцаў. Дзесяткам тысяч людзей былі нанесены глыбокія духоўныя траўмы. Стараабрадніцкія настаўнікі і манахі былі кінутыя ў расійскія турмы як злачынцы. Была знішчана вялікая колькасць храмаў, унікальных ікон, старажытных кніг.

Значныя эканамічныя страты ад выгнання рускіх перасяленцаў былі нанесены Рэчы Паспалітай. Многія вёскі і слабоды засталіся без жыхароў, ворныя землі не было каму апрацоўваць, зменшыліся падатковыя зборы.

Знішчыць "раскол" царскаму ўраду не ўдалося. Хаця пасля выгнання цэнтрам стараабрадніцтва становіцца Іргіз, стараабрадніцкае жыццё на Ветцы не спынілася, - яшчэ засталіся тут абаронцы старога абраду. Тут праявіўся той факт, што рэлігійны светапогляд чалавека ў многім фарміруецца па-за сферай уплыву дзяржаўнай палітыкі і звязаны з ёю апасродкавана. Гэтага не ўлічыў царскі ўрад, таму яшчэ доўгі час пытанні адносін "расколу" і дзяржавы вырашаліся з пазіцыі сілы.

## 2.3. Стараабрадніцтва на Беларусі ў першай палавіне XIX ст.

У пачатку XIX ст. на беларускіх землях заставалася яшчэ вялікая колькасць старaабраднікаў. Напрыклад, веткаўскія слабоды былі заселены пераважна тымі, каму ўдалося схавацца ад рускіх войскаў, а таксама старaабраднікамі, якія вярнуліся са Старaдуб'я, куды былі пераселены ў час "выганкі" 1764 г. Аднак колькасць старaабраднікаў у веткаўскіх слабадах на пачатак XIX ст. была ў два разы меншая, чым перад "выганкай" у 1764 г.

Павялічылася колькасць старaабраднікаў у Бабруйскім і Барысаўскім паветах Мінскай губерні: сюды частка іх перасялілася падчас "выганкі" 1764 г. У меншай ступені "выганкі" закранулі старaабраднікаў Віцебскай губерні, аднак і тут рускія войскі перыядычна праводзілі рэйды ў пошуках абаронцаў старога абраду.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай на беларускіх зямлях царскі ўрад пачаў праводзіць "преобразующую" палітыку: на тэрыторыі Беларусі былі створаны падобныя на расійскія адміністратыўныя органы і ўстановы. У пачатку XIX ст. беларускія землі ўвайшлі ў склад Віленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў. У палітычных адносінах уводзіліся два генерал-губернатарствы: Беларускае (Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні) і Літоўскае (Мінская, Гродзенская і Віленская губерні).

У час царавання Аляксандра I (1801 – 1825 гг.) царскі ўрад у Беларусі праводзіў саслоўную палітыку, робячы стаўку на шляхту. З гэтай мэтай шляхце былі дараваны правы расійскага дваранства, за ёю захоўваліся маёнткі з сялянамі пры ўмове, што шляхта прыме прысягу на вернасць цару. Адначасова царызм праводзіў тут палітыку насаджэння рускага землеўладання, паспешліва перасяляючы новых гаспадароў. Ва ўласнасць рускіх памешчыкаў пераходзілі сяляне былых каралеўскіх эканомій і старостваў, канфіскаваных маёнткаў беларускіх і польскіх царкоўных і свецкіх феадалаў.

Трэба адзначыць, што на пачатку XIX ст. збеглыя з Расіі старaабраднікі пражывалі ва ўсіх беларускіх губернях. Засяленне беларускіх зямель старaабраднікамі (па форме ўласнасці) мела свае асаблівасці. Як адзначае А. Семянтоўскі, спасылаючыся на В.І. Волкава, старaабраднікі ў Віцебскай губерні першапачаткова сяліліся на пустуючых землях памешчыцкіх маёнткаў і на землях, якія належалі манастырам, пры гэтым выбіралі пераважна мясціны, галоўным чынам цяжкадаступныя гушчары [57. С. 17]. Памешчыкі пачалі браць старaабраднікаў пад сваю ахову, каб атрымаць танную рабочую сілу. Аднак пасля таго, як гаспадары запатрабавалі ад старaабраднікаў поўную арэндную плату, апошнія, імкнучыся застацца вольнымі людзьмі [8. С. 282], сталі сяліцца і на

каралеўскіх землях. Прымушалі да гэтага і дзеянні рускіх войскаў, якія на беларускіх землях лавілі збеглых “раскольнікаў”.

З развіццём капіталістычных адносін стараабраднікі сяліліся ў мястэчках, прыгарадах і гарадах. У пачатку XIX ст. цэнтрамі стараабрадніцтва на Віцебшчыне з’яўляліся Дынабург, Рэжыца, Браслаў, Відзы, Дзісна, Полацк, Лепель, Гарадок, Сураж, Невель, Веліж; у Магілёўскай губерні: мястэчка Ветка, гарады Магілёў, Гомель, Рагачоў, Орша, Сянно, Чаусы, Добруш; у Мінскай губерні: гарады: Бабруйск, Барысаў, Рэчыца, Мозыр, Нясвіж. У канцы 20-х гадоў XIX ст. у мястэчках і гарадах назіраецца павелічэнне колькасці стараабраднікаў, калі ў 1816 г. у Відзаўскай парафіі пражывала 202 стараабраднікі [21. Ф.525, воп.13, спр.1111, арк.15 – 19; 54 - 58], то ў 1826 г. толькі ў двух маёнтках (Відзы Альбрэхтоўскія і Відзы Лаўчынскія) – 221 чалавек [21. Ф.725, воп.1, спр.22, арк.169ад,181ад.]. У 1853 г. у Відзах ўжо было 391 стараабраднік [46. С. 334 - 335]. У 1842 г. у Беліцы Магілёўскай губерні пражывала 553 стараабраднікі, а ў 1843 г. 571 [26. Ф.2001, воп.1, спр.170, арк.13; спр.197, арк.45].

Рост колькасці стараабраднікаў у мястэчках і гарадах тлумачыцца тым, што яны ўцякалі туды ад памешчыцкай эксплуатацыі і разарэння. У гарадах, з дапамогай аднадумцаў, яны знаходзілі прытулак і працу. Трэба адзначыць, што ў большасці сваёй стараабраднікі на Беларусі былі людзьмі стараннымі, працавітымі, дзелавымі. Абшчыны стараабраднікаў у беларускіх гарадах пашыраліся і з прычыны пераходу насельніцтва з праваслаўя ў “раскол”. Аднак, пачынаючы з 1797 г., такі пераход быў забаронены і міністэрства ўнутраных спраў паведаміла аб гэтым беларускім губернатарам [26. Ф.3219, воп.1, спр.31, арк.1 - 3]. Тым не менш, прыток з праваслаўя ў стараабрадніцтва працягваўся, аб чым сведчаць судовыя справы, што разглядаліся Віцебскай палатай крымінальнага суда. 9 кастрычніка 1835 г. палата разгледзела справу аб сялянах Невельскага павета Ермалаі Гаўрылаве і яго жонцы Марфе Якаўлевай, сыне іх Іване Ермалаеве і пляменніцах Усцінні, Фёкле і Ірыне Цярэнцевых, якія абвінавачваліся ў пераходзе з праваслаўя ў “раскол”. Па гэтай жа справе праходзіў і настаўнік Самуіл К. Падсудныя Ермалай Гаўрылаў і Марфа Якаўлева былі асуджаны за адступленне ад веры і выхаванне сваіх дзяцей у “раскольніцкай ерасі” і высланы ў закаўказскія правінцыі без права вяртання. Іх сын і пляменніцы, народжаныя ў “ерасі” і выхаваныя бацькамі ў “расколе”, былі пакінуты на месцы жыхарства. Настаўніка, ужо пакаранага за распаўсюджванне “расколу”, загадана было біць 20-цю ўдарамі бізуна [26. Ф.1430, воп.1, спр.5226, арк.5 – 5ад]. У 1841 г. за пераход з праваслаўя ў “раскол” былі асуджаны сялянкі Іванова, Андрэева, Грыгор’ева, мяшчанка Сямёнава, сяляне Сілін і Васільеў [26.

Ф.1430, воп.1, спр.10526, арк.2 - 6]. Пераход з праваслаўя ў стараабрадніцтва на беларускіх землях меў свае асаблівасці: тут паралельна з праваслаўем існавала каталіцтва і уніяцтва, якія спачувалі стараабраднікам, а ў праваслаўі бачылі свайго крыўдзіцеля.

Яшчэ адна з прычын пераходу ў стараабрадніцтва – эканамічная залежнасць. Збеглыя сяляне і даведзеныя да галечы гараджане шукалі падтрымкі ў багатых стараабраднікаў, якія хавалі ўцекачоў і першым часам дапамагалі ім, каб потым мець танную рабочую сілу. “Расколу” было ўласціва пачуццё падтрымкі і ўзаемадапамога. У спалучэнні з любоўю да працы, дзелавітасцю, майстэрствам узаемадапамога аказвала ўплыў на матэрыяльнае становішча стараабраднікаў. Вось што піша А. Семянтоўскі пра стараабраднікаў Віцебшчыны: стараабраднікі “… благодаря природной предприимчивости, находчивости и трудолюбию, живут в довольстве и пользуются заметным преобладанием между иноплеменным населением” [57. С. 20].

Не маючы магчымасці атрымліваць грошы ў банках, стараабраднікі стварылі сваю сістэму крэдыту, якая абапіралася толькі на давер’е. Ужо ў першай палавіне ХІХ ст. як у Расіі, так і на Беларусі існавала фінансавая залежнасць бедных стараабраднікаў ад багатых аднадумцаў. А калі ўлічыць, што крэдытная справа ў Расіі ў гэты перыяд была арганізавана вельмі слаба, то для дробнага прадпрымальніка і купца такая форма крэдытавання і ўзаемадапамога былі вельмі прадуктыўнымі. Гэта дазваляла стараабраднікам на Беларусі ўжо ў самым пачатку складывання капіталістычных адносін матэрыяльна быць багацейшымі, чым беларусы і літоўцы.

Далучэнне да Расійскай імперыі ўключыла Беларусь у агульнарасійскую гаспадарчую сістэму, змяніла напрамак дзейнасці многіх галін эканомікі ў стараабрадніцкіх раёнах. Прывяло гэта і да ўціску памешчыкамі не толькі мясцовых сялян, але і знайшоўшых тут прытулак рускіх стараабраднікаў. Апошнія, будучы людзьмі вольнымі, (волю яны атрымалі ад Пятра І) адстойвалі свае інтарэсы ў судах. Прыкладам можа быць судовая справа “Об освобождении из крепостной зависимости из владений княгини Любомирской”, на якой разглядалася скарга стараабраднікаў слабады Косіцкай і мястэчка Веткі Беліцкага павета. Першым крокам барацьбы касічан і веткаўцаў за асабістую свабоду была іх спрэчка з княгіняй Любамірскай адносна сумы чыншу. Справа ў тым, што стараабраднікі слабады Косіцкай і Веткі доўгі час плацілі фіксіраваны чынш на падставе пісьмовых пагадненняў з землеўладальнікамі. Павышаць чынш пачаў граф Граноўскі, якому першапачаткова належалі землі княгіні. 8 красавіка 1791 г. ён даў касіцкім стараабраднікам карту, засведчаную Магілёўскім ніжнім земскім судом, у якой адзначалася: “… даю сию карту

слободе Косицкой, в том, што она имеет быть вольна от всякой работы и подвод, а за то в доход мой в Ветковскую экономию имеет взносить ежегодно по 400 серебром рублей…”. Да 1806 г. граф Граноўскі гадавы аброк касічанам павышаў два разы, спачатку да 700 руб., а потым да 1177 руб. 20 кап. і 32 чвэрцяў срэбрам. Гадавы аброк быў павышаны і для веткаўцаў.

Калі землі графа Граноўскага набыла княгіня Любамірская, то і яна збірала агульную суму аброку па апошніх інвентарах.

9 красавіка 1806 г. быў выдадзены імператарскі ўказ, дзе значылася, што перайшоўшым з іншых месц у польскія губерні людзям, якія называюцца піліпоны і пасяліліся на памешчыцкіх і старостаўскіх землях згодна з пісьмовымі ўмовамі або дагаворамі і да гэтага часу на гэтых землях застаюцца ў казённым або памешчыцкім валоданні, - даць поўнае права карыстацца іх свабодай і тымі выгодамі, што значацца ў іх умовах і дагаворах. Абодва бакі павінны былі строга захоўваць усе дамоўленасці.

Калі памянёны імператарскі ўказ стаў вядомы стараабраднікам, яны праз свайго паверанага, веткаўскага купца 2-й гільдыі Яўсея Мішкоўскага, пачалі даказваць свае правы. Спачатку яны звярнуліся ў Беліцкі павятовы суд, які 3 сакавіка 1810 г. разгледзеў іх скаргу і ўстанавіў, што продкі жыхароў слабады Косіцкай і мястэчка Веткі наладжвалі свае адносіны з уладальнікамі зямель на падставе пісьмовых пагадненняў, інвентароў і карт, арыгіналы якіх былі прадстаўлены суду. З гэтых дакументаў вынікала, які чынш касічане і веткаўцы плацілі паводле пісьмовых пагадненняў і інвентароў. Наступным пунктам судовай пастановы – беліцкі павятовы суд абавязаў княгіню Любамірскую да канчатковага судовага разбору не браць са стараабраднікаў лішніх падаткаў, а апошнія павінны былі спраўна выконваць службу. У Беліцкі павет паступіў загад і ад Магілёўскага грамадзянскага губернатара, які патрабаваў строга сачыць за чыншам, што бярэ княгіня Любамірская, а пры парушэнні збору, абараняць стараабраднікаў. Канчатковае рашэнне ў абарону эканамічных інтарэсаў касічан і веткаўцаў суд вынес 16 кастрычніка 1826 г. Члену суда Вішнеўскаму даручалася весці нагляд за тым, каб стараабраднікі плацілі чынш па старых інвентарах і каб з іх не бралі лішняга.

Другі раз княгіня Любамірская абмежавала свабоду косіцкіх і веткаўскіх стараабраднікаў, “запісаўшы іх за сабой” па рэвізіі. У адказ стараабраднікі 4 сакавіка 1824 г. звярнуліся з пісьмом да цара. Іх упаўнаважаным пасля смерці Яўсея Мішкоўскага быў мешчанін Клінцоўскага пасада Цімафей Іваноў сын Багданаў.

У пісьме цару стараабраднікі даказвалі сваё права на свабоду, спасылаючыся на царскія ўказы і пастановы Сената. Адзначалі, што 28 лютага 1716 г. згодна з царскім указам, стараабраднікам, якія пасяліліся ў

Маларасіі і Польшчы, было загадана заставацца там, дзе яны пасяліліся, але іх уласныя ўладанні ўмацоўваць забаранялася. У царскіх указах ад 28 лютага 1717 г. і 1 студзеня 1761 г. гаварылася аб тым, што стараабраднікі, якія даўно прыйшлі ў Маларасію і там пасяліліся слабодамі ў Старадуб'і, на землях розных уладальнікаў, - з'яўляюцца людзьмі вольнымі. З 1719 г. яны былі пераведзены ў казённае ведамства з наяўнымі ў іх землямі. У 1783 г. царскім указам яшчэ раз пацвярджалася, што стараабраднікі, якія пасяліліся ў Польшчы, прыйшлі туды з Расіі і з'яўляюцца выхадцамі з Расіі.

У пісьме стараабраднікі заяўлялі, што рускія перасяленцы заўсёды своечасова плацілі чынш і адбывалі дзяржаўныя і земскія павіннасці, прывялі ў парадак адведзеныя ім землі і распрацавалі ўчасткі на месцы непраходных балот. Пазней пачалі развіваць і прамысловасць, што дазволіла ім утрымацца на гэтым месцы.

Як вынікае са зместу пісьма, стараабраднікаў найбольш непакоіў той факт, што княгіня Любамірская імкнулася "замацаваць іх за сабой". У пісьме падкрэслівалася, што дзеянні княгіні былі неправамерныя, таму што ўказы ад 31 мая 1748 г. і 20 сакавіка 1750 г. забаранялі чужых і вольных людзей пісаць па рэвізіі за сабой, а ўказ ад 20 кастрычніка 1783 г., раздзел 12 артыкул 11, яшчэ раз пацвярджаў гэтую забарону, а 13-ы артыкул гэтага раздзела даваў права стараабраднікам, пасля вяртання ўладальніку ўсіх даўгоў пайсці ад яго куды пажадаюць і быць вольнымі. У канцы пісьма паверaны Цімафей Іваноў пісаў: "Обрадованные такой монаршей милостью верители мои обремененные со стороны княгини Любомирской до высочайшей степени бедствия, зная и на деле доказание, что предки их селились на землях пана Халецкого по письменным условиям, инвентарями и картами называемым, начали доказывать о независимости своего крестьянства владетельнице, посредством поверенного их ветковского 2-й гильдии купца Евсея Мишковского, который хотя и был разнообразно притесняем, но дело оное вел законным порядком до смерти своей".

Пытанне "Об освобождении из крепостной зависимости из владений княгини Любомирской" у студзені 1825 г. было разгледжана на агульным сходзе Сената, а ў красавіку 1827 г. дэпартаментам дзяржаўных маёмасцей міністэрства фінансаў [26. Ф.1297, воп.1, спр.2045, арк.1 – 23ад]. У выніку працяглых разбораў у розных інстанцыях косіцкім і веткаўскім стараабраднікам удалося адстаяць частку сваіх правоў.

У 30-х гадах XIX ст. царскія ўлады, напалоханыя пашырэннем стараабрадніцтва і яго ўплыву на сацыяльна-эканамічнае і палітычнае становішча дзяржавы, пачынаюць ганенні як на абаронцаў старога абраду ў Расіі, так і на стараабраднікаў, якія пасяліліся на беларускіх землях. 27

мая 1820 г. імператар сваім указам абмежаваў старaабраднікаў у магчымасці займаць пасады, аддаючы перавагу праваслаўным, а ў выпадку выбрання стараабраднікаў дапускаліся да ўлады "раскольнікі", - папоўцы. З ліку ж беспапоўцаў можна было назначаць – у выпадках, калі няма нікога з праваслаўных, - на пасаду тых, хто моліцца за цара і прызнае шлюб [26. Ф.295, воп.1, спр.326, арк.8ад – 9; ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.42]. Цар, урад і афіцыйная праваслаўная царква спрабавалі пазбавіць стараабрадніцтва свяшчэннікаў. 26 сакавіка 1822 г. былі зацверджаны царскія правілы, паводле якіх епархіяльныя архірэі сумесна з грамадзянскім губернатарам павінны былі вызначаць мэтазгоднасць знаходжання ў тым ці іншым месцы збеглых свяшчэннікаў. Забаранялася пакідаць іх там, дзе няма малельняў або цэркваў. Указвалася таксама, што да такіх свяшчэннікаў ставіцца трэба як да людзей, якіх не цэняць. З 24 мая 1827 г. такім свяшчэннікам забараняўся пераезд з павета ў павет і з губерні ў губерню для выканання адправў; строга забаранялася таксама прымаць новых свяшчэннікаў з праваслаўя і будаваць малітоўныя дамы, капліцы і цэрквы [26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.13 - 14].

Стараабраднікі законным саслоўем не прызнаваліся, таму іх абшчыны былі бяспраўнымі. Яны не маглі купляць ва ўласнасць нерухомасць і яе завяшчаць. Забаранялася ім карыстацца кнігамі для збору ахвяраванняў і мець свае пячаткі. Дакументы, якія выдаваліся стараабраднікамі, лічыліся несапраўднымі. У жніўні 1834 г. пячаткі былі адабраныя ў Гарадоцкім, Лепельскім, Суражскім, Дынабургскім, Невельскім паветах. Ад усіх духоўных настаўнікаў стараабраднікаў былі ўзяты распіскі аб тым, што яны не будуць выдаваць дакументаў на дзяржаўных паперах са сваімі пячаткамі [26. Ф.1430, воп.1, спр.5090, арк.3 – 3ад, 7 - 21].

Імператарскім указам ад 27 мая 1835 г. стараабраднікі, якія не маліліся за цара, былі аднесены да "асабліва шкодных ерасей", а потым усе стараабраднікі былі падзелены па "меры іх шкоднасці" на тры катэгорыі: "самых шкодных" – якія не прызнавалі шлюб і не маліліся за цара; "шкодных" – куды былі аднесены ўсе астатнія беспапоўцы, і "менш шкодных" – такімі лічыліся папоўцы [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.39; 60. С. 220]. У 1838 г. да "самых шкодных" і "шкодных" у г.Полацку Віцебскай губерні аднесена было 265 стараабраднікаў, а да "менш шкодных" – 1; у Гарадоцкім павеце да "самых шкодных і шкодных" – 262 чалавекі; у Дрысенскім да "менш шкодных" – 113, а да "самых шкодных" і "менш шкодных" – 50 чалавек; у Полацкім павеце 3031 стараабраднік быў залічаны да "самых шкодных" і "шкодных"; а ў Віцебскім павеце – 1077 чалавек адносіліся да "менш шкоднай" катэгорыі [26. Ф.1430, воп.1, спр.7602, арк.6, 23 – 24, 37 – 40, 66, 70 - 71]. У 1840 г. у Дзісенскім павеце Мінскай губерні да "шкодных" адносілася 2783 стараабраднікі. У

Барысаўскім павеце 1878 абаронцаў старога абраду адносіліся да “менш шкодных”, а ў Бабруйскім павеце – 1830 да “шкодных” [26. Ф.295, воп.1, спр.701, арк.35 – 38; 40, 44 – 44ад]. У Магілёўскай губерні ў 1847 г., паводле афіцыйных даных паліцыі, “самых шкодных” абаронцаў даўніны не было, тут большую частку складалі “менш шкодныя” – 14349 чалавек, з іх толькі ў Беліцкім павеце – 12013 чалавек; 329 стараабраднікаў у губерні адносіліся да “шкодных”, з якіх 318 пражывалі ў Рагачоўскім павеце [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.191].

Да цяперашняга часу даследчыкі “расколу” так і не прыйшлі да адзінай думкі наконт метадалогіі падліку колькасці стараабраднікаў у розныя перыяды іх існавання. Рост іх радоў палохаў царскі ўрад і прымушаў прымаць меры стрымлівання, аднак заставаўся невытлумачальнай з’явай. Нізавое праваслаўнае духавенства, у абавязкі якога ўваходзіла назіранне за стараабраднікамі, не падавала сапраўднай колькасці стараабраднікаў, баючыся пакарання ўлад, а абаронцы старога абраду, перасяляючыся з павета ў павет, або з губерні ў губерню, утойвалі вялікую колькасць сваіх аднадумцаў і не спрыялі пераліку. Усё гэта прыводзіла да дэзінфармацыі адносна рэальнай колькасці стараабраднікаў.

Усе даследчыкі стараабрадніцтва, сыходзяцца ў тым, што ў статыстыку “расколу” неабходна ўносіць папраўны каэфіцыент. Калі Пецярбургскі статыстычны камітэт вывучаў гэтае пытанне, то прыйшоў да высновы, што афіцыйныя лічбы неабходна павялічыць у 10 разоў. Даследчык Ліпрандзі, які займаўся пытаннямі “расколу” ў царскім міністэрстве ўнутраных спраў, (далей МУС) лічыў, што статыстычныя даныя па стараабрадніках заніжаны ў 10 – 13 разоў [1. С. 352; 18. С. 114]. Іншыя даследчыкі таксама падтрымлівалі прапанову ўнясення папраўнага каэфіцыента. Так, П. І. Мельнікаў зводзіў яго 1 : 5, а Н. М. Нікольскі 1 : 3-4 [27. С. 227].

Першая звестка, знойдзеная намі ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу аб перапісе стараабраднікаў (піліпонаў) у першай палавіне XIX ст., адносіцца да 1811 г. Тады адносна рэвізскай казкі ў Бабруйскім старостве на землях памешчыкаў Ланскіх-Воўкаў пражывала 398 стараабраднікаў. У 1815 г. камітэт міністраў выключыў стараабраднікаў Бабруйскага старосты з 7-рублёвага акладу, у якім яны як хлебаробы знаходзіліся і перавёў у 3-рублёвы аклад, якім абкладаліся ўладальніцкія сяляне. Таксама камітэт міністраў пацвердзіў поўнае права піліпонаў карыстацца свабодай і тымі выгодамі, якія адзначаны ў іх дагаварах з памешчыкамі [54. Ф.1263, воп.1, спр.83, арк.556 – 558ад]. 14 жніўня 1816 г. была складзена рэвізская казка па Ашмянскім павеце Літоўска-Віленскай губерні (назва Вілінскай губерні да 1840 г.). На гэты час у г.Ашмяны былі зарэгістраваны 284 стараабраднікі. Сярод іх –

Агафон Міхайлаў (40 гадоў) сын Коласаў, Акім Васільеў (40 гадоў) сын Назамаў, Аглас Філіпаў (15 гадоў) сын Тачылоўскі, Агей Іваноў (25 гадоў) пляменнік Філіпа Ігнацьева Тачылоўскага, Анісім Іваноў (26 гадоў) сын пляменніка Філіпа Тачылоўскага, Аглас Грыгор'еў (25 гадоў) сын Коласаў, Васіль Мацьвееў Плотнікаў (40 гадоў), Васіль Ішымянаў (30 гадоў) сын Сакалоў, Грыгорый Іваноў Пазняк, Іван Сямёнаў Белый, Міхайла Сямёнаў Белый, Фядосій Лаўрынаў Дзевятнікаў [21. Ф.752, воп.1, спр.17, арк.1 - 17].

У 1826 г. у Віленскай губерні быў праведзены перапіс рускіх людзей. Ведамасці, куды яны запісываліся, мелі 12 граф: 1. Месца жыхарства, імя; 2. Узрост; 3. Якой веры; 4. З якога часу пражывае ў гэтым месцы; 5. Па якому пражывае пасведчанню на права жыхарства і дзе яно выдадзена ці без пасведчання; 6. Дата пасведчання на права жыхарства; 7. Нумар пасведчання на права жыхарства; 8. За кошт якіх сродкаў жыве, калі займаецца земляробствам, то ці мае сваю зямлю або ці працуе па найму і ў каго; 9. Ці быў асуджаны, за што, калі, дзе адбывалася судовая справа, быў абвінавачаны ці не і пакараны ці не; 10. Ці не заўважаны ў дрэнных паводзінах або ў разбэшчаных учынках; 11. Ці пакідае месца жыхарства, куды наведваецца, на які час і з якой мэтай; 12. Дзе знаходзіцца запісаным па апошняй 7-й 1816 г. рэвізіі і калі ў гэтую рэвізію запісаны. У ведамасці, складзенай браслаўскім земскім спраўнікам, значылася 1215 сем'яў рускіх людзей. У трэцяй графе – "Якой веры" – ўсе яны былі названы стараабраднікамі. У Відзаўскай парафіі былі ўлічаны 62 стараабраднікі, з іх Мікіта Сафронаў, Фядот Грыгор'еў, Грыгорый Андрэеў, Міхайла Васільеў, Гаўрыла Мітрафанаў, Карп Усцінаў, Лаўрэн Карпілаў. У Браслаўскай парафіі зарэгістравалі 30 рускіх людзей, сярод іх Макар Кандрацьеў, Кірыла Мітрафанаў, Максім Ефімаў, Ермалай Анісімаў і інш. [21. Ф.725, воп.1, спр.120, арк.10ад – 16.]. У г.Відзы ў ведамасць былі занесены 140 стараабраднікаў, сярод іх Мірон Фёдараў, Аляксей Ягораў, Елісей Карпаў, Фядосій Сямёнаў Кузняцоў, Захар Далгі, Грыгорый Лявонаў, Нікіфар Васільеў, Васіль Анісімаў, Мікіта Карпееў, Павел Васільеў, Мікалай Якаўлеў Бірула, Ягор Іваноў Волга, Макарый Сцяпанаў Рагоза, Леркой Кузьмін Зуй, Міхайла Ягораў, Іван Сцяпанаў і інш. [21. Ф.752, воп.1, спр.1, арк.3 – 155] (падлічана аўтарам).

Пачатак афіцыйнага і штогадовага падліку стараабраднікаў, асабліва ў нанава створаных губернях, быў пакладзены імператарскім указам ад 5 мая 1839 г., дзе адзначалася, што мясцовая паліцыя (гарадская, земская і сельская) абавязаны весці спісы аб нараджэнні і памерлых стараабрадніках, а пра іх агульную колькасць падаваць звесткі грамадзянскаму начальству [26. Ф.1430, воп.1, спр.8095, арк.2; ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.104 – 104ад]. Перыядычны падлік вёўся і раней. Звесткі збіраліся і аб наяўнасці стараабрадніцкіх капліц, скітоў, цэркваў,

манастыроў і аб колькасці ў іх манахаў і манашак. У ведамасцях адзначалася, да якога сагласа або толка яны належалі. У некаторыя губерні пасылаліся спецыяльныя экспедыцыі дзеля вывучэння “расколу” на месцах. У 1840 г. у Віцебскай губерні, паводле падлікаў паліцэйскай управы, пражывала 38425 стараабраднікаў, з іх беспапоўцаў, якія не прымалі свяшчэнства – 28678, і папоўцаў – 9747 чалавек [26. Ф.1430, воп.1, спр.8095, арк.164ад - 165]. У Лепельскім павеце пражывала 229 стараабраднікаў, у г.Віцебску – 930. У Полацкім павеце ў ста вёсках пражывала 3182 стараабраднікаў: у вёсках Канстанцінава - 248, Залужва – 41, Плоская – 60, Жалудова – 72, Доўгая Ніва – 133, Жарцы – 207. У Гарадоцкім павеце ў в.Фядосаўка пражывала 13 мяшчан-стараабраднікаў і 5 купцоў 3-й гільдыі; у в.Гараватцы – 16 купцоў 3-й гільдыі; у в.Бываліна – 70 мяшчан-стараабраднікаў; у в.Літвінава – 84 мешчаніны-стараабраднікі. А ўсяго ў павеце пражывала 250 мяшчан і 21 купец 3-й гільдыі. У Дрысенскім павеце пражывала 234 стараабраднікі, з іх 6 купцоў 3-й гільдыі: Васіль Ермалаевіч Крылашоў, Іван Ісакавіч Зубараў, Ерамей Спірыдонавіч Барысаў, Андрэй Ліпатавіч Зяньскоў, Агаф’я Захараўна Зялькова, Флука Астаф’евіч Шамаў (у гэтых сем’ях налічвалася 39 чалавек), 137 чалавек былі мяшчанамі, 52 – сялянамі [26. Ф.1430, воп.1, спр.8095, арк.59 – 63,85,100 – 101,103 – 103ад,144 - 145].

У 1839 г. у Мінскай губерні значыліся ў справаздачах 7132 стараабраднікі. У Бабруйскім павеце пражывалі беспапоўцы – ўсяго 1920 чалавек, а ў Бабруйску – 190 чалавек. У Барысаўскім павеце папоўцаў налічвалася 1878 чалавек. Найбольшая колькасць беспапоўцаў была ў Дзісенскім павеце – 2669 чалавек. У Вілійскім павеце налічвалася 316 папоўцаў, у Мінскім – 124 беспапоўцы, а ў г.Мінску – 10 папоўцаў. Найбольш вядомымі вёскамі з стараабраднікамі былі ў Дзісенскім павеце – Кублішчына, у Барысаўскім – Бабарыкі і засценак Будзіца, у Бабруйскім павеце – слабада Капусцінская і вёска Туркі [26. Ф.295, воп.1, спр.701, арк.51 - 56].

У Магілёўскай губерні ў 1842 г. пражывала 13299 стараабраднікаў, у 1843 г. – 13961, а ў 1847 г. – 14678 чалавек, з іх 14349 былі папоўцамі, а 329 – беспапоўцамі, якія прызнавалі шлюб і маліліся за цара. Найбольшая колькасць абаронцаў старога абраду ў 1847 г. пражывала ў Беліцкім павеце – 12013 чалавек, і ўсе яны былі папоўцамі, у Беліцы пражывала 520 папоўцаў. У Сенніцкім павеце налічвалася 813 папоўцаў. Асаблівасцю Рагачоўскага павета было тое, што тут пражывалі як папоўцы, так і беспапоўцы, адпаведна 386 і 318 чалавек. У астатніх паветах колькасць стараабраднікаў-папоўцаў была – Аршанскі – 80, Магілёўскі – 127 чалавек, а ў Магілёве пражывала 11 беспапоўцаў [26. Ф.2001, воп.1, спр.170, арк.40 – 41; спр.197, арк.45; ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.191].

У 1846 г. у г.Друя Дзісенскага павета Віленскай губерні пражывала 268 праваслаўных і католікаў і 542 стараабраднікі [21. Ф.381, воп.17, т.3, спр.5114, арк.105].

Вялікую цікавасць для даследавання ўяўляюць культавыя пабудовы стараабраднікаў. У манаграфічнай і мастацкай літаратуры сустракающца такія назвы, як царква, малельня, капліца. У першай палавіне XIX ст., у час найбольшага абмежавання правоў стараабраднікаў, яны атрымалі сваё тлумачэнне; таксама ў гэты час сваё тлумачэнне атрымалі назвы *стараабраднік* і “*раскольнік*”.

26 сакавіка 1822 г. царскім указам былі зацверджаны правілы, згодна з якімі забаранялася разглядаць пытанні аб пабудаваных храмах і будаваць новыя. 15 верасня 1826 г. Сенат на падставе гэтых правілаў выдаў указ, якім прадпісвалася пабудаваныя цэрквы пакідаць без змен і забаранялася будаваць што-небудзь падобнае на цэрквы. 30 кастрычніка 1836 г. МУС разаслала ўсім губернатарам царскі ўказ з грыфам “сакрэтна” аб тым, што забараняецца пераўтвараць сялянскія хаты ў публічныя малельні, а ў капліцах ставіць прастолы як прыналежнасць праваслаўных цэркваў. Тыя прастолы, што былі ўстаноўлены да ўказа, дазвалялася захаваць [26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.109]. У 1839 г. у зборы законаў (арт.48, т.XIУ) было ўведзена наступнае палажэнне: 1. “Раскольніцкія” цэрквы, капліцы і малітоўныя дамы, пабудаваныя да 17 верасня 1826 г. пакідаюцца ў ранейшым стане. 2. Забараняецца не толькі будаваць падобныя на цэрквы будынкі, але і перабудоўваць або аднаўляць старыя пабудовы. Пабудаваныя без дазволу культавыя будынкі падлягалі закрыццю або знішчэнню [26. Ф.1430, воп.1, спр.8143, арк.2 – 2ад].

У першай палавіне XIX ст. у стараабраднікаў, якія пражывалі на беларускіх землях, заставалася яшчэ вялікая колькасць цэркваў, малітоўных дамоў і ўплывовых манастыроў. У 1843 – 1847 гг. у Магілёўскай губерні налічвалася 28 капліц, 18 з якіх мелі прастолы, чатыры мужчынскія манастыры: Лаўрэнцьеўскі – за 19 вёрст ад Беліцы, Макар’еўскі – за 18 вёрст ад Беліцы, Пахом’еўскі – за 8 вёрст ад Беліцы і Нікольскі. У іх пражывалі 133 манахі. У мястэчку Ветка і Спасавай слабадзе былі жаночыя манастыры, дзе пражывалі 44 манашкі. 22 культавыя пабудовы былі ў Беліцкім павеце: г.Беліца - капліца без прастола, слабада Спасава – малельня з прастолам; па дзве малельні з прастоламі было ў слабадзе Косіцкай і Новым Крупцы. Капліцы без прастолаў былі ў слабадах: Жгунская буда – 1, Новая Мільча – 1, Тарасаўка – 1, Раманаўская – 2, Папсуеўская – 1, Лявонцьеўская – 3, Дубовы Лог – 2, Мар’іна – 2 [26. Ф.2001, воп.1, спр.197, арк.46; ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.192 - 195]. У 1839 г. у Мінскай губерні было зарэгістравана 5 капліц: у в.Кублішчына Дзісенскага павета, в.Бабарыкі і

засценку Будзіца Барысаўскага павета, в.Туркі і слабадзе Капусцінская Бабруйскага павета [26. Ф.295, воп.1, спр.701, арк.56]. У Віцебскай губерні ў 1841 г. налічвалася 19 стараабрадніцкіх культавых пабудоў, 16 з якіх лічыліся малельнямі, а 3 – капліцамі. У г.Віцебску было 2 малельні, у г.Полацку 1 малельня, а ў Полацкім павеце – 3. Дзве малельні было ў Себежскім павеце [26. Ф.1430, воп.1, спр.51589, арк.116 - 117].

У 1840 г. імператарскім указам быў забаронены перазвон на званіцах стараабрадніцкіх капліц. У выпадку парушэння забароны званы здымаліся і перадаваліся праваслаўным або аднаверскім цэрквам [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.119]. У 1842 г. арт. 61 т.XIУ збору законаў "забаранялася раскольнікам называцца стараабраднікамі, скіцкімі "общежителями", пустэльнікамі, раскольніцкія малельныя будынкі называць цэрквамі". 9 красавіка 1844 г. Міністэрства ўнутраных спраў дадаткова накіравала ў Віцебскую, Магілёўскую і Мінскую губерні цыркуляр з грыфам "сакрэтна" "О воспрещении именовать раскольников старообрядцами, а их молитвенные здания – церквями" [26. Ф.1430, воп.1, спр.10787, арк.1; ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.181]. Завяршэннем абмежавання стараабраднікаў у будаўніцтве культавых будынкаў і прыніжэннем іх ролі з'явілася пісьмо міністра ўнутраных спраў усім грамадзянскім губернатарам, у якім гаварылася: "Основываясь на данном мне высочайшем повелении, я Вам предлагаю во всех официальных бумагах, а также в ведомостях, представляемых во вверенное мне ведомство о раскольнических молитвенных зданиях, именовать оные только моленными и часовнями, объясняя, однако в которых из них находятся престолы" [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.135]. Такім чынам, названыя ўказы і загады вывелі з ужытку афіцыйнай тэрміналогіі слова *царква*. Аднак гэтае слова ў стараабрадніцтве захавалася, таксама, на пэўны час, знікла ў загадах, распараджэннях і афіцыйнай літаратуры слова *стараабраднік.*

Забарона будаваць новыя цэрквы і загад царскіх улад закрываць стараабрадніцкія цэрквы і малельні дайшлі і да беларускіх губерняў. У 1836 г. была закрыта малельня ў в.Жарцы Полацкага павета Віцебскай губерні, якая знаходзілася ў доме купца 3-й гільдыі Карпа Афанасьева Красюкова [26. Ф.1430, воп.1, спр.7773, арк.1 – 5ад]. 19 снежня 1848 г. была закрыта малельня ў Віцебску [7. С. 248], а калі тайна яна пачала дзейнічаць, то ў 1851 г. адбылося паўторнае яе закрыццё [26. Ф.1430, воп.1, спр.24168, арк.3 - 4]. Калі стараабрадніцкі культавы будынак прыходзіў у заняпад, ён закрываўся і знішчаўся.

У 1844 г. царскім указам была прадоўжана палітыка закрыцця так званых веткаўскіх манастыроў у Магілёўскай губерні. Закрыць іх адразу ўрад баяўся, бо стараабраднікі губерні заўсёды адрозніваліся сваёй

згуртаванасцю і непрынящцем усяго новага, таму першым крокам урада было пераўтварэнне гэтых манастыроў у аднаверскія [26. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.1]. Адначасова тут былі закрыты капліца ў Беліцы, малельні ў слабадах Спасавай і Косіцкай, у Пахом'евым манастыры, капліцы ў слабадах Новая Мільча, Раманавай, Мар'інай Беліцкага павета, капліца ў в.Гранаве Чэрыкаўскага павета. Як сведчаць крыніцы, прыгажосцю, памерамі і трываласцю адрознівалася малельня ў слабадзе Спасавай [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.194ад - 195].

Цараванне Аляксандра І і Мікалая І звязаны са стварэннем і дзейнасцю сакрэтна-нарадавых камітэтаў па пытаннях "расколу". 14 сакавіка 1825 г. такі камітэт быў створаны ў Пецярбургу, а 25 лістапада 1831 г. у Маскве [18. С. 174 - 175]. Паводле ўказаў МУС сакрэтна-нарадавыя камітэты былі створаны 7 лютага 1847 г. у Віцебску, а 18 красавіка 1847 г. – у Магілёве. У такі камітэт па Віцебскай губерні ўваходзілі: епархіяльны архірэй, начальнік губерні, кіраўнік палаты дзяржаўнай маёмасці і жандарскі штаб-афіцэр. Кіраваў камітэтам генерал-губернатар. Нарады адбываліся ў доме праасвяшчэннага Полацкага архіепіскапа. Камітэт збіраўся тады, калі гэта было неабходна. Віцебскі і Магілёўскі сакрэтныя камітэты спачатку разглядалі справы аб стараабрадніках і толькі пасля гэтага прымалі рашэнне аб перадачы яе ў суд. Камітэты разглядалі шматбаковыя пытанні. Напрыклад, 2 лістапада 1849 г. Віцебскі камітэт разгледзеў справу аб жаніцьбе і шлюбе стараабраднікаў. У прыватнасці, што віцебскія мяшчане Гаўрыіл Аляксеевіч Драздоў, Іосіф Савельевіч Палякоў, Галакціён Аляксеевіч Палякоў, Іосіф Грыгор'евіч Палякоў не былі венчаныя, вядуць распутнае жыццё з жанчынамі, выбранымі ў якасці жонак, і маюць дзяцей. Камітэт хадайнічаў перад генерал-губернатарам аб узбуджэнні судовага следства адносна вянчання гэтых стараабраднікаў у аднаверніцкай царкве [26. Ф.1297, воп.1, спр.16845, арк.1,37,48 – 48ад,64,78].

Займаліся сакрэтныя камітэты і пытаннямі закрыцця стараабрадніцкіх храмаў. 15 сакавіка 1840 г. Магілёўскі камітэт разгледзеў пытанне аб "раскольніцкай" капліцы ў Беліцы. Разглядалася таксама прапанова аб перадачы ўсёй маёмасці і самой капліцы ў праваслаўнае ведамства. Баючыся хваляванняў стараабраднікаў у Беліцы, дзе іх налічвалася 595 чалавек, і ў наваколлі, дзе пражывала 3428 стараабраднікаў, сакрэтны камітэт спачатку вырашыў атрымаць ад протаіерэя епархіі Львоўскага звесткі пра настрой "раскольнікаў". Акрамя гэтага, протаіерэй павінен быў адказаць на пытанне: ці ёсць неабходнасць ператвараць гэтую капліцу ў аднаверскую або праваслаўную? Калі б у гэтым была патрэба, то яму, Львоўскаму, дазвалялася такое пераўтварэнне правесці. Протаіерэй у сваім данясенні паведамляў, што "раскольнікі" Беліцы і наваколля варожа

ставяцца да праваслаўя. Частку іх можна схіліць да аднаверства, але не да праваслаўя. Далей Львоўскі гаварыў аб магчымасці пераўтварэння закрытай стараабрадніцкай капліцы ў аднаверскую і сцвярджаў, што там служыць павінен свяшчэннік толькі ад стараабраднікаў. Падлічаны былі і выдаткі на пераабсталяванне капліцы. На іканастас патрабавалася 172 руб., на чатыры панікадзілы - 20 руб., на вялікае панікадзіла - 50 руб., на лампады - 20 руб., на падсвечнік да прастола - 4 руб., на выносны падсвечнік - 4 руб., на срэбрапазалочаны пацір з прыладай - 72 руб. Усе затраты складалі 544 руб. Протаіерэй выказаў і тактычны план: стварыўшы ў Беліцы аднаверскую царкву, можна было ўздзейнічаць як на стараабрадніцкія манастыры, што знаходзіліся вакол Беліцы, так і на Ветку, дзе было мала надзеі на ўвядзенне праваслаўя.

Аднак, баючыся хваляванняў стараабраднікаў, царкоўныя і выканаўчыя ўлады ўсіх узроўняў не ўвялі ў дзеянне задуманы план. У выніку таго, што Беліцкая капліца доўгі час была закрытай, будынак прыйшоў у заняпад. 18 красавіка 1862 г. магілёўскі губернатар прасіў у МУС дазволу знішчыць капліцу. Міністэртсва адклала вырашэнне гэтай праблемы да вясны 1863 г. [54. Ф.797, воп.10, спр.27385, арк.1 - 51].

Акрамя пералічаных указаў і пастаноў царскіх улад і кіраўніцтва афіцыйнай праваслаўнай царквы, у першай палавіне XIX ст. былі выдадзены дзесяткі іншых. Да канца 1852 г. быў сабраны вялікі аналітычны матэрыял аб стане “расколу”, які вельмі напалохаў урад і цара. Рост колькасці стараабраднікаў назіраўся амаль у кожнай губерні. У Віцебскай, напрыклад, у 1837 г., паводле афіцыйнай статыстыкі пражывала 22433 стараабраднікі [26. Ф.1430, воп.1, спр.7602, арк.73], у 1841 г. – 38451 [26. Ф.1430, воп.1, спр.7602, арк.116 - 117], у 1843 г. – 39030 [26. Ф.1430, воп.1, спр.10543, арк.97] і ў 1847 г. – 39828 [26. Ф.2502, воп.1, спр.410, арк.204]. У Магілёўскай губерні ў 1847 г., паводле той жа афіцыйнай статыстыкі, значылася 14678 стараабраднікаў [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.191], у Мінскай у 1839 г. – 7132 стараабраднікі [26. Ф.1, спр.701, арк.51 - 55]. У Новааляксандраўскім павеце Ковенскай губерні, куды на той час уваходзілі Браслаў і Відзы з іх землямі, у 1848 г. пражывала 9389 абаронцаў старога абраду [2. С. 502; 26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.31]. Калі скласці толькі прыведзеныя лічбы па губернях, то атрымаецца, што у 1839 – 1848 гг. на Беларусі пражывала каля 71 тысячы стараабраднікаў. Калі выкарыстаць паправачны каэфіцыент па М.М. Нікольскаму, то колькасць абаронцаў старога абраду павялічыцца да 284 тысяч, а паводле паправачнага каэфіцыента Пецярбургскага статыстычнага камітэта, іх колькасць будзе складаць 710 тысяч.

Паводле імператарскага ўказа ад 14 ліпеня 1835 г., лічыўся злачынствам шлюб праваслаўнага з стараабрадкай і праваслаўнай з

стараабраднікам у стараабрадніцкіх капліцах [26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.31]. Стараабраднікі не мелі права вучыць дзяцей. Права першапачатковага навучання мела прыхадское духавенства афіцыйнай праваслаўнай царквы (1836 г.) [26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.111 – 112ад]. У 1837 г. стараабраднікі былі пазбаўлены правоў на ўсе знакі адрознення і ганаровыя званні [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.88 – 88ад]. 14 снежня 1842 г. імператарам былі зацверджаны "Правила о переселении раскольников вредных ересей в Закавказский край" [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.141 - 142]. 5 студзеня 1845 г. сваім указам імператар забараніў прымаць у іканапісныя цэхі стараабраднікаў [26. Ф.1430, воп.1, спр.11547, арк.1]. У лістападзе 1845 г. іканапісны цэх быў выяўлены ў 1-й частцы г.Віцебска на Багаслоўскай вуліцы. Цэх размяшчаўся ў беспапоўскай малельні, дзе маляваў іконы і займаўся іх абнаўленнем жывапісец, дынабургскі мешчанін Міхаіл Іванавіч Сінякоў. Падчас вобыску паліцыя знайшла 11 толькі што намаляваных ікон, 7 загрунтаваных, 6 кніг і паперы М.І. Сінякова [26. Ф.1297, воп.1. спр.15093, арк.1 – 1ад]. У 1850 г. чарговы імператарскі ўказ датычыўся перапісу стараабраднікаў: дзеці, што нарадзіліся ў сем'ях стараабраднікаў-беспапоўцаў, якія не прызнавалі шлюб, павінны былі пісацца па рэвізіі незаконнанароджанымі, а іх маці не маглі запісвацца жонкамі стараабраднікаў-беспапоўцаў. Гэтых маці трэба было ўносіць у спісы сем'яў, да якіх належалі ад нараджэння [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.217 – 217ад]. Уся палітыка ўрада і афіцыйнай праваслаўнай царквы была скіравана на памяншэнне колькасці стараабраднікаў у заходніх губернях: у 1852 г. імператар выдаў указ, якім забаранялася абаронцам старога абраду ў памежных заходніх губернях прапісвацца да гарадскога насельніцтва [26. Ф.1430, воп.1, спр.24163, арк.1].

Урад разумеў, што рост і актывізацыя стараабрадніцтва могуць стаць прычынай распаду дзяржавы, ліквідацыі самаўладдзя і цэнтралізацыі. З мэтай барацьбы з "расколам" 18 лютага 1853 г. ствараецца яшчэ адно падраздзяленне - асобы сакрэтны камітэт для перагляду пастаноў аб стараабрадніках, а пры ім - асобная сакрэтная канцылярыя [18. С. 182 - 183].

Усе метады барацьбы з "расколам" у час царавання Мікалая І не мелі вялікага поспеху: колькасць стараабраднікаў расла, асабліва ў заходніх губернях. Сітуацыя патрабавала ад урада вырашэння праблемы стараабрадніцтва і, у першую чаргу, афіцыйнага яго прызнання. Аднак урад не дапускаў нават думкі аб прызнанні стараабрадніцтва і лічыў, што знішчыць "раскол" можна толькі пры ўмове строгага і дакладнага выканання ўказаў і законаў. З гэтай мэтай была ўмацавана паліцыя, у некаторых месцах, населеных стараабраднікамі, размяшчалі ваенныя

падраздзяленні; з праваслаўнага духавенства назначаліся найбольш падрыхтаваныя свяшчэннікі для правядзення супраць стараабраднікаў прапаганды.

Прынятыя ўрадам меры, а таксама маёмаснае расслаенне стараабраднікаў на багатых і бедных прывялі да іх адступлення ад многіх абрадавых правілаў. Федасееўцы сталі паступова адмаўляцца ад абавязковай бясшлюбнасці. Згодніцкая палітыка прывяла да ўтварэння аднаверскай царквы, якая, як правіла, насаджалася сілаю. Многія прыходзілі ў яе толькі ў выніку ганенняў. У 1852 г. стараабраднікі Полацкага павета ў пісьме цару пісалі, што мясцовыя ўлады хацелі насільна прымусіць іх падпісаць акт аб пераходзе ў праваслаўе. “Калі мы не згадзіліся, - працягвалі яны, - нас пачалі лавіць, вязаць і садзіць у астрог, мучыць голадам, рваць валасы і брыць бароды, адным словам, здзекавацца. Многія асобы не вытрымалі здзекаў, прынялі праваслаўную веру. У гэты ж час гараднічы Шольцец, ад’ютант Селехаў і квартальныя наглядчыкі з натоўпам паліцэйскіх ноччу напалі на нашыя хаты, ламалі замкі дзвярэй, а калі знаходзілі каго ў доме, то білі і цягалі нас як аб’яўленых злачынцаў, пазбаўленых усіх грамадзянскіх правоў. Мы даведзены да галечы жорсткімі і неміласэрнымі ўчынкамі, замучаныя і змардаваныя ў турмах або тулячыся ад ганенняў нашых прыгнятальнікаў. Спыніліся нашы гандлёвыя абароты, крэдыты” [26. Ф.1430, воп.1, спр.24331, арк.23 – 24ад].

Непрызнанне з боку дзяржавы законнасці стараабрадніцкіх абшчын прывяло да паступовага прызнання апошнімі цывільных шлюбаў законнымі з кананічнага пункту погляду, што, у сваю чаргу давала магчымасць юрыдычнага замацавання маёмасці за ўсімі членамі сям’і.

Змяненне спосабу жыцця, прызнанне пашпартоў, увядзенне абавязковай малітвы за цара, і інш. – усё гэта сведчыць аб тым, што ўраду ўсё ж удалося дабіцца пэўнага поспеху.

Неабходна адзначыць, што і жыццёвыя ўмовы прымушалі багатых стараабраднікаў адмаўляцца ад некаторых сваіх абрадавых правілаў, уносіць у іх змены, гэта можна растлумачыць і тым, што ідэалогія стараабрадніцтва заўсёды была неадназначнай, а маёмаснае расслаенне яшчэ больш яе абвастрыла. І тое, што прапаноўвалася лідэрамі стараабрадніцтва, не прызнавалася радавымі іх аднадумцамі, што ў сваю чаргу вяло да новых адгалінаванняў.

У першай палавіне XIX ст. у жыцці стараабраднікаў на беларускіх землях былі свае асаблівасці. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) расійскі ўрад пачаў ажыццяўляць захады па ўмацаванні свайго ўплыву на далучаных тэрыторыях. Для аховы новых заходніх межаў былі пабудаваны крэпасці ў Дынабургу, Полацку, Відзах, Рагачове, дзе ў гэты

час пражывала найбольшая колькасць старaабраднікаў, да якіх урад ставіўся спачатку з недаверам, што ўскладняла жыццё апошніх.

Унутрыпалітычнае становішча на беларускіх землях прымушала расійскі ўрад шукаць тут шляхі ўмацавання сваіх пазіцый. Пры гэтым даводзілася лічыцца з гістарычнымі асаблівасцямі ў характары і ўзроўні развіцця феадальных адносін у беларускіх губернях. Адной з такіх асаблівасцей было тое, што ў Рэчы Паспалітай старaабраднікам, як і прадстаўнікам іншых канфесій, дазвалялася набываць ва ўласнасць зямлю і частка старaабраднікаў валодала зямлёю ўжо на час стварэння на беларускіх землях рускіх губерняў. Аднак большая частка старaабраднікаў не мела зямлі, і ў новых эканамічных адносінах жыцця і пры недаверлівай палітыцы расійскага ўрада да старaабраднікаў становішча апошніх пагоршылася. У сувязі з новымі адміністрацыйнымі парадкамі і законамі, што датычылі жыцця старaабраднікаў, абмежаваныя былі магчымасці тых, якія займаліся адыходным промыслам.

Не палепшылася жыццё і купцоў-страабраднікаў на беларускіх землях, прычыны былі ў тым, што паміж імі парушыліся сувязі, наладжаныя ў ХУІІІ ст., зменшылася наяўнасць капіталу ў іх абароце, а рускія ўлады пасля 1795 г. стваралі такія ўмовы, калі пры пацвярджэнні купецкай гільдыі цяжка было атрымаць дазвол на гандаль.

Такім чынам, першая палавіна XIX ст. у гісторыі ўсяго старaабрадніцтва была найбольш складанай і праблематычнай. У гэты перыяд урад стварыў самыя жорсткія і непапулярныя ўказы і законы, якія пазбаўлялі старaабраднікаў іх правоў. І ўсё ж, нягледзячы на жорсткасць прымаемых да іх мер, колькасць абаронцаў старога абраду не змяншалася.

## 2.4. Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае жыццё старaабраднікаў у другой палавіне XIX ст. і пачатку XX ст.

Адным з самых складаных і насычаных фактамі і падзеямі перыядаў у гісторыі старaабрадніцтва была другая палавіна XIX ст. і пачатак XX ст. У гэты час вельмі хутка вырашаліся працэсы, на якія, здавалася б, патрэбны дзесяцігоддзі. Праблемы старaабрадніцтва пачалі разглядацца даследчыкамі розных навуковых напрамкаў. Доследы, якія пачаліся ў другой палавіне ХУІІ ст. як багаслоўскія спрэчкі ўнутры Рускай

праваслаўнай царквы, у другой палавіне XIX ст. закранулі грамадскае, эканамічнае і дзяржаўнае жыццё Расіі. Змянілася ўнутраная сітуацыя і структура дзейнасці ўрадавых ведамстваў, а праблема стараабрадніцтва змянілася настолькі, што ўзнікла неабходнасць даць стараабраднікам пэўныя грамадзянскія правы і свабоды. Аднак вырашыць гэтую праблему было няпроста з-за многіх прычын, але, па-першае, з-за адсутнасці прадуманай сістэмы дзеянняў, якая магла б змяніць сітуацыю; па-другое, афіцыйная праваслаўная царква не ішла на кампрамісы; па-трэцяе, не было ўзгодненасці пастаноў і рашэнняў, якія прымаліся рознымі ведамствамі. І бадай што, найважнейшай прычынай была адсутнасць свабод для стараабраднікаў і наяўнасць сакрэтнасці ў адносінах да праблемы “расколу”.

Гэтак жа няпроста было вырашыць пытанне аб стараабрадніках, якія жылі на беларускіх землях. Тут яшчэ дабаўляліся і свае праблемы, перш за ўсё, звязаныя з землекарыстаннем. Акрамя гэтага ўраду ўдалося дабіцца таго, што ў многім змяніўся спосаб жыцця стараабраднікаў: было ўведзена ў богаслужэнні абавязковая малітва за цара, пачалі прызнавацца шлюбы, пашпарты і інш.

Падобнай тактыкі ў барацьбе са стараабраднікамі дзяржаўныя ўлады Расіі і афіцыйная праваслаўная царква прытрымліваліся і ў другой палавіне XIX ст. У цараванне Аляксандра II захоўваліся законы і ўказы, прынятыя ў цараванне Мікалая I. Працягвалася палітыка закрыцця стараабрадніцкіх храмаў і манастыроў. Асаблівую небяспеку, з пункту гледжання Свяшчэннага Сінода, уяўлялі манастыры, размешчаныя ў Магілёўскай губерні вакол Беліцы. 8 снежня 1850 г. царскае пацвярджэнне атрымалі прапановы сакрэтна-нарадавага камітэта па справах аб “раскольніках” і адступніках ад праваслаўя. У гэтым дакуменце меркавалася закрыць у Беліцкім павеце два стараабрадніцкія манастыры – Пахом’еўскі і Нікольскі – з усімі богаслужэбнымі прыналежнасцямі. Губернскае начальства, кіруючыся ўказам ад 5 мая 1839 г., павінна было ўнесці прапанову аб далейшым лёсе манастыроў і іх маёмасці.

У 1851 г. Пахом’еўскі і Нікольскі манастыры былі закрыты. Агульны кошт усёй маёмасці Пахом’еўскага манастыра складаў 243609 руб. 55 кап. У спісе пералічаных рэчаў значыліся: сярэбраныя пазалочаныя “сосуды”, а таксама дыскосы, евангеллі; дарагія пазалочаныя рызы, упрыгожаныя жэмчугам, алмазамі і іншымі дарагімі каштоўнымі камянямі; старажытныя кнігі і іконы; панікадзіла; вялікія плаўленыя званы - па сто пудоў кожны; посуд сярэбраны, пазалочаны, медны, алавяны, драўняны; манаскае адзенне і інш.

Усе пытанні адносна лёсу гэтых манастыроў вырашаў Магілёўскі сакрэтна-нарадавы камітэт, які прапанаваў угаварыць стараабраднікаў

мястэчка Веткі Беліцкага павета прыняць правільнае свяшчэнства. Ім давалася права выбраць на свой погляд, свяшчэнніка і ўзвесці для яго з пабудоў манастыроў на месцы спаленай капліцы новую царкву, размясціць у ёй усе манастырскія рэчы. Будынкі Нікольскага і Пахом'еўскага манастыроў, а таксама наяўныя ў іх рэчы перадаваліся ў распараджэнне епархіяльнага начальства. Іконы і рэлігійныя кнігі з Нікольскага манастыра перадаваліся на захоўванне ў веткаўскую Прэабражэнскую царкву, а з Пахом'еўскага – у гомельскую Троіцкую царкву.

Свяшчэнны Сінод ухваліў прапановы магілёўскага сакрэтна-нарадавага камітэта і прапанаваў выканаць іх неадкладна, а 15 красавіка 1857 г. гэтыя прапановы былі зацверджаны імператарам.

Па ўказу МУСа, магілёўскі губернатар, каб супакоіць веткаўскіх стараабраднікаў і растлумачыць іх "памылкі", накіраваў да іх старшага саветніка магілёўскага губернскага праўлення разам з назначаным магілёўскім архіепіскапам і духоўнымі асобамі.

Правядзенне запланаваных акцый у Беліцкім павеце вынікаў не дало. Веткаўскія, гомельскія стараабраднікі, а таксама іх аднадумцы са слабады Тарасавай адмовіліся прыняць аднаверства або праваслаўе, а да прыехаўшых "настаўнікаў" аднесліся вельмі варожа. Такі паварот падзей запатрабаваў ад магілёўскага сакрэтна-нарадавага камітэта паўторнага разгляду пытання аб Пахом'еўскім і Нікольскім манастырах. Кіруючыся тым, што названыя манастыры былі пабудаваны на землях, што належалі генерал-фельдмаршалу графу Паскевічу Эрыванскаму і наследнікам генерал-маёра Станевіча і пабудаваныя з матэрыялаў гэтых уладальнікаў, сакрэтна-нарадавы камітэт, узяўшы пад увагу хадайніцтвы з эканоміі гэтых уладальнікаў, пастанавіў: 1. Цэрквы Пахом'еўскага манастыра і трапезніцу перадаць у распараджэнне епархіяльнага начальства, а келлі і наяўныя пры іх пабудовы аддаць ва ўласнасць эканоміі; 2. Матэрыялы цэркваў Нікольскага манастыра выкарыстаць на пабудову праваслаўнай Старасельскай царквы веткаўскага маёнтка, дзе старая царква прыйшла ў заняпад, а келлі перадаць у поўнае распараджэнне эканоміі.

Толькі ў 1862 г. – пасля таго, як былі сабраныя дадатковыя звесткі аб настроях стараабраднікаў веткаўскіх, гомельскіх і слабады Тарасавай - пачалося выкананне плана. У заключэнні МУС і Свяшчэннага Сінода адзначалася: "Меры привести в исполнение с крайней осторожностью, дабы не произошло каких-либо беспорядков со стороны раскольников, что и возложить на личную ответственность начальника губерни" [54. Ф.1263, воп.1, спр.2970, арк.41 – 48ад; ф.1341, воп.303, спр.44, арк.21ад].

У 1862 г. магілёўскі сакрэтна-нарадавы камітэт разглядаў таксама пытанне аб знішчэнні Беліцкай стараабрадніцкай капліцы, якая была закрыта яшчэ ў 1837 г. Прычынай закрыцця было тое, што беліцкія

стараабраднікі ў 1829 г. паклалі пад капліцу мураваны фундамент. Епархіяльны архірэй па даручэнні Свяшчэннага Сінода сабраў звесткі наконт мэтазгоднасці ператварэння капліцы ў аднаверскую або праваслаўную. А атрымаўшы гэтыя звесткі, Свяшчэнны Сінод вырашыў: да пэўнага часу мэтазгодна пакінуць будынак у ранейшым стане. Прыняць канчатковае рашэнне падштурхнулі дзеянні саміх стараабраднікаў. Магілёўскаму губернатару стала вядома, што беліцкія абаронцы старога абраду збіраліся ў прытворы капліцы і адпраўлялі там службы са спевамі, з асвяшчэннем прытвора і выкарыстаннем звона.

Лёс беліцкай капліцы ў многім вызначыўся тым, што быў забаронены рамонт яе сцен, якія прыйшлі ў заняпад. У 1862 г. МУС, адказваючы на запыт магілёўскіх губернатара і сакрэтна-нарадавага камітэта адносна знішчэння капліцы і кіруючыся думкай Свяшчэннага Сінода, прыняло рашэнне: 1. Стараабрадніцкую капліцу ў прадмесці Гомеля Беліцы, як прыйшоўшую у поўны заняпад, выбраўшы адпаведны час, з усемагчымай абачлівасцю, без папярэдняга ўзгаднення, якое магло б стаць прычынай да народных зборышчаў, зламаць і матэрыялы, якія застануцца ад зламанай капліцы, прадаць з публічных таргоў, а выручаныя грошы аддаць на карысць мясцовага прыказа сацыяльнай апекі. 2. Іконы, кнігі і іншыя богаслужэбныя прыналежнасці, якія могуць быць у гэтай капліцы, на падставе разасланага начальнікам губерняў указа Свяшчэннага Сінода ад 30 красавіка 1858 г. перадаць у поўнае распараджэнне епархіяльнага начальства. МУС прапанаваў знішчыць капліцу ў Беліцы вясной 1863 г. [54. Ф.1263, воп.1, спр.2970, арк.49 – 53ад].

Закрыццё, а пасля і знішчэнне стараабрадніцкіх манастыроў і цэркваў у Беліцкім павеце, пачатае ў першай палавіне XIX ст. і закончанае ў другой, яшчэ больш прынізіла ролю калісьці ўплывовай у стараабрадніцтве Веткі.

У другой палавіне XIX ст. было выдадзена шэраг імператарскіх указаў, былі прыняты пастановы Міністэрства ўнутраных спраў, Свяшчэннага Сінода і сакрэтна-нарадавых камітэтаў, якія абмяжоўвалі свабоды і правы стараабраднікаў. У сувязі з маючым адбыцца ў 1851 г. народным перапісам, было выдадзена шмат імператарскіх указаў і тлумачэнняў МУСа, якія датычыліся стараабраднікаў. 20 чэрвеня 1850 г. міністэрства ўнутраных спраў пад грыфам “цалкам сакрэтна” разаслала губернатарам указ імператара “О порядке внесения в ревизские сказки жен и детей раскольников”. У ім адзначалася, што з нагоды правядзення 9-га народнага перапісу імператар загадаў жонак і дзяцей “раскольнікаў”, якія прынялі свяшчэнтсва, паказваць такімі ў рэвізскіх казках на падставе паліцэйскіх пасведчанняў або жыхарскіх кніг, або непатрабуючы ў дадзеным выпадку іншых дакументаў аб праўдзівасці шлюбу тых жанчын і

аб законнасці нараджэння іх дзяцей; у адносінах да “раскольнікаў”-беспапоўцаў, якія не бралі шлюбу ў афіцыйнай праваслаўнай царкве, а мелі толькі благаслаўленне свайго духоўнага настаўніка, а дзеці іх лічыліся пазашлюбнымі, то такіх дзяцей, на падставе тых самых паліцэйскіх пасведчанняў або жыхарскіх кніг, паказваць па рэвізіі ў сем’ях “раскольнікаў” незаконнанароджанымі, а маці іх жонкамі “раскольнікаў” не паказваць, аднак уносіць іх у спісы тых сем’яў, да якіх яны належалі ад нараджэння [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.217 – 217ад].

У ходзе падрыхтоўкі перапісу і ў сувязі з названым вышэй імператарскім указам з’явілася дадатковае тлумачэнне МУСа “О детях раскольников” ад 19 снежня 1850 г. У ім адзначалася: “дзяцей тых сектатараў, якія возьмуць шлюб у святой царкве і дадуць абавязацельства выхоўваць іх (дзяцей – аўтар) па правілах сапраўднай веры, прызнаваць законнымі, не зважаючы на тое, народжаны яны да шлюбу ці пасля, даючы ім пры гэтым права і перавагі, якімі карыстаюцца законнанароджаныя дзеці” [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.230]. 20 верасня 1850 г. было разаслана тлумачэнне МУСа “По вопросу о детях раскольников беспоповцев от солдатских жен и дочерей”, дзе адзначалася: дзяцей, прыжытых “раскольнікамі” беспапоўскага накірунку, якія шлюб цалкам адхіляюць і дзяцей маюць ад “распуснай” пазашлюбнай сувязі з салдацкімі жонкамі і дачкамі, на падставе агульных пастаноў і параграфа 6 статута аб 9-м народным перапісе, у рэвізскія казкі зусім не ўносіць, як асоб, якія належаць да ваеннага ведамства [26. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.225].

Памянёны ўказ імператара і тлумачэнне міністэрства яшчэ больш заблыталі статыстыку аб стараабрадніках. Хаця ўмовы жыцця і прымушалі старааабраднікаў запісвацца ў аднаверства і праваслаўе, пагаджацца з іншымі прапановамі ўлад, яны, аднак, заставаліся ў душы прыхільнікамі старога абраду і ажыццяўлялі культавыя адправы па законах бацькоў і дзедаў. Таму ганенні на старaабраднікаў не змяншаліся. У ліпені 1853 г. МУС разаслаў усім губернатарам цыркуляр, дзе ўказвалася: “…справы аб злачынствах раскольнікаў супраць праваслаўнай веры, распаўсюджванні ерасяў і расколу, схіленні да расколу пераводзяцца ў разрад крымінальных”. У 1854 г. у судах Віцебскай губерні пад следствам знаходзілася 56 старaабраднікаў. З 1828 г. пад следствам быў Іван Кузняцоў “за схіленне да ерасі сялян памешчыка Ігнація Сабонскага”. У віцебскай палаце крымінальнага суда знаходзіліся справы мешчаніна Віцебска Захарыя Ляонава, які абвінавачваўся за прыцягненне сялян у “раскольніцкую ерась”; мешчаніна Віцебска Грыгорыя Назарава, які прыцягваўся за вянчанне “раскольнікаў”; мяшчан Віцебска Нікіты Мініна, Мікулы Прахарэнкі, Івана Пачнякова, Іаана Макапена, якія абвінавачваліся

за схіленне ў “раскол” [26. Ф.1430, воп.1, спр.25895, арк.1,21 – 21ад,87 - 92].

Другая палавіна XIX ст. мела свае як эканамічныя, так і палітычныя асаблівасці, і гэтага нельга было не ўлічваць. Пасля адмены ў Расіі прыгоннага права і правядзення шэрагу рэформ, капіталізм стаў развівацца хуткімі тэмпамі. Колькасць стараабрадніцкіх абшчын у прамысловых цэнтрах пастаянна расла. Калі ў Віцебску ў 1837 г. пражывала 670 стараабраднікаў [26. Ф.1430, воп.1, спр.7602, арк.70], то ў 1842 г. іх было ўжо 1295 [26. Ф.1430, воп.1, спр.51589, арк.106]. У 1837 г. у г.Полацку іх пражывала 250 чалавек [26. Ф.1430, воп.1, спр.7602, арк.66], а ў 1859 г. ужо 680 [26. Ф.1430, воп.1, спр.30618, арк.24]. У г.Бабруйску Мінскай губерні ў 1889 г. было зарэгістравана 495 стараабраднікаў, у Барысаве – 115, у Рэчыцы – 58, у Мазыры – 20 [37. С. 29]. Сярод іх былі ўплывовыя купцы. Да купцоў 3-й гільдыі ў 1851 г. у г.Полацку належалі: Елісей Грыгоравіч Макараў, Еўстафій Карпавіч Красікаў, Сідар Максімавіч Падрашэтнікаў, Аксенія Лаўрэнцьеўна Конанава [26. Ф.1430, воп.1, спр.51842, арк.37 – 37ад]. Стараабраднікі мелі немалы капітал. Напрыклад, дом купца Маісея Багданава ў Беліцкім павеце каштаваў 5020 руб., манаха Дасіфея – 3000 руб., асабістая маёмасць манаха Аўксенія была ацэнена ў 8647 руб. 85 кап. [54. Ф.1341, воп.303, спр.44, арк.20ад - 21]. Пра фінансавыя магчымасці стараабраднікаў, якія жылі на беларускіх землях, сведчыць і такі факт. У сярэдзіне XIX ст. узнік разлад у Друйскай мяшчанскай хрысціянскай абшчыне Віленскай губерні. У 1846 г. тут налічвалася праваслаўных і католікаў 268 чалавек, а стараабраднікаў – 542 чалавекі. У 1846 г. стараабраднікі мяшчане паставілі пытанне аб аддзяленні ад абшчыны. Сход мяшчан вырашыў не перашкаджаць іх аддзяленню, але паставіў умову: стараабраднікі і пасля аддзялення павінны нароўні з усімі плаціць нядоімку і аклады казённых падаткаў, пазыковыя грошы і іншыя зборы, выконваць гарадскія і абшчынныя павіннасці, а ў адносінах выканання рэкруцкай павіннасці – мелі б сваіх стараст, самі клапаціліся б аб рэкрутах, забяспечвалі іх кватэрай, прадуктамі і ўсім неабходным.

У сярэдзіне XIX ст. Друйская мяшчанская абшчына мела падатковых нядоімкаў 6027 руб. 93 кап., земскіх павіннасцей – 1716 руб. 73 кап., земскіх і іншых збораў – 119 руб. 25 ½ кап. Мяшчане стараабраднікі г.Друі Ульян Сакалоў, Савелій Чэрапаў і яшчэ 23 стараабраднікі ад імя сваіх аднаверцаў заявілі, што яны згодны выплачваць усе даўгі і выконваць павіннасці толькі пры ўмове поўнага аддзялення ад праваслаўных і католікаў. Стараабраднікі прасілі дазволу выбіраць сваё кіраўніцтва і падпарадкоўвацца толькі ведамствам гарадской ратушы [21. Ф.381, воп.17, т.3, спр.5114, арк.105 – 107ад].

Адмена прыгоннага права і сацыяльна-палітычныя абставіны ў 50 – 60 гады ў беларускіх губернях і з імі суседніх Польшчы і Літве прымусілі цара і ўрад звярнуць увагу на старaабраднікаў, якія пражывалі на беларускіх землях. Прычыны былі дзве: вырашэнне зямельнага пытання і пытання аб адносінах польскіх памешчыкаў і старaабраднікаў пасля таго, як апошнія дапамагалі царскім войскам у падаўленні сялянскіх выступленняў.

Адным з паказчыкаў нарастаючага крызісу царскай сістэмы быў сялянскі рух. Калі ў першай трэці XIX ст. адбылося 46 буйных сялянскіх выступленняў, то ў другой трэці – болей за 90. У Беларусі сацыяльныя супярэчнасці былі звязаныя і з нацыянальна-рэлігійнымі адрозненнямі паміж сялянамі і памешчыкамі [15. С. 127]. Гэтыя супярэчнасці асабліва ўзмацніліся пасля паўстання 1863 г., "…калі старaабраднікі аказалі ўраду значныя паслугі пры падаўленні мецяжу" [26. Ф.242, воп.1, спр.1709, арк.156 – 156ад]. У сувязі з беспарадкамі на беларускіх землях генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю граф Мураўёў 17 чэрвеня 1863 г. пісаў начальнікам Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў: "Памешчыкі тутэйшага края польскага паходжання, якія большай часткай удзельнічалі ў мецяжы або садзейнічалі яму, стараюцца ўсімі сродкамі аслабіць і знішчыць у гэтым краі ўплыў рускага элемента, з гэтай мэтай імкнучыся выцесніць старaабраднікаў як вернае і адданае гасудару і ўраду насельніцтва з зямель, якія аддаваліся ім да гэтага часу ў арэнднае ўтрыманне. Памешчыкі робяць ім розныя перашкоды і непамерным павышэннем арэнднай платы хочуць іх прымусіць выселіцца з займаемых імі ўчасткаў". Далей граф Мураўёў прапанаваў: 1. Даць такім старaабраднікам магчымасць працягваць, у выглядзе часовай меры, карыстацца тымі ўчасткамі, якія яны арэндуюць, нават у тых выпадках, калі тэрміны заключаных імі ўмоў або кантрактаў з уладальнікамі зямель ужо закончыліся; 2. Абавязаць памешчыкаў не браць са старaабраднікаў арэндную плату вышэй указанай у адпаведных артыкулах падзесяціннай платы 3 руб. срэбрам; 3. У тых выпадках, калі ўносімая старaабраднікамі арэндная плата была ніжэй за 3 руб., таксама дазволіць ім карыстацца зямельнымі надзеламі, не дапускаючы павышэння цаны; 4. Ускласці на ваенных начальнікаў і паліцэйскія ўправы дакладнае выкананне прыведзеных вышэй прапаноў і прыняць усе меры, якія будуць спрыяць абароне старaабраднікаў ад уціску мясцовых польскіх памешчыкаў. Усім старaабраднікам прапаноўвалася заключыць з памешчыкамі польскага паходжання дагаворы аб выкарыстанні арэндуемых імі зямельных надзелаў па дабравольнай згодзе з уласнікамі на агульных асновах для ўсіх вольных арандатараў зямель. Для прывядзення ў выкананне гэтай прапановы адводзіўся двухгадовы тэрмін, які заканчваўся 23 красавіка

1871 г. [26. Ф.1430, воп.1, спр.29777, арк.1 – 2; ф.242, воп.1, спр.1298, арк.4 – 4ад].

14 мая 1870 г. імператар зацвердзіў "Журнал главного комитета по устройству сельского состояния единоверцев и старообрядцев", згодна з якім памешчыкам забаранялася павышаць арэндную плату стараабраднікам без іх згоды [54. Ф.1291, воп.57, спр.1878, арк.2].

22 мая і 3 чэрвеня 1876 г. царскім указам былі ўзаконены правілы аб уладкаванні аднаверцаў і стараабраднікаў на ўласніцкіх землях у паўночна-заходніх і беларускіх губернях. На ўсіх землях, дзе аднаверцы і стараабраднікі пасяляліся да 17 чэрвеня 1863 г., займаемыя імі надзелы заставаліся ў пастаяннай і бестэрміновай іх арэндзе на тых жа ўмовах, на якіх яны карысталіся імі на той час. Гэтыя ўмовы маглі быць зменены толькі ў выніку добраахвотнай згоды абодвух бакоў, з захаваннем усіх правілаў арэнды. Тэрыторыя такіх надзелаў і ўмовы карыстання імі павінны былі пацвярджацца міравымі пасрэднікамі і ўносіцца ў асобны па кожнай бестэрміновай арэндзе акт. (МУС і Міністэрства юстыцыі павінны былі скласці правілы аб парадку напісання актаў бестэрміновай арэнды). Прыкладам такога пагаднення можа служыць дагавор, заключаны 21 жніўня 1883 г. паміж стараабраднікамі слабады Раманавай Магілёўскай губерні і памешчыкам Герордам. У дагаворы значылася: мы, ніжэйпадпісаныя, памешчык Уладзімір Мікалаевіч Герорд, з аднаго боку, і мяшчане-арандатары слабады Раманавай – з другога, заключылі дадзены дагавор аб тым: 1. Мяшчане арандуюць у Герорда розныя зямельныя ўчасткі ў колькасці 120 надзелаў і плацяць яму штогод па 6 руб. за надзел; 2. Сёлета мяшчане выкупляюць свае надзелы, пры гэтым робяць з Герордам абмен угоддзяў на наступных падставах: замест участкаў, якія былі доўгі час у карыстанні мяшчан, Герорд адводзіць ім зямлю наступным чынам: прысядзібныя землі застаюцца па-ранейшаму ў карыстанні ў цераспалоснасці з сялянамі слабады Раманавай, а іншыя землі адводзяцца мяшчанам у межах, указаных на плане. Герорд зробіць праз лес дарогу для прагону жывёлы да вясны 1884 г.; 3. Да 23 кастрычніка 1883 г. стараабраднікі абавязваліся заплаціць усе даўгі па арэндзе; 4. З 23 кастрычніка 1883 г. мяшчане выкупляюць свае надзелы, выплачваючы Герорду па 100 руб. за кожны надзел. Значыць, за 120 надзелаў павінна быць выплачана 11200 руб. Дадаткова да гэтага, за абмен угоддзяў і прырэзкі, - яшчэ 1800 руб., а ўсяго - 13000 руб.; 5. Плацёж робіцца наступным чынам: уся сума (13000 руб.) павінна быць выплачана на працягу 10 гадоў па паўгоддзях роўнымі часткамі 23 красавіка і 23 кастрычніка кожнага года па 650 руб., і апошні плацеж павінен быць зроблены 23 кастрычніка 1893 г.; 6. Пачынаючы з 23 кастрычніка 1883 г. мяшчане абавязваюцца плаціць Герорду за паўгоддзе працэнты на

астатнюю частку сумы доўгу; 7. Усе ніжэйпадпісаныя мяшчане адказваюць перад Герордам кругавой адказнасцю – кожны за ўсіх і ўсе за аднаго; 8. Пасля выплаты ўсяго доўгу Герорд абавязваецца выдаць на імя ўсіх ніжэйпадпісаных мяшчан установленага ўзору “крепостной акт”, які ўстанаўлівае за імі права поўнай уласнасці на зямлю, што ім перадаецца; 9. Пачынаючы з 1 студзеня 1884 г. мяшчане, бяруць на сябе абавязацельства выплачваць усе падаткі і павіннасці, якія, згодна з разлічэннямі, будуць устаноўлены на зямлю, што адводзіцца ў іх карыстанне; 10. Калі Герорд прызнае больш выгадным выдаць на імя мяшчан “крепостной акт” раней поўнага выкупу ўступаемай зямлі, з тым каб нявыплачаная частка доўгу была законным чынам забяспечана залогам прадаваемай зямлі, то мяшчане павінны неадкладна па запатрабаванню Герорда зрабіць усе неабходныя адпаведна закону акты.

Ад імя 45 мяшчан дагавор падпісаў Пётр Фёдараў Казакоў. Сярод мяшчан слабады Раманавай у спісе падпісаўшых дагавор былі: Якаў Карпаў, Няфед Марчанкаў, Нікалай Іваноў, Цірэнцій Давыдаў Чыркоў, Давыд Чыркоў, Елісей Седляраў, Яфім Грыгор’еў, Ягор Хамін, Іван Зыбін, Венядзікт Давыдаў, Іван Іваноў Сідлераў, Пётр Казакоў, Фядот Чэстых, Еўтух Барысаў, Цімафей Міхайлаў, Павел Кавалёў, Фёдар Шумейкін, Назар Шумейкін, Макар Сідлераў, Агафон Тараканаў, Анастасія Белаусава, Аляксей Бяляеў, Іван Лазараў, Яфім, Матвей і Нікіта Шумейкіны [26. Ф.2014, воп.1, спр.829, арк.32ад - 34].

Участкі, якія выдзяляліся ў пастаянную і бестэрміновую арэнду аднаверцам і стараабраднікам, маглі быць набыты імі ва ўласнасць як па згодзе з іх уласнікам, так і па запатрабаванні ўласніка. Выкупная пазыка вызначалася па капіталізацыі з 6 працэнтаў выплачваемай імі назначаемай платы за надзелы, без усякай з яе скідкі. Але ў тых выпадках, калі гэтая плата была вышэй за 3 руб. з дзесяціны, выкупная пазыка выдавалася толькі з асобнага, кожны раз, дазволу Міністэрства фінансаў [26. Ф.242, воп.1, спр.1709, арк.6 - 7]. У Віцебскай губерні на гэты час было 240 стараабраднікаў-землеўласнікаў, якім належалі 24654 дзесяціны. Тых, хто меў ва ўласнасці ад 20 да 100 дзесяцін, было 44 чалавекі, ім належала 640 дзесяцін; тых, хто валодаў ад 100 да 200 дзесяцінамі, было 156 чалавек, ім належала 7307 дзесяцін; тых, хто валодаў ад 200 да 250 дзесяцінамі, было 9 чалавек, ім належала 3212 дзесяцін. Пяць чалавек мелі ад 500 да 1000 дзесяцін – з агульнай колькасцю 3477 дзесяцін, тры чалавекі мелі ад 1000 да 5000 дзесяцін - з агульнай плошчай 6793 дзесяціны [56. С. 450].

У 1877 г. стараабраднікі слабады Агародні-Гомельскай падчас цяжбы з графам Ф.І. Паскевічам, якая датычылася пытання аб павышэнні арэнднай платы, выкарысталі палажэнні дакументаў ад 14 мая 1870 г., 23 мая і 3 чэрвеня 1876 г. Інтарэсы абаронцаў старога абраду прадстаўляў

мешчанін Кажамякін, а графа Паскевіча – калежскі асэсар Аляксандр Мікалаевіч Радзевіч.

У маі 1877 г. стараабраднікі – купцы і мяшчане – слабады Агародні-Гомельскай звярнуліся да міравога пасрэдніка і паведамілі аб тым, што ў адпаведнасці з кантрактам, заключаным з эканоміяй графа Паскевіча ў 1859 г. тэрмінам на 12 гадоў, яны карысталіся сенажацямі ў колькасці 300 дзесяцін. З 1863 г. агульная плошча зямлі, якую яны выкарыстоўвалі, складала 844 дзесяціны. Паводле вуснай дамовы, эканомія брала арэнднай платы за сенажаці 450 руб. у год. Стараабраднікі паведамлялі таксама, што з 1872 г., пасля заканчэння тэрміну кантракта, эканомія пачала павышаць арэндную плату, якая ў 1875 г. склала 900 руб., а ў 1876 г. – 1200 руб. Губернская ўстанова па сялянскім справах, разгледзеўшы скаргу стараабраднікаў слабады Агародні-Гомельскай, абавязала эканомію графа Паскевіча браць з заяўнікаў ранейшую арэндную плату, указаўшы пры гэтым, што згодна з пералічанымі вышэй дакументамі без згоды стараабраднікаў яны не могуць быць пазбаўлены займаемых імі ўчасткаў. Забаранялася таксама павышаць ім арэндную плату да вырашэння пытання аб уладкаванні стараабраднікаў у Заходнім краі.

13 чэрвеня 1878 г. граф Ф.І. Паскевіч праз свайго пасрэдніка звярнуўся са скаргай да міністра ўнутраных спраў, які падтрымаў рашэнне Магілёўскай губернскай па сялянскіх справах установы. 20 лістапада 1878 г. скарга была разгледжана Галоўным камітэтам аб уладкаванні сельскага насельніцтва, які пастанавіў: “Скаргу паверанага памешчыка, якая не мае законнай падставы, пакінуць без вынікаў”. 5 снежня 1878 г. імператар на журнале Галоўнага камітэта ўласнаручна напісаў: “Исполнить” [54. Ф.1291, воп.57, спр.1878, арк.2 – 96ад].

Чаму ж расійскі ўрад і ўсе яго структуры так хутка памянялі свае адносіны да стараабраднікаў, якія пражывалі на беларускіх землях? Адказ на гэтае пытанне знаходзім у пісьме, якое МУС разаслала ўсім губернатарам у 1870 г. У ім гаварылася, што справядлівасць патрабуе ўраўнаваць стараабраднікаў з каталіцкім сельскім насельніцтвам края і даць ім зямлю на выкуп. Разам з тым палітычная і эканамічная сітуацыя прымушала пакідаць стараабраднікаў на месцах іх жыхарства. У пісьме значылася, што ў палітычных адносінах стараабраднікі на памешчыцкіх землях у Ковенскай і Віцебскай губернях уяўляюць сабою самы моцны рускі элемент у менш за ўсё надзейных месцах, а вопыт паказаў, што ўрад можа разлічваць на іх бяспрэчную вернасць. У эканамічных адносінах стараабраднікі паралізуюць шкодны ўплыў яўрэйскага насельніцтва і, ў выпадку сканцэнтравання іх у новых месцах яны, страцяць гэтае значэнне. Таму асабліва карыснай з’яўляецца раскіданасць стараабраднікаў паміж іншым насельніцтвам па ўсім краі. А гэтая ўмова можа быць дасягнута

толькі ў тым выпадку, калі яны будуць пакінуты на сваіх надзелах [26. Ф.242, воп.1, спр.1709, арк.154 - 155].

Праект пастановы аб землекарыстанні старaабраднікаў у беларускіх губернях, прапанаваны графам Мураўёвым і дапоўнены Дзяржаўным Саветам, у 1882 г., быў адпраўлены для заключэння ў Міністэртсва юстыцыі. Яно прызнала, што праект адпавядае мэце, але разам з тым адзначала, што з прычыны падобнасці закона ад 22 мая 1876 г. аб бестэрміновай арэндзе і існаваўшага ў заходніх губернях закона аб чыншавым уладанні патрабуецца, каб ўнікліва перагледзела дадзены праект чыншавая камісія пры МУСе, таму што гэтая камісія ўжо выпрацавала прапановы аб уладкаванні чыншавікоў. На падставе водзыву Міністэрства юстыцыі праект быў накіраваны ў чыншавую камісію, аднак далейшы разгляд зямельнага пытання быў прыпынены ў чаканні новага закона аб чыншавіках. Тут будзе дарэчы прывесці прыклад аб выплаце чыншу старaабраднікамі ў беларускіх губернях. Так, у 1858 г. у Бабруйскім павеце Мінскай губерні 132 сям'і старaабраднікаў, дзе было 607 душ, мелі 1195 дзесяцін зямлі і плацілі 2282 руб. чыншу. У слабадзе Туркі 39 сем'яў, дзе было 103 душы, мелі 400 дзесяцін і плацілі 600 руб. чыншу [26. Ф.242, воп.1, спр.1709, арк.75 - 76].

Згодна з праектам камісіі МУСа " Об устройстве быта вечных чиншевиков" у дзевяці заходніх губернях прапанавалася: сельскім вечным чыншавікам абавязкова выкупляць зямлю, якая ім належала; што датычыла местачковых чыншавікоў, то існаваўшыя бестэрміновыя адносіны пакідаліся, пасля іх урэгулявання, нязменнымі. Пры гэтым адзначалася, што рэгуляванне чыншавага ўладання ў мястэчках з'яўляецца часовай мерай і што МУС плануе разгледзець пытанне аб выкупе зямель, што ўваходзяць у местачковыя ўладанні, пасля таго, як фінансавае ведамства прызнае яго своечасовым.

Дзяржаўны Савет спачатку падтрымаў праект МУСа, выказаўшы пры гэтым свае заўвагі: паколькі склалася так, што ў Заходнім краі вечныя чыншавыя пагадненні маглі заключацца і на словах, то гэта ў сваю чаргу магло прывесці да ўзнікнення паміж бакамі спрэчак і да адстойвання кожным бокам сваіх правоў, і толькі канчатковая адмена вечнага чыншу, не ўласцівага рускаму заканадаўству, ліквідуе юрыдычную асаблівасць быту, што захавалася толькі ў заходніх губернях [26. Ф.2014, воп.1, спр.829, арк.1 – 7ад].

На пачатак 1887 г. быў сабраны даволі значны матэрыял аб старaабрадніках у беларускіх губернях. 27 верасня 1887 г. земскі аддзел МУСа накіраваў беларускім губернатарам пісьмо, у якім адзначалася, што для пазямельнага ўладкавання старaабраднікаў-арандатараў, паселеных на

ўласніцкіх землях да 17 чэрвеня 1863 г., неабходна прызнаць іх права на выкуп ва ўласнасць арандуемых надзелаў з садзейнічаннем урада.

Гэтае пытанне было разгледжана і Дзяржаўным Саветам, які ў сваім рашэнні падкрэсліваў, што ўладкаванне быту старaабраднікаў можа быць дасягнута без абавязковага для ўласнікаў выкупу, пры ўмове захавання за імі бестэрміновай пастаяннай арэнды тых зямельных надзелаў, якімі яны карыстаюцца. Такая арэнда адпавядала б як законапалажэнням ад 19 лютага 1861 г., што давалі сялянам права пастаянна карыстацца землямі, якія былі ў іх надзеле, так і наяўным у заходніх губернях чыншавым адносінам. Пры гэтым Дзяржаўны Савет прызнаваў, што захаванне за старaабраднікамі пастаяннай бестэрміновай арэнды займаемых імі надзелаў палепшыць іх быт і нармалізуе паміж абодвума бакамі адносіны, якія ўжо не задавальнялі ўласнікаў зямель, на якіх пражывалі старaабраднікі. Дзяржаўны Савет бачыў выйсце са складанай сітуацыі ў тым, каб землеўладальнікі, кіруючыся законапалажэннем аб выкупе ад 19 лютага 1861 г., дазвалялі старaабраднікам выкупляць арандуемую імі зямлю па двухбаковай згодзе або па запатрабаванні ўладальніка зямлі і пры садзейнічанні ўрада. На думку Дзяржаўнага Савета, такое вырашэнне пытання адпавядала б і той канчатковай мэце, на якую накіраваны ўсе законапалажэнні аб уладкаванні сельскіх жыхароў у імперыі ўвогуле і ў Заходнім краі ў асаблівасці [26. Ф.2014, воп.1, спр.829, арк.7ад - 10].

У сувязі з разыходжаннем пунктаў гледжання Дзяржаўнага Савета і МУСа адносна землеўладкавання старaабраднікаў у заходніх губернях МУС прыняў рашэнне дадаткова вывучыць пытанне, у прыватнасці сабраць даныя аб колькасці зямлі ў старaабраднікаў і аб арэнднай плаце. Пасля гэтага яшчэ раз звярнуцца ў Дзяржаўны Савет і прапанаваць абавязковы выкуп старaабраднікамі і аднаверцамі выдзеленых ім у бестэрміновую арэнду зямель [26. Ф.2014, воп.1, спр.829, арк.10ад]. У той час, як Дзяржаўны Савет і МУС вельмі марудна вырашалі гэтае пытанне, старaабраднікі на Беларусі працягвалі арандаваць вялікія зямельныя надзелы. У 1886 г. абаронцы старога абраду ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні арандавалі 1198,5 дзесяцін зямлі. Больш чым 30 з іх арандавалі кожны па 30 дзесяцін і больш. У Халапеніцкай воласці ў в.Мачулішча мяшчане старaабраднікі без садзейнічання ўрада куплялі зямлю, Цімафей Архіпаў Ровень выкупіў 27 дзесяцін зямлі па 20 руб. 50 кап. за дзесяціну, заплаціўшы 553 руб. 50 кап.; Амвросій Афанасьеў Піскуноў выкупіў 58 дзесяцін па 20 руб. 50 кап. за дзесяціну, заплаціўшы 1189 руб.; Фядот Іванаў Клешчанка за 28 дзесяцін, па цане 20 руб. 50 кап. за дзесяціну, заплаціў 574 руб. У в.Узпацк Нікіта Якаўлеў Баравік за 25 дзесяцін, па цане 21 руб. 30 кап. за дзесяціну, заплаціў 532 руб. 50 кап.; Давід Іванаў Драздоў за 24 дзесяціны зямлі, па 21 руб. 30 кап. за дзесяціну, заплаціў 511

руб. 20 кап.; Еўлам Селівестраў Кавалеўскі купіў 50 дзесяцін зямлі па цане 21 руб. 30 кап. за дзесяціну і заплаціў 1065 руб.

У Бабруйскім павеце стараабраднікі арандавалі зямлю ў памешчыка Захарава ў маёнтку Коўрына. Васілій Карпаў Дзядкоў арандаваў 40 дзесяцін, Зеновій Агафонаў Прыгажаеў – 40 дзесяцін, Іван Ніканаў Астап'еў – 60 дзесяцін, Грыгорый Грыгор'еў Астап'еў – 60 дзесяцін, Андрэй Фядотаў Іваненка – 40 дзесяцін [26. Ф.2014, воп.1, спр.1709, арк.117 - 131].

На пачатак 1897 г. у беларускіх губернях былі падрыхтаваныя, але да канца не ўдакладненыя спісы стараабраднікаў і аднаверцаў, якія падпалі пад закон ад 27 мая 1876 г. Так, па Мінскай губерні пад дзеянне закона падпала 417 стараабраднікаў, у якіх у бестэрміновай арэндзе было 10889 дзесяцін і 139 сажаняў зямлі. Арэндная плата за гэтую зямлю склала 14549 руб. 61 кап. Па запатрабаванні землеўладальнікаў, згодна з законам, выкуп пачалі 242 стараабраднікі і аднаверцы, якія арандавалі 5915 дзесяцін і 1911 сажаняў зямлі з арэнднай платай 8929 руб. 11 кап. Добраахвотных здзелак гаспадароў зямлі са стараабраднікамі і аднаверцамі было заключана 42, з якіх 41 здзелка - у Бабруйскім павеце і 1 – у Барысаўскім павеце. Паводле добраахвотных здзелак да стараабраднікаў адыходзіла 1745 дзесяцін і 628 сажаняў зямлі з арэнднай платай 2239 руб. 50 кап.

Мясцовыя ўлады губерні не разгледзелі на пачатак 1897 г. заявы аб выкупе зямлі сямі стараабраднікаў: шасці з Ігуменскага і аднаго з Мінскага паветаў. Арандавалі яны 89 дзесяцін і 800 сажаняў зямлі. Як ужо адзначалася, працэс выкупу ішоў вельмі марудна. Так, на пачатак 1897 г. адбыліся толькі два выкупы ў Бабруйскім павеце [26. Ф.242, воп.1, спр.1710, арк.55]. У слабадзе Салоцін маёнтка Коўрына памешчыка Захарава Турскай воласці 24 гаспадары стараабраднікі (усяго 98 душ) арандавалі 400 дзесяцін зямлі і плацілі арэнднай платы 902 руб. 39 кап. [26. Ф.242, воп 1, спр.1711, арк.12 - 14]; тут не ўзнімалася пытанне аб выкупе.

Стараабраднікі-арандатары пражывалі ў буйных населеных пунктах Бабруйскага павета, у слабадах Капусціна, Вязаўка, Падлешчанка, Скрыпліца, Нягоўле, Камарова, Бабін-Хутар, Туркі, Салоцін, Зарэчча; у засценках Велічкава, Будзішча, Угін, Баршчэва; у вёсках Палькавічы, Шпалеўшчына, Бярозаўка, Усаха; у слабодцы Парфенавіцкай; у сялібе Дамінікуўка; у фальварку Янава; ва ўрочышчы Баравая; у сяле Новыя Стэпы. Усяго ж стараабраднікі пражывалі ў 51 населеным пункце ў колькасці 5489 чалавек [26. Ф.242, воп.1, спр.1711, арк.2 – 18; ф.1595, воп.1, спр.50, арк.16ад,19, падлічана аўтарам].

У Барысаўскім павеце ў 57 населеных пунктах налічвалася 2190 стараабраднікаў. Найбольшая колькасць іх пражывала ў вёсках Бабарыкі – 131 чалавек, Мілееўка – 109 чалавек, Барсукі – 56, Траянаўка – 169,

Мачулішча – 119, Узпацк – 161, Калечынка – 109, у засценку Лавашы – 85 чалавек [26. Ф.1595, воп.1, спр.50, арк.17 - 18].

У Магілёўскай губерні ў 1897 г. стараабраднікаў і аднаверцаў, якія падпадалі пад дзеянне закона ад 22 мая 1876 г., налічвалася 732 чалавекі; у бестэрміновай арэндзе яны мелі 6465 дзесяцін і 2471 сажаню зямлі, выплачвалі 8569 руб. 16 кап. арэнднай платы. Па запатрабаванні землеўладальнікаў 853 стараабраднікі і аднаверцы, якія арадандавалі 3522 дзесяціны і 822 сажані зямлі, распачалі выкуп на падставе закона. Арэнднай платы да выкупу яны плацілі 7420 руб. 40 кап. Дабраахвотныя здзелкі паміж гаспадарамі зямель і стараабраднікамі не заключаліся.

Пад канец XIX ст. у Магілёўскай губерні 1045 стараабраднікаў валодалі 36768 дзесяцінамі зямлі, што складала 1,6 працэнта агульнай колькасці ворнай зямлі. На кожнага ў сярэднім прыпадала 35,20 дзесяціны [35. С. 49 - 50].

У Мінскай губерні 267 стараабраднікаў валодалі 59633 дзесяцінамі, на кожнага з якіх ў сярэднім прыпадала 223 дзесяціны [41. С. 36].

Хуткае развіццё капіталізму дазволіла стараабраднікам умацаваць свае абшчыны ў Маскве і ў асобных буйных гарадах Расіі, а таксама змяніць сваё прававое становішча. Сацыяльныя супярэчнасці і абвастрэнне класавай барацьбы прымусілі самадзяржаўе змяніць свае адносіны да стараабрадніцтва ў цэлым і звярнуць асаблівую ўвагу на іх становішча ў заходніх губернях. У перыяд царавання Аляксандра II ураду ўдалося вырашыць шмат якіх пытанняў, звязаных са стараабрадніцтвам. 19 красавіка 1874 г. быў выдадзены ўказ аб шлюбах стараабраднікаў, які вызначаў апошніх паводле іх паходжання і маёмасці. Звесткі аб шлюбах запісваліся ў асобныя метрычныя кнігі. У грамадзянскіх адносінах гэтыя шлюбы лічыліся законнымі, законнымі лічыліся і народжаныя ад такіх шлюбаў дзеці [60. С. 177 - 178].

Закон ад 3 мая 1883 г., прыняты з адабрэння Аляксандра III, дазваляў стараабраднікам весці гандаль і займацца промысламі. Ім выдаваліся пашпарты агульнага ўзору для ўнутранага перамяшчэння. Было дазволена таксама працаваць у іканапісных цэхах, займаць грамадскія пасады. У рэлігійных адносінах да стараабраднікаў абʼяўлялася цярпімасць, прадстаўляліся некаторыя свабоды. Ім дазвалялася праводзіць богаслужэнні без парушэння грамадскага парадку; выконваць духоўныя адправы; ажыццяўляць богаслужэнне паводле сваіх абрадаў як у спецыяльных пабудовах, так і ва ўласных дамах; рамантаваць і аднаўляць культавыя пабудовы з дазволу губернатара. Было дазволена таксама адкрываць раней зачыненыя малельні. Для гэтага неабходны быў дазвол МУСа і обер-пракурора Свяшчэннага Сінода. Спыняліся ганенні на тых

духоўных настаўнікаў і “уставщиков”, якія выконвалі духоўныя адправы, але іх духоўны сан або званне пры гэтым не пацвярджаліся.

Аднак частка культавых дзеянняў стараабраднікаў яшчэ была забаронена. Так, не дазвалялася адкрываць манастыры і скіты, арганізоўваць хрэсны ход, карыстацца званамі, праводзіць публічныя шэсці са свяшчэннікамі і духоўнымі настаўнікамі ў царкоўным адзенні і публічнае нашэнне ікон, з’яўляцца манахам і духоўным настаўнікам у сваіх адзеннях у грамадскіх месцах, забараняўся стараабрадніцкі аднагалосны спеў на плошчах і вуліцах [12. С. 95 - 96]. Такім чынам, у законе ад 3 мая 1883 г. была выказана маўклівая згода цара і ўрада на прызнанне стараабрадніцтва, хаця публічнага прызнання давялося чакаць яшчэ 22 гады.

Закон ад 3 мая 1883 г. дазваляў стараабраднікам свабодна перамяшчацца і адраджаць свае культавыя будынкі. У 1888 г. іх было ў Віцебскай губерні – 43, у Полацкім павеце – 6, Віцебскім – 1 [31. С. 49]. У Мінскай губерні ў 1904 г. было зарэгістравана 18 малельняў, з іх 10 - у Бабруйскім, 5 - у Барысаўскім і 3 - у Ігуменскім паветах [42. С. 37]. У 1905 г. у г.Друя Віленскай губерні была адна малельня, у Дзісенскім павеце – 8, у Ашмянскім павеце – 2 [34. С. 48]. У г.Полацку ў 1912 г. была адна стараабрадніцкая царква, каля яе знаходзіўся манастыр на дзесяць чалавек. У гэтым жа годзе тут быў атрыманы дазвол на адкрыццё пачатковага стараабрадніцкага вучылішча. У Полацкім павеце 5308 стараабраднікаў былі аб’яднаны ў восем абшчын – Шматаўскую, Сідараўшчынскую, Заборскую, Жалудоўскую, Латкоўскую, Жарэцкую, Полацкую, Якаўлеўскую і мелі адну царкву і пяць малельняў [26. Ф.1430, воп.1, спр.45865, арк.77 - 87].

Павялічвалася колькасць стараабраднікаў. Калі ў 1886 і 1887 гг. у Віцебскай губерні пражывала 74 тыс. стараабраднікаў [26. Ф.2502, воп.1, спр.410, арк.1; 30. С. 17], то ў 1912 г. - 92374 [26. Ф.1430, воп.1, спр.45865, арк.234]. Да 1905 г. стараабраднікі пражывалі ў 94 населеных пунктах Віцебскага, у 26 – Гарадоцкага, 31 – Лепельскага, 164 – Полацкага паветаў [26. Ф.1430, воп.1, спр.46554, арк.4 – 4ад,9ад,11 - 12]. У 1907 г. стараабраднікі Віцебскай губерні былі аб’яднаныя ў 50 абшчын. У г.Віцебску былі 4 абшчыны, у Віцебскім павеце - 4, у г.Полацку – 4, у Полацкім павеце – 6, у Лепельскім – 2 [26. Ф.1416, воп.1, спр.826, арк.24 – 24ад]. У гэты час у губерні пражывалі папоўцы і беспапоўцы. Папоўцы дзяліліся на белакрыніцкіх і беглапапоўцаў. Белакрынічнікі (так называлі белакрыніцкіх папоўцаў) прызнавалі свяшчэнства толькі белакрыніцкага пасвячэння, іх было ўсяго каля 86 душ абодвух палоў.

Беглапапоўцаў, якія прымалі збеглых папоў ад праваслаўнай царквы (адсюль і назва), пражывала 875 душ абодвух палоў у Віцебску, а таксама ў

Віцебскім і Гарадоцкім паветах. Дары для прычашчэння яны атрымлівалі з Чарнігаўскай губерні. Частка беглапапоўцаў у гэты час перайшла ў аднаверства. Беспапоўцы ў Віцебскай губерні дзяліліся на філіпаўцаў і федасееўцаў. Філіпаўцаў было 3750 душ абодвух палоў. Іх вучэнне заставалася на той час нязменным. Яны адмаўлялі свяшчэнства і таінствы, акрамя хрышчэння і пакаяння, адмаўлялі цітла на крыжы Збавіцеля ІНЦІ і ікону Багародзіцы "Скорбящих радость", паколькі гэтая ікона з'явілася пасля расколу праваслаўнай царквы. Філіпаўцы адмаўлялі законнасць шлюбу і малітву за цара. Частка філіпаўцаў называлася тропаршчыкамі, таму што выкарыстоўвала ў богаслужэнні трапар "Спаси, Господи, люди твоя", а другая частка, проста філіпаўцы, гэты трапар не ўжывала.

Самыя вялікія змены адбыліся ў вучэнні федасееўцаў, якіх у той час пражывала ў Віцебскай губерні больш за 68 тыс. Згодна з вучэннем сваіх першых духоўных настаўнікаў, федасееўцы адмаўлялі свяшчэнства і таінствы, акрамя хрышчэння і пакаяння, адмаўлялі любы шлюб. У канцы XIX ст. яны ўжо лічылі законнымі шлюбы, чыталі трапар "Спаси, Господи, люди твоя" [26. Ф.2502, воп.1, спр.410, арк.1 – 1ад; 30. С. 18].

У Мінскай губерні ў 1892 г. пражывала 12324 стараабраднікі [38. С. 31], у 1896 г. – 15004 [39. С. 29], а ў 1912 г. – 20312 [43. С. 41]. У 1913 г. у гарадах губерні стараабраднікаў было: у Мінску – 160 чалавек, у Бабруйску – 548, у Барысаве – 243, у Ігумені – 4, у Мазыры – 27, у Пінску – 22, у Рэчыцы – 25, у Нясвіжы – 45, у Докшыцах – 1 чалавек. У паветах яны размясціліся наступным чынам: у Мінскім – 2176, у Мазырскім – 123, у Навагрудскім – 27, у Пінскім - 67, у Рэчыцкім – 334, у Слуцкім – 39 чалавек. Усяго па Мінскай губерні у 1913 г. налічвалася 20641 стараабраднік [44. С. 72].

У Магілёўскай губерні ў 1896 г. пражывалі 24774 стараабраднікі, з якіх 17162 (69,3 %) – у Гомельскім павеце, 4124 – у Сенненскім, 1584 – у Рагачоўскім, 991 – у Магілёўскім, 334 – у Аршанскім, 184 – у Чавускім, 178 – у Быхаўскім, 184 – у Чачэрскім. Тут большасць стараабраднікаў належала да папоўцаў белакрыніцкага пасвячэння. Жылі тут беглапапоўцы і беспапоўцы [36. С. 29].

У Дзісенскім павеце Віленскай губерні ў 1905 г. пражывала 9004 стараабраднікі [34. С. 48], а ў Новааляксандраўскім павеце Ковенскай губерні, дзе знаходзіліся Браслаў і Відзы, у 1915 г. налічвалася 27687 стараабраднікаў. У г.Відзы іх было 1033 [47. Прилож. С. 4 - 5].

Незадаволенасць народных мас Расіі сваім становішчам у канцы XIX ст. паскорылі вырашэнне жыццёвых праблем стараабраднікаў: 17 красавіка 1905 г. урад выдаў указ "Об укреплении начал веротерпимости", згодна з якім пашыраліся іх правы. Дазвалялася без усякага дазволу будаваць малельні і адкрываць прыходы; 17 кастрычніка 1905 г. быў абнародаваны

маніфест, у якім абвяшчаліся рэлігійныя свабоды. 17 кастрычніка 1906 г. быў выдадзены закон "О порядке устройства последователями старообрядческих согласий и отделившимися от православия сектантами общин, а также о правах и обязанностях сих лиц", згодна з якім старaабраднікі маглі ствараць свае арганізацыі і, атрымаўшы юрыдычнае права, адкрываць прыходы. Дазвалялася адкрываць храмы і школы, а настаўнікі прыраўноўваліся да свяшчэннаслужэцеляў іншых "цярпімых" рэлігій [48. С. 41 – 42; 26. Ф.1416, воп.1, спр.824, арк.3а].

Усё гэта стала асновай актывізацыі стараабрадніцкага жыцця: пачынаюць выходзіць перыядычныя выданні, склікаюцца з'езды, расце колькасць абшчын, будуюцца храмы, публічна выбіраюцца настаўнікі. Пакажам гэта на прыкладзе Віцебскай губерні. Так, у 1905 г. у Віцебску духоўным настаўнікам стараабраднікаў, якія прынялі свяшчэнства белакрыніцкай іерархіі, быў выбраны мешчанін Рыжкоў Яфім Ананьеў, а на пасаду духоўнага настаўніка беспапоўцаў федасееўцаў быў выбраны мешчанін Гусакоў Осіп Цімафееў. У 1906 г. у Віцебскім павеце духоўнымі настаўнікамі былі выбраны: у Грышанаўскай абшчыне – Давыдаў Рыгор Фадзееў, у Падлазнікаўскай – Рыжкоў Ляон Аляксандраў, у Краснапольскай – Галашчоў Міхаіл Ягораў, у Худзенеўскай – Ільін Грыгорый Афанасьеў. Тады ж былі выбраны духоўныя настаўнікі ў Полацкім павеце: у Сідараўскім прыходзе – мешчанін Табукоў Пракофій Ягораў, у Забароўскім – былы купец Рубін Афінаген Васільеў, у Латкоўскім – мешчанін Табуноў Цімафей Фёдараў, у Шматаўскім – мешчанін Місурагін Архіп Ульянаў, у Жалудоўскім – селянін Фядзіеў Естафій Фёдараў, у Жарэцкім – мешчанін Зуеў Васіль Петроў. У г.Полацку абшчыну ўзначаліў мешчанін Гусакоў Іларыён Грыгор'еў. У Лепельскім павеце духоўнымі настаўнікамі былі выбраны Сакалоў Канстанцін Кіпрыянаў і Равін Пракопій Архіпаў [26. Ф.1430, воп.1, спр.47162, арк.3,5,33,39,41ад].

Нягледзячы на тое, што царскі ўрад прымаў захады для ўладкавання жыцця стараабраднікаў, у заходніх губернях у пачатку XX ст. заставалася нявырашаным адно з галоўных пытанняў – аб землекарыстанні. Трэба адзначыць, што мясцовыя памешчыкі яшчэ ў другой палавіне XIX ст. усяляк тармазілі справу выкупу зямлі і яе арэнды стараабраднікамі – не падпарадкоўваліся закону 22 мая 1876 г. У выніку ў 1908 г. яшчэ былі не пераведзеныя на выкуп стараабраднікі, яны выплачвалі памешчыкам арэнду. Трэба ўзяць пад увагу і тое, што царскі маніфест ад 3 лістапада 1905 г., які даваў ільготы сельскім жыхарам Расіі, не распаўсюджваўся на стараабраднікаў Паўночна-Заходняга края: яны не былі аднесены да сельскіх жыхароў, якім была даравана падатковая льгота. Усё гэта пры вялікай колькасці стараабраднікаў у некаторых паветах Паўночна-

Заходняга края прывяло да цяжкіх эканамічных умоў жыцця. Старaабраднікі пачалі шукаць новае месца жыхарства.

У 1908 г. вельмі складанае становішча было на Браслаўшчыне. У Новааляксандраўскім павеце 836 сем’яў старaабраднікаў (3162 чалавекі) падалі заявы на дазвол перасяліцца на тамбоўскія землі. З указанай колькасці 81 сям’я мела зямлю. 755 сем’яў былі беззямельныя [22. F.19, Nr.143, арк.3ад]. Аб прычынах перасялення пісаў у земскі аддзел Віленскай губерні земскі начальнік 1-га ўчастка Ковенскага павета М. М. Мардовін. Ён адзначаў, што старaабраднікі жывуць ва ўмовах сялянскага быту і займаюцца амаль выключна земляробствам. Адходных промыслаў у іх няма, неразвіта таксама саматужная вытворчасць. Адсюль выснова: ўсе клопаты аб паляпшэнні становішча старaабраднікаў павінны быць зведзены да зямельнага ўладкавання [22. F.19, Nr.78, арк.5 - 6].

Адносна зямельнага ўладкавання малазямельных старaабраднікаў можна раздзяліць на дзве катэгорыі: на тых, якія мелі падворныя ўчасткі плошчай не менш 10 – 12 дзесяцін, і на малазямельных і беззямельных. Эканамічнае становішча першых у пачатку XX ст. стала горшым за эканамічнае становішча беларускіх сялян, якія згодна з маніфестам ад 3 лістапада 1905 г. вызваляліся ад выплаты выкупной пазыкі (не выключаючы і тых маёнткаў, дзе выкуп яшчэ не быў закончаны), а старaабраднікі на многія гады заставаліся абцяжараныя выкупнымі плацяжамі. Сітуацыя даходзіла да таго, што ў большасці паветаў спагнанне выкупных плацяжоў адбывалася з дапамогай сілы, вопісу і продажу рухомай маёмасці. Усё гэта сведчыла аб тым, што ў некалі багатых старaабраднікаў не было плацежных сродкаў, а іх эканамічнае становішча штогод пагаршалася з ростам жыццёвых патрэбнасцей. Што датычыць другой катэгорыі старaабраднікаў - малазямельных і беззямельных, то патрабавалася не толькі адмяніць выкупныя плацяжы для малазямельных, але і вырашыць шэраг іншых пытанняў, асабліва там, дзе старaабраднікі пражывалі вялікімі дыяспарамі.

На наш погляд, адмена выкупных плацяжоў дазволіла б старaабраднікам на беларускіх землях захаваць эканамічную раўнавагу, перш за ўсё тым з іх, хто валодаў зямлёй плошчай не менш як 10 - 12 дзесяцін на рабочую сям’ю, а такіх было большасць. Такая мера прывяла б да развіцця прадукцыйных сіл і культуры працы на зямельных участках старaабраднікаў. Адмена выкупных плацяжоў прывяла б да павышэння ўзроўню жыцця ўсіх старaабраднікаў.

Такія сацыяльна-эканамічныя і палітычныя ўмовы склаліся ў пачатку XX ст. для старaабраднікаў на беларускіх землях.

Разгледжаныя матэрыялы дазваляюць уявіць ход падзей у старaабрадніцтве ў другой палавіне XIX – пачатку XX стст. і ролю

ўстаноў, якія былі праваднікамі ўрадавай палітыкі. Значную ролю адыгрываў Свяшчэнны Сінод, які праводзіў палітыку, якая ў той ці іншы час была дамінуючай у афіцыйнай лініі. Дзейнасць Свяшчэннага Сінода пачала набываць сваю спецыфіку: ён нібы адыходзіў на другі план, таму што караючую ролю па-ранейшаму выконвала Міністэрства ўнутраных спраў. Аднак трэба зазначыць, што ўсе рашэнні на ўзроўні ўрада і МУСа без згоды Свяшчэннага Сінода не прымаліся. Сведчаннем таго з'яўляецца закрыццё манастыроў і цэркваў на Ветцы.

Нягледзячы на жорсткасць палітыкі ўрада і губернскіх сакрэтных нарадавых камітэтаў у адносінах да стараабраднікаў, колькасць апошніх на беларускіх землях працягвала расці. Паводле нашых падлікаў, тут у пачатку ХХ ст. пражывала 170 тыс. стараабраднікаў.

Стараабрадніцтва забяспечыла стварэнне ў Расіі многіх галін вытворчасці, перш за ўсё тэкстыльнай. А пры добрых гандлёвых сувязях сярод стараабраднікаў, тэкстыльная вытворчасць хутка трапляла на беларускія землі. На беларускіх землях стараабраднікі вялі шырокі гандаль, мелі даволі высокую культуру земляробства, працавалі па найму як майстры, што садзейнічала ўзнікненню ў іх асяроддзі прадпрымальніцтва яшчэ ў час феадалізму. Вынікам стараабрадніцкага прадпрымальніцтва, якое выкарыстоўвала эканамічны рацыяналізм, з'явілася ўзнікненне яшчэ задоўга да адмены прыгоннага права вольнанаёмных рабочых і таленавітых прадпрымальнікаў. Адрознівала іх тое, што яны не былі звязаны саслоўнымі, фінансавымі і іншымі сувязямі з дзяржавай, эканамічныя прынцыпы кіраўніцтва якой стрымлівалі развіццё вытворчасці.

Характэрнай рысай у псіхалогіі сялян, мяшчан і купцоў стараабраднікаў у другой палавіне XIX – пачатку XX стст. быў іх практыцызм. Ён выяўляўся ў тым, што стараабраднікі, каб захаваць свае традыцыі і сваю агульнасць, запісваліся ў аднаверства, у вялікія святы наведвалі праваслаўных свяшчэннікаў і спавядаліся ў іх, застаючыся ў душы прыхільнікамі традыцый бацькоў і дзядоў.

У пачатку XX ст. расійскае самадзяржаўе пачынае ажыццяўляць палітыку шырокіх грамадзянскіх свабод, састаўной часткай якіх стала верацярпімасць, якая закранула ў асноўным неправаслаўныя веравызнанні. Указ ад 17 красавіка 1905 г. паклаў пачатак змяненню палітыкі самадзяржаўя ў адносінах да праваслаўнай царквы і пашырыў правы стараабарднікаў і вернікаў іншых канфесій, афіцыяльна гарантаваў не толькі свабоду іх дзейнасці, але і свабоду пераходу з праваслаўя ў іншыя веравызнанні.

Падводзячы вынікі, адзначым: стараабраднікі на беларускіх землях, хаця і страцілі ў свой час рэлігійны і культурны цэнтр – Ветку, засталіся

вернымі культавай практыцы і сацыяльным традыцыям. Менавіта таму ўсе спробы ўлад ліквідаваць стараабрадніцтва на Беларусі, схіліць стараабраднікаў да пераходу ў аднаверства і праваслаўе аказаліся безвынiковымi.

## 2.5. Аднаверства на Беларусі

Аднаверства было ўмоўным яднаннем стараабраднікаў з праваслаўнай цэрквай: у імя саюза з царквою стараабраднікі прымалі ад яе законнае свяшчэнства, а царква дазваляла ім мець старыя абрады і кнігі.

Звернемся да сказанага раней. З прыходам на цараванне Кацярыны II пачынаецца новая палітыка ў адносінах да стараабраднікаў. Так, збеглым стараабраднікам было аб’яўлена, што яны атрымаюць поўнае дараванне пры ўмове, калі вернуцца на радзіму, дзе ім будзе дадзена права пасяляцца ў любых месцах, адначасова яны атрымаюць розныя льготы. Стараабраднікі вызваляліся таксама і ад двайнога акладу, а тыя, што не парушалі закона, дапускаліся да сведчання і да прысягі ў судзе.

Змяніліся і адносіны праваслаўнай царквы да стараабраднікаў. Сведчаннем гэтага з’яўлялася рэакцыя Свяшчэннага Сінода на падзеі 1765 г., калі стараабраднікі-філіпаўцы разграбілі Зелянецкі манастыр [3. С. 36.42.50]. Тады Сінод даручыў архімандрыту Платону напісаць стараабраднікам пісьмо, якое было апублікавана ў 1766 г. ад імя праваслаўна-кафаліцкай царквы. Калі ранейшыя пісьмы і звароты мелі выкрывальны тон, то ў гэтым пісьме выказваўся жаль да тых, хто памыляецца адносна рэлігійнага абраду, і аўтар пісьма стараўся апошніх пераканаць [9. С. 387].

Палітыка прымірэння афіцыйнай праваслаўнай царквы са стараабрадніцкай праводзілася з самага пачатку праўлення Кацярыны II. Царыца і частка яе акружэння разумелі, што, хаця прыгоннае права яшчэ і абцяжарвала рускае земства, новая эпоха ўжо пачыналася. Пераход дваранства са служылага саслоўя ў земства, які пачаўся пры Пятры III і працягваўся пры Кацярыне II, а таксама пачатае аднаўленне земскіх правоў усталёўвалі новыя адносіны паміж уладай і земствам. Пачынаўся новы час, які нёс перамены і ў жыццё стараабрадніцтва. Пачаткам гэтых перамен стала аднаверства [1. С. 296 - 297]. У пачатку царавання Кацярыны II па яе даручэнні, Свяшчэнны Сінод разгледзеў пытанне аб магчымасці стварэння закона асвечанай царквы, у якой служба адпраўлялася б па старадрукаваных кнігах. Члены Сінода мітрапаліт Наўгародскі Дзмітрый Сечанаў і епіскап Пскоўскі Гедзеон Крыноўскі выказаліся тады ў

падтрымку царыцы. Тут жа былі агавораны ўмовы будачага аднаверства: а) у царкве пажадана мець поўную згоду яе членаў ва ўсім - не толькі ў веры, але і ў абрадах; б) пры адзінстве веры можа быць дазволена выкарыстанне розных абрадаў, але пры ўмове іх праваслаўнага знаменавання; в) выкарыстанне старых абрадаў не супярэчыць клятвам Сабора 1667 г., таму што клятвы гэтыя гавораны былі “не на обряд” і “не за обряды”; г) выкарыстанне старых абрадаў павінна быць толькі ў саюзе з праваслаўнай царквою [60. С. 207 - 208]. Гэтыя ўмовы і былі пакладзены ў аснову аднаверства.

Першы, хто ажыццявіў думку аб аднаверстве, быў вядомы сваімі працамі па барацьбе з “расколам” Нікіфар Феатокій (Феатокі), які быў тады архіепіскапам Славенскім. У 1779 г. ён напісаў акруговае пасланне – да ўсіх стараабраднікаў, якія жылі ў яго епархіі, і заклікаў іх вярнуцца ў афіцыйнае праваслаўе. Пасланне архіепіскапа вызначалася любоўю, лагоднасцю, разважлівасцю. Яно мела свае наступствы: неўзабаве стараабраднікі дзвюх слабод Елізаветградскага павета – Знаменскай (папоўскай) і Злынкі (беспапоўскай) – выказаліся за далучэнне да праваслаўнай царквы. У 1779 г. стараабраднікі слабады Знаменскай прадставілі Нікіфару сваё “споведание веры”, у якім адмаўляліся ад “раскольніцкіх толкаў” і прызнавалі грэчаскую царкву праўдзівай, Усяленскай, кафаліцкай і апостальскай, прымалі ўсе яе дагматы, таінствы і абрады ў адпаведнасці з паданнямі святых апосталаў і сямі ўсяленскіх Сабораў [60. С. 208; 9. С. 387].

Далучэнне знаменскіх стараабраднікаў да афіцыйнай праваслаўнай царквы было ажыццёўлена згодна з устаноўленымі правіламі, а ў хуткім часе свяшчэннік Дзмітрый Смаладовіч асвяціў месца пад новую царкву. Асвячаў новую царкву сам архіепіскап Нікіфар. Адметнасцю гэтай падзеі было тое, што ў царкве спявалі два хары: на правым кліросе спявалі архірэйскія пеўчыя, выкарыстоўваючы свой напеў, а на левым – тыя, якія толькі далучыліся, спявалі па круках (ва унісон). Свяшчэннікам царквы быў прызначаны Стэфан Папоў, які быў абавязаны адпраўляць службы па старадрукаваных кнігах і карыстацца старымі абрадамі. Пра гэтую падзею было паведамлена Свяшчэннаму Сіноду, які паставіўся да “новаўвядзенняў” Нікіфара вельмі насцярожана. Аднак, баючыся магчымых хваляванняў сярод стараабраднікаў, Сінод не пакараў “наватара”, і падзея была абыдзена маўчаннем [60. С. 208 - 209].

Стараабраднікі найбольш уплывовых толкаў працягвалі шукаць сабе архірэя. Яшчэ ў 1765 г. была зроблена спроба пасвяціць яго самастойна: у Маскве, у доме купца-стараабрадніка сабраліся паморцы, якіх узначальваў Андрэй Барысаў з таварышамі; федасееўцаў і наважонаў прадстаўлялі Іван Іваноў, Васілій Емельянаў і інш.; веткаўцаў – манах Нікадзім са шматлікай

дэлегацыяй. Для будучага епіскапа было падрыхтавана нават адзенне. Але і на гэты раз спрэчкі аб выкарыстанні правілаў святых айцоў не прывялі да згоды. У 1766 г. маскоўскія папоўцы атрымалі адмову ад грузінскага архіепіскапа Афанасія на іх просьбу паставіць епіскапа. Апошні прапанаваў маскоўскім стараабраднікам для вырашэння пытання накіраваць дэлегацыю ў Грузію. Дэлегацыя, у склад якой уваходзілі манахі Нікадзім, Іаакім, купец Іван Кузняцоў і інш., поспеху не дасягнула. Няўдачай закончыліся і іншыя спробы стараабраднікаў займець свайго епіскапа [9. С. 388 - 389].

Не спыняўся ў сваёй дзейнасці архіепіскап Нікіфар. 18 снежня 1781 г. праз Наўгародскага архіепіскапа Гаўрыіла ён звярнуўся ў Свяшчэнны Сінод і да начальніка Новарасійскага края князя Пацёмкіна з новымі прапановамі адносна стварэння аднаверніцкай царквы. На гэты раз аргументы Нікіфара зрабілі ўплыў не толькі на архіепіскапа Гаўрыіла і князя Пацёмкіна, але і на Свяшчэнны Сінод. Сведчаннем таго была падтрымка Сінодам манаха Нікадзіма, вядомага ў справе аб далучэнні да афіцыйнай царквы старадубскіх стараабраднікаў па прыкладу знаменскіх. Тады, калі ўсе спробы стараабраднікаў займець свайго епіскапа правaліліся, манах Нікадзім, які меў свой манастыр (Успенскі) непадалёку ад слабады Злынкі, на рацэ Каменцы, вырашыў атрымаць епіскапа для сваіх аднадумцаў ад афіцыйнай праваслаўнай царквы. Такую ідэю падаў Нікадзіму ў 1781 г. намеснік Маларасіі граф Румянцаў-Задунайскі ў час, калі Нікадзім і ігумен Пакроўскага манастыра Міхаіл (Калмык) наведалі графа. Апошні параіў манахам пакінуць “раскол” і прасіць у царыцы і Сінода законнае свяшчэнства, пры гэтым абяцаўшы сваю падтрымку. Пасля Нікадзім неаднаразова сустракаўся з прадстаўнікамі Сінода, ездзіў у Маскву і Пецярбург, быў прыняты Пацёмкіным і нават самой царыцай.

Трэба адзначыць, што ў гэты час роля Румянцава ў заснаванні аднаверства была вельмі істотнай. Ён глядзеў на “раскол” з іншага пункту гледжання: выказаў думку аб тым, што раскол Рускай праваслаўнай царквы толькі зачэпка, а раскол будзе паяўляцца як у царкоўнай, так і ў іншых сферах пакуль не будуць ліквідаваны прычыны, якія парадзілі раскол, і пакуль не будзе дасягнута ўзаемаразуменне і пагадненне паміж народам і ўладай. Пагадненне прадугледжвала ўступкі з абодвух бакоў. Менавіта на гэтай аснове Румянцаву і Пацёмкіну ўдалося пераканаць Свяшчэнны Сінод і царыцу ў неабходнасці ўвядзення аднаверства.

Пасля разгляду ўрадам і Сінодам пытання аб аднаверстве было вырашана даручыць Румянцаву весці кантроль за аднаверствам у Маларасіі. Адметнасцю стараабрадніцтва ў Маларасіі была невялікая колькасць сагласаў і толкаў і адсутнасць рэзкіх адрозненняў паміж імі, якія былі ў паўночных раёнах Расіі. Маларасійскае стараабрадніцтва турбавала

царызм і ўрад перш за ўсё як з’ява палітычная, у сувязі з чым неабходна было ўстараніць палітычныя прычыны раз’яднання праваслаўнай царквы і стараабрадніцтва і затым на першы план паставіць іх сбліжэнне. Яшчэ адной прычынай увядзення аднаверства ў Маларасіі быў уплыў Старадуб’я. Гэты невялікі гарадок на поўначы Маларасіі ўвесь час стаяў асобна ад велікарускага стараабрадніцтва. Старадубскія абаронцы старога абраду падтрымлівалі сувязі з Веткай, якая па-ранейшаму рабіла ўплыў на ўсё стараабрадніцкае папоўства, а веткаўскі статут быў у пашане і лічыўся адзіна правільным. Старадуб’е мела свае гістарычныя паданні, тут жылі выселеныя з Веткі паважаныя мудрацы, філосафы, пісаліся іконы, вялося навучанне грамаце. Таму ўвядзеннем аднаверства тут планавалася дасягнуць дваякай мэты: з аднаго боку, зменшыць уплыў старадуб’я і прыцягнуць да аднаверства найбольшую колькасць старадубцаў, а з другога – як мага больш паменшыць уплыў Веткі і адначасова ўвесці аднаверства ў веткаўскіх слабадах.

Манах Нікадзім на працягу 20 гадоў быў адным з самых уплывовых духоўных настаўнікаў сярод старадубскіх і веткаўскіх стараабраднікаў-папоўцаў. Яго пачынанні былі падтрыманы манахамі Герасімам, Арсеніем і бяльцом Якавам Беляевым. Выказаўшы ў 12 пунктах свае ўмовы, яны 18 красавіка 1783 г. перадалі Пацёмкіну прашэнне. Нікадзім і яго бліжэйшыя памочнікі атрымалі падтрымку 1500 чалавек, якія прасілі далучыць іх да афіцыйнай Рускай праваслаўнай царквы. Гэтыя дзеянні прывялі да таго, што царскім указам ад 11 сакавіка 1784 г. на імя Наўгародскага мітрапаліта Гаўрыіла дазвалялася стараабраднікам Беларускага, Маларасійскага і Екацерынаслаўскага намесніцтваў адпраўляць богаслужэнні па старадрукаваных кнігах і атрымліваць свяшчэннікаў ад Магілёўскага і Славенскага архіепіскапаў [9. С. 392 – 393; 60. С. 210; 45. С. 677].

З боку ўрада і Свяшчэннага Сінода ўступка была вялізарная, калі ўзяць пад увагу, што менавіта спрэчкі па гэтых пытаннях прывялі да расколу ў Рускай праваслаўнай царкве. Аднак, дазволіўшы стараабраднікам двухперсцевы крыжовы сімвал і карыстанне старадрукаванымі кнігамі, урад не мог канчаткова вырашыць праблему “расколу”. Гэтыя меры маглі даць вынікі ў перыяд ніканаўскай рэформы, але не ў канцы XVIII ст., таму што ў гэты час асобныя стараабрадніцкія філосафы, духоўныя настаўнікі і ўплывовыя купцы-стараабраднікі нясмела, але ўсё ж ставілі пытанне аб зняцці са стараабрадніцтва ўсіх клятваў і прызнання яго як афіцыйнай царквы. Разумеючы ўсю небяспеку, якую нёс “раскол”, улады палічылі за лепшае не ўмешвацца ў прыватныя пытанні народнага жыцця, а земству даць больш шырокія правы ў вырашэнні сваіх пытанняў.

Трэба адзначыць, што сярод стараабраднікаў праціўнікаў аднаверства было больш, чым яго прыхільнікаў. Асабліва выступалі супраць аднаверства стараабраднікі ніжэйшых класаў. Справа ў тым, што ў перыяд праўлення Кацярыны II стараабраднікі ніжэйшых класаў яшчэ не мелі такіх правоў, якія мела земства вышэйшых класаў, таму аднаверства больш было прымальна апошнімі.

12 мая 1784 г. на 39-м годзе жыцця памёр Нікадзім [9. С. 394]. Яго справу працягвалі казначэй Віталій, манахі Еўдакім і Іаасаф і бялец Іван Кузняцоў. Іаасафу, які атрымаў у Грэцыі сан архімандрыта, было дазволена “исправлять духовные требы” ва Успенскім старадубскім манастыры. Улады баяліся сканцэнтравання аднаверства ў Старадуб’і і па прапанове Пацёмкіна 27 жніўня 1785 г. быў выдадзены царскі ўказ, у якім аднаверцам прапанавалася пасяляцца на землях Таўрыцкай вобласці, на левым баку ад Дняпра. Ва ўказе падкрэслівалася, што калі аднаверцы перасеяцца, то атрымаюць свяшчэннікаў ад Таўрыцкага архірэя і будуць заўсёды карыстацца сваімі абрадамі. Указ прадугледжваў будаўніцтва мураванага манастыра і некалькіх прыхадскіх цэркваў. Запрашаліся ў Таўрыцкую вобласць і стараабраднікі з-за мяжы [26. Ф.295, воп.1, спр.226, арк.8ад]. Сюды са Старадуб’я быў выклікаfamous Іаасаф, таму старадубскія аднаверцы, зноў застаўшыся без свяшчэнніка, шэсць разоў звярталіся да архіепіскапа Екацярынаслаўскага і Таўрыцкага Амвросія і прасілі даць свяшчэнніка. Але іх просьбы заставаліся без адказу. Колькасць старадубскіх аднаверцаў пачала змяншацца. І толькі пасля шэрагу перамоў з Сінодам у 1788 г. у Старадуб’е быў накіраваны свяшчэннік Охценскай царквы Андрэй Іааннаў, задачай якога было ўтварэнне прыходаў і здзяйсненне адпраў. З дапамогай войскаў яму ўдалося ў 1789 г. утварыць у слабадах Злынцы і Зыбкай аднаверніцкія цэрквы. У 1789 г. ён асвяціў аднаверніцкую царкву ў слабадзе Клімаўскай, а ў 1791 г. такую ж царкву ў Нікадзімаўскім манастыры. Потым Іаанаў вярнуўся ў Пецярбург у сан протаіерэя, а ў старадубскіх слабадах застаўся іераманах Андрэй [9. С. 396 - 397; 60. С. 210 - 211].

Беспаспяховымі былі спробы ўлад ажыццявіць аднаверства на Іргізе, дзе пражывалі высланыя калісьці (1735 г. і 1764 г.) з веткаўскіх слабод стараабраднікі і іх духоўныя настаўнікі. Носьбітам ідэй аб’яднання з афіцыйнай праваслаўнай царквою тут выступаў манах Сергій, які карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод папоўцаў. Пасля прыбыцця ў 1786 г. у Астраханскую епархію новага архіепіскапа – вучонага Нікіфара Феатокі - і распаўсюджання свайго звароту да стараабраднікаў Сергій пачаў дзейнічаць яшчэ больш актыўна: ад імя стараабраднікаў звяртаўся да Нікіфара з пятнаццаццю пытаннямі, ездзіў на перагаворы з прадстаўнікамі Свяшчэннага Сінода ў Санкт-Пецярбург, а таксама да аднадумцаў у

Маскву. Калі ж Сергій вярнуўся на Іргіз, яго не прынялі нават тыя, хто яго падтрымліваў. Стараабраднікі былі азлобленыя дзеяннямі Сергія і на сходзе вырашылі не дапускаць яго ў манастыр не толькі як ігумена, але і на жыхарства. Сергій звярнуўся да губернатара, аднак сітуацыя на Іргізе не змянілася, не змяніліся і адносіны да Сергія. Замест яго ігуменам Успенскага манастыра быў выбраны “уставщик” Прохар. Пасля такіх узрушэнняў Сергій з родзічамі накіраваўся ў Стрададуб’е, дзе прыняў аднаверства і разам са сваім пляменнікам пасяліўся ў Нікадзімавым манастыры. У хуткім часе ён быў пасвечаны ў іераманахі і стаў ігуменам аднаверніцкага Успенскага манастыра ў Беларусі [9. С. 211 - 212].

Праблематычным было ўвядзенне аднаверства ў беларускіх губернях. Ветка, якая на гэты час ужо не адыгрывала ролі лідэра ў стараабрадніцтве, працягвала непарушна захоўваць традыцыі веткаўскага статута. У 1794 г. была пабудавана першая на беларускіх землях аднаверніцкая царква – у Гомелі, на Спасавай слабадзе. Аднак прыхаджан тут было толькі 46 чалавек [45. С. 678].

У 1795 г. на адрас епіскапа Магілёўскага і Полацкага Афанасія Вальхоўскага прыйшло прашэнне ад далучаных да аднаверства стараабраднікаў Лаўрэнцьеўскага скіта, Чонскага манастыра і дзявочага скіта слабады Спасавай з просьбай дазволіць ім далучыцца да Екацярынінскай епархіі. Сваю просьбу заяўнікі аргументавалі тым, што ў Екацярынінскай епархіі стараабраднікам дазволена адпраўляць службы па старому абраду і цэрквы там асвечаны на старых антымінсах. Прадстаўляў прасіцеляў духоўны настаўнік іераманах Давід. Гэтая просьба была разгледжана Свяшчэнным Сінодам, які ў маі 1797 г. пастанавіў: манахаў стараабрадніцкіх Лаўрэнцьеўскага, Чонскага манастыроў і жыхароў Спасавай слабады і г.Беліцы згодна з іх жаданнем, далучыць да Екацярынаслаўскай епархіі і адначасова далучыць іх да афіцыйнай Рускай праваслаўнай царквы па царкоўнаму чынашанаванню. Даць ім свяшчэннікаў і дазволіць праводзіць службы па старадрукаваных кнігах і іх абрадах на падставе ўказа ад 11 сакавіка 1784 г. [24. С. 1 - 3].

Урад і Сінод разумелі, што ўвесці аднаверства на Ветцы, дзе стараабраднікі вызначаліся асаблівай стойкасцю, будзе няпроста. Каб раз’яднаць стараабраднікаў Веткі, папярэдне рыхтавалі “базу” ў Стародуб’і. Але на Ветцы яшчэ прымалі збеглых папоў і давалі ім прытулак. У кастрычніку 1798 г. тут за два дні да прыезду Беларускага і Магілёўскага епіскапа Анастасія Братаноўскага пачаўся бунт, прычынай якога быў арышт земскім суддзёй Беліцкага павета збеглага папа, якога веткаўцы вызвалілі і амаль што не забілі суддзю. Гэтую падзею ўлады хацелі выкарыстаць для ўвядзення аднаверства. Веткаўцы спачатку звярнуліся да епіскапа Анастасія з просьбай прыняць іх у яго епархію, а

пазней, пазбегнуўшы пакарання, адмовіліся падаць пісьмовае прашэнне аб далучэнні да афіцыйнай царквы. За гэта цар Павел I аб’явіў Анастасію вымову [24. С. 4 – 8; 20. С. 184 – 185; 26. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.1 - 7].

Веткаўцы старанна ахоўвалі свае святыні і традыцыі, якія ў іх былі самымі багатымі і старажытнымі.

У канцы ХУІІІ ст. адбыліся перамены ў жыцці старааабраднікаў Чонкі і Беліцы. З 12 жніўня 1798 г. ігуменам Чонскага Успенскага старааабрадніцкага манастыра быў вядомы дзеяч Сергій Юршаў. У 1799 г. ён асвяціў манастырскую царкву, а антымінс, неабходны пры асвячэнні царквы, быў прывезены сюды з Цверскага кафедральнага сабора. 7 сакавіка 1799 г. айцец Сергій звярнуўся ў Свяшчэнны Сінод з просьбай перавесці яго манастыр з Новарасійскай епархіі ў Беларускую. У хуткім часе быў атрыманы дазвол, а 21 сакавіка 1799 г. быў выдадзены ўказ аб прыняцці Анастасіем Чонскага манастыра ў сваё веданне. Аднак па прычыне таго, што ў час “прыцягнення” старааабраднікаў да аднаверства многія манахі разбегліся, у 1800 г. у Чонскім манастыры было толькі 14 манахаў [24. С. 9 - 15].

У 1800 г. каля 200 старааабраднікаў Беліцы звярнуліся да Анастасія з просьбай дазволіць ім пабудаваць царкву ў імя св.Нікалая і пасвяціць у свяшчэннікі стыхарнага дзячка Пятра Максімава. Царкву меркавалася пабудваць на казённай зямлі. Прыхаджане абяцалі аддаваць царкве дзесятую частку даходу. Сінод сваім указам ад 10 студзеня 1801 г. дазволіў будаўніцтва царквы пры ўмове, што старааабраднікі дадуць Анастасію распіску з указаннем колькасці жадаючых далучыцца да праваслаўя. Сінод сваім указам яшчэ адмаўляў Максімаву як збегламу ў пасвячэнні, а старааабраднікам прапанаваў выбраць у якасці свяшчэнніка “другого способного и достойного к сему званию” [24. С. 19 - 21].

Аднак большасць старааабрадніцкіх манастыроў і цэркваў у Беліцкім павеце у пачатку XIX ст. заставалася непрыступнай для Сінода. У гэты час тут было яшчэ дзевяць старааабрадніцкіх манастыроў: Лаўрэнцьеўскі, за 12 вёрст ад Гомеля, дзе манахаў і бяльцоў было больш за 100 чалавек; Іаасафаўскі манастыр, за 20 вёрст ад Гомеля, каля Добруша, дзе манахаў і бяльцоў было больш за 100 чалавек; скіт непадалёк ад Агародні, за 40 вёрст ад Гомеля, дзе манахаў было больш за 50 чалавек; Пыханскі манастыр, за 35 вёрст ад Гомеля, дзе манахаў і манашак было каля 20 чалавек; Тырлаўскі манастыр, за 7 вёрст ад Гомеля, дзе манахаў было да 40 чалавек; жаночы манастыр пры Спасавай слабадзе непадалёку ад Гомеля, дзе манашак было каля 50 чалавек; скіт Чыстыя Лужы, за 7 вёрст ад Гомеля, дзе манахаў было да 10 чалавек. Усе названыя манастыры і скіт былі на землях графа Н.П. Румянцава. На землях іншых памешчыкаў знаходзіўся Веткаўскі манастыр, дзе манахаў і манашак было да 100

чалавек; у манастыры на хутары Абрамаўка, непадалёку ад Веткі, было да 40 манахаў [24. С. 22- 23].

Як бачым, аднаверства ў Магілёўскай губерні пашыралася вельмі павольна, у той жа час тысячы стараабраднікаў заставаліся без свяшчэннікаў або прымалі збеглых папоў. Што датычыць іншых беларускіх губерняў, то ў пачатку XIX ст. пытанне аб увядзенні тут аднаверства не ставілася.

Калі ў 1763 г. Свяшчэнны Сінод называў стараабраднікаў людзьмі забабоннымі і ерэтыкамі, то ў 1798 г., каб актывізаваць прыцягненне іх да аднаверства, зняў праклёны - перш за ўсё, на двухперсце, на іншыя абрады - і дазволіў аднаверскую царкву [29. С. У]. Таму менавіта 1798 г. з’яўляецца годам пачатку афармлення афіцыйнага аднаверства. Папярэднія гады былі своеасаблівай падрыхтоўкай да гэтага.

27 кастрычніка 1800 г. выйшлі ўказ імператара і палажэнне мітрапаліта Маскоўскага Платона аб аднаверстве. З гэтых дакументаў вынікала: 1. Са стараабраднікаў знімаліся ранейшыя праклёны. Пры пераходзе ў аднаверства кожны стараабраднік павінен быў прачытаць дазвольную малітву; 2. Дазвалялася выбіраць свяшчэннікаў і дыяканаў, якія згаджаліся б служыць па жаданні прыхаджан у аднаверстве. Пры адсутнасці такіх дазвалялася пасвячаць у свяшчэннікі і дыяканы па старадрукаваных кнігах. Такіх кандыдатаў выбіраў патрыярх, а прыхаджане давалі або не давалі згоду. Даравауся “грэх” свяшчэннікам, якія перайшлі ў стараабрадніцтва; пры ўмове, што яны будуць беззаганныя і з’явяцца з пакаяннем, ім дазвалялася пасля благаслаўлення епіскапа служыць далей; 3. У аднаверстве дазвалялася адпраўляць службы па старадрукаваных кнігах, выдадзеных пры патрыярхах Іове, Ермагене, Філарэце, Іаасафе, Іосіфе; 4. Цэрквы і антымінсы для аднаверцаў асвячаліся па старадрукаваных кнігах; 5. Аднаверскіх свяшчэннікаў не прымушалі да саборных маленняў у грэка-расійскай царкве; 6. Аднаверскія свяшчэннікі і аднаверцы ў справах духоўных падпарадкоўваліся Маскоўскаму патрыярху і былі ў поўным яго распараджэнні. Аднаверцам дазвалялася самім вырашаць пытанні, якія датычыліся іх унутранага жыцця; 7. Аднаверскія свяшчэннікі атрымлівалі міра ад праваслаўнай царквы, а спавядаліся толькі ў сваіх епіскапаў; 8. Благаслаўляць аднаверскіх свяшчэннікаў і аднаверцаў дазвалялася двухперсцем; прызнавалася сапраўднай сіла таінстваў і адпраў, здзейсненых аднаверскімі свяшчэннікамі; 9. Прыхаджанам грэка-расійскай царквы дазвалялася прымаць святыя тайны ад аднаверскіх свяшчэннікаў, а прыхаджанам аднаверскай царквы дазвалялася прымаць святыя тайны ад свяшчэннікаў грэка-расійскай царквы; 10. У аднаверскіх цэрквах дазвалялася мець “троечастные” (трохчасткавыя) кнігі; 11. Пры ўзяцці

шлюбу прадстаўнікамі не адной царквы – аднаверскай і грэка-расійскай, вянчанне дазвалялася з двухбаковай згоды; 12. Аднаверскія свяшчэннікі абавязаны былі маліцца за здароўе і шчаслівае жыццё імператара, яго жонкі, наследніка, усёй царскай сям'і, а таксама за іншых, каго трэба ўпамінаць па дадзенай Свяшчэнным Сінодам форме [26. Ф.1430, воп.1, спр.10816, арк.1 - 3]. Жадаючы прыцягнуць больш стараабраднікаў да праваслаўнай царквы, мітрапаліт Платон назваў "согласников" (тых, хто згаджаўся з усімі ўмовамі) *аднаверцамі*.

Пры Аляксандры I неназіралася пашырэння аднаверства. Паміж уладамі і стараабраднікамі быў устаноўлены своеасаблівы "мір", які называўся цярпімасцю. Пасля ўстанаўлення аднаверства былі ўтвораны аднаверскія прыходы ў Маскве (1801 г.), Калузе (1802 г.), Екацерынбургу (1805 г.). У гэты час было вырашана пытанне аб старадрукаваных кнігах для аднаверства. Спачатку меркавалася для іх выдання пераабсталяваць стараабрадніцкую друкарню ў Клінцах. Аднак у 1818 г. рашэннем Камітэта міністраў для задавальнення патрэб аднаверцаў была прызначана друкарня ў Маскве, для якой Свяшчэнны Сінод вызначыў асобныя правілы. За дзейнасцю друкарні назіралі тры папячыцелі, якіх выбіралі з прыхаджан-аднаверцаў, і два назіральнікі з ліку духавенства, зацверджаныя Сінодам. Вызначаліся і правілы друку. Кожная кніга, зробленая ў друкарні, павінна была мець выхадны ліст, які размяшчаўся перад загалоўкам. Пасля слоў "напечатася сия книга (№№) в царствующем граде Москве" дапаўнялася: "в типографии единоверческой церкви лето такое-то с книги напечатанной тогда-то, в таком-то городе, при таком-то патриархе" [60. С. 217].

У перыяд праўлення Мікалая I пашырэнне аднаверства лічылася адной з важных палітычных задач. У 1835 – 1836 гг. былі зроблены далейшыя крокі па ўмацаванні аднаверства. Паўсюдна закрываліся стараабрадніцкія манастыры. Праабражэнскія і Рагожскія могілкі ў Маскве былі пазбаўлены сваіх ранейшых паўнамоцтваў і правоў. Прымаліся рашучыя захады да таго, каб зрабіць аднаверскім Іргіз. Сілаю быў адабраны ад стараабраднікаў і ператвораны ў аднаверскі іргізскі Нікольскі манастыр.

Пасля праведзеных гвалтоўных акцый па схіленні маскоўскіх і іргізскіх стараабраднікаў у аднаверства трэба было яшчэ "схіліць" да аднаверства стараабраднікаў, якія пражывалі на беларускіх землях. Тут вялікай папулярнасцю карысталіся Лаўрэнцьеўскі і Макар'еўскі манастыры ў Беліцкім павеце. Хоць на гэты час Ветка і не адыгрывала вядучай ролі ў папоўстве, аднак у стараабрадніцкім асяроддзі памяталі, якую ролю адыгрывалі манастыры веткаўскіх слабод.

У 1844 г., каб схіліць стараабраднікаў на беларускіх землях да аднаверства, у Магілёўскую губерню быў накіраваны прадстаўнік міністра

ўнутраных спраў стацкі саветнік па асобых даручэннях Аляб'еў. У пісьме, якое Аляб'еў перадаў магілёўскаму грамадзянскаму губернатару, адзначалася, што ўсе павінны аказваць прадстаўніку міністра неадкладную дапамогу. Аляб'еў і яго памочнікі склалі вопіс манастыроў, што выклікала абурэнне стараабраднікаў. Першымі супраць пачынанняў Аляб'ева выступілі манахі Макар'еўскага манастыра. Іх узначаліў ігумен Феафілакт (мешчанін Чарнігаўскай губерні, Новазыбкаўскага павета, пасада Клімава Фёдар Матвееў). Па загаду Аляб'ева Феафілакт быў арыштаваны і абвінавачаны ў агітацыі супраць аднаверства і ў раскраданні манастырскай маёмасці. (Перад тым, як памочнікі Аляб'ева пачалі рабіць вопіс маёмасці, Феафілакт разам з манахамі схаваў частку маёмасці манастыра). Феафілакта накіравалі да магілёўскага паліцмайстра, а манастыр быў аб'яўлены аднаверскім [26. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.1,4,26 - 28]. Калі манахам прапанавалі перайсці ў аднаверства, згадзіліся не ўсе: частка іх пакінула манастыр. Гэта былі мяшчане і сяляне Беліцкага павета: Улас Гаўрылавіч Каропкін – мешчанін, Арцемій Васільевіч Кажамякін – мешчанін, Трафім Лаўрэнцьевіч Баброў – мешчанін, Іван Гаўрылаў – селянін, Іван Ермалаеў – селянін, Антон Савельеў – селянін, Васілій Ананьеў – селянін, Сяргей Пятроў – селянін, Афанасій Герасімавіч Рагавой – селянін, Міхайла Іваноў – селянін, Прохар Харламаў – селянін, Ціт Осіпаў – селянін, Сямён Маманаў – селянін [26. Ф.2001, воп.1, спр.295, арк.98 - 99].

Такі ж лёс напаткаў і манахаў Лаўрэнцьеўскага манастыра, які ўзначальваў манах Аркадзій. (Андрэй Радзіонавіч Шапашнікаў, мешчанін Чарнігаўскай губерні, Суражскага павета, пасада Клінцова). У манастыры быў зроблены вобыск, у выніку якога забралі: манастырскіх 325 руб. асігнацыямі, асабістых грошай манахаў – 875 руб. і 100 руб. асігнацыямі; 40 франкаў золатам, якія належалі манаху Ісідару. Каб супакоіць абураных манахаў, грошы вярнулі пад распіску.

Ігумен манастыра Аркадзій і ўсе 29 манахаў не згадзіліся перайсці ў аднаверства. Пасля гэтага Аркадзій быў арыштаваны і накіраваны пад стражай у Беліцу, а потым у Чарнігаўскую губерню пад нагляд паліцыі. Манахаў жа паадпраўлялі на іх ранейшае месца жыхарства. Напрыклад, у Маскоўскую губерню адправілі Даніла Астаф'ева, Аляксандра Сцяпанава, Ціхана Аляксандравіча Барадуліна, Івана Ефімава, Назара Елізарава, Аляксея Ляонава, Радзіона Афанасьева; у Калужскую – Івана Пятровіча Білібіна, Сямёна Сяргеевіча Масленнікава; у Херсонскую – Радзіона Егоравіча Шыршыкова, Агапея Андрэевіча Егорава; у Палтаўскую – Івана Нікіціча Вязюкіна. Астатнія былі жыхарамі Беліцкага павета [26. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.31 - 68].

У выніку акцыі Аляб'ева Лаўрэнцьеўскі манастыр быў закрыты, а Макар'еўскі – launchedператвораны ў аднаверскі, дзе і засталіся манахі, якія прынялі аднаверства [26. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.52ад,56].

У снежні 1844 г. Свяшчэнным Сінодам была прынята пастанова адносна Макар'еўскага і Лаўрэнцьеўскага манастыроў: 1. Макар'еўскі манастыр ператварыць у аднаверскі і выдзеліць яму з наяўнага ў Сінодзе капіталу 10000 руб. асігнацыямі для выкарыстання працэнтаў з гэтай сумы на ўтрыманне манастыра і брацііі. Вырашыць пытанне з мясцовай палатай аб выдзяленні манастыру прызначаных угоддзяў. 2. Лаўрэнцьеўскі манастыр ліквідаваць, царкву і рызніцу перанесці ў г.Беліцу, а іншыя манастырскія будынкі – у Макар'еўскі і Чонскі манастыры [26. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.106 – 107,116].

Даручэнне Сінода Аляб'еў выканаў хутка і, здавалася б, вынікова. Аднак ужо ў 1845 г. праявіліся наступствы яго бяздумных дзеянняў. Генерал-губернатар Смаленскі, Віцебскі і Магілёўскі ў сваім пісьме Магілёўскаму грамадзянскаму губернатару апісаў тую сітуацыю, што склалася вакол Макар'еўскага манастыра. Гэты манастыр быў пабудаваны такім чынам, каб манахам і стараабраднікам было ў ім зручна адпраўляць богаслужэнні. Манастыр знаходзіўся на значнай аддаленасці ад паселішчаў з праваслаўным насельніцтвам, знаходзіўся непадалёк ад стараабрадніцкіх слабод, суднаходнай ракі і лясоў. Далей у пісьме адзначалася, што аднаверскія манахі з многіх прычын не могуць жыць у манастыры і што сярод іх няма такіх, каму можна было б даверыць кіраўніцтва манастыром. Генерал-губернатар прапанаваў, каб мясцовая земская паліцыя ўзяла манастыр пад надзейную ахову [26. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.136].

Адданасць манахаў Лаўрэнцьеўскага і Макар'еўскага манастыроў стараабрадніцкім ідэям знайшла падтрымку ўсіх стараабраднікаў Магілёўскай губерні. Гвалтоўная палітыка ўрада і мясцовых улад па пераводу стараабраднікаў у аднаверства не вырашыла праблему. Прыхільнікі старога абраду адмаўляліся прымаць праваслаўных свяшчэннікаў, якіх прысылаў Сінод, утойвалі колькасць сваіх народжаных дзяцей, прымалі збеглых папоў і салдат. Для ўрэгулявання сітуацыі ў 1847 г. у Магілёўскай губерні ўводзіліся пасады спецыяльных чыноўнікаў, якія павінны былі добра разбірацца ў пытаннях расколу Рускай праваслаўнай царквы, адначасова весці за стараабраднікамі нагляд, збіраць дакладныя звесткі аб іх і аб тых, каго яны ўтойваюць [26. Ф.1297, воп.1, спр.16845, арк.60 – 60ад].

Як ужо адзначалася, у Магілёўскай губерні пражывалі ў асноўным стараабраднікі-папоўцы, а ў Віцебскай – беспапоўцы. Спецыфіка культавай практыкі, спосабу жыцця, а таксама матэрыяльныя магчымасці не дазвалялі віцебскім стараабраднікам будаваць такія манастыры і

цэрквы, якія былі ў папоўцаў на Ветцы. Таму ўлады ў рэалізацыі палітыкі аднаверства выбралі тут не закрыццё і пераўтварэнне манастыроў, а правядзенне судовых працэсаў над старaабраднікамі, што ў многіх выпадках давала магчымасць далучаць “абвінавачваемых” і “падсудных” да аднаверства.

У 1852 г. Віцебскі губернскі сакрэтна-нарадавы камітэт распрацаваў рэкамендацыі па пераводу старaабраднікаў у аднаверства. У прэамбуле ўказвалася, што Віцебскае губернскае праўленне прыняло пастанову аб закрыцці шэрагу старaабрадніцкіх малельняў, у тым ліку і Сідараўшчынскай малельні Полацкага павета. У адносінах да астатніх цэркваў камітэт прапанаваў: а) паказаныя земскімі спраўнікамі дзеючыя малельні – Грыжанская Рэжыцкага павета, Гурылінская, Канпіцкая, Войнаўская Дынабургскага павета; Крывонская, Якубінская, Масквінская Полацкага павета – закрыць; б) дазваляць пераабсталёўваць старaабрадніцкія малельні ў праваслаўныя цэрквы толькі пасля заяў старaабраднікаў аб іх пераходзе ў аднаверства; в) у закрытых малельнях і ў жылых дамах духоўных настаўнікаў зрабіць вобыск з мэтай выяўлення дакументаў, якія б пацвярджалі прыналежнасць да “расколу”. Пасля гэтага правесці допыт, а ўсё выяўленае адабраць; г) звесткі аб закрытых малельнях прадставіць у МУС для канчатковага рашэння.

Згодна з пастановай сакрэтна-нарадавага камітэта ў Полацку меркавалася адкрыць аднаверскую царкву. На думку гэтага камітэта, закрыццё малельных дамоў зменшыць распаўсюджванне старaабрадніцтва і будзе наводзіць на іх страх [26. Ф.1430, воп.1, спр.24331, арк.2 - 5].

У паветах падчас выканання рэкамендацый сакрэтнага камітэта адбываліся драматычныя падзеі. Так у 1852 г. у Полацкі павет у маёнтак Ловаж памешчыка Рэута прыбылі прадстаўнік генерал-губернатара па асобых даручэннях і аднаверскі свяшчэннік Фёдар Папоў, каб угаварыць старaабраднікаў перайсці ў аднаверства. Запрошаныя 32 старaабраднікі, а гэта былі купцы і мяшчане, прадстаўлялі інтарэсы ўсіх прыхаджан. Яны на пытанні адказвалі смела і шматслоўна, заяўляючы, што не будуць падпарадкоўвацца ўраду і будуць весці актыўную агітацыю супраць аднаверства і адгаворваць ад яго тых, хто яго ўжо прыняў. Сустрэча закончылася арыштам найбольш актыўных у перамовах старaабраднікаў. Аднак апошнія не мелі намеру паддавацца: каля 400 старaабраднікаў, якія прыбылі з наваколля, каб падтрымаць сваіх аднадумцаў, што жылі на зямлі маёнтка, вызвалілі арыштаваных з дапамогай калоў. У бойцы многія прадстаўнікі ўлады і станавыя прыставы атрымалі пабоі. Не пабаяліся старaабраднікі сарваць дзяржаўны герб [26. Ф.1430, воп.1, спр.24331, арк.6ад].

Для разгляду гэтага інцыдэнта цар паслаў свайго прадстаўніка – флігель-ад'ютанта палкоўніка Чарнышова. Неабходна адзначыць, што Чарнышоў да задання аднёсся з усёй адказнасцю. Ён сустракаўся як з прадстаўнікамі ўлады, так і са стараабраднікамі. Чарнышоў і камісія, якая з ім працавала, падвялі вынікі сваёй працы: у пісьме віцебскаму губернатару абвінавачвалі ў беспарадках у маёнтку Ловаж прадстаўнікоў улады; дзеянні ад'ютанта Селіхава, які насільна прымушаў стараабраднікаў уступаць у праваслаўе, палічылі незаконнымі. Камісія запатрабавала вызваліць 15 арыштаваных стараабраднікаў.

Чарнышоў згадзіўся таксама перадаць цару пісьмо ад полацкіх стараабраднікаў. Яны пісалі: "... мы доведены до крайнего разорения жестокими и безмилосердными поступками. Измучены и изнурены в заточении или скитаясь и спасаясь от гонений наших преставителей... Местное руководство хотело силой заставить нас подписать акт о переходе в православие. После нашего отказа, нас стали ловить, вязать и садить в острог, изнурять голодом, рвать волосы и брить бороды, словом, терзать и мучить. В продолжении этого времени городничий Шольтец, адъютант Селехов и квартальные надзиратели с толпами полицейских нападали на наши дома ночью, ломали замки дверей, а найдя кого дома били и таскали нас как объявленых преступников лишенных гражданских прав. Торговые наши обороты, кредиты совершенно приостановились... Многие лица не выдержав мучений, приняли православную веру" [26. Ф.1430, воп.1, спр.24331, арк.23 – 24ад.].

Пасля падзей, якія адбыліся ў Полацкім павеце, ураду і Свяшчэннаму Сіноду стала зразумелым, што неабходна мяняць тактыку сваіх дзеянняў. У чэрвені 1852 г. віцебскаму губернатару было перададзена пісьмо Полацкага і Віцебскага архіепіскапа Васілія, у якім паведамлялася, што іераманаху Фёдару было загадана адправіцца ў Полацкі, Рэжыцкі, Люцынскі і Дынабургскі паветы, каб схіліць стараабраднікаў да аднаверства. Архіепіскап Васілій прасіў выдзеліць іераманаху грошы на пражытак. Неўзабаве пад грыфам "сакрэтна" Віцебская казённая палата атрымала ўказанне ад губернатара, дзе прапанавалася: "... неадкладна аддаць загад аб выдзяленні падарожных грошай Папову, якога мяркуецца пасвяціць у свяшчэнніки полацкай аднаверскай царквы, у суме 70 руб. срэбрам, іераманаху Фёдару 100 руб. срэбрам за кошт казны, забяспечыць іх устаноўленым сшыткам для запісу расходаў" [26. Ф.1430, воп.1, спр.24160, арк.1 - 3].

Закрыццё малітоўных дамоў у Віцебскай губерні працягвалася. У 1852 г. у Рэжыцкім павеце было закрыта сем такіх дамоў, у Дынабургскім – чатыры. У Полацкім павеце былі закрытыя Сідараўшчынская і Якарцаўская малельні, ішла падрыхтоўка да закрыцця Калетатліпоўскай

малельні. Калі ж стараабраднікі звярнуліся да ўлад з просьбаю адкрыць малітоўны дом, то ім адказалі, што такое магчыма толькі пасля прыняцця імі аднаверства [26. Ф.1430, воп.1, спр.24160, арк.3ад – 6,22].

Нягледзячы на тое, што да схілення да аднаверства былі прыцягнуты вялікія сілы і немала грашовых сродкаў, поспех быў нязначным: у 1859 г. у Віцебскай губерні налічвалася 37873 стараабраднікі, з іх у праваслаўе перайшлі 14 чалавек, а ў аднаверства – 21 [26. Ф.1430, воп.1, спр.52098, арк.2].

Трэба адзначыць, што паміж свецкаю ўладай і царкоўнаю не заўсёды было ўзаемаразуменне ў пытаннях стараабрадніцтва і ўвядзення аднаверства. У рапарце Віцебскаму грамадзянскаму губернатару Полацкі земскі спраўнік скардзіўся на архіепіскапа Полацкага і Віцебскага Васілія. Апошні ў адным са сваіх выступленняў, даючы станоўчую ацэнку ролі духавенства ў распаўсюджванні праваслаўя ў губерні, адзначаў слабую дапамогу ў гэтым з боку грамадзянскага начальства. У заслугу духавенства архіепіскап Васілій прыпісаў далучэнне да аднаверства ў 1851 – 1852 гг. шасцярых духоўных настаўнікаў і 4000 стараабраднікаў. Земскі спраўнік ставіў пад сумненне гэтыя лічбы і лічыў, што гэта поспех не царквы і свяшчэннікаў, а адміністратыўных органаў, якія, выкарыстоўваючы ўладу, часта звярталіся да насілля. Адных арыштоўвалі і трымалі пад стражай у кайданах і без ежы, другім брылі бароды і стрыглі галовы, многіх жорстка білі. З гэтай прычыны многія стараабраднікі вымушаны былі даць распіскі аб сваім далучэнні да аднаверства, але пазней ад яго адмовіліся. Насіллю падвергліся ў асноўным мужчыны, а іх жонкі, дзеці і іншыя члены сем'яў пакідалі сваё жытло і хаваліся ў лясах, ратуючыся такім чынам ад ганенняў і застаючыся ў стараабрадніцтве. Паводле царкоўных спісаў, як даводзіў земскі спраўнік, тых, хто схаваўся, мабыць, запісвалі ў аднаверства. Напрыклад, Ляон Давыдаў, Фёдар Мезенцаў, Мірон Бычацін, Агаф'я Ганчарова, Лаўрэна Клімава, Агрыпіна Іванова, Агаф'я Давыдава, Іван Конанаў, Марцін і Максім Беляевы без іх ведама былі занесены ў аднаверства. Далей спраўнік паведамляў, што калі з'явіліся дадзеныя архіепіскапа, то былі выдзелены вялікія грошы на будаўніцтва аднаверскай царквы. Аднак ніхто ў гэтую царкву не ходзіць, акрамя прычту ды купца Чарнышова, які выконвае абавязкі царкоўнага старасты. Часам сюды насільна на малітву прыводзяць прыхаджан. На споведзі і прычасці амаль нікога не бывае [26. Ф.1430, воп.1, спр.52098, арк.11 - 13].

Гвалтоўныя метады стварэння аднаверскіх цэркваў ужываліся і ў іншых беларускіх губернях. У 1850 г. у Мінскай губерні налічвалася 4105 стараабраднікаў [26. Ф.295, воп.1, спр.1077, арк.36]. Гэта былі беспапоўцы (федасееўцы і філіпаўцы) і папоўцы [39. С. 30]. Пражывалі яны галоўным чынам у Бабруйскім, Барысаўскім і Ігуменскім (цяпер Чэрвеньскі раён)

паветах. У слабадзе Туркі Туркаўскай воласці Бабруйскага павета, дзе ў асноўным пражывалі філіпаўцы, у 1858 г. было 39 сем'яў з агульнай колькасцю 103 чалавекі [26. Ф.242, воп.1, спр.1709, арк.76]. Яны былі найбольш замкнутыя і незгаворлівыя, таму Мінская духоўная кансісторыя ўдзеляла ім найбольш увагі. У 1866 г. Бабруйскі благачынны Філіпоўскі даносіў у Мінскую духоўную кансісторыю аб тым, што стараабрадніцкі духоўны настаўнік у слабадзе Туркі дзейнічае на шкоду праваслаўю і насуперак законаў. Ён задавальняў у духоўных адправах адстаўных і бестэрмінова адпушчаных салдат, хрысціў іх дзяцей і дзяцей іншых прыхаджан, угаворваў праваслаўных перайсці ў стараабрадніцтва. Усё гэта прыводзіла да таго, што не адзін салдат слабады не быў у свяшчэнніка Туркаўскай праваслаўнай царквы. Філіпоўскі паведамляў таксама, што ў 1865 г. ён прасіў міравога пасрэдніка 3-га ўчастка Бабруйскага павета забараніць сялянам слабады Туркі наведваць богаслужэнні стараабраднікаў. Але гэтага не было зроблена.

Разгледзеўшы заяву благачыннага Філіпоўскага, Мінская духоўная кансісторыя вынесла пастанаўленне: строгім чынам загадаць бабруйскаму павятоваму паліцэйскаму ўпраўленню прыняць пад асабістую адказнасць спраўніка і станавога прыстава самыя далікатныя меры да спынення шкоднага ўплыву стараабраднікаў слабады Туркі на праваслаўных; Бабруйскаму павятоваму суду: даручыць судоваму следчаму правесці следства па выстаўленаму супраць стараабрадніцкага духоўнага настаўніка абвінавачванню з далейшай перадачай справы ў суд; неабходна прыняць усе меры да таго, каб сяляне слабады Туркі не наведвалі стараабрадніцкія службы. Аб выкананні паведамляць у Мінскую губернскую па сялянскіх справах установу і ў Мінскую духоўную кансісторыю [26. Ф.242, воп.1, спр.660, арк.1 - 4].

Усе меры па схіленню стараабраднікаў да аднаверства і праваслаўя не мелі поспехаў і ў Мінскай губерні. Тут у Ігуменскім павеце ў 1866 г. у праваслаўе перайшло 30 чалавек: у в.Старына – 12, в.Дукаршчыны – 16, в.Шасцісноп – два чалавекі [26. Ф.242, воп.1, спр.795, арк.8 – 8ад].

Сенату і Свяшчэннаму Сіноду стала зразумелым, што сілавое ўздзеянне на стараабраднікаў ускладняе праблему і для вырашэння яе неабходна прымяніць прапагандысцкія меры. Спачатку такія меры былі прыняты ў Віцебскай губерні, дзе ў 1888 г. была ўведзена пасада епархіяльнага місіянера для барацьбы з "расколам", а 13 красавіка 1893 г. у Віцебску пачаў дзейнічаць камітэт у імя Св. Роўнаапостальскага князя Уладзіміра: задачай камітэта была таксама барацьба з "расколам". Выкладчык мясцовай духоўнай семінарыі І. Т. Нікіфароўскі па прапанове праасвяшчэннага Аляксандра, напісаў "Устав противораскольнического миссионерского комитета Витебского Св. Владимирского братства".

Камітэт займаўся зборам звестак аб колькасці стараабраднікаў, што пражывалі ў губерні; у Віцебску дзеля продажу і бясплатнай раздачы антыстараабрадніцкіх выданняў быў адкрыты склад; тут была таксама адкрыта цэнтральная місіянерская бібліятэка, мэтай якой было аказанне тэарэтычнай і практычнай дапамогі місіянерам. У бібліятэцы была вялікая колькасць старадрукаваных кніг. У губерні з найбольш адукаваных прыходскіх праваслаўных свяшчэннікаў назначаліся акруговыя антыстараабрадніцкія місіянеры.

Прадстаўнікі камітэта наладжвалі гутаркі са стараабраднікамі, распаўсюджвалі кнігі аб праваслаўнай веры. У 1894 г. было бясплатна раздадзена антыстараабрадніцкай літаратуры на 31 руб. 21 кап. У тым жа годзе былі выдадзены ў колькасці 2000 экземпляраў кароткія вытрымкі з гутарак са стараабраднікамі. Нягледзячы на такую актыўную арганізаваную дзейнасць, вынікі ў Віцебскага камітэта былі вельмі сціплыя. У 1894 г. са стараабрадніцтва ў праваслаўе ў губерні перайшло 73 чалавекі, у тым ліку ў Дзвінскім павеце – 39, Віцебскім – сем, Лепельскім – два чалавекі [32. С. 58 - 59].

Пад канец XIX ст. стала відавочным, што стараабрадніцтва шляхам увядзення аднаверства не пераадолець. Як ва ўсёй Расіі, так і ў беларускіх губернях колькасць тых, хто прыняў аднаверства, была нязначнай. Напрыклад, па імперыі ў 1842 г. у аднаверства быў схілены 7921 стараабраднік, у 1850 г. – 4253, з 1882 па 1891 гг. – 15311 стараабраднікаў [51. С. 46]. У Віцебскай губерні ў 1894 г. пражывала 86149 стараабраднікаў, а аднаверцаў 5486 чалавек [26. Ф.1430, воп.1, спр.9510, арк.100]; стараабрадніцкіх малітоўных дамоў у 1905 г. было два мураваныя і 49 драўляных, а аднаверскіх – пяць мураваных і чатыры драўляныя [33. Стат. ведомость “О числе церквей и др. богослужебных заведений по Витебской губерни за 1905 г.”].

У пачатку XX ст. аб аднаверстве на дзяржаўным і царкоўным узроўнях стараліся не ўпамінаць. Дзве рэальныя сілы Расіі – урад і царква – моўчкі абвінавачвалі адна адну. За больш чым стогадовы перыяд існавання аднаверства не было ні аднаго добраахвотнага масавага ў яго пераходу. Як адзначае В.В. Андрэеў, “… наадварот, праваслаўныя прыходзілі ў аднаверства, а потым пераходзілі ў раскол” [1. С. 305]. Адзін з заўзятых праціўнікаў, а потым прыхільнік “расколу” Іван Вярхоўскі аднаверскую няўдачу бачыў у тым, што “ … платонаўскае аднаверства безжыццёвае, бессэнсоўнае, пустое, памылковае … значыць, патрэбна іншае аднаверства.., сутнасць якога заключалася б у тым, што ў ім не царква прымала б раскаяных раскольнікаў, спагадліва дазваляючы ім адпраўляць службы па старых кнігах, а самі раскольнікі, згаджаючыся прыняць ад царквы іерархію, рабілі б ёй паблажку, як раскаянай і

прызнаўшай нарэшце выратавальнасць адпраўлення службы па старых кнігах і па старых абрадах” [60. С. 259].

Для рэформаў Аляксандра II і Аляксандра III характэрным было змяненне палітыкі ў адносінах да стараабраднікаў у бок разважлівасці. Такая палітыка была вынікам сацыяльна-эканамічных перамен: адмена прыгоннага права, увядзенне зямельных устаноў, пачатак унутраных пераўтварэнняў. Аднак стараабраднікі, папоўніўшы спачатку рады аднаверцаў і атрымаўшы эканамічныя даброты, пазней пачалі “паціху” вяртацца ў “раскол”. Сваёй віны ў гэтым не адчувалі, таму што з боку апанентаў – урада і афіцыйнай праваслаўнай царквы – былі не толькі парушэнні свабод, але і злачынствы.

Калі ўспомніць, што галоўнай прычынай прыняцця аднаверства яшчэ з часу Нікадзіма было жаданне ўрада і Свяшчэннага Сінода пастаўляць стараабраднікам сваіх свяшчэннікаў, калі ўлічыць тое, што ў канцы царавання Нікалая II у папоўстве было дастаткова стараабрадніцкіх свяшчэннікаў (іх пастаўляла Белакрыніцкая іерархія), то стане відавочным, што поспеху ў гэтай справе ўлады і афіцыйная праваслаўная царква не дасягнулі.

З’яўленне абаронцаў старога абраду на беларускіх землях было звязана як з барацьбой вакол царкоўнай рэформы, так і з абвастрэннем класавых супярэчнасцей у Рускай дзяржаве ў другой палавіне XYII ст. На беларускіх землях стараабраднікі не падвяргаліся ганенням, калі наладжвалі сваё духоўнае жыццё па старых абрадах. Талерантнасць у адносінах да стараабраднікаў і адсутнасць ненасілля ў адносінах да іншаверцаў былі характэрнымі для ўлад Рэчы Паспалітай. Карыстаючыся гэтым, стараабраднікі на беларускіх землях пабудавалі свае першыя храмы і манастыры і стварылі высокаэфектыўную вытворчасць.

Працяглае жыццё расійскіх стараабраднікаў на беларускіх землях накладвала адбітак на звычаі і традыцыі абаронцаў старога абраду, што прыцягвала сюды з Расіі ўсё новых аднадумцаў. На беларукіх землях стараабраднікі стварылі строгую цэнтралізацыю, кіруючыя цэнтры, напісалі свой статут. Усё гэта прымушала рускія ўлады звяртаць сур’ёзную ўвагу на “замежных” стараабраднікаў, а паколькі польскі бок неахвотна выдаваў расійкіх уцекачоў, то для Расіі адзіным спосабам вяртання іх заставалася выкарыстанне ваеннай сілы. У 1735 г. і 1764 г. рускія войскі насільна ўварваліся ў межы Рэчы Паспалітай і “вывелі” стараабраднікаў, якія трапілі ў поле іх зроку. Адразу пасля выгнанняў Ветка страціла кіруючую ролю ў стараабрадніцкім папоўстве, але праз некаторы час абаронцы старога абраду пачалі вяртацца на Ветку.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай беларускія землі былі ўключаны ў склад Расійскай імперыі, што прымусіла стараабраднікаў

падпарадкавацца расійскім законам, а прынятыя ўрадам меры і маёмаснае расслаенне прымусілі іх адступіць ад многіх абрадавых правілаў.

У першай палавіне XIX ст. урад прыняў жорсткія законы, якія абмяжоўвалі правы і свабоды стараабраднікаў. Аднак палітычная і эканамічная сітуацыя патрабавала ад урада перагледзець адносіны да праблемы стараабрадніцтва і ў першую чаргу афіцыйна прызнаць яго. Урад спачатку не дапускаў думкі аб прызнанні стараабраднікаў і лічыў, што знішчыць “раскол” можна толькі пры ўмове строгага і дакладнага выканання ўказаў і законаў. На Беларусі былі закрыты і знішчаны многія стараабрадніцкія культавыя пабудовы. Як бачым, першая палавіна XIX ст. у гісторыі стараабрадніцтва была складанай і праблематычнай.

Насычанай фактамі і падзеямі ў гісторыі стараабрадніцтва была другая палавіна XIX ст. і пачатак XX ст. У гэты перыяд ураду і губернскім сакрэтна-нарадавым камітэтам давялося пайсці на ўступкі ў адносінах да стараабраднікаў. Сведчаннем таго з’яўляецца ўказ ад 19 красавіка 1874 г., законы ад 22 мая 1876 г. і 3 мая 1883 г. Указ ад 17 красавіка 1905 г. паклаў пачатак змяненню палітыкі самадзяржаўя ў адносінах да праваслаўнай царквы і расшырыў правы стараабраднікаў, якія на беларускіх землях заставаліся вернымі сваёй культавай практыцы і сацыяльным традыцыям.

Свой след на беларускіх землях пакінула і аднаверства, якое ўзнікла ў канцы XУIII – пачатку XIX стст. Пад канец XIX ст. стала відавочным, што царызму шляхам увядзення аднаверства і жорсткіх законаў не перамагчы стараабрадніцтва.

## Літаратура


1. Андреев В.В. Раскол и его значение в народной русской истории. Спб., 1870.
2. Афанасьев Д. Материалы для географии и статистики России. Ковенская губерня. Спб., 1861.
3. Волков В.И. Сведения о начале, распространении и разделении раскола в Витебской губерни. Витебск, 1866.
4. Гарбацкі А.А. Царкоўны раскол і стараверы на Беларусі ў другой палове XУII – першай палове XIX стст. // Беларускі гістарычны часопіс. 1997. №4.
5. Гарбацкі А.А. Стараабрадцы-папоўцы: гісторыя ўзнікнення. // Веснік Брэсцкага універсітэта. 1998. №3.
6. Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губерни. Могилев, 1882. Кн. 1.
7. Дегуцкий летописец. В кн: Древлехранилище пушкинского дома. Материалы и исследования. Л., 1990.
8. Долгоруков В.М. Витебская губерния. Историко-географический исторический обзор. Витебск, 1890. Вып. 1.
9. Еп. Макарий. (Булгаков М.) История русского раскола известного под именем старообрядчества. Спб., 1858.
10. Журавлев А.И. Полное историческое известие о древних стригольниках, и новых раскольниках, так называемых старообрядцах, о их учении, делах и разногласиях. Спб., 1799.
11. Заварина А. Семья и семейный быт русского старожильского населения Латгалии во второй половине XIX и начале XX веков. Дис. канд. ист. наук. М., 1955.
12. Законы о раскольниках и сектантах. М., 1903.

13. Зеньковский С.А. Русское старообрядчество: Духовные движения семнадцатого века. М., 1995.
14. Iwaniec E. Z dziejòw Staroobrzędowcòw na ziemiach Polskich XYII – XX w. Warszawa, 1977.
15. История Беларуси: Учебн. пособие/Е.Л. Абецедарская, П.И. Бригадин, Л.А. Жилунович и др.; Под ред. А.Г. Кохановского и др. Мн., 1997.
16. Иусинов П. К истории федосеевского толка. // Богословский вестник. 1910. Т. 3.
17. Кельсиев В. Сборник правительственных сведений о раскольниках. Лондон, 1860.
18. Кельсиев В. Сборник правительственных сведений о раскольниках. Лондон, 1861. Вып. 2
19. Короткая Т.П., Прокошина Е.С.и др. Старообрядчество в Белоруссии. Мн., 1992.
20. Лилеев М.И. Из истории раскола на Ветке и в Стародубъе XYII – XYIII вв. Киев, 1895. Т. 1. Вып. 1.
21. Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў.
22. Літоўская нацыянальная бібліятэка імя М. Мажвідзіса. Аддзел рукапісаў.
23. Любопытный П. (Святозаров) Каталог или библиотека старообрядческой церкви. М., 1862.
24. Материалы для истории раскола старообрядчества в Могилевской губерни конца XYIII и начала XIX столетий. Могилев, 1902.
25. Мельников П.И. (Андрей Печерский) Очерки поповщины. Спб., 1898. Т.13. Ч. 1.
26. Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь.
27. Никольский Н.М. История русской церкви. М., 1931.
28. Нильский И. О Преображенском московском кладбище. // Христианское чтение. Спб.,1863. №5. Ч. 2.
29. Новые материалы для истории старообрядчества XYII – XYIII вв. собраные Е.В. Барсовым. М., 1890.
30. Обзор Витебской губерни за 1886 г. Витебск, 1887.
31. Обзор Витебской губерни за 1888 г. Витебск, 1889.
32. Обзор Витебской губерни за 1894 г. Витебск, 1895.
33. Обзор Витебской губерни за 1905 г. Витебск, 1906.
34. Обзор Виленской губерни за 1905 г. Вильно, 1907.
35. Обзор Могилевской губерни за 1894 г. Могилев, 1895.
36. Обзор Могилевской губерни за 1896 г. Могилев, 1897.
37. Обзор Минской губерни за 1889 г. Минск, 1890.
38. Обзор Минской губерни за 1892 г. Минск, 1893.
39. Обзор Минской губерни за 1896 г. Минск, 1897.
40. Обзор Минской губерни за 1897 г. Минск, 1898.
41. Обзор Минской губерни за 1900 г. Минск, 1901.
42. Обзор Минской губерни за 1904 г. Минск, 1905.
43. Обзор Минской губерни за 1912 г. Минск, 1913.
44. Обзор Минской губерни за 1913 г. Минск, 1914.
45. Опыт описания Могилевской губерни. Могилев, 1882. Кн. 1.
46. Памятная книжка Ковенской губерни на 1891 г. Ковно, 1892.
47. Памятная книжка Ковенской губерни 1915 г. Ковно, 1916.
48. Подмазов А. Старообрядчество в Латвии. Рига, 1970.
49. Покровский Н.Н. Антифеодальный протест крестьян старообрядцев Урала и Западной Сибири и борьба с ними в XYIII в. Дис. докт. ист. наук. Новосибирск, 1973.
50. Полное собрание законов Российской империи. Спб., 1830. Т. У. №2991.
51. Преображенский И. Отечественная церковь по статистическим данным с 1840/41 по 1890/91 гг. Спб., 1897.
52. Расійская нацыянальная бібліятэка ў С. Пецярбургу. Зал рукапісаў. Збор Колабава. №260.
53. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў.
54. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у С. Пецярбургу.
55. Рубинштейн С.Ф. Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерням Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет с 1652 по 1892 гг. Вильно, 1894.
56. Сапунов А. Витебская старина. Спб., 1883. Т. 1.
57. Сементовский А. Этнографический обзор Витебской губерни. Спб., 1872.
58. Семенов П.П. Живописная Россия. Литовское и белорусское полесье. Спб., 1882.
59. Соловьев С.М. Соч., Т. 23. Кн. XII. М., 1964.
60. Смирнов П.С. История русского раскола старообрядчества. Рязань, 1893.

61. Старообрядец. 1906. №4.
62. Старообрядец. 1906. №5.
63. Эканамічная гісторыя Беларусі. Пад рэд. В.І. Галубовіча. Мн., 1993.

# ГЛАВА 3

# ГАСПАДАРЧА-ЭТНАГРАФІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ЖЫЦЦЯ СТАРААБРАДНІКАЎ НА БЕЛАРУСІ

## 3.1. Гаспадарчыя заняткі і промыслы

У апошні час ва ўмовах духоўнага адраджэння і фарміравання новых поглядаў на міжнацыянальныя і рэлігійныя адносіны выявілася патрэба ва ўсебаковым пераасэнсаванні стараабрадніцтва, вывучэнні матэрыяльнай культуры стараабраднікаў, якія пражывалі і пражываюць на беларускіх землях.

Вывучэнне жыцця і побыту абаронцаў старога абраду, якія жылі на беларускіх землях, дазваляе глыбей пазнаць асаблівасці іх характару, паказаць іх жыццялюбства, замілаванне да працы, іх творчыя сілы.

У гісторыі стараабрадніцтва былі пад'ёмы і спады. Поспехі і няўдачы залежылі ад урадавай палітыкі ў адносінах да стараабраднікаў і месца іх пражывання. Перыяд з канца XУII і да канца XУIII стст. быў перыядам адносна спакойнага жыцця абаронцаў старога абраду, якія знайшлі прытулак у Вялікім княстве Літоўскім. Тут стараабраднікі паступова былі ўцягнуты ў шматбаковыя жыццёвыя працэсы, што знаходзіла сваё выяўленне ў росце прадукцыйных сіл, спецыялізацыі розных напрамкаў гаспадаркі. Неабходна адзначыць, што прысутнасць стараабраднікаў узмацняла асаблівасці розных сфер гаспадарчага і культурнага жыцця.

Як ужо адзначалася, стараабраднікі першапачаткова пасяляліся на землях Гомельшчыны і Віцебшчыны, землі якія на час перасялення ўваходзілі ў Віленскае, Полацкае, Віцебскае і Менскае ваяводствы. У канцы XУII і ў XУIII стст. асновай іх жыцця былі земляробства і жывёлагадоўля, пазней яны пачалі займацца рамесніцтвам і адыходным промыслам. У сваіх паселішчах яны арганізоўвалі жыццё і гаспадарку так, што амаль усё выраблялася на месцы, а тое, чаго не хапала, дастаўлялася з тых мясцін, дзе жылі іх аднадумцы. Гадоўля жывёлы забяспечвала іх цяглавай сілай і давала ўгнаенні. Структура земляробства ў

стараабраднікаў, як і, дарэчы, у беларусаў, на працягу стагоддзяў амаль што не мянялася.

На землях Веткаўшчыны, што ўваходзілі ў Менскае ваяводства, а пазней у Магілёўскую губерню, пражывала найбольшая колькасць стараабраднікаў. Як у Ветцы, так і ў цэлым на Гомельшчыне, земляробства было выгадным, тут былі спрыяльныя прыродныя ўмовы, урадлівая глеба і добры клімат. Пры дастатковым угнаенні зямля давала добрыя ўраджаі. З азімых збожжавых стараабраднікі высявалі пераважна жыта, у нязначнай колькасці пшаніцу, з яравых – пераважна авёс, грэчку, ячмень, каноплі, лён, у нязначнай колькасці яравую пшаніцу, гарох, чачавіцу, проса. Вялікімі былі пасевы бульбы, якая ішла як на харчаванне людзей, так і на корм жывёле. Вырошчваліся таксама буракі, галоўным чынам для патрэб хатняга ўжытку. Усе пералічаныя культуры высяваліся ў канцы XYII ст. і ў XYIII ст. пры трохпольнай сістэме севазвароту.

Стараабраднікі Гомельскага староства Рэчыцкага павета ў першай палавіне XYIII ст. займаліся як земляробствам, так і адыходным промыслам. У в.Добруш у пачатку 1738 г. было 54 гаспадаркі стараабраднікаў, якія штогод плацілі 1273 злотыя чыншу. Больш як $^{1}/_{3}$ валокі зямлі мелі Максім Маслёнка і Сямён Золдак, якія за год плацілі чыншу 53 злотых 3 грошы. Больш як ¼ валокі зямлі мелі Амельян Герасімёнок і Еўмен Ермачонак. У в.Рамановічы было 20 гаспадароў-стараабраднікаў, з якіх Янко Юхмёнак меў ¼ валокі, Сцяпан Сямёнак – $^{1}/_{6}$, Сямён Якавёнак – $^{1}/_{6}$, Васілько Якавёнак – $^{1}/_{3}$, Даніла Трухан – $^{1}/_{24}$ валокі. Агульная сума чыншу тут складала 450 злотых. У в.Карма пражывалі 64 гаспадары-стараабраднікі. У в.Беліца сем чалавек мелі па ½ валокі, восем чалавек – па ¼ валокі, сярод іх былі Ляон Вахмат, Іван Шумскі, Панко Влас, Іван Філіпёнак. У слабадзе Мар'інай пражывала 70 гаспадароў-стараабраднікаў. Гэта была слабада, дзе заўсёды пражывала найбольшая колькасць стараабраднікаў. Многія землеўладальнікі тут выкарыстоўвалі трохпольную і шматпольную сістэму севазвароту [5. ДА. 3774, арк.1292 – 1292ад, 1293ад, 1299 - 1300].

У XYIII ст. на землях дзе пражывалі стараабраднікі назіраецца спецыялізацыя паасобных паветаў. У Сенненскім і Магілёўскім паветах і ў слабадзе Новая Мільча Рэчыцкага павета (пасля падзелу Рэчы Паспалітай яны ўваходзілі ў Магілёўскую губерню) стараабраднікі вырошчвалі таварны лён не толькі на землях уласных, але і на арандуемых. У XIX ст. за арэнду дзесяціны зямлі пад лён у Магілёўскім і Сенненскім паветах плацілі за аблогу ад 5 да 10 руб., а за ўгноеную зямлю (у слабадзе Новая Мільча Гомельскага павета) – па 55 руб. за дзесяціну. Ільняное семя стараабраднікі прадавалі па цане 1 – 1,55 руб. за пуд, а льносаломку – 3 – 4

руб. за пуд [10. С. 671]. Свае палі стараабраднікі добра ўгнойвалі і атрымлівалі вышэйшы, чым сяляне-беларусы, ураджай.

У перыяд сяўбы і ўборкі ўраджаю стараабраднікі Гомельшчыны дапамагалі адзін аднаму, асабліва пры сяўбе, уборцы, мачэнні і падборцы таварнага ільну.

У XIX ст. больш заможныя стараабраднікі побач з трохполлем пачалі выкарыстоўваць шматпольную сістэму севазвароту. У другой палавіне XIX ст. мелі свае землі і свае гаспадаркі ў Рэчыцкім павеце Зубаў Іван Мацвеевіч (75 дзесяцін зямлі), Гарбуноў Грыгорый Міхайлавіч (60 дзесяцін зямлі), Фількоў Васілій Ларыёнавіч (38 дзесяцін зямлі), Худобнікаў Пётр Ларыёнавіч (30 дзесяцін зямлі), Пчолаў Купрыян Васільевіч (33 дзесяціны зямлі) [8. Ф.295, воп.1, спр.3836, арк.2 – 2ад].

Займаліся стараабраднікі і жывёлагадоўляй. Жывёла ў іх была больш пародзістая, чым у мясцовага насельніцтва. Каровы і коні, як правіла, рускай пароды, былі большыя па сваіх паказчыках і пераўзыходзілі мясцовае пагалоўе. Гэта былі ў асноўным пароды кароў і коней, якіх стараабраднікі прывозілі з Варонежскай і Тамбоўскай зямель [11. С. 1 – 3, 8 - 9].

Эфектыўна займаліся стараабраднікі і агародніцтвам. Гэты від дзейнасці быў добра развіты вакол Гомеля, Рэчыцы, Добруша, Магілёва і буйных слабод. Высокі даход атрымлівалі ад продажу капуснай расады, агуркоў, цыбулі і капусты. Прыбытак залежыў ад спрактыкаванасці агародніка, велічыні агароду і ўраджаю агародніны. У першай палавіне XУІІІ ст. агародніцтва вакол Гомеля мела ўжо таварны характар. Тут ім займаліся Кірыл Рудак (меў ½ валокі зямлі, 3 сенажаці, плаціў 9 злотых і 1 грош чыншу), удава Герасімава-Міхайлава (мела ½ валокі зямлі, 3 сенажаці, 3 агароды, плаціла 5 злотых і 2 грошы чыншу), Павел Шванскі (меў ¼ валокі зямлі, 2 сенажаці, 2 агароды, плаціў 6 злотых 10 грошаў чыншу), С. Канавалёнак (меў ½ валокі зямлі, 6 сенажацяў, 1 агарод, плаціў 7 злотых 6 грошаў чыншу). Падчас першага выгнання стараабраднікаў з беларускіх зямель агародніцтву іх была прычынена вялікая шкода. У 1736 г. страты агароднікаў Гомеля склалі 488 злотых [5. ДА. 3774, арк.1290 – 1291ад, 1308ад].

У XIX ст. стараабраднікі расшырылі агародніцтва вакол гарадоў і буйных слабод. Маючы ўласныя агароды, яны бралі ў арэнду пад агароды землі, размешчаныя непадалёку ад гарадоў і буйных населеных пунктаў. За дзесяціну арандаванай пад агарод угноенай зямлі яны плацілі за сезон ад 20 да 40 руб. Асобныя гаспадары, якія спецыялізаваліся толькі на агародніцтве, атрымлівалі ў сярэдзіне XIX ст. да 300 руб. даходу за сезон [5. ДА. 3786, арк.6; 10. С. 670].

У пачатку XIX ст. стараабраднікі на Гомельшчыне і Магілёўшчыне эфектыўна займаліся садаводствам і арэндай садоў. У вялікіх памерах было развіта садаводства ў Гомельскім павеце. У прадмесцях Гомеля, Беліцы, Добруша, Агародні-Гомельскай і ў буйных слабадах стараабраднікі мелі сады, якія прыносілі да 800 руб. даходу ў год. Пры некаторых садах былі гадавальнікі на некалькі тысяч саджанцаў. Маладыя дрэўцы – ад двух да чатырох гадоў – увосень выкопвалі і развозілі па паветах губерні, а іншы раз і ў суседнія губерні – для продажу. За дрэўца з пасадкай на месцы і з падсадкай (г.зн. пры ўмове калі дрэўца “не прымецца”, - у наступным годзе пасадзіць новае) плацілі ад 50 кап. да 1 руб. 50 кап. і больш, у залежнасці ад велічыні саджанца, яго якасці і сорту. За арэнду вялікіх садоў стараабраднікі плацілі за сезон па 2000 руб. Садавіну з такіх гаспадарак прадавалі ў Маскве, Пецярбургу, Старадуб’і, Кіеве [10. С. 670 - 671].

Надзвычай разнастайнымі былі заняткі і промыслы стараабраднікаў Гомельшчыны. У канцы XУIII ст. тут пражывалі багатыя купцы-стараабраднікі, якія на сотні тысяч рублёў гандлявалі збожжам, соллю, лесам, а таксама коньмі і жывёлай; дробныя гандляры прадавалі вырабы мясцовых рамеснікаў. Сярод стараабраднікаў былі лоцманы, рамізнікі і возчыкі, цесляры, муляры, фарбавальшчыкі і суднаўладальнікі, і такія, што займаліся фрахтаваннем. Шмат хто займаўся адыходным промыслам.

Высокага ўзроўню дабрабыту дасягнулі ў XУIII ст. стараабраднікі, якія жылі на беларускіх землях. Асабліва славіўся гандаль. Веткаўскія купцы былі вядомымі ў Маскве, Пецярбургу, Кіеве, Рызе, Варшаве, Вільні і іншых гарадах. Інтэнсіўным быў гандаль са Старадуб’ем. У сярэдзіне 60-х гадоў XУIII ст. сума гандлёвых здзелак дасягала такіх маштабаў, што Кіеўская канцылярыя ў 1766 г. звярнулася ў Сенат з паведамленнем аб тым, што стараабраднікі разгарнулі вялікі гандаль за мяжою і гандлююць забароненым таварам. У 1776 – 1777 гг. расійскі князь М.М. Шчарбатаў адзначаў, што “сии слободы богатятся всякою их торговлею из Польши”. Згодна з перапісам 1781 г., у старадубскіх слабадах налічвалася каля тысячы купцоў і сотні лавак. Напрыклад, у слабадзе Зыбкай лавак было 75. У кожнай слабадзе дзейнічалі пастаянныя рынкі, да пяці разоў у год адбываліся кірмашы [17. С. 24]. Па прыкладзе старадубскіх слабод быў арганізаваны гандаль і ў веткаўскіх слабадах. Далёка разыходзілася слава пра Ветку, Добруш, Маркавічы, слабоды Вылеўская, Спасава, Раманаўская, Лявонцьеўская, Косіцкая. На кірмашах у веткаўскіх слабадах стараабраднікі прадавалі збожжа і хлеб, соль, збрую, драўляны посуд, жывёлу, коней, гандлявалі футрам. За мяжу яны вывозілі лес, футры, жывёлу, коней. Веткаўскія купцы асабліва славіліся футрам бабра. Лоўля і выраб футра з бабра былі арганізаваны на высокім узроўні. Напрыклад, у

1736 г. казна Гомельскага староства недаатрымала з-за выгнання стараабраднікаў ад лоўлі бабра чыншу 180 злотых [5. ДА. 3774, арк.1310]. У XIX ст. веткаўскія купцы расшырылі маштабы гандлю збожжам, соллю і лесам. Пшаніца, напрыклад, закупалася ў паўднёвых і збывалася ў сярэдніх і паўночных губернях Расіі, вывозілася за мяжу. Соль куплялі таксама на поўдні, а прадавалі ў сярэдняй паласе Расіі. Зноў жа з паўночных і сярэдніх губерняў веткаўскія стараабраднікі везлі лес. Карабельную драўніну прадавалі за мяжою, а таварную – у паўднёвай Расіі. Дробныя гандляры збожжам закупалі яго ў Кіеўскай губерні, у Ржышчаве, а таксама на іншых прыстанях на Дняпры. Потым збожжа дастаўлялася ўверх па Дняпры, частку яго прадавалі ў Магілёве, а астатняе ссыпалі ў мястэчку Шклове ва ўласных або арандаваных амбарах на беразе ракі. Прывезенае такім чынам збожжа прадавалася потым мясцовым купцам-яўрэям у Горацкі, Сенненскі, Аршанскі паветы, а таксама ў Віцебскую, Смаленскую губерні. Пасля пабудовы Ландварова-Ромненскай чыгункі збожжа большай часткай перавозілася вагонамі і толькі невялікая частка перапраўлялася водным шляхам да Шклова.

Займаліся стараабраднікі і гандлем жывёлай. Яе закупалі на паўднёвых базарах і кірмашах. Калі жывёла была добра адкормленая, то яе адразу ж пераганялі жывёлапрыгонным трактам у Пецярбург, а пасля таго, як была пабудавана чугунка, перавозілі вагонамі. Калі ж жывёла была худая, то яе ставілі ад трох да шасці месяцаў на адкорм. Дзеля гэтага на вінакурнях арандавалі памяшканні і выкарыстоўвалі адходы вытворчасці. Адкормленая жывёла прадавалася на месцы або ў Пецярбургу. Гандлявалі стараабраднікі і коньмі. Іх куплялі на поўдні з табуноў або на конезаводах і адпраўлялі на продаж у Рыгу, Маскву, Пецярбург і на ярмаркі ў іншыя гарады.

Вёўся гандаль і дробнымі прадметамі. На мясцовых кірмашах і ў іншых гарадах купцы-стараабраднікі гандлявалі саленнем, свежаю рыбай, сальнымі свечкамі, салам, канапляным і сланечнікавым алеем. На базарах прадаваліся экіпажы, сані, павозкі, якія выраблялiся зімою ў слабадах. Напрыклад, у 1842 г. у Беліцы гандлем такім таварам займаліся 46 купцоў-стараабраднікаў [8. Ф.2001, воп.1, спр.170, арк.13; 10. С. 668 - 669].

Разнастайнымі былі промыслы стараабраднікаў Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Многія з іх на працягу ХУІІІ і ХІХ стст. былі суднаўладальнікамі. На прыстанях Сожа і яго прытоках, у Ветцы, Гомелі, каля Беліцы і Пеставатай, у вёсках Скітка, Дзятлавічы, у Новых Церашковічах будаваліся берліны (невялікія судны), гаспадары якіх займаліся сплавам грузаў (фрахтам). Яны наймалі рабочых, звычайна сваіх аднадумцаў, бралі на свае берліны розны груз і атрымлівалі за сплаў у сярэдзіне XIX ст. ад 15 да 20 кап. і болей за пуд. На невялікае судна

ўмяшчалася ад 10 да 12 тысяч пудоў грузу. За сезон гаспадары суднаў рабілі не менш як два сплавы. Тавар сплаўляўся ў Рыгу, Пецярбург, Кіеў, Дынабург, Віцебск. Некаторыя стараабраднікі былі лоцманамі, або, як іх называлі, "атаманамі" на плытах і барках у час сплаву лесу па рэках, асабліва па Сожы і Дняпры. "Атаманы" кіравалі рабочымі пры сплаве лесу. Атрымлівалі яны за тыдзень працы ад 7 да 10 рублёў.

Былі сярод стараабраднікаў прафесійныя цесляры, муляры, маляры і іншыя майстры, якія займаліся адыходнымі промысламі. Мужчыны ішлі ў гарады, галоўным чынам у Гомель, Кіеў, Маскву. За сезон зараблялі ад 100 да 150 руб. і болей [10. С. 669 – 670; 6. С. 13].

Заслугоўваюць увагі і іншыя віды дзейнасці стараабраднікаў. У Гомельскім старостве ў ХУІІІ ст. яны ў вялікай колькасці здабывалі гліну і рабілі цэглу. У першай палавіне ХУІІІ ст. даход ад продажу цэглы складаў штогод да 2840 злотых. Вялікі даход прыносілі млыны і рудні. У сярэдзіне ХУІІІ ст. млыны і рудні мелі Апанас Баран, Іван Баран, Лаўрэн Баран, удава Іванка ( кожны з іх плаціў штогод па 440 злотых чыншу), браты Сіліцкія (плацілі штогод 440 злотых чыншу), Пётр Дземідзюк (плаціў штогод 320 злотых чыншу) [5. ДА. 3774, арк.1308ад,1310]. Зараблялі стараабраднікі і возніцтвам. Добра было наладжана яно ў ХІХ ст. у Гомельскім павеце. Буйныя кірмашы, што адбываліся ў Гомелі і Ветцы, патрабавалі вялікай колькасці возчыкаў. Да будаўніцтва Ландварова-Ромненскай чыгункі высокі даход давала возніцтва па шашы Гомель – Кіеў і па дарозе паміж Гомелем і Ромнамі. Некаторыя стараабраднікі займаліся возніцтвам па гарадах. (Напрыклад, у Гомелі і Магілёве). Для гэтага выкарыстоўвалі лёгкія экіпажы – брычкі, дрожкі, сані. Гарадскі возчык зарабляў за дзень каля трох рублёў [10. С. 670].

Пэўныя асаблівасці былі і ў гаспадарчым жыцці стараабраднікаў Віцебшчыны. Як ужо адзначалася, землі сучаснай Віцебскай вобласці ў разглядаемы перыяд уваходзілі спачатку ў розныя ваяводствы Рэчы Паспалітай, а пазней – у губерні Расіі. Таму назвы гарадоў, вёсак і іншых паселішчаў будзем даваць згодна з іх адміністрацыйна-тэрытарыяльным размяшчэннем у канцы ХУІІ – пачатку ХХ ст.

Асноўнай формай заняткаў стараабраднікаў Віцебшчыны ў той перыяд было земляробства і падсобныя гаспадаркі ў межах свайго населенага пункта або невялікай тэрыторыі. Трохпольная сістэма севазвароту была пашырана паўсюдна з рэдкімі выпадкамі падсеву канюшыны на яравым полі. Шматпольная сістэма сустракалася ў больш багатых стараабраднікаў. Літоўская саха і драўляная барана ў канцы ХУІІ - ХУІІІ стст. былі асноўнымі прыладамі, якімі апрацоўвалася зямля. Цяглавай сілай былі коні і валы. Угнойвалі глебу гноем, часам торфам і попелам. Са збожжавых больш за ўсё сеялі жыта, якое разам з бульбай

было галоўным прадуктам харчавання. Жыта сеялі таму, што яно не было пераборлівае на глебу, яго вырошчванню адпавядалі і кліматычныя ўмовы Віцебшчыны. Акрамя жыта, стараабраднікі сеялі авёс і ячмень. У ХУІІІ і ХІХ стст. на Віцебшчыне са збожжавых найбольш высявалі ячмень. Тлумачылася гэта блізкасцю Прыбалтыйскага краю, у прыватнасці Латвіі, дзе сеялі шмат гэтай культуры на вытворчасць піва. Значную частку ячменю віцебскія стараабраднікі здавалі на бровары. Добрыя ўраджаі на Віцебшчыне даваў і авёс, тэхналогію вырошчвання якога стараабраднікі перанялі ад сялян Смаленшчыны. Расліна гэтая добра пераносіла вільготнае і халоднае надвор’е, давала нядрэнныя ўраджаі на падзолістых землях. Аднак пасяўныя плошчы аўса былі ў два разы меншыя, чым плошчы пад жытам.

Віцебскія стараабраднікі вялікую ўвагу ўдзялялі таксама вырошчванню лёну на продаж. Сеялі яго часцей за ўсё на палях з-пад канюшыны, дзеля гэтага арандавалі памешчыцкія землі: лён тут даваў добры ўраджай, а значыць, і добрую грашовую падтрымку гаспадарцы. Інтэнсіўна вырошчвалі тут лён у першай палавіне ХІХ ст. у такіх маёнтках Браслаўскага павета, як Дрысвяты, Лакіны, Відзы Альбрахтоўскія, Відзы Лоўчынскія, Кавалёва, а таксама на землях Дубінаўскага староства і Залескага вайтоўства [19. С. 21; 5. Ф.752, воп.1, спр.22, арк.1 – 1ад.].

Згодна з архіўнымі данымі ў 1825 г. паспяхова займаліся земляробствам у Відзах Мірон Фёдараў Краснякоў (32 гады), яго жонка Аксенья (30 гадоў), іх сям’я складалася з шасці чалавек; Аляксей Егораў Мядзведзеў (62 гады), яго жонка Палагея (50 гадоў), іх сыны Васіль, Аляксандр і дачка Анна. У Браслаўскім павеце: Агап Сямёнаў (50 гадоў), Раман Фёдараў (30 гадоў), Фёдар Фамін (25 гадоў), Марко Кандрацьеў (60 гадоў), Ермалай Анісімаў (45 гадоў), Іван Паўлаў (26 гадоў). У Браслаўскай парафіі: у в.Жвірыні – Макар Кандрацьеў, яго жонка Агафія; Кірыла Мітрафанаў, яго жонка Акінья; у в.Юдалоўцы – Максім Ефімаў, яго жонка Наталья; у засценку Пустошка – Трафім Радзіёнаў, яго жонка Матрона [5. Ф.725, воп.1, спр.120, арк.2; спр.128, арк.1 – 4; спр.1, арк.21 – 22ад.]. На Віцебшчыне стараабраднікі займаліся і агародніцтвам [8. Ф.1430, воп.1, спр.9510, арк.101].

У першай палавіне ХІХ ст. у Відзах многія стараабраднікі былі рамеснікамі. Так, кавальскай справай займаліся Фядосій Сцяпанаў Кузняцоў (30 гадоў) з братам Ефімам (28 гадоў), Сяргей Кузьмін Зуй (30 гадоў). Цяслярскія работы і распілоўку дошак выконвалі Грыгорый Ляонаў (55 гадоў), Макар Рагоза (60 гадоў), Ізот Макараў (85 гадоў) з сынам Сямёнам (35 гадоў). Міхайла Фадзееў (60 гадоў) быў майстрам-краўцом, а Кандрацій Масееў (60 гадоў) з сынам Клімам выраблялі скуры і выконвалі іншыя падсобныя работы. Добра быў наладжаны ў Відзах і гандаль.

Большасць лавак тут належала стараабраднікам. Свае лаўкі мелі: Елісей Карнееў Муцьянкін (56 гадоў) і Нікіта Карнееў Муцьянкін (50 гадоў) [5. Ф.725, воп.1, спр.120, арк.2 - 14]. Даследчык стараабрадніцтва ў Віцебскай губерні А. Семянтоўскі адзначаў: “…деятельность великорусса обширнее, разнообразнее и выгоднее, чем деятельность белоруса, который всегда с завистью смотрит на первого. Жиды видят в великоруссах опасных соперников в делах торговых и нерешаются так безцеремонно эксплуатировать их как белорусов” [19. С. 21].

Гандлявалі віцебскія стараабраднікі і за межамі сваёй губерні. Гандлявалі коньмі і рагатай жывёлай, птушкай, лесам і ільном, які куплялі ў сваіх аднадумцаў. Лес у вялікай колькасці сплаўляўся за мяжу. Галоўным шляхам для сплаву была рака Нёман і яе прытокі. У зімовы час лес падвозілі да берагоў рэк, рабілі плыты, а ўвесну сплаўлялі да месц прызначэння – у прускі горад Цільзіт. Будаўнічы лес сплаўляўся бярвеннямі або абчасанымі брусамі.

У другой палавіне XIX ст. адным з важных артыкулаў даходу віцебскіх стараабраднікаў быў гандаль гусямі. Гусі мясцовай – буйной, даўгашыяй пароды адпраўляліся выключна ў Германію, дзе прадаваліся па 5 – 6 марак за штуку. Сярэдні кошт гусі пры закупцы ў Новааляксандраўскім павеце складаў 90 кап. У адзін вагон памяшчалася 1200 штук. У 1893 г. са станцыі Ракішкі было адпраўлена 60 вагонаў з жывымі гусямі, за якія быў атрыманы даход больш як 400 тыс. марак. Акрамя гэтага, стараабраднікі адпраўлялі са станцыі Ракішкі мяса ў Рыгу і С.-Пецярбург [7. С. 391]. Шырокі гандаль вялі відзаўскія купцы: браты Іван і Аляксандр Кузьмін Зуй, пяць купцоў з в.Федасоўкі, 16 – з в.Гараваткі, шэсць з в.Круцюнкі Гарадоцкага павета, а таксама купцы з Полацкага павета Лістрат Балбатуноў, Егор Табуноў, Сямеон Маеўскі, Іван Хахлоў [5. Ф.725, воп.1, спр.120, арк.14; 8. Ф.1430, воп.1, спр.8095, арк.103, спр.24331, арк.6ад.].

На Віцебшчыне стараабраднікі займаліся і адыходнымі промысламі, мелі падсобныя гаспадаркі. Яны займаліся лоўляй рыбы, возніцтвам, цяслярствам, выраблялі цэглу, арандавалі сады, у аколіцах Браслава вязалі рыбалоўныя сеткі і рабілі снасці. Акрамя таго, значны даход атрымлівалі ад капання равоў і працы на чыгунцы. У другой палавіне XIX ст. у Новааляксандраўскім павеце значны даход стараабраднікам прыносіла рыбалоўства. З мясцовых азёраў багатымі на рыбу былі Дрысвяцкае (Браслаўскае) і Дрывяцкае. Асабліва багатым быў улоў судака і шчупака: у адзін заход выцягвалі да 500 пудоў рыбы. Занятыя пры гэтым стараабраднікі атрымоўвалі па 15 кап. ад тоны. Рыбу прадавалі ў Дзвінску, Вільні, Варшаве. Добры даход давала і лоўля ракаў, якія сотнямі тысяч адпраўляліся за мяжу [19. С. 21; 7. С. 503,579; 2. С. 81 - 83].

На Міншчыне, як ужо адзначалася, стараабраднікі з’явіліся пазней – у сярэдзіне ХУІІІ ст. Другая хваля перасяленняў прыпадае пад канец ХУІІІ ст. У 1735 г. і 1764 г. стараабраднікі, пасля выгнання іх з Веткі і часткова з Віцебшчыны, пасяліліся ў непраходных лясах Бабруйшчыны і Барысаўшчыны. Яны тут і аселі. Спачатку бралі зямлю ў арэнду, а пазней пачалі набываць яе ва ўласнасць. Зямлю стараабраднікі апрацоўвалі больш старанна, чым мясцовае насельніцтва, і атрымлівалі добры ўраджай. У гаспадарках стараабраднікаў і жывёла была лепшай пароды. У другой палавіне XIX ст., з першага студзеня 1875 г. па першае студзеня 1883 г., у Ігуменскім павеце 61 сям’я стараабраднікаў набыла сваю зямлю і эфектыўна займалася земляробствам. З іх 26 гаспадароў былі мяшчане, 35 - сяляне. Дзевяць гаспадароў мелі зямлі больш як па 100 дзесяцін, а астатнія – да 100 дзесяцін. Міхайлоўскі Васілій Пятровіч меў 139 дзесяцін зямлі, столькі ж зямлі мелі Наумаў Павел Ільін, Ларыонаў Кузьма Іванавіч, Кандрацьеў Агафон Максімавіч, 180 дзесяцін меў Недарэзаў Карп Клімавіч, 134 дзесяціны – Селязнёў Макарый Платонавіч [12. С. 93; 14, С. 37; 8. Ф.295, воп.1, спр.1209, арк.7 – 13ад].

У Барысаўскім павеце за гэты ж перыяд – з 1 студзеня 1875 г. па 1 студзеня 1883 г. – землеўладальнікамі сталі 25 стараабраднікаў – 13 мяшчан і 12 сялян. Імі былі Сасноўскі Герасім, які меў 150 дзесяцін зямлі, Баравікоў Філімон Паўлавіч – 140 дзесяцін, Прышчэп Яўген Емельянавіч і Аўдзееў Арцемій Фёдаравіч мелі па 100 дзесяцін, Баравікоў Ісаак Паўлавіч меў 120 дзесяцін. У Бабруйскім павеце з 1 студзеня 1875 г. па 1 студзеня 1883 г. зямлю набылі ва ўласнае карыстанне 142 стараабраднікі – 28 мяшчан і 114 сялян. Найбольшую колькасць зямлі набылі: Цярэнцій Ігнацій Макеевіч – 95 дзесяцін, Собалеў Максім Сцяпанавіч – 120 дзесяцін, Волкаў Якаў Іванавіч – 90 дзесяцін, Падшывалаў Сысой Максімавіч, Бяляеў Павел Пракоф’евіч, Курляндчык Кузьма Артамонавіч, Сухоцкі Нікіфар Ляонцьевіч - па 80 дзесяцін, Баканаў Іван Васільевіч – 60 дзесяцін [8. Ф.295, воп.1, спр.1209, арк.15ад – 24; 29ад – 44ад].

Стараабраднікі на Міншчыне сеялі жыта, азімую пшаніцу, кармавыя травы, на пясчаных землях – лубін, высявалі таксама лён і каноплі.

Сярод стараабраднікаў Міншчыны было таксама шмат рамеснікаў і гандляроў. Многа майстроў было і сярод сельскага насельніцтва, якія пасля заканчэння сельскагаспадарчых работ ішлі на адыходныя промыслы, а там, дзе было шмат лесу, знаходзілі занятак на месцы. Лепшым часам для саматужных работ была зіма, аднак ужо з восені хлебаробы рыхтаваліся да зімовых промыслаў: рамантавалі сеткі, выраблялі дробныя часткі саней, рабілі збрую. Да каляд у большасці гаспадарак быў закончан абмалот збожжа, а пасля святак стараабраднікі вілі вяроўкі, шылі хамуты, вычэсвалі часткі да вазоў: абады, спіцы, восі, аглоблі, плялі карабы на сані. Акрамя

гэтага, выраблялі клёпку для бочак, гонту для дахаў, выразалі лыжкі і іншы посуд, плялі з лазы кошыкі і лапці. Жанчыны ў зімовы час займаліся вышываннем і ткацтвам. Дзяўчаты і маладыя жанчыны ўвечары і раніцою пры лучыне пралі лён і воўну. Старэйшыя жанчыны ткалі кужаль і простае шэрае сукно. Ткалі і белае сукно, якое ішло на пашыў світак (армякоў), і белае ўзорыстае – на жаночае адзенне (спадніцы). Некаторыя майстрыхі ткалі белае сукно самых вынаходлівых узораў, часцей за ўсё ў гронкі або палоскі. Для такога ткання выкарыстоўвалася каляровая пража. Большай часткай яна была яскрава-чырвонага, зялёнага, сіняга, жоўтага і чорнага колеру. Ткалі таксама паясы і "кушаки" [13. С. 3; 16. С. 89 - 92].

Да мясцовых саматужных промыслаў належылі паляўніцтва і рыбалоўства. Стараабраднікі палявалі на дзіка, лісу, выдру, бабра, куніцу. У 1765 г., падчас другога выгнання абаронцаў старога абраду з беларускіх зямель, яны недаатрымалі прыбытку ад палявання на баброў у Парэцкім, Зарэцкім і Брожскім ключах Бабруйскага староства 96 тымфаў, а ўсяго ад палявання недаатрымалі – 190 тымфаў [5. ДА. 3801, арк.26].

Да адыходнага промыслу стараабраднікаў трэба аднесці высечку, вываз і сплаў лесу, а таксама будаванне на прыстанях рачных суднаў. Акрамя гэтага, у промыслы ўваходзілі цяслярства, мурарскія і пячныя работы, возніцтва [8. Ф.295, воп.1, спр.701, арк.42ад; 15. С. 17].

Займаліся мінскія стараабраднікі і гандлем. Асноўнымі таварамі, што вывозіліся за межы губерні, былі лесаматэрыялы, лён, пянька, пушніна, а таксама жывёла. Гандлявалі мінскія стараабраднікі нядрэнна, пра што сведчыць той факт, што ў першай палавіне XIX ст. у Бабруйскім павеце купцамі 2-й гільдыі былі Ермалай Ільін Пачынін, якому весці гандаль дапамагалі сыны Міхаіл, Іван, Філіп і Кірыла; купцом другой гільдыі быў брат Ільі Пачыніна Сцяпан Пачынін, якому дапамагалі сыны Васілій, Ерамей і Іосіф. Купцамі трэцяй гільдыі былі шэсць чалавек, сярод якіх Кірыла Наумаў Курлянд, Карп Туронт, Наум Нікіціч Курляндчык, Фёдар Наумаў Бабкоў [8. Ф.295, воп.1, спр.701, арк.17 – 19ад].

Трэба адзначыць, што працэс гаспадарчага развіцця стараабраднікаў на беларускіх землях быў нераўнамерны. Працэс гэты залежыў ад многіх фактараў, сярод якіх немалаважнае значэнне мела выгнанне стараабраднікаў з беларускіх зямель і знішчэнне іх маёмасці і жылля. Працэс гэты ў многім залежыў ад палітычнага ладу і сацыяльна-эканамічнага становішча дзяржавы, у якую ўваходзілі беларускія землі ў той ці іншы перыяд.

Як ужо адзначалася, улады Рэчы Паспалітай "раскол" не лічылі ерассю, а стараабрадніцтва ўспрымалі як нармальную з'яву. Стараабраднікі на беларускай зямлі, жывучы сваёй дыяспарай, умелі наладжваць стасункі з мясцовым насельніцтвам, жылі з ім у згодзе.

Працавітыя, прадпрымальныя, стараабраднікі здолелі стварыць на беларускіх землях яшчэ да часу падзелу Рэчы Паспалітай свой быт, свой спосаб жыцця, які адрозніваўся ад быту мясцовага насельніцтва, але быў станоўчы і варты пераймання. Улады Рэчы Паспалітай не рабілі стараабраднікам перашкод у развіцці гаспадаркі і гандлю. Наадварот, ім ствараліся спрыяльныя ўмовы для адаптацыі на новых землях. Пасля ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай дзяржавы жыццё стараабраднікаў тут значна пагоршылася – яны вымушаны былі падпарадкоўвацца законам Расійскай імперыі, якія ў адносінах да абаронцаў старога абраду былі жорсткімі. І ўсё ж, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды з боку расійскіх улад і афіцыйнай праваслаўнай царквы, стараабраднікі на беларускіх землях здолелі захаваць сваю адметнасць у абрадах, кульце і побыце.

## 3.2. Асаблівасці жылля і адзення

Умовы жыцця стараабраднікаў на расійскіх і беларускіх землях дазволілі ім набыць вопыт ва ўзвядзенні драўляных пабудоў. Тут трэба адзначыць, што стараабраднікі абавязаны былі захоўваць тры ўмовы: першая заключалася ў тым, што будынак і яго часткі павінны былі адпавядаць свайму практычнаму прызначэнню, г.зн. формы ўсёй гаспадарчай забудовы былі абумоўлены як жыллёвымі, культавымі так і абарончымі функцыямі. Па-другое, канструкцыі забудовы павінны былі быць не толькі рацыянальнымі з пункту гледжання выкарыстання матэрыялу, але і моцнымі, надзейнымі, адпавядаць кліматычным умовам і тэхналогіі будаўніцтва. Па-трэцяе, пабудова павінна была мець адпаведныя форму і вонкавы выгляд. У выбары формы стараабраднікі прытрымліваліся традыцый бацькоў і дзядоў.

"Схаваныя" ў лясах і паміж балотаў паселішчы стараабраднікаў першапачаткова былі маладворныя (10 – 20 двароў). Планіроўка залежыла ад ландшафтна-геаграфічнага размяшчэння, умоў бяспекі, ад структуры землекарыстання. Часцей за ўсё двары былі бессістэмна раскіданыя. Такі тып рассялення атрымаў назву гнездавога або кучавога. У канцы ХУІІ ст. і ў пачатку ХУІІІ ст. на беларускіх землях стараабрадніцкім паселішчам быў уласцівы пераважна гнездавы тып рассялення. Выключэннем была Ветка, Беліца, Відзы, дзе вельмі хутка пачалі ўзнікаць грабеньчатыя забудовы (да галоўнай вуліцы далучаліся іншыя перпендыкулярна вуліцы), а потым і шматвулічныя забудовы. У ХУІІІ ст. Ветка ўжо была паселішчам гарадскога тыпу [1. С. 64]. У першай палавіне ХІХ ст. у Магілёўскай,

Віцебскай, Віленскай, Ковенскай і Мінскай губернях стараабрадніцкія слабоды набылі лінейны (вулічны) выгляд. У Магілёўскай губерні гэта Агародня-Гомельская, Беліца; у Віцебскай – Жарцы, Латкоўка Полацкага павета, Вораны Віцебскага павета, Федасоўка, Гараватка Гарадоцкага павета; у Мінскай – Капусціна, Туркі Бабруйскага павета, Бабарыкі Барысаўскага павета. У канцы XIX ст. у асобных стараабрадніцкіх слабодах сфарміраваўся шматвулічны тып забудоў.

Гістарычна на беларускіх землях вызначыўся замкнёны (круглы, вяночны) тып стараабрадніцкага двара. Ён склаўся ва ўмовах бессістэмных паселішчаў яшчэ на расійскіх землях, калі стараабраднікі аказвалі дапамогу збеглым аднадумцам і свяшчэннікам – хавалі іх ад паліцыі і войска. З цягам часу у стараабраднікаў з’явіліся двары крытага тыпу. Дом і хлеў мелі агульную страху. З сенцаў можна было трапіць у хлеў або ў іншую пабудову, а адтуль праз патаемны праход збеглы стараабраднік мог перайсці ў суседні двор. Да дома з хлявом далучаліся клеці, вазоўня і іншыя пабудовы. З цягам часу ў больш багатых стараабраднікаў з’явіўся адкрыты двор, дзе ўжо існавалі чыстая і гаспадарчая часткі, якія ўтваралі два замкнёныя комплексы.

Што датычыцца жылля, адзення, ежы, то трэба адзначыць, што, напрыклад, гомельскія стараабраднікі строга прытрымліваліся бацькоўскіх і дзедаўскіх асноў. Забудова стараабрадніцкіх двароў, як у гарадах і мястэчках, так і ў сельскіх паселішчах мела свае асаблівасці. У гарадах і мястэчках купцы і мяшчане мелі вялікія дамы, у якіх было 5 – 8 пакояў і болей, дахі пакрывалі гонтамі, бляхай і дошкамі (“тесом”), ля дахаў і над вокнамі былі разныя карнізы, звонку часта маляваныя.

У аснове будаўніцтва жылых і гаспадарчых памяшканняў была зрубная тэхніка. Дамы будаваліся з цэлых круглых (папярэдне акораных) бярвёнаў – кругляка. Масіўнасць бярвёнаў і працаёмкасць узвядзення зруба вызначалі і адпаведныя прыёмы будаўніцтва. Зруб рабілі часткамі, нярэдка ў лесе, дзе нарыхтоўвалі будаўнічы матэрыял, які потым перавозілі на тое месца, дзе ставілі дом. У другой палавіне XIX ст. перад уваходам у дом будавалася галерэя, вонкавыя сцены якой былі зашклёныя. Летам у такой галерэі пілі чай і адпачывалі. Дом фасадным бокам уваходзіў у агароджу, а побач будавалася крытая брама з веснічкамі, а над брамай, пад дахам, замацоўваўся васьміканцовы крыж. У мястэчку Ветка дамы стараабраднікаў ставіліся такім чынам, што браму было відаць з акна, а паколькі брама была заўсёды на засаўцы, то трапіць у дом магчыма было толькі калі гаспадар убачыць таго, хто прыйшоў, і адчыніць веснічкі. У агароджы, што раздзяляла двары, рабіліся невялікія веснічкі, праз якія можна было трапіць у суседні двор, не выходзячы на вуліцу. Рабілася гэта дзеля таго, каб тыя, хто хаваўся, маглі ўцячы ад паліцыі да адкрыцця

брамы. У дамах былі склепы, з якіх праз патаемныя хады таксама можна было ўцячы або трапіць у суседні дом [3. С. 33; 20. С. 125]. У другой палавіне ХІХ ст. купцы-старaабраднікі Гомельшчыны і другіх месц пачынаюць будаваць і мураваныя дамы, якія былі пабудаваныя ў Гомелі, Віцебску, Полацку, Ветцы, Агародні-Гомельскай, слабадзе Спасавай і інш.

У глыбіні двара стаялі свірны і хлявы, воддаль, у садзе або агародзе – лазня, у якой мыліся адзін або два разы ў тыдзень. Свірны ў стараабраднікаў адпавядалі спецыялізацыі гаспадаркі, мясцовай вытворчай культуры, структуры сям’і, яе заможнасці і роду заняткаў. Напрыклад, тыя, хто гандляваў збожжам, займаўся вырошчваннем ільну, канопляў, меў вялікую гаспадарку, будавалі свірны з апорай на слупы ў выглядзе некалькіх сох, пастаўленых у адзін рад па восевай лініі. Свірны мелі прамавугольную форму, чатырохскатныя або двухскатныя стрэхі былі пакрыты саломай, трыснягом або дошкамі. Некаторыя свірны мелі падоўжаны выгляд і вызначаліся вялікімі памерамі. Гэта былі многавугольныя пабудовы з адпаведнай (пірамідальнай) страхой “на ключах” слупавой канструкцыі. Лазні былі, як правіла, зрубнага тыпу [10. С. 665; 20. С. 76 – 77,81].

Дамы купцоў і мяшчан Гомельшчыны і Магілёўшчыны мелі свой унутраны інтэр’ер. Мэбля ў доме і галерэі стараабраднікаў была драўлянай або мяккай. Сцены абклейваліся папяровымі шпалерамі. Падлога была маляваная. У пакоях, на спецыяльна прыбітых да сцен паліцах, стаялі іконы, часта ў дарагіх сярэбраных і пазалочаных акладах, упрыгожаныя жэмчугам і каштоўнымі камянямі. Перад іконамі віселі лампады. У дамах багатых стараабраднікаў выдзяляўся асобны пакой, так званая малельня, якая па перыметру, акрамя задняй сцяны, была застаўлена іконамі. Тут малілася ўся сям’я. У такіх дамах была і асобная кухня, дзе стаялі вялікі абедзены стол і шафы з сталовай і чайнай пасудай. У тым пакоі, дзе спалі, стаяў двухспальны ложак з вялікай колькасцю падушак, завешаны белымі каленкоравымі або паркалёвымі заслонамі (полагам). Тут былі шафы для адзення. Як сведчаць архіўныя даныя, у дамах захоўвалася чысціня і парадак [5. ДА. 3774, арк.7 – 8; 8. Ф. 2001, воп.1, спр.197, арк.60; 10. С. 665 - 666].

У паселішчах стараабраднікаў, якія займаліся земляробствам, забудовы рабіліся ў адпаведнасці з патрэбнасцямі сельскай гаспадаркі і адрозніваліся ад такіх жа забудоў мясцовага насельніцтва. Гэтак жа, як у купцоў і багатых мяшчан, дом ставіўся фронтам на вуліцу, побач была крытая брама з веснічкамі, а над брамай замацоўваўся васьміканцовы крыж. Высокая (“глухая”) агароджа прымыкала да знадворных сцен дома і іншых будынкаў – свірна, паветкі, склепа, хлява для жывёлы, паветкі для птушкі і інш., якія акружалі двор. Агароджа ўключала ў сябе і браму.

Другую лінію будынкаў у глыбіні двара складалі: сушня, дзе сушылі снапы перад малацьбой; гумны, дзе быў ток для малацьбы, дзе складваліся снапы і сена; свірны для збожжа. Была тут і лазня. Дзверы ўсіх пабудоў мелі металічныя завесы і засаўкі з жалеза. Усе пабудовы былі драўляныя, крытыя саломай, зрэдку – дошкамі. І тут былі дамы з разнымі карнізамі і аканіцамі. Дом раздзяляўся на дзве палавіны – жылую і чыстую. У абедзвюх палавінах было шмат старажытных ікон, перад імі віселі лампады. У жылой палавіне вакол сцен былі лаўкі, у пярэднім кутку пад іконамі стаяў стол, накрыты белым настольнікам. На паліцах размяшчалася прыгожая драўляная пасуда. Ля вялікай рускай печы рабілася ўзвышэнне з дошак, над якім былі палаткі. У гэтай палавіне жыла сям'я. У чыстай палавіне было яшчэ больш старажытных ікон з лампадамі. Ля сцен стаялі стол і стулы, часам пафарбаваныя ў чырвоны колер, куфры з каштоўным адзеннем, у кутку – грубка ("голландка") або звычайная руская печ з недарагой кафлі. Каля яе, ля сцяны, стаяў двухспальны ложак, завешаны белымі каленкоравымі або паркалёвымі заслонамі (полагам). Гэта быў пакой гаспадара і гаспадыні, тут прымалі гасцей. Усюды было чыста і акуратна: сталы, стулы, падлога і нават сцены, калі былі драўняныя і неаклееныя шпалерамі, чыста мыліся. У бяднейшых старaабраднікаў падлога была пакрыта рагожай або лямцам. У сенях ля дзвярэй, ляжала рагожа або лямец для абціраня ног. У некаторых дамах сцены і лаўкі абіваліся аднолькавай матэрыяй. На лаўкі накладваліся паасобныя кавалкі матэрыі, якія называліся "половичниками". Гаспадыня дома "половичники" мяняла: у будні рассцілала простыя, а ў святочныя дні і ў час прыёму гасцей – святочныя [18. Ф.163. воп.1, спр.20, арк.1 – 1ад; 10. С. 666].

Асаблівую цікавасць уяўляе адзенне стараабраднікаў: яно мела асаблівы пакрой і форму і адрознівалася ад адзення мясцовага насельніцтва. Верхняе адзенне ў мужчын-купцоў і мяшчан складалася з даўгаполага кафтана, які даходзіў да пят або, калі быў карацейшы, да лытак, каб быў відаць абутак. У парадных кафтанах частка рукава была вышытая залацістай або іншай каляровай ніткай, аздаблялася жэмчугам і асобна прышывалася да кафтана. Адным з відаў адзення была двухбортная аксамітавая або суконная камізэлька, якая зашпільвалася наглуха. Світка (армяк) вызначалася тым, што мела прарэхі, магла мець вышыты з карункамі каўнер. Яе полы заходзілі адна за другую. На шыі стараабраднікі-купцы насілі невялікія шаўковыя хусткі або касынкі. Суконныя плісавыя або баваўняныя шаравары былі ўвабраны ў боты. Шырокія доўгія шаўковыя кашулі даходзілі да лытак, апускаліся па споднім адзенні, падпяразаліся вузкім паяском, які называўся "опояскою". Падол кашулі і рукавоў абрабляўся тасьмою, па якой ішло залацістае або

шаўковае шытво. Вышыванае аздабленне магло быць таксама на рукавах і пярэдняй частцы (грудзях) кашулі, якая заставалася адкрытай і была відна з-пад верхняга адзення. Мужчыны насілі боты з высокімі халявамі, часам абшытымі лакіраванай скурай. Боты былі звычайна каляровыя, часцей за ўсё жоўтыя або чырвоныя, зрэдку зялёныя, белыя ці цялеснага колеру. Боты расшываліся рознымі ўзорамі, асабліва ў верхняй частцы. Зімою купцы і мяшчане насілі доўгія шубы, якія лічыліся найбольш парадным адзеннем. Мноства футраў у доме сведчыла аб заможнасці. Шыліся кажухі з аўчыны, футры былі вавёркавыя або лісіныя, абавязкова з футравымі каўнярамі. У Гомельскім старостве ў ХУІІІ ст. на каўняры выкарыстоўвалася футра бабра [5. ДА. 3774, арк.1310 – 1310ад].

Свае характэрныя рысы мела адзенне стараабраднікаў-сялян. Кашулі рускага крою (іх насілі навыпуск) шыліся з паркалю або палатна, мелі касыя каўняры. У кашулях пад пахамі рабілі трохвугольныя ўстаўкі з іншай тканіны. Палатно расшывалася шоўкам або пражаю. Кашуля падпяразалася шарсцяным або баваўняным поясам. Шырокія шаравары з палатна або баваўнянкі ўбіраліся ў боты. Шаравары (або рускія штаны) былі без разрэзаў, яны мелі вузел, з дапамогай якога можна было іх сцягнуць або расцягнуць. На Гомельшчыне і Магілёўшчыне стараабраднікі насілі суконную або плісавую безрукаўную паддзёўку. Боты былі з доўгімі да кален халявамі, якія замянялі штаны ў ніжняй частцы ног і мелі палатняную падкладку. У час працы стараабраднікі карысталіся лапцямі. На галаве насілі каўпак, картуз або паярковы рускі капялюш. Каўпак у сялян-стараабраднікаў быў з падоўжнымі да палавіны разрэзамі спераду і ззаду. Каўпакі рабіліся з сукна або лямца, зімою падбіваліся аўчынаю або якім-небудзь недарагім футрам. Пашыраным адзеннем узімку былі шубы (тулупы) і паўшубкі, якія рабіліся часцей за ўсё з аўчыны (кажухі і паўкажухі) [10. С. 667; 4. С. 88 – 90,93 – 94,98].

Жаночае адзенне багатых стараабрадавак было падобнае на мужчынскае ў тым, што было таксама доўгае. Аднак шмат у чым было адметнае. Неад'емнай часткай жаночага адзення былі рускія сарафаны яркіх колераў, якія завязваліся над грудзямі. Жанчыны насілі і звычайныя сукенкі з паркалю, шоўку, шэрсці. Характэрнай рысай іх адзення былі вялікія хусткі або шалі з шэрсці або шоўку і невялікія шаўковыя хусткі, якія завязваліся па-руску. На нагах жанчыны насілі панчохі і скураныя аксамітавыя або прунелевыя чаравікі, а ўзімку – асаблівага крою футры з куніц, вавёрак, лісаў або зайцаў, насілі таксама і салопы на футры. У дажджлівае надвор'е футры пакрывалі суконнымі або шаўковымі накідкамі. У ХУІІІ ст. футры пакрываліся каленкоравымі тканінамі з залацістымі ўзорамі. Рукавы жаночых футраў аздабляліся па краях карункамі, якія можна было знімаць і захоўваць асобна. Карункі гэтыя

перадаваліся ад маці да дачкі. Аснову жаночага адзення складала палатняная або каленкоравая кашуля, аздобленая на каўняры і плячах чырвонай бавaўніцай. Парадныя фартухі (“передники”) былі яркіх колераў, унізе упрыгожаныя вышыўкай чырвонымі ніткамі або бавaўніцай. Жаночым паясным адзеннем былі спадніцы, таксама яркага колеру, з шаўковай, шарсцяной або бавaўнянай тканіны. Ніз кашуляў і футраў упрыгожваўся арнаментам з шоўку або бавaўніцы. На спадніцу надзяваўся фартух (“передник”). З галаўных убораў летам дзяўчаты нічога не насілі, валасы гладка прычэсваліся і запляталіся ў адну касу, у канец якой уплятaлася яркая стужка. На шыі дзяўчаты насілі рознакаляровыя каралі, а больш багацейшыя - жэмчуг. З жаночых зімовых галаўных убораў трэба адзначыць шапкі з собаля, бабра або куніцы, верх якіх быў з шаўковай тканіны. Бяднейшыя насілі на галаве павязкі. Зімовае адзенне дзяўчат-стараабрадніц нічым не адрознівалася ад адзення замужніх жанчын. Адзенне жанчын і дзяўчат з сялянскіх стараабрадніцкіх сем’яў мала чым адрознівалася ад адзення багатых, хіба толькі тым, што было з таннага матэрыялу [10. С. 667; 19. С. 21; 5. Ф.752, воп.1, спр.22, арк.1 – 1ад].

Быт стараабраднікаў Віцебшчыны адрозніваўся ад быту мясцовага насельніцтва. А. Семянтоўскі ў сваім даследаванні адзначае: “Женщины последних (старообрядцев – автор), путем брака, роднятся иногда с белорусами и даже латышами; но мужчины весьма редко берут себе жен из других племен” [19. С. 20; 8. Ф.1430, воп.1, спр.9510, арк.101]. Дамы стараабраднікаў на Віцебшчыне былі вялікія, прасторныя, моцныя. У маёнтку Даўгілішкі Браслаўскага павета жыллё стараабраднікаў адрознівалася і эстэтычным афармленнем.

У XIX ст. дамам стараабраднікаў была ўласціва крокленная канструкцыя дахаў, якія пакрываліся гонтай. Дамы ў большасці былі з комінамі. Дзверы мелі жалезныя завесы і засаўкі. Вокны і дзверы аздабляліся разьбою. У доме абавязковай была наяўнасць абмазанай глінай рускай печы, у некаторых дамах яна абкладвалася кафлем [5. ДА.3871, арк.2]. У жылых памяшканнях стараабраднікаў Віцебшчыны было шмат ікон і рэлігійнай літаратуры. Іконы расстаўляліся на паліцах радком, каля іх ляжала некалькі крыжоў і іншыя культавыя прадметы. Акрамя таго, іконы развешваліся на сценах. У кутку, упрыгожаным кавалкам тканіны, вісела ікона, а перад ёю лампада. Такі інтэр’ер тлумачыцца тым, што на Віцебшчыне пражывалі ў асноўным беспапоўцы, якія замест цэркваў мелі малельні, а пры адсутнасці апошніх службы адпраўлялі ў сваіх хатах па чарзе, дзе малельняй быў найбольшы пакой.

Паселішчы стараабраднікаў на Віцебшчыне адрозніваліся ад паселішчаў мясцовага насельніцтва большай колькасцю дамоў, выглядам дамоў і падворкаў [19. С. 21]. Н. Нікіфароўскі пісаў: “Кто проезжал через

местные села и деревни, те не откажутся припомнить, что по числу крестьянских усадеб и, следовательно, по числу отдельных хозяев они имеют слишком мало общего с великорусскими селами, слободами, деревнями” [9. С. 209].

Вось як, напрыклад, выглядаў дом і падворак у стараабраднікаў Ашмянскага павета (цяпер Гродзенская вобл.) у канцы ХУIII ст. Драўляны дом складаўся з сеняў, каморы, кухні, пакоя для адпачынку. Здвух бакоў дом меў драўляную веранду. Каля дома размяшчалася ўязная брама, якая мела дах, пакрыты драніцай. Да жылога памяшкання прымыкала гаспадарчая частка, тут было месца для распілоўвання дроў, стаяла печ з шэрай кафлі, у якой пяклі хлеб, побач, пад адным дахам, знаходзіўся сырнік (месца з прыстасаваннямі для вырабу сыроў). Непадалёку ад жылога будынка знаходзіўся склеп з драўлянымі сходамі. У глыбіні падворка размяшчаліся іншыя пабудовы: хлеў для жывёлы, пакрыты драніцай, з дзвюма брамамі на завесах; памяшканне для захоўвання сена (адрына), пакрытае драніцай, з дзвярамі на завесах і з гакам для замыкання; тут жа знаходзіўся гліняны ток, а побач былі паветка для сушэння сена, свіран (амбар) для захоўвання збожжа, памяшканне, дзе гатавалі ежу свіням, і іншыя пабудовы. Усе гэтыя пабудовы былі з кругляка. У самым канцы двара размяшчалася лазня. Паміж пабудовамі, бліжэй да дома, быў калодзеж з драўляным зрубам [5. ДА.4066, арк.2 - 4].

Адметным – багатым і прыгожым – было адзенне стараабраднікаў Віцебшчыны. Мужчыны насілі доўгія кафтаны з сукна, іншы раз даволі тонкага, высокія боты, паяркавыя, а хто багацейшы, то і футравыя галаўныя ўборы. Адзенне жанчын было з паўаксаміту, шаўковага штофу, парчы. Паркаль і каленкор лічыліся звычайнай тканінай, і пашытае з іх адзенне выкарыстоўвалася ў буднія дні. З галаўных убораў жанчын былі пераважна хусткі. Да ўпрыгожванняў жанчын належылі завушніцы і каралі [19. С. 21].

Як бачым, у разглядаемы перыяд побач з беларускай культурай узнікла і існавала культура перасяленцаў з Расіі – стараабраднікаў. Адметным было тое, што як беларуская культура, так і культура рускай дыяспары “мірна” суіснавалі і амаль не змешваліся. Асаблівасць культуры стараабраднікаў відаць перш за ўсё ў развіцці будаўніцтва, промыслаў і ўжытковага мастацтва. Бясспрэчную цікавасць для даследчыкаў уяўляе архітэктурная і мастацкая спадчына стараабраднікаў на беларускіх землях. У гаспадарча-культурным развіцці як стараабраднікаў, так і карэннага насельніцтва ў аднолькавых прыродна-кліматычных умовах і пры наяўнасці аднолькавага спосабу вытворчасці (маецца на ўвазе сельская гаспадарка), здавалася б, аднолькавай павінна была быць і матэрыяльная культура – гаспадарчыя заняткі, ураджай, жыллё, ежа і інш. Аднак, як

бачым, гэтага не адбылося: мясцовае насельніцтва не пераняло ад стараабраднікаў культуры і спосабу апрацоўкі зямлі і не атрымлівала такіх ураджаеў, якія атрымлівалі стараабраднікі, а ўзровень іх дабрабыту мала калі дасягаў узроўню дабрабыту стараабраднікаў.

Для жылых дамоў стараабраднікаў былі характэрныя галерэі, веранды, падзел жылля на жылую і чыстую часткі. У другой палавіне XIX ст. з'яўляюцца мураваныя пабудовы, галоўным чынам у Магілёўскай губерні. Тут, асабліва ў Ветцы, для знадворкавага дэкаратыўнага афармлення жылых дамоў шырока выкарыстоўвалася разьба па дрэву, так званая веткаўская разьба, якая вызначалася шматпланавасцю кампазіцыі, дзе пераважалі стылізаваныя раслінныя матывы. На Віцебшчыне ў арнаментальнай разьбе стараабраднікаў сустракаліся і геаметрычныя кампазіцыі.

Вызначалася сваёй адметнасцю ўнутраная планіроўка жылля стараабраднікаў: руская печ з палаткамі; наяўнасць ікон ва ўсіх жылых памяшканнях; наяўнасць ложкаў, крэслаў, куфраў.

Адрозніваліся стараабраднікі ад мясцовага насельніцтва і сваім адзеннем. Стараабраднікі ў адрозненне ад мясцовага насельніцтва мелі больш багатыя гаспадаркі, займаліся гандлем, адыходнымі промысламі і, як вынік, мелі магчымасць набываць больш дарагое адзенне. Фактарам росту дабрабыту стараабраднікаў трэба лічыць іх набожнасць, працавітасць, трывалыя сувязі са сваімі аднадумцамі, якія жылі ў іншых рэгіёнах, а таксама іх у многім бескарыслівую ўзаемадапамогу. На якасць і выгляд адзення стараабраднікаў рабілі ўплыў як прыродна-кліматычныя ўмовы і віды гаспадарчай дзейнасці, так і этычныя погляды і рэлігійныя традыцыі. Адзенне стараабраднікаў на беларускіх землях несла на сабе мастацкі стыль і форму адзення жыхароў Расіі і Украіны. Аднак бяспрэчным з'яўляецца і той факт, што адзенне стараабраднікаў мела некаторыя агульныя рысы з адзеннем беларускага і ўкраінскага насельніцтва.

## Літаратура

1. Гарбацкі А.А. Царкоўны раскол і стараверы на Беларусі ў другой палове XVII-першай палове XIX ст. // Беларускі гістарычны часопіс. 1997. №4.
2. Гуковский К. Новоалександровский уезд. Ковно, 1895.
3. Кельсиев В. Сборник правительственных сведений о раскольниках. Лондон, 1861. Вып. 2.
4. Костомаров Н.И. Домашняя жизнь и нравы великорусского народа. М., 1993.
5. Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў.
6. Манаенкава А.Ф. Язык Ветки. Дис. докт. филолог. наук. Мн., 1974. Т. 1.
7. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Ковенская губерня. Сост. Д. Афанасьев. Спб., 1861.

8. Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь.
9. Никифоровский Н. Очерки простонародного жития-бытия в Витебской Белоруссии и описание предметов обихода. Витебск, 1895.
10. Опыт описания Могилевской губерни. Под ред. А.С. Дембовецкого. Могилев, 1882. Т. 1.
11. Обзор Могилевской губерни за 1900 г. Могилев, 1901.
12. Обзор Минкой губерни за 1875 г. Минск, 1876.
13. Обзор Минской губерни за 1880 г. Минск, 1881.
14. Обзор Минской губерни за 1904 г. Минск, 1905.
15. Обзор Минской губерни за 1912 г. Минск, 1913.
16. Памятная книжка Минской губерни. Минск, 1890
17. Починская И.В. Старообрядческое книгопечатание ХУIII – первая половина XIX в. Дис. канд. ист. наук. Свердловск, 1991.
18. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў.
19. Сементовский А. Этнографический обзор Витебской губерни. Спб., 1872.
20. Цітоў В.С. Народная спадчына. Мн., 1994.

# ГЛАВА 4

# КУЛЬТУРНА-ДУХОЎНЫЯ РЫСЫ СТАРААБРАДНІКАЎ НА БЕЛАРУСІ

## 4.1. Культура, духоўнае жыццё, выдавецкая дзейнасць

Сучаснае жыццё паставіла перад нашым грамадствам задачы, якія патрабуюць прынцыповага абнаўлення і крытычнай пераацэнкі наяўнай сістэмы каштоўнасцей. Веданне гісторыі культуры, духоўных каштоўнасцей свайго народа і суседніх народаў дае чалавеку магчымасць далучыцца да духоўнага вопыту старэйшых пакаленняў, суразмерыць яго з асабістым вопытам, стварыць патэнцыяльныя магчымасці для ўсебаковага развіцця асобы і далучэння яе да агульначалавечых ідэалаў.

У наш час з’явілася неабходнасць у вывучэнні, пераасэнсаванні і захаванні спадчыны ўсёй народнай культуры. Да нядаўнага часу практыка уніфікацыі нацыянальных і рэлігійных асаблівасцей ігнаравала маральна-ахоўную і самабытную сілу рэлігійных традыцый. З гэтага пункту гледжання, вывучэнне стараабрадніцкай духоўнай культуры як часткі нацыянальнай спадчыны з’яўляецца адной з задач нашага даследавання.

Стараабраднікі стварылі свае культурныя традыцыі, беражліва іх ахоўвалі і ўзбагачалі, як святыню перадавалі сваім нашчадкам. Сабраныя ў

гарманічную сістэму абрадаў, жыццёвых правілаў, звычаяў, светаўяўленняў, гэтыя традыцыі з'яўляліся асновай жыццядзейнасці стараабраднікаў.

Разнастайным было духоўнае жыццё абаронцаў старога абраду. Іх мараль уяўляла сабой разнавіднасць хрысціянскай рэлігійнай маралі. Яна была заснавана на біблейскіх уяўленнях, на дзесяці старазапаветных запаведзях і “Нагорнай пропаведзі”. Стараабрадніцкія айцы сачылі за захаваннем усіх біблейскіх патрабаванняў і ўстаноўленых абрадаў: “О пастырю блюди великим опасением да хранится церковная служба чийже и оустроение все непоткиновенно и непрележно яко же святых отец прежде нас бывших и иже от них нам предано бысть во святых монастырях и лаврах и о узаконено бысть” [15. Збор ОЛДП, № 0-142. С. 51ад. - 52]. Стараабрадніцкія свяшчэннікі і духоўныя настаўнікі патрабавалі ад вернікаў бездакорнага выканання ўсіх царкоўных прадпісанняў, штодзённых клопатаў аб выратаванні душы і ў імя гэтага – неабходнай малітвы Богу, вучылі верыць у яго ласку, спадзявацца на яго літасць.

Духоўнае жыццё стараабраднікаў праходзіла, як правіла, у замкнутай старажытнахрысціянскай абшчыне. Грунтуючыся на сваіх паданнях, стараабраднікі толькі сябе лічылі сапраўднымі хрысціянамі. Іх абшчына мела сваю іерархію кіраўніцтва: ад вышэйшай ступені – апосталаў - да ніжэйшай - прарокаў і духоўных настаўнікаў.

Цэнтрамі культурнага і духоўнага жыцця стараабраднікаў былі ў іх дыяспарах слабоды, манастыры, цэрквы і малельні.

ХУІІІ стагоддзе было самым спрыяльным перыядам у жыцці стараабраднікаў на беларускіх землях. У гэты час яны не прыгняталіся, не было ганенняў на іх за культавыя збудаванні і абрадавую практыку. Аб гэтым сведчаць пабудаваныя папоўцамі прыгожыя цэрквы і манастыры на Гомельшчыне і Магілёўшчыне. Першая царква была пабудавана ў слабадзе Ветка каля 1690 г. іераманахам Іаасафам, асвечана яго пераемнікам іераманахам Феадосіем у 1695 г. у імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы [3. С. 64]. Як сведчаць архіўныя даныя, манастыры, цэрквы і малельні стараабраднікаў на беларускіх землях вызначаліся багаццем і хараством.

Першыя цэрквы і манастыры, пабудаваныя стараабраднікамі ў слабадах на востраве Ветка, былі часткова знішчаны падчас выгнання царскімі войскамі стараабраднікаў з беларускіх зямель у 1735 г. Праз пяць гадоў усё было адбудавана. Пасля другога выгнання ў 1764 г. адрадзіць веткаўскія слабоды да ранейшай славы не ўдалося.

Цікавасць уяўляе Макар'еўскі манастыр, які знаходзіўся прыкладна за 15 вёрст ад Гомеля. Ён меў халодную і цёплую цэрквы. Халодная прызначалася на веснавы, летні і асенні час і не мела сістэмы ацяплення,

цёплая мела сістэму ацяплення і выкарыстоўвалася ў зімовы час. Немалаважным з'яўляецца той факт, што халодныя культавыя памяшканні былі своеасаблівымі сховішчамі для старажытных дарагіх ікон, для якіх цяпло з'яўляецца адмоўным фактарам падчас захоўвання. Халодная царква была пабудавана з дрэва і мела шэсць купалаў, на кожным з якіх знаходзіўся крыж. Побач знаходзілася званіца, купал якой таксама быў увенчаны крыжам. Дахі халоднай царквы і званіцы былі пакрытыя бляхай, а вонкавыя сцены афарбаваныя белай маслянай фарбай. Пры ўваходзе ў халодную царкву, з правага боку, у "камінах" знаходзіліся чатыры іконы ў пазалочаных рамах. Перад імі віселі дзве вялікія лампады з белымі свечкамі, адна з лампад была пазалочаная. У "камінах" з левага боку таксама былі чатыры іконы ў пазалочаных рамах і перад імі віселі дзве вялікія лампады з белымі свечкамі. Над дзвярыма ў прытвор і над дзвярыма ў сярэднюю частку царквы вісела па адной іконе. Бляшаны ліхтар, які вісеў над дзвярыма ў прытвор, меў шкляныя заслонкі, а над ім быў замацаваны васьміканцовы крыж. Уверсе паміж калонамі было пяць ікон з пазалочанымі "раздзяленнямі", перад кожнай іконай вісела адна лампада з дзвюма свечкамі. Пасярэдзіне царквы на жалезных ланцугах вісела меднае адбеленае панікадзіла ў тры сажані, у крузе якога размяшчалася 50 падсвечнікаў з вялікімі белымі васковымі свечкамі. Перад клірасам з кожнага боку размяшчалася па шэсць ікон у пазалочаных рамках. На сцяне з правага боку вісела ікона Божай Маці з вянцом у $^1/_2$ аршына, аздобленым жэмчугам. Каля кліраса стаялі абцягнутыя тканінай дзве харугвы, на кожнай з якіх была ікона.

Багата выглядаў іканастас. Пад Нерукатворнай іконай знаходзілася распяцце Ісуса Хрыста з меднай лампадай, вакол якога двума раздзяленнямі (радкамі) вісела 18 ікон. У другім і трэцім радках у пазалочаных ківотах і рамках было 30 ікон, у чацвёртым радку – дзевяць ікон у пазалочаных рамках, у пятым – шэсць вялікіх ікон. З правага боку ад Царскіх варот размяшчалася пяць ікон. Ікона Збавіцеля, у сярэбраным акладзе і з вянцом, мела даўжыню $1^1/_2$ аршына і такую ж шырыню. Перад вянцом вісела невялікая сярэбраная лампада, а над вянцом віселі дзве лепты. За іконай Збавіцеля размяшчалася пазалочаная ікона Уладзімірскай Божай Маці. Яна мела такую ж велічыню, як і ікона Збавіцеля, а над вянцом вісела лепта з тафты з невялікай сярэбранай лампадай. З левага боку ад Царскіх варот першай вісела ікона Казанскай Божай Маці даўжынёй у $1^1/_2$ аршына і шырынёй $1^1/_4$ аршына, пакрытая сярэбранай пазалотай. Вялікі верхні вянец іконы быў сярэбраны і пазалочаны, ніжні вянец меў памеры ¾ аршына даўжыні і ½ аршына шырыні. Жамчужны бераг ніжняга вянца ўпрыгожвалі 103 рознага колеру каштоўныя камяні, поле вянца аздаблялі восем вялікіх і 17 малых зорак з каштоўных камянёў.

Перад іконай Казанскай Божай Маці на доўгім ланцугу вісела сярэбраная пазалочаная лампада. Драўляныя Царскія вароты былі пазалочаныя. На іх вісела шэсць ікон, перад якімі былі тры лампады, адна медная і дзве фарфоравыя, з вялікімі свечкамі. Два аналоі былі абшытыя тканінай, на адным з іх, пакрытым яшчэ адной тканінай, ляжала Евангелле [4. С. 9; 12. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.1 – 5ад].

Трыццаць дзве царкоўныя рызы былі новыя, патрыманыя і старыя. Новыя былі разнастайныя: з чырвонага аксаміту з залатым густым шытвом і залатымі шырокімі галунамі; з фіялетавага шоўку, густа расшытая золатам і абшытая залатымі галунамі; з цёмнага-блакітнага аксаміту з залатым і сярэбраным шытвом, абшытая галунамі; з чырвонага аксаміту, верх з шытвом залатой фальгой featured рознага колеру, а ніз – з золата-сярэбраным шытвом. Уся рыза абшыта залатымі галунамі [4. С. 10; 12. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.6].

Пышнае і багатае афармленне мелі і іншыя цэрквы. Напрыклад, у алтары Веткаўскай царквы на прастоле ляжалі тры Евангеллі: першае на зялёным аксаміце, евангелісты – сярэбраныя і пазалочаныя; другое і трэцяе – на чырвоным аксаміце таксама з сярэбранымі і пазалочанымі евангелістамі. За прастолам знаходзіліся: ікона Прасвятой Уладзімірскай Багародзіцы; каваная, сярэбраная і пазалочаная рыза; упрыгожаныя жэмчугам вянец і “ожерелье”; тры завушніцы-спарышы, каля адной з іх – старая сярэбраная капейка; сем сярэбраных крыжоў, чатыры з якіх пазалочаныя. Тут знаходзілася таксама ікона Мікалая Цудатворцы ў сярэбраным акладзе, які меў каштоўнае ўпрыгожанне – сярэбраную пазалочаную грыўню. Запрастольны крыж, зроблены з дрэва, меў вянец з сярэбранай пазалочанай грыўняй. Тут віселі таксама на ланцугах дзве медныя лампады, адна з якіх была пазалочаная. На ахвярніку знаходзіліся два сасуды, адзін сярэбраны з пазалотай, другі – медны з унутранай пазалотай [10. С. 184 - 185].

Многія з прыведзеных рэчаў, напрыклад, “ожерелье”, завушніцы, сярэбраная капейка, не адносяцца да культавых. На нашу думку, яны, верагодна, былі прынесены ў царкву як падзяка за аказанне Божай ласкі.

У слабадзе Мар’інай Беліцкага павета Магілёўскай губерні было дзве капліцы. Першая, з купалам, даволі вялікая, была халоднай, збудавана была разам са званіцай, якая мела пяць званоў, галоўкі і крыжы. Дах капліцы і званіцы быў з бляхі, памаляваны ў зялёны колер, сцены былі белыя. Насупраць халоднай капліцы на трывалым зрубе стаяла зімовая (цёплая), над якой узвышалася маленькая галоўка з крыжам, абабітая бляхай, а дах, таксама бляшаны, быў памаляваны ў зялёны колер [12. Ф.1297, воп.1, спр.12424, арк.1 - 3].

Малельні беспапоўцаў адрозніваліся ад цэркваў папоўцаў. Малельні будаваліся накшталт жылога дома. Такі тып забудовы характэрны быў для стараабраднікаў-беспапоўцаў Віцебскай, Мінскай і Віленскай губерняў. Звернемся да прыкладаў. У 1-й частцы Віцебска малельны дом меў некалькі пакояў. Першы, невялікіх памераў пакой уяўляў сабою прытвор. У кутку, у ківоце, знаходзілася ікона без аклада. Над уваходнымі дзвярамі вісела складаная невялікая ікона. Другі пакой меў дзве печы, якія ацяплялі ўвесь дом. Тут у кутку на паліцы стаялі дзве драўляныя іконы без аклада і дзевяць медных малых ікон. Побач было некалькі васковых свечак. Трэці, задні, пакой быў месцам правядзення асноўных богаслужэнняў. Тут былі два аналоі, адзін з якіх складаны, і вялікі стол. Па перыметры пакоя былі паліцы, на якіх размяшчалася сем драўляных ікон без акладаў. Адна ікона была абложаная кіпарысавым дрэвам, другая мела сярэбраны аклад. Побач з іконамі ляжалі крыж і медная складаная ікона. На другой паліцы было восем богаслужэбных кніг: два Евангеллі, адно з якіх у акладзе, каляровы трэбнік, псалтыр, часаслоў, тры пеўчыя “писания”. У гэтым жа пакоі былі дзве скрынкі са свечкамі і памінальніцамі; медная ручная кадзільніца; два вялікія падсвечнікі са свечкамі; пакрывала, якім у час пахавання накрывалі труну; малое пакрывала з двума нашытымі крыжамі. З левага боку малельні была прыбудова, дзе захоўваліся “нары” для пераносу нябожчыкаў, і невялікая шафка [12. Ф.1430, воп.1, спр.24168, арк.3 - 4].

У паветах Віцебскай губерні малельні будаваліся і абсталёўваліся падобным чынам. У даўжыню і шырыню яны мелі ад 10 да 14 аршынаў, падлога і столь былі з дрэва. Абавязковай лічылася наяўнасць сеняў, адкуль дзверы вялі ў хату. З захаду, ля ўваходу, з правага боку два вакны выходзілі на вуліцу і адно, з левага боку, - у агарод. У малельні на процілеглай ад уваходных дзвярэй сцяне на ўсю даўжыню рабілі драўляную паліцу, на якой размяшчалася да 20 ікон. Перад кожнай іконай замацоўвалася да берагу паліцы свечка. Пасярэдзіне гэтай паліцы стаяў драўляны стол, які выкарыстоўваўся ў якасці прастола. Пакрываўся прастол шарсцяной тканінаю цёмнага колеру, абшытай у два радкі галунамі, а на пярэднім баку тканіны вышываўся крыж. Побач з прастолам стаяў стол меншых памераў, гэта быў ахвярнік, на ім стаялі дзве невялікія скрынкі. З бакоў гэтых двух сталоў стаялі два аналоі, пакрытыя паркалём. У правым кутку над іконнай паліцай знаходзіўся плецены кошык, у якім захоўваліся памінальныя кніжачкі. Тут жа ляжалі рознакаляровыя шарсцяныя і паркалёвыя “подручники”, якімі карысталіся падчас зямных паклонаў. На сценах у розных месцах віселі “лестовки” і белыя ручнікі. На іконнай паліцы знаходзілася медная кадзільніца з ручкаю. Уздоўж сцен стаялі драўляныя лаўкі [12. Ф.1430, воп.1, спр.31533, арк.6 – 6ад].

Тут неабходна зазначыць, што ручнікі на сцены і іконы ў малельнях вешалі толькі беспапоўцы. Папоўцы ручнікоў на сцены і іконы не вешалі.

Веткаўскія манастыры і скіты былі не толькі асяродкамі духоўнага жыцця стараабраднікаў, але і цэнтрамі іх адукацыі і пісьменнасці, а таксама захавальнікамі старадрукаванага слова. Айцы і старцы, манахі і манашкі навучалі ў келлях хлопчыкаў і дзяўчынак, нярэдка і дарослых, азбуцы, чытаць Часаслоў і Псалтыр. Гэтых настаўнікаў, якія былі непасрэднымі пераемнікамі стараабрадніцкіх настаўнікаў, называлі майстрамі і майстрыхамі. Істотным у навучанні было патрабаванне, каб дзеці ўмелі чытаць “по силе”, г.зн. захоўваючы націск у словах са стараабрадніцкім тлумачэннем, напрыклад, “вó веки”, “нá Бога”. Такое навучанне існавала тут з часу адкрыцця Веткаўскага манастыра. Гэтыя традыцыі былі перанесены і ў іншыя манастыры на Ветцы.

Дзякуючы асветніцкай дзейнасці веткаўскіх майстроў і майстрых, пашыралася граматнасць сярод стараабраднікаў, якія жылі ў Рэчы Паспалітай. У манастырах і скітах была сканцэнтравана вялікая колькасць рукапісаў і старадрукаваных кніг. Асабліва багатым на іх быў Веткаўскі Пакроўскі манастыр, аб чым сведчыць той факт, што ў 1735 г. палкоўнік Сыцін забраў у манахаў гэтага манастыра 682 кнігі. У Лаўрэнцьеўскім манастыры пэўны час захоўваўся выдатны рукапіс Івана Дамаскіна ў перакладзе князя Андрэя Міхайлавіча Курбскага [10. С. 217 - 220].

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай законы, якія прымаліся ў Расіі, распаўсюджваліся на стараабраднікаў, што жылі на беларускіх землях. Частка законаў датычыла навучання іх дзяцей. 22 кастрычніка 1836 г. Міністэрства ўнутраных спраў Расіі пашырыла на ўсю тэрыторыю дзяржавы правілы адносна навучання стараабрадніцкіх і пасяленскіх (з сем’яў стараабраднікаў, вывезеных з зямель былой Рэчы Паспалітай у розныя месцы Расіі) дзяцей. Самім стараабраднікам навучаць сваіх дзяцей не дазвалялася. Спачатку навучанне іх дзяцей было абавязкам прыхадскога праваслаўнага духавенства, якое павінна было “наставлять детей в вере и благочестии”. Навучанне павінна было весціся дамашнім спосабам у доме аднаго або двух з членаў прыхадскога прычту, з улікам здольнасцей і надзейнасці [12. Ф.1297, воп.1, спр.6675, арк.75 - 76]. Аднак пад канец XIX ст. толькі паасобныя дзеці стараабраднікаў вучыліся ў праваслаўных прыходах. Абаронцы старога абраду былі выключна салідарныя адзін з адным. Яны перапісваліся паміж сабою і адпраўлялі сваіх дзяцей вучыцца ў Маскву, Санкт-Пецярбург, Дзвінск, Клінцы, Ветку, Старадуб’е, ў стараабрадніцкія навучальныя ўстановы або да асобных настаўнікаў. Праваслаўную школу стараабраднікі называлі ератычнай і лічылі грэшнай справай навучаць у ёй сваіх дзяцей [12. Ф.1416, воп.6, спр.824, арк.71; 13. С. 37].

У пачатку XX ст. стараабраднікі дабіліся значных перамен у заканадаўстве. Аднак урад і афіцыйная Руская праваслаўная царква яшчэ мелі вялікі ўплыў у навучанні. 17 кастрычніка 1906 г. царскім указам былі зацверджаны правілы, згодна з якімі выкладанне закона Божага дзецям стараабраднікаў і сектантаў – як у школах, заснаваных і існуючых на сродкі апошніх, так і ў агульных навучальных установах – можа быць даручана духоўным асобам, свяшчэннікам і настаўнікам, якія прызначаюцца з асоб, што маюць адукацыйны цэнз настаўнікаў народных вучылішч. Ва ўказе адзначалася, што на працягу першых пяці гадоў з часу абнародавання дадзенага дакумента да выкладання закона Божага дапускаюцца і асобы, якія не маюць указанага цэнза [12. Ф.458, воп.1, спр.445, арк.3].

Вялікую ролю ў стараабрадніцтве адыгрывалі святары і духоўныя настаўнікі. Яшчэ да канчатковага расколу Рускай праваслаўнай царквы стараабрадніцкія айцы на саборах, у тым ліку і на саборы 1666 – 1667 гг., тлумачылі асноўныя адметнасці сваёй ідэалогіі і нават прапанавалі некаторыя новыя багаслоўскія палажэнні. Першым і адным з асноўных у іх ідэалогіі было вучэнне аб Трэцім Рыме і адзінстве рускага праваслаўя, а менавіта такое вучэнне, якое было выказана ў “Аповесці аб Белым Клабуку”. Гэтая аповесць стала асновай усяго вучэння стараабраднікаў. Яны сцвярджалі: узначалены Рымам Захад парваў з праваслаўным Усходам і загінуў для хрысціянства ўжо ў XI ст; грэкі здрадзілі праваслаўе, або “захісталіся” ў веры з часоў Фларэнційскага сабора; Заходняя Русь капітулявала ў Брэсце ў 1596 г., а ў 1666 г. настаў час Усходняй Русі, калі сама Масква, апошні бастыён праваслаўя, пачала апошняе сваё адступленне. Цяпер прыходзілася чакаць, а магчыма нават і бачыць прыход самога антыхрыста на некалі светлую Русь. Другім важным звяном у тэорыях стараабраднікаў было сфармуляванае старцам Спірыдонам Пацёмкіным сцвярджэнне аб непахіснасці абраду, аб немагчымасці праваслаўных багасловаў рабіць якія-небудзь змены ў богаслужэбных кнігах і царкоўных свяшчэннадзействах. Абрад Спірыдонам Пацёмкіным фактычна ўзносіўся да вышыні дагмату [8. С. 340 - 341]. Гэта было ўжо новае багаслоўскае палажэнне, якое ў спалучэнні з вучэннем аб Трэцім Рыме пасля сабора 1666 – 1667 гг. рабіла непазбежным раскол паміж афіцыйнай царквою і прыхільнікамі старога абраду, паколькі гасудар і іерархі царквы не хацелі адмовіцца ад ніканаўскага выпраўлення кніг.

Канчатковы разрыў у 1667 г. і праклёны старога абраду прывялі ўсё стараабрадніцтва ў цяжкае становішча. Пераход усяго епіскапата ў новую царкву пазбавіў стараабраднікаў іерархіі, якая, згодна з праваслаўным вучэннем, захоўвае і перадае Дар Божы і апостальскую пераемнасць у царкве. Без іерархіі стараабраднікі не маглі мець ні сваіх епіскапаў, ні

новых святароў, якіх пасвячалі епіскапы, ні сваіх цэркваў, якія асвячаліся таксама епіскапамі. А без епіскапаў, святароў і цэркваў нармальнае праваслаўнае жыццё і поўнае здзяйсненне ўсіх таінстваў былі немагчымымі. Таму з моманту разрыву з афіцыйнай царквою старaабраднікам давялося прыстасоўвацца да новых умоў, наладжваць новыя формы царкоўнага і духоўнага жыцця.

Значнае месца ў гісторыі старaабрадніцтва адводзіцца пражыванню рускіх старaабраднікаў на беларускіх землях. На новым месцы жыхарства абаронцы старога абраду жылі не паасобку, а з цягам часу стварылі вялікія групы – дыяспары, і гэта дапамагло ім не толькі захаваць сваю веру, але і знайсці свае спосабы жыцця. Асноўнымі асветніцкімі цэнтрамі была Ветка на Гомельшчыне, гарады Віцебск, Полацк і Відзы на Віцебшчыне, гарады Бабруйск і Барысаў – на Міншчыне.

Бясспрэчным з'яўляецца той факт, што на беларускіх землях жыло шмат святароў, якія ўнеслі значны ўклад у гісторыю старaабрадніцтва, яго духоўнае жыццё, культуру і побыт. У старaабрадніцтве пакінулі свой след веткаўскія святары Козьма, Дасіфей, Стэфан з Бялёва, Іаасаф, Феадосій (Варыпін) з Рыльска, Аляксандр, Грыгорый [17. С. 10 - 12]. Феадосій (Варыпін) быў пастрыжаны ў манахі ў Рыльскім манастыры. У іерэйства яго пасвяціў Іосіф – патрыярх Маскоўскі ў царкве Святога Васілія Вялікага Нікольскага манастыра. Пасля ўвядзення новаперакладных кніг і новых абрадаў Феадосій уцёк на Данец, дзе яго злавілі і судзілі – пазбавілі сану і саслалі ў Кірыла-Белазерскі манастыр. Праз сем гадоў ён уцёк на Выг, а потым у Кержанецкія лясы, дзе пасяліўся ў Смальянах. Тут каля 1690 г. становіцца духоўным і адміністрацыйным кіраўніком ніжагародскага старaабрадніцтва. У Смальянах збіраліся старaабрадніцкія саборы, на якіх старшынстваваў Феадосій. У 1694 г. Смальянскі скіт разбурылі ўрадавыя войскі, у выніку загінуў вялікі запас Святых Дароў, якімі прычашчаліся старaабраднікі. Каштоўнасць гэтых дароў была вялікая, таму што старaабраднікі ў той час не мелі магчымасці адпраўляць літургію, падчас якой рыхтаваліся Святыя Дары, з-за адсутнасці сваіх епіскапаў і антымінсаў дарэформеннага асвячэння. У 1694 г. Феадосію ўдалося ўцячы ад урадавых войскаў, якія знішчалі Смальянскі скіт. Ён спыніўся ў Калузе і ў царкве імя Пакрова Багародзіцы, дзе шмат гадоў не вяліся службы, але дзе захаваліся алтар, прастол і антымінс, асвечаны яшчэ пры патрыярху Іосіфе, дзе захаваўся таксама іканастас часоў Івана Грознага, ноччу на Вялікі Чацвер 1695 г. адслужыў літургію і асвяціў значную колькасць Святых Дароў. (Не будучы епіскапам, аўтар).

Далейшая дзейнасць Феадосія звязана з Веткай. Пасля смерці святара Іаасафа веткаўцы паслалі манаха Ніфанта да Феадосія з

граматамі, запрашаючы яго прыбыць на Ветку. Феадосій выказаў згоду і неўзабаве сюды прыбыў. Па яго прапанове асвечаная ім царква была павялічана ў даўжыню і шырыню. Калужскія майстры-стараабраднікі зрабілі для царквы іканастас з алтарнымі дзвярыма [16. С. 292; 20. С. 426 - 428]. Асвячэнне царквы мела вялікае значэнне не толькі ў гісторыі Веткі, але і ўсяго стараабрадніцтва. У адсутнасці епіскапа Феадосій фактычна быў кіраўніком стараабрадніцкай царквы. З таго часу стараабраднікі-папоўцы прызналі законным прымаць збеглых свяшчэннікаў і не лічылі гэта парушэннем царкоўнага статута.

Аўтарытэтным сярод стараабраднікаў быў епіскап Анфінаген. У 1749 г. ён прыбыў у старадубскую слабаду Зыбкая і пэўны час служыў там [17. С. 10]. Адсюль ён часта наведваўся ў веткаўскія слабоды, ажыццяўляў там духоўнае кіраўніцтва, і мясцовыя стараабраднікі лічылі яго сваім часовым епіскапам.

На Віцебшчыне большую частку стараабраднікаў складалі беспапоўцы. У Полацкім павеце ўплывовыя духоўныя настаўнікі пражывалі ў вёсках Жарцы, Забор’е, Гарапляны, Арцейкава, Тродава, у г.Полацку і інш. Архівы і манаграфічная літаратура аб стараабрадніцтве не данеслі да нашага часу прыклады жыцця і дзейнасці духоўных настаўнікаў беспапоўцаў на беларускіх землях у канцы ХУІІ і ў ХУІІІ стст. Больш багатым на факты аказалася ХІХ ст. Як адзначае ў сваёй кнізе “Сведения о начале распространения и разделении раскола и о расколе в Витебской губерни” Васілій Волкаў, першым духоўным настаўнікам беспапоўцаў у Віцебску быў вандроўнік з Вялікарасіі Ульянавіч, які забараняў законны шлюб, быў ворагам бульбы, чаю і тытуню. Пасля смерці Ульянавіча духоўным настаўнікам у канцы ХУІІІ – пачатку ХІХ стст. быў Вікула Грыгорыч з Разаншчыны. Яго змяніў Іван Барысавіч (памёр 25 верасня 1810 г.). Затым духоўным настаўнікам быў Лука Антонавіч Сухараў родам з Масквы (памёр каля 1825 г.). Наступнымі духоўнымі настаўнікамі былі: віцебскі мешчанін Егор Іванавіч Палякоў (памёр у 30-я гады ХІХ ст.), Майсей Пятроў (памёр у 40-я гады). Перад далучэннем віцебскіх беспапоўцаў да аднаверства духоўным настаўнікам быў Нікіта Мініч Мінін (памёр у 1853 г.), які быў вельмі адукаваным чалавекам: любіў медыцыну, займаўся ёю, добра ведаў батаніку. Усе хваробы паспяхова лячыў травамі, кветкамі і карэннямі. Карыстаўся павагай жыхароў Віцебска і ваколіц.

У 1864 г. віцебскія беспапоўцы замест духоўных настаўнікаў Васілія Барунова і Івана Давідавіча Утачкі выбралі духоўнымі настаўнікамі падбярэзінскага селяніна Блаху Ефіма Частабаева і прышэльца з Невельскага павета селяніна з Меліна Міхея Макіевіча Баркоўскага. Старшынстваваў на сходзе беспапоўцаў Іван Львовіч Карэлін. Для выбрання духоўных настаўнікаў збіраліся два разы. Першы сход адбыўся ў

доме Міны Гаўрылавіча Мягкова, а другі – у доме Міхайлы Міхайлавіча Казакова [2. С. 59,79].

Архіепіскап Полацкі і Віцебскі (афіцыйнай праваслаўнай царквы) Васілій у 1853 г. так характарызаваў полацкіх старaабраднікаў-беспапоўцаў: “Усе яны трымаюцца сваёй веры вельмі настойліва, асабліва ў в.Жарцы. Гэтыя раскольнікі даволі заможныя, у вышэйшай ступені адважныя, сваім уплывам падтрымліваюць раскол, даючы ўсім прытулак” [14. Ф.796, воп.134, спр.1934, арк.13ад]. У сярэдзіне XIX ст. у г.Полацку духоўнымі настаўнікамі стараабраднікаў былі Наум Рагозін, Сямён Кашчоў, Даніла Парфенёнак, Мелецій Кузмёнак, Гаўрыіла Папоў. Сваё духоўнае ўздзеянне яны распаўсюджвалі і на стараабраднікаў вёсак, прылеглых да Полацка. Памочнікам у Гаўрыіла Папова быў селянін з вёскі Дубавая Ермаген Дубравін і яго дочкі Еўдакія і Аляксандра, якіх называлі кліраманкамі і якія пры чытанні малітваў падчас богаслужэння надзявалі адзенне манашак. Памочніцай Папова была таксама яго сястра Екацярына Іванаўна Зафатаева, якая падтрымлівала адносіны са стараабраднікамі Полацка. Паколькі малельныя ў Полацку да сярэдзіны XIX ст. былі закрытыя, то беспапоўцы збіраліся ў дамах купцоў Красікавых і Гукавых у в.Жарцы, Сямёна Конанава ў в.Смаляны, Гаўрыіла Папова ў в.Бецк і Ермагена Дубровіна ў в.Дубавое.

У в.Жарцы духоўнымі настаўнікамі былі полацкі мешчанін Андрэй Карашоў і жыхар в.Давыдава Себежскага павета Сямён Чыкуноў. Памочнікам у Карашова і Чыкунова быў купец Клім Сільвестраў Гукаў, які адначасова быў старастам стараабрадніцкай абшчыны. У доме Гукава захоўваліся іконы, кнігі і іншыя культавыя рэчы. Купец Еўстафій Красікаў займаўся прыёмам і размяшчэннем прыбылых стараабраднікаў і духоўных настаўнікаў. Дапамогу Чыкунову ў арганізацыі богаслужэнняў, а таксама ў іншых пытаннях аказвалі купец Фёдар Карпаў Красікаў, селянін Іваноў, вольны хлебароб в.Зімнікі Пракофій Кандрацьеў, жыхар в.Смаляны Андрэй Амвросіеў Конанаў. У в.Забор’е духоўным настаўнікам быў суражскі мешчанін Кірыл Ісаеў Рубінаў, яго памочнікамі былі Фекліст Халсціпікаў, Кір Пятроў, Ніфант Кірылаў.

У кожным населеным пункце былі стараабраднікі, якія назіралі за маральнымі паводзінамі сваіх аднадумцаў, а адукаваныя і здольныя навучалі дзяцей чытаць, пісаць і спяваць. Так, у мястэчку Асвея за маральнымі паводзінамі назірала Наталля Лапцева, а навучаннем хлопчыкаў займаўся Арцемій Цімафееў [14. Ф.796, воп.134, спр.1934, арк.13ад – 17ад]. Па такому прынцыпу ў сярэдзіне XIX ст. было арганізавана духоўнае жыццё ў Віцебскім, Гарадоцкім, Лепельскім, Дрысенскім паветах.

На падставе сваіх доследаў мы прыйшлі да высновы, што прынцыпы духоўнага жыцця і маралі стараабраднікаў-беспапоўцаў былі заснаваны на рашэннях Польскага сабора 1751 г.

Колькасць папоўцаў на Віцебшчыне была намнога меншай, чым беспапоўцаў. Найбольшая іх колькасць пражывала ў Віцебску і Віцебскім павеце. Першапачаткова яны не мелі сваіх святароў і ездзілі адпраўляць богаслужэнні і таінствы на Ветку і ў слабаду Клімава Чарнігаўскай губерні. Першым святаром у віцебскіх папоўцаў быў Ефрэм, які паходзіў з Калужскай губерні. Жыў ён за ракой Дзвіной у 3-й частцы Віцебска, атрымліваў матэрыяльную падтрымку ад багатых стараабраднікаў папоўцаў Рыжковых. Пасля Ефрэма святарамі, уключна да 1866 г., былі Іаан, Адам, Фядот, Андрэй, Матфей, Стэфан, Цімафей, Феадор, Афанасій [2. С. 62].

У духоўным жыцці стараабраднікаў важнае месца займалі спосаб жыцця і бытавыя абрады. Заслугоўваюць асаблівай увагі прыклады вясельных абрадаў. Вясельным месяцам лічыўся кастрычнік, які называўся яшчэ “свадебником”. Ад Пакроў да Кузьмінак (да першага лістапада) адбываліся вясельныя “сговоры”. “Батюшка Покров, кроешь ты землю снегом, а воду льдом, покрой и меня молоду!”, - прыгаворвалі дзяўчаты-стараабрадаўкі. На Пакровы звінелі на дарогах званочкі, з дамоў несліся вясельныя песні.

Калі прымалася рашэнне выдаць дзяўчыну замуж, то спачатку “Богу маліліся”. Некаторыя стараабраднікі ў гэты час клікалі святара і чыталі малітву “Овсепетую”.

Бацькі жаніха выбіралі аднаго або двух пажылых сваякоў – “стариков” – і пасылалі “ў сваты”, у дом нявесты. Калі бацькі нявесты давалі сваю згоду і яна сама згаджалася выйсці замуж, прызначаўся дзень вяселля.

Да 50-х гадоў XIX ст. у стараабраднікаў, якія пражывалі на беларускіх землях, існаваў звычай наладжваць перад вяселлем у доме нявесты дзявочнік. Збіраліся дзяўчаты, сяброўкі нявесты і сядалі за стол, на якім быў пачастунак. Даследчык стараабардніцкіх звычаяў і абрадаў І. Абрамаў адзначае, што ў некаторых месцах на дзявочнік прыходзілі і хлопцы. Пачынаўся дзявочнік песняй:

Зборщица, зборщица Еленушка,
Посадила девушек всех за стол (2раза),
А сама села выше всех.
Отступитеся, подруженьки!…[2. С. 11].

Намі запісаны ў вёсках Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці са слоў старажылаў абрады папоўцаў, якія адбываліся ў канцы XIX і пачатку XX стст. У папоўцаў у Ветцы на дзявочніку шылі для нявесты навалочкі, пілі чай, спявалі песні:

Уродился, уродился Василечек,
У садочку, у зеленом,
Он и ростом, он и ростом,
Он и ростом все приростом,
И красотою Василечек Иванович,
Отдают же меня молодешеньку,
А тебя, а тебя, а себя,
Уставайка ся родна маменька,
Раненька, раненька, раненька,
Поливайка ся цветы алые,
Частенько, частенько, частенько.

[Запісана са слоў Зялкоўскай Л.І., 1912 г. н., г.Ветка, кастр. 1998 г.].

У в.Мар'іна на Веткаўшчыне на дзявочніку ў беспапоўцаў "дзяўчаты, стаўшы ў тры або чатыры радкі, насілі вакол жаніха і нявесты "галку" і спявалі "галачныя" песні (песні з пажаданнем шчасця і нараджэння дзяцей). Спачатку спявалі жаніху і нявесце, а потым бацькам. За добрае выкананне песень дзяўчатам давалі невялікія грошы. Дзявочнік для моладзі быў адзіным месцам, дзе можна было павіншаваць жаніха і нявесту і павесяліцца, бо на вяселлі моладзі (незамужнім і нежанатым) прысутнічаць забаранялася. На дзявочніку гарэлка на стол не ставілася. На другі дзень пасля дзявочніка дзяўчаты каталіся "на кавалеров счет". Калі пад'язджалі да радні жаніха, спявалі песню:

А у нашего свата некрытая хата,
Купим куль соломы - покроем хоромы,
С лозы, с березы, все мы тверезы.

Вяселле пачыналася з вянчання. Нявеста вясельнае плацце не надзявала – мела на сабе звычайную сукенку. Не надзявалася і фата. Абавязковым быў наступны абрад: валасы на галаве нявесты дзялілі на два бакі, зверху надзявалі кічку (круглую шапачку) і павязвалі хустачку. Пасля гэтага нявесту пераводзілі ў дом жаніха, дзе духоўны настаўнік здзяйсняў вянчанне. Абавязковым было благаслаўленне іконамі жаніха і нявесты іх бацькамі, якія дарылі маладым гэтыя іконы" [Запісана са слоў Абідзінай Е.Л., 1910 г.н., в.Мар'іна, кастр. 1998 г.].

Папоўцы горада Веткі "адзявалі нявесту ў вясельную сукенку і фату, фата тут называлася "атласка". Звычайна вянчанне адбывалася раніцою, а потым пачыналася гулянне" [Запісана са слоў Зялкоўскай Л.І., 1912 г.н., г.Ветка, кастр. 1998 г.].

У в.Мар'іна на вяселлі маглі прысутнічаць толькі замужнія і жанатыя. На сталы ставілася гарэлка і розныя закускі. "Багацце" стала залежала ад матэрыяльнага стану бацькоў. Абавязковымі лічыліся на вяселлі мядовыя пернікі, якімі маладыя частавалі гасцей, а таксама стравы з грыбною

начынкай, мёд, некалькі гатункаў квасу. Салаты былі з капусты і агуркоў, а для прыгатавання мясных страў выкарыстоўвалася ялавічына, дзічына. Вяселле ў першы дзень было ў маладога, а на другі – у маладой. Падарункі і грошы дарылі паасобна, г.зн. маладому ў першы дзень вяселля, а маладой – у другі дзень. Пасля вяселля маладую з пасагам забіралі ў дом маладога" [Запісана са слоў Абідзінай Л.І., 1910 г.н., в.Мар'іна, кастр. 1998 г.].

У Оршы, на Віцебшчыне вяселле ў стараабраднікаў мела свае асаблівасці. У назначаны для вяселля дзень збіраліся госці: мужчыны – у жаніха, жанчыны – у нявесты. Бацька жаніха ў сваім доме абводзіў сына вакол стала, благаслаўляў яго іконай і на пастаўленую на стол талерку клаў грошы, потым на талерку клалі грошы госці. Гэта называлася "дарыць жаніха". У той самы час у доме нявесты бацька абводзіў дачку вакол стала і благаслаўляў іконай, клаў на талерку грошы, а за ім клалі грошы ўсе госці – "дарылі нявесту". Павесяліўшыся ў доме жаніха, сваты і госці разам з жаніхом адпраўляліся ў дом нявесты, а бацька і маці жаніха заставаліся дома. Жаніха і гасцей у доме нявесты сустракалі яе бацькі з іконай і хлебам-соллю. Жаніх, уваходзячы ў дом, даваў нявесце падарунак. Потым пачыналася вясельнае застолле, падчас якога спявалі песні і танцавалі, але музыкі не было. Перад ад'ездам маладога дамоў бацька маладой, перадаючы дачку маладому, гаварыў: "Глядзі, бярэш ты яе харошую, здаровую, беражы яе". Маладыя кланяліся ў ногі бацьку і маці маладой, маліліся перад іконамі, пакланяліся на ўсе чатыры бакі і ад'язджалі ў дом маладога, бацькі якога сустракалі іх перад домам хлебам-соллю і ўводзілі ў дом. Потым гулянне працягвалася [21. С. 671 - 672].

Жонка ў першыя дні пасля вяселля мела свае абавязкі. Так, у в.Агародня-Гомельская (цяпер Добрушскі раён Гомельскай вобл.) "яна павінна была ўпрыгожыць дом мужа: павесіць новыя фіранкі, заслаць ложак новымі пасцельнымі рэчамі" [Запісана са слоў Седляровай В.І., 1915 г.н., в.Агародня-Гомельская, кастр. 1998 г.].

Цікавасць уяўляе стараабрадніцкі перыядычны друк, які быў прадстаўлены ў асноўным часопісамі. Яны выдаваліся ў новых стараабрадніцкіх цэнтрах, галоўным чынам у Маскве. Аднак аналіз зместу часопісаў сведчыць пра тое, што рэдактары не пакідалі без увагі стараабрадніцкі рух на беларускіх землях. Таму мы адводзім у сваёй працы пэўнае месца аналізу матэрыялаў некаторых часопісаў. У гэтых матэрыялах можна знайсці адказ на пытанне адносна абрадаў і традыцый веткаўскіх стараабраднікаў, якія былі высланы царскімі ўладамі ў Сібір, на Іргіз і іншыя месцы Расіі і захоўвалі там набытую на беларускай зямлі сваю адметнасць. Адразу пасля расколу праваслаўнай царквы абаронцы старога абраду не маглі карыстацца дапамогай дзяржавы ў друкаванні сваіх кніг і іншай літаратуры. І толькі ў пачатку XX ст. дзякуючы ў

першую чаргу свайму эканамічнаму і палітычнаму ўплыву стараабраднікі пачынаюць актыўную выдавецкую дзейнасць.

Адным з першых перыядычных выданняў быў часопіс “Душеполезное чтение”, заснаваны яшчэ ў 1859 г. Рэдактарамі яго былі епіскап Кастрамскі і Галіцкі праасвяшчэнны Вісарыён і протаіерэй Д. Ф. Касіцын. Часопіс меў 17 рубрык, якія насілі як рэлігіёзную, так і асветніцкую накіраванасць. Значнае месца адводзілася працам, якія вывучалі Святое Пісанне, а таксама творам святых айцоў і богаслужэнню, артыкулам верапавучальнага і навучальнага зместу, публічным і багаслоўскім чытанням. Шмат у якіх артыкулах разглядаліся тагачасныя грамадскія з’явы. Друкаваліся таксама словы-пропаведзі і словы-павучанні, асабліва на аснове святаайцоўскіх твораў і твораў вядомых пастараў царквы. Царкоўна-гістарычныя апавяданні даваліся на падставе першакрыніц і гістарычна аўтарытэтных помнікаў.

Акрамя пералічанага, у часопісе змяшчаліся ўспаміны аб знакамітых асобах, вядомых сваім духоўна-маральным жыццём і заслугамі перад царквой. У часопісе змяшчаліся даследаванні праасвяшчэннага Феафана Затворніка, іерасхіманаха Амвросія Апцінскага. Важнай для часопіса і яго стваральнікаў была рубрыка “Новые данные о расколе”, а таксама рубрыка дзе, змяшчаліся агульназразумелыя звесткі з грамадскіх навук і духоўна-павучальныя звесткі, па магчымасці дакументальныя, даныя аб заходніх спавядальніках, іх вучэннях, абрадах. Цікавымі ў часопісе былі літаратурныя агляды, агляды тагачаснага друку, крытычныя артыкулы, вершы, аповесці і апавяданні [6. С. 71 - 72].

З 1897 г. пачынае выходзіць ілюстраваны духоўна-народны часопіс “Кормчий”. Адным з яго рэдактараў быў протаіерэй І. Н. Бухараў. У часопісе друкавалася шмат матэрыялаў на духоўна-маральныя тэмы. У раздзеле “Современный обзор” змяшчаліся артыкулы аб царкоўным і грамадскім жыцці, замежныя звесткі, карысныя парады, заметкі з газет і часопісаў.

Штогод выдавалася для народа 12 кніг пад агульным загалоўкам “Народная библиотека “Кормчего”. У гэтых кнігах друкаваліся павучальныя матэрыялы на тэму місіянерскага і школьнага жыцця, народнага быту і інш. Акрамя кніг, рэдакцыя часопіса выдавала 24 праваслаўна-місіянерскія лісткі, у якіх змяшчаліся адказы на незразумелыя пытанні аб расколе. На ўсе нядзельныя і святочныя дні года, на розныя выпадкі прыхадскога жыцця выдавалася кніга пропаведзяў. У выглядзе дадатку да яе ў 1906 г. выдавалася кніга “Нравственные уроки из Книги книг”. Гэта быў новы бясплатны дадатак, які даваў багаты і карысны матэрыял для пазабогаслужбовых размоў і для дамашняга чытання [6. С. 72].

У 1905 г. адбыліся важныя перамены ў жыцці стараабраднікаў: указ урада ад 17 красавіка “Об укреплении начал веротерпимости” дазваляў пашыраць легальную выдавецкую дзейнасць абаронцаў старога абраду. Пачаў выходзіць новы часопіс – “Старообрядческий вестник”, які друкаваўся на Букавіне (Клімаўцы) у Аўстрыі. У першым нумары часопіса адзначалася, што ён будзе выходзіць штомесяц кнігамі не менш пяці друкаваных аркушаў (80 старонак кожная кніга). Стваральнікі часопіса ставілі сваёй мэтай дапамагаць справядлівай распрацоўцы і добрасумленнаму асвятленню пытання аб стараабрадніцтве і адносінах да гэтага пытання РПЦ; быць выразнікам запатрабаванняў і жаданняў стараабраднікаў, паказваць іх жыццё і ўплываць на выхаванне маладога пакалення ў рэлігійна-маральным духу. У першым нумары, у звароце да чытачоў, рэдакцыя падкрэслівала, што “Старообрядческий вестник” будзе на сваіх старонках змяшчаць інфармацыю аб прававым і грамадскім становішчы стараабраднікаў, летапіс падзей іх царквы, а таксама артыкулы і дакументы рэлігійна-маральнага і гістарычнага зместу, наогул такія, якія маюць маральна-выхаваўчае значэнне або адносяцца да жыцця стараабрадніцкай царквы і яе іерархіі.

У гэтым жа нумары адзначалася, што выданне стараабрадніцкага органа ва ўказаным духу і накірунку дапаможа хутчэй дасягнуць яднання стараабраднікаў, неабходнасць і карысць якога відавочная і да якога імкнуліся і імкнуцца найбольш разважлівыя абаронцы старога абраду [6. С. 72 - 73].

У 1906 г. пачаў выходзіць яшчэ адзін часопіс – “Старообрядец”. У ім змяшчаліся матэрыялы верапавучальнага і маральнага зместу, значнае месца адводзілася тлумачэнню прычын расколу, гісторыі стараабрадніцкай царквы. Тут друкаваліся таксама працы вядомых пастыраў царквы, інфармацыя аб урадавых і аб імператарскіх указах адносна расколу.

У тым жа 1906 г. пачалі выходзіць часопіс “Церковно-общественная жизнь” і першая стараабрадніцкая газета – “Народная газета”. Часопіс выйшаў пры Казанскай духоўнай акадэміі. Яго рэдактарамі былі прафесары Л. Пісараў, М. Машанаў, К. Грыгор’еў. За год выходзіла 52 нумары (па два друкаваныя аркушы ў кожным). Рэдактары часопіса імкнуліся ўздзейнічаць на царкоўна-грамадскую свядомасць у пытаннях царкоўнай рэформы, асвятляць факты царкоўна-грамадскай дзейнасці. Важнай задачай, якую ставіў часопіс, з’яўлялася абмеркаванне на яго старонках пытанняў, звязаных з рэлігійна-бытавым становішчам рускіх стараабраднікаў, што пражывалі на ўсходніх ускраінах Расіі.

Першы нумар “Народной газеты” выйшаў 15 студзеня 1906 г. з двума бясплатнымі дадаткамі. Галоўная задача газеты была асветніцкая. Два разы на тыдзень бясплатна выходзіў асобнымі старонкамі дадатак да газеты, у

якім разглядаліся пытанні старога абраду. Дадатак называўся “Голос старообрядника”. Вялікая ўвага ўдзялялася пытанням рабочага і сялянскага побыту, а таксама справам царквы і веры. Акрамя таго, штомесяц да газеты бясплатна дадаваўся ілюстраваны часопіс, у якім змяшчаліся нарысы і апавяданні на гістарычныя тэмы, старадаўнія сказанні і паданні, а таксама малюнкі і артыкулы па розных пытаннях [6. С. 73].

У 1910 г. у Кіеве, у друкарні С. В. Кульжэнкі, пачаў выходзіць штомесячны царкоўна-грамадскі часопіс “Старообрядческая мысль”. Супрацоўнікамі яго былі стараабраднікі – Канадскі епіскап Міхаіл і Ніжагародскі і Кастрамскі епіскап Інакенцій, протаіерэй Леў Дзянісаў, свяшчэннікі Г. Карабіновіч, В. Плотнікаў, дыякан Ф. Гуслякоў, прафесары А. А. Кізяветар і С. А. Катлярэўскі і інш.

У першым нумары “Старообрядческой мысли”, у звароце да чытачоў, падкрэслівалася, што заснавальнікі часопіса не маюць намеру абапірацца толькі на аднадумцаў. Справа ў тым, адзначалася далей, што шмат якія пытанні стараабрадніцтва знаходзяцца яшчэ ў стане распрацоўкі, таму часопіс адкрывае свае старонкі для даследаванняў аўтараў, якія належаць да розных напрамкаў, паколькі неабходна браць пад увагу існаванне бясспрэчных і беспамылковых палажэнняў і думак розных аўтараў. Рэдакцыя лічыла, што глыбокія даследаванні і перакананні сумленных аўтараў будуць спрыяць распрацоўцы тэорыі стараабрадніцтва і дапамогуць зразумець яго асновы. Жыццёвая практыка, на думку рэдакцыі, сведчыць, што супрацьлеглыя перакананні, даючы featuresзнабаковае асвятленне прадмета, нярэдка кладуць аснову больш шырокім і правільным высновам, што дапамагаюць ліквідаваць супярэчнасці ў пошуках дарогі да праўды [6. С. 73].

Як бачым, часопіс “Старообрядческая мысль” ставіў сваёй мэтай не распаўсюджванне вузкапартыйных і аднабакова прадузятых поглядаў або гатовых палажэнняў, а магчымае аб’яднанне стараабрадніцкіх літаратурных і грамадскіх сіл на глебе распрацоўкі і высвятлення тэарэтычных пытанняў, асабліва тых, якія датычацца новага статуса стараабрадніцтва ў дзяржаве.

Часопісы і газета ўдзялялі значную ўвагу стараабрадніцтву на беларускіх землях. У другім нумары часопіса “Старообрядческая мысль” за 1910 г. гаворка ішла пра стварэнне Белакрыніцкай мітраполіі і пра ролю ў гэтым веткаўскіх манахаў. У трэцім, чацвёртым і пятым нумарах часопіса “Старообрядец” за 1906 г. змяшчаліся артыкулы пра гісторыю веткаўскай стараабрадніцкай царквы, а з пятага па дзевяты нумары – статут веткаўскай царквы.

За два стагоддзі знаходжання на беларускай зямлі рускія стараабраднікі, жывучы абасоблена, здолелі захаваць сваю веру,

рэлігійныя абрады, звычаі, сваю мараль, сістэму навучання, сваю адметную культуру. Іх культура і мова, як і ўсё іх духоўнае жыццё не растварыліся на новым месцы пражывання. Жыццё ў дыяспары спрыяла таму, што яны захавалі сваю адметнасць. Іх узаемадапамога, кемлівасць і практыцызм дапамагалі наладжваць нябеднае жыццё, а матэрыяльны дастатак і ўменне выкарыстаць спрыяльныя палітычныя ўмовы давалі магчымасць будаваць свае цэрквы і малельні. Трэба зазначыць, што архітэктура і культура папоўцаў і беспапоўцаў не была аднолькавай. Папоўцы, зыходзячы са сваёй абрадавай практыкі, узводзілі багата аздобленыя цэрквы. Беспапоўцы таксама абапіраліся на сваю абрадавую практыку, будавалі малельні, якія звонку былі падобныя на жылыя дамы і ўнутранае іх афармленне было не такое багатае, як у папоўцаў.

Культура, мараль і духоўнае жыццё стараабраднікаў на беларускіх землях цесна звязана з дзейнасцю іх свяшчэннікаў і духоўных настаўнікаў, такіх, як Козьма, Дасіфей, Іаасаф, Феадосій і інш.

Вялікую ролю ў стараабрадніцкім руху адыграў перыядычны друк, асабліва ў пачатку XX ст. Ён быў прадстаўлены ў асноўным часопісамі. Іх колькасць, аб’ём і перыядычнасць сведчаць аб тым, што абаронцы старога абраду валодалі капіталам, частка якога ішла на выдавецкую дзейнасць. Аналіз часопісаў сведчыць пра тое, што ў іх узнімаліся такія важныя пытанні, як веравучэнне, гісторыя, культавыя абрады, маральная і бытавая асвета. Часопісы ўдзялялі ўвагу і жыццю стараабраднікаў на беларускіх землях.

## 4.2.Стараабрадніцкая літаратура і самадзейная творчасць

Стараабрадніцкая літаратура і стараабрадніцкая самадзейная творчасць, якія ўзніклі ва ўмовах барацьбы з ідэалогіяй Рускай праваслаўнай царквы, баярскай думы, а потым урада, адрозніваюцца адметнай ідэалагічнай насычанасцю, арганічнай сувяззю твораў. Гэта характэрна як для літаратуры, напісанай стараабраднікамі, што жылі ў рускай дзяржаве, так і для літаратуры, напісанай стараабраднікамі за яе межамі. Стараабрадніцкія літаратура і самадзейная творчасць характарызуюцца шматжанравасцю, і туму цяжка падзяліць іх на “мастацкую” і “дзелавую” часткі.

Будучы з прычыны тагачасных грамадска-палітычных умоў у значнай меры ізаляванымі ад асноўнага напрамку старажытнарускай культуры,

стараабрадніцкія літаратура і самадзейная творчасць развіваліся па сваіх законах. Іх творцы паказалі ў сваіх працах складанасць і супярэчлівасць сваёй эпохі, стварылі своеасаблівую літаратуру і самадзейную творчасць сялянска-феадальнага напрамку.

Архіўныя матэрыялы сведчаць аб тым, што вядомыя стараабрадніцкія свяшчэннікі і духоўныя настаўнікі жылі доўгі час на беларускай зямлі, у прыватнасці на Ветцы, адкуль выйшла многа тэарэтыкаў папоўства. Тут на працягу ХУІІІ ст. імі былі напісаны працы ў абарону старога абраду, пра маральныя нормы і правілы. Пад кіраўніцтвам гэтых лідэраў былі пабудаваны стараабрадніцкія манастыры і цэрквы.

У розны час лёс тэарэтыкаў стараабрадніцтва складваўся па-рознаму. Пасля арганізаваных епіскапам Піцерымам ганенняў супраць прыхільнікаў утворанага ў папоўстве дыяканаўскага сагласа на Ветку перасяліўся Лысенін Цімафей Матвееў (другая палавіна ХУІІ – пачатак ХУІІІ стст.) – стараабрадніцкі пісьменнік і палеміст, адзін з ідэолагаў і заснавальнікаў дыяканаўскага сагласа, які сучаснікі называлі "лысенкаўшчынай". Нарадзіўся ён у Маскве, вядомы быў як выкрывальнік вучэння старца Ануфрыя і Іерафея Андрэева. Прыехаўшы ў Ветку, Цімафей Лысенін разгарнуў спрэчкі з Феадосіем Варыпіным аб шанаванні чатырохканцовага крыжа і аб адносінах да старадрукаваных кніг. Гэтыя спрэчкі знайшлі сваё адлюстраванне ў рукапіснай працы " Описание прения старца Феодосия с Тимофеем Лысениным… и с его единоволниками". Дадзеныя спрэчкі адбыліся ў Ветцы ў 1710 г. Мяркуецца, што пяру Лысеніна належыць "Сказание вкратце о брани протопопа Аввакума с Феодором дъяконом о вере и о несогласных письмах Аввакумовых. Ихже многая лета держал и веровал старец Ануфрий, и как потом отложил и похулил" (каля 1710 г.) і "Книга" (не пазней 1709 г.), у якіх аўтар вытлумачыў асновы веравучэння дыяканаўскага сагласа [10. С. 406; 16. С. 162].

У першай палавіне ХУІІІ ст. у Веткаўскім манастыры жылі пісьменнікі, якія стварылі "Православное споведание", што сваёю рукою замацаваў епіскап Епіфаній, а таксама "Послание священника Иова отцам и братьям". Жылі ў Веткаўскім манастыры і два філосафы: Іаан Андрэеў (каля 1710 г.) і Фёдар, які напісаў "Слово о каждении" (каля 1725 г.) [3. С. 64; 19. С. 73]. Да гэтага часу адносіцца таксама дзейнасць Івана Філосафа, аўтара "Грамотки" аб спосабе каджэння, напісанай у 1711 г. па просьбе веткаўскага старца Сергія ў сувязі са спрэчкамі паміж стараабраднікамі дыяканаўскага сагласа і астатнімі веткаўскімі папоўцамі. Іван Філосаф падтрымаў варыянт каджэння, прыняты дыяканаўцамі. Свае погляды адносна гэтай спрэчкі ён выказаў у сачыненні "Книжица о каждении" [16. С. 112].

Выгнанні стараабраднікаў царскімі войскамі з Веткі ў 1735 г. і 1764 г. прынеслі ёй, як і ўсяму стараабрадніцтву, вялікія страты. У пачатку XIX ст. Ветка хаця ўжо і не была духоўным цэнтрам папоўства, аднак яе ўплыў і ўплыў веткаўскіх айцоў быў па-ранейшаму значны.

З гісторыяй стараабрадніцкай Веткі звязана дзейнасць Іларыёна Георгіевіча Кабанава (кастрычнік 1819 г. – 4 снежня 1882 г.) – выдатнага пісьменніка, апалагета Старажытнаправаслаўнай Царквы Хрыстовай. Ён быў больш вядомы пад псеўданімам Ксенас (грэч. "прышэлец", "вандроўнік"). Нарадзіўся ў вёсцы Глотава Масальскага павета Калужскай губерні. У 15 гадоў стаў паслушнікам у Лаўрэнцьеўскім манастыры, дзе пастаянна пражывала больш як сто манахаў. Манастыр знаходзіўся за 20 вёрст ад Гомеля. Пасля разбурэння Лаўрэнцьеўскага манастыра жыў у іншых манастырах, у тым ліку пэўны час у Пакроўскім, непадалёк ад пасада Клімаўцы Чарнігаўскай губерні. Апошнюю частку свайго жыцця Іларыён Кабанаў пражыў у Краснаборскім мужчынскім манастыры імя Іаана Прадцечы каля пасада Клінцы, заснаванага ў 1760 г. выгнанымі з Веткі стараабрадніцкімі манахамі, называемым яшчэ "скит Полоса". Вёў манаскі спосаб жыцця, строга захоўваў усе правілы, але ў манахі не быў пастрыжаны. Вызначаўся глыбокай начытанасцю, меў незвычайную памяць, вывучыў грэчаскую мову, каб чытаць святыя кнігі ў арыгінале. Працаваў у многіх бібліятэках Масквы, Пецярбурга, Кіева і іншых гарадоў. І. Г. Кабанаў - аўтар многіх твораў, у тым ліку такіх, як: "Устав или краткое изложение догматов и преданий церковных", "История и обычаи Ветковской Церкви", "Окружное послание", "Омышление православных христиан", "Краткое содержание учения Святой Церкви и мнения противляющихся оному изучению", "Разбор белокриницкого акта 1868 г.", "О монархиях: Ассирийской, Мидийской, Греческой и Римской и последовательно исторически о царях греческих и римских".

Кнігі І. Г. Кабанава асвятлялі канкрэтныя падзеі, у іх аўтар адстойваў ідэі духоўных айцоў і свае ўласныя ў абарону старажытнага богаслужэння. Кніга "История и обычаи Ветковской церкви" была напісана ім пасля адмены ў Расіі прыгоннага права [19. С. 66 – 67; 11. С. 22 – 23; 9. С. 6 – 7; 16. С. 131 – 132,227; 12. Ф.2001, воп.1, спр.259, арк.1 – 6,26; 14. Ф.1263, воп.1, спр.2970, арк.41].

Прамысловы ўздым пасля адмены прыгоннага права стаў прычынай перамен у жыццёвым укладзе стараабраднікаў. Пад уздзеяннем новаўвядзенняў пачалі разбурацца векавыя традыцыі старажытнарускага побыту, змяняўся спосаб жыцця і мыслення, змяняліся адносіны да веры і запаветаў бацькоў. Жыццё ставіла такія пытанні, на якія правільны, сапраўды хрысціянскі адказ маглі даць толькі духоўна асвечаныя і адукаваныя людзі. Неўсвядомленае следаванне традыцыям продкаў многіх

ужо не задавальняла. Уключыўшыся ў тагачаснае жыццё, некаторыя стараабраднікі пачалі адступаць ад сваёй веры. У некаторай ступені ўплыў часу закрануў усё стараабрадніцтва. Гэта выявілася ў адных у благачыннасці і рэлігійнасці, захаванні пастоў і іншых правілаў хрысціянскай набожнасці, а ў другіх - у спрошчаных адносінах да богаслужэння, якое падчас выконвалася наспех і нядбайна.

Паскоранае развіццё транспарту, сувязі, кнігадрукавання спрыяла як умацаванню ўзаемасувязей стараабраднікаў, так і выяўленню адрозненняў у богаслужэбных традыцыях сагласаў і толкаў паасобных мясцовасцей. Свае асаблівасці мела нават адпраўленне таінстваў і іншых культавых дзеянняў. Справа ў тым, што, як ужо адзначалася, на працягу амаль двух стагоддзяў стараабрадніцтва не мела агульнага цэнтра і кананічнага падпарадкавання, а свяшчэннікаў было мала. Нават пасля аднаўлення трохчыннай іерархіі ў 1846 г. свяшчэннікаў у многіх месцах з-за праследаванняў пасвячалі тайна, без неабходнай падрыхтоўкі. У той жа час веткаўскія і старадубскія стараабрадніцкія цэрквы і манастыры адрозніваліся тым, што з самага пачатку свайго існавання яны мелі сваіх свяшчэннікаў, якія пераходзілі ў стараабрадніцтва з праваслаўя або былі падрыхтаваныя і пасвечаныя на месцы. У такіх веткаўскіх манастырах, як Лаўрэнцьеўскі, Іаасафаўскі, Пыханскі, Тырлаўскі, жаночы манастыр пры Спасавай слабадзе, Макар’еўскі, Пахом’еўскі, Нікольскі, захоўваліся старажытныя традыцыі манастырскага манаства, якія ў стараабраднікаў Расіі ў значнай меры былі страчаны.

У гістарычных умовах XIX ст. духоўны вопыт веткаўскіх манастыроў уяўляў сабой цікавасць. Гэта разумелі многія тэарэтыкі стараабрадніцтва. Баючыся, каб назапашаны вопыт не быў страчаны, а старажытныя прынцыпы хрысціянскага жыцця не былі забытыя, яны стваралі працы па гісторыі і тэорыі стараабрадніцтва. Так, І. Г. Кабанаў напісаў кнігу “История и обычаи Ветковской церкви”. Раскрываючы сутнасць абрадаў і звычаяў у стараабрадніцтве, аўтар піша пра глыбокае пачуццё вернасці і любові абаронцаў старога абраду да сваёй Маці-Царквы, да яе дагматаў і паданняў, да яе свяшчэннай прыгажосці і пакутнага крыжовага шляху. Скарыстаўшы багаты храналагічны матэрыял, аўтар паказаў важныя падзеі, характэрныя для гісторыі папоўства на Ветцы.

Своеасаблівая гісторыя ў “Окружного послания” стараабрадніцкіх епіскапаў (1862 г.), тэкст якога быў падрыхтаваны І. Г. Кабанавым. Гэтае пасланне выклікала спрэчкі аб папоўстве і прывяло да ўтварэння “окружников” і “противоокружников”. Яно было складзена ад імя Маскоўскага Духоўнага савета (пастаянны дарадчы орган пры архіепіскапе Антоніі) для зацвярджэння адзінства веравання Старажытнаправаслаўнай Царквы Хрыстовай (стараабраднікаў, якія прынялі белакрыніцкую

іерархію). Патрэбнасць у пасланні ўзнікла таму, што сярод старaабраднікаў-папоўцаў пачалі распаўсюджвацца развaжанні беспапоўцаў адносна таінстваў, свяшчэнства і антыхрыста. Частка старaабраднікаў-збеглапапоўцаў, што прынялі белакрыніцкую іерархію, згаджалася з беспапоўцамі ў тым, што антыхрыст ужо з'явіўся на зямлі, што грэка-расійская царква, скарыстоўваючы імя "Иисус", верыць у другога Бога – антыхрыста, што трохперсце і чатырохканцовы крыж – пячатка антыхрыста. У гэтым была яўная супярэчнасць у вучэнні старaабраднікаў-збеглапапоўцаў, якія, даводзячы, што грэка-расійская царква верыць у антыхрыста, у той жа час прымалі ад гэтай царквы збеглых свяшчэннікаў, а з часам прынялі і збеглага мітрапаліта Амвросія. Але такія вывады і дзеянні папоўцаў сустрэлі крытыку беспапоўцаў, якая змяшчалася ў "сшытках".

"Окружное послание", сцвярджаючы царкоўныя дагматы і святаайцоўскае вучэнне, выкрывала змест беспапоўскіх сшыткаў. Частка старaабраднікаў-папоўцаў абвінавaціла аўтара паслання І. Кабанава ў тым, што ён знаходзіцца ў згодзе з пануючай новаабрадніцкай царквою.

Мы лічым такое абвінавачанне беспадстаўным. У сваёй кнізе "История и обычаи Ветковской церкви" І. Г. Кабанаў выступае як прыхільнік старaабрадніцкіх ідэй і абрадаў у папоўстве, а ў "Окружном послании" ён не падрывае старaабрадніцкую царкву, а гаворыць пра адносіны, якія існавалі паміж старaабрадніцкімі сагласамі, пра тое, як прыйсці да згоды.

Іларыён Кабанаў пражыў беднае і самотнае жыццё. З юнацкіх гадоў адзіным месцам яго суцяшэння быў Божы Храм, малітвы і свяшчэнныя кнігі. Памёр ён у манастыры "Полоса". На яго магіле быў пастаўлены чыгунны помнік – чатырохвугольная калона з крыжам. І з надпісам: "Сей крепкодушный, терпеливый и трудолюбивый муж… от младых лет трудился Древлеправославной Церкви вразумляя заблуждающихся, борясь с неправомудрствующими, и побеждая оныя силою словес и письменных показаний…" [16. С. 132].

Значны след у гісторыі старaабраднікаў-беспапоўцаў пакінуў віцебскі купец Іван Іванавіч Сабальшчыкоў (1763 – 1836 гг.). Ён быў пісьменнікам, краязнаўцам, збіральнікам старажытнасці і творчасці старaабраднікаў. Нарадзіўся ў Віцебску, як пра гэта паведамляецца ў яго кнізе "Сборник". Быў ён чалавекам багатым, меў тры мураваныя дамы, у адным з якіх размяшчалася малельня, дзе было шмат рукапісных і друкаваных кніг, старажытных ікон у пазалочаных акладах, аздобленых жэмчугам і каштоўнымі камянямі.

І. І. Сабальшчыкоў быў чалавекам працавітым і акуратным, карыстаўся ўсеагульнай павагай. Ён перапісаў шмат царкоўна-багаслоўскіх

кніг і некалькі Евангелляў, адно з якіх, паводле яго завяшчання, было пакладзена ў яго труну. Склаў многа “цветников” на маральна-рэлігійныя тэмы і іншых зборнікаў. Са складзеных ім рукапісных кніг відаць, што ён многа чытаў, а ўсё найбольш цікавае перапісваў у свае кнігі друкаванымі літарамі. Пісьмо яго было выразнае, чыстае і беспамылковае. Адзін з яго зборнікаў налічваў 189 артыкулаў на розныя тэмы. У артыкуле “Космография” коратка давалася апісанне дзяржавы, людзей, веры, нораваў, гарадоў і іх гандлёвых стасункаў. Гаворка ў ім ішла таксама пра рэкі, моры, азёры, астравы, жывёлу і інш. У гэтым жа зборніку былі змешчаны і правілы Польскага сабора. Тут таксама былі змешчаны вершы, звернутыя да Багародзіцы і Збавіцеля, “Рацея”, гісторыя Барыса і Глеба, сказанне аб страшным судзе, аб плачы Адама і Евы, вершы пакутніка А.П., верш на плач Прасвятой Багародзіцы пры распінанні Збавіцеля, верш Іосіфа-царэвіча, верш пахвалы Прасвятой Багародзіцы. У 1785 г. І. І. Сабальшчыкоў склаў рукапісны сборнік, у якім, у прыватнасці, паведамлялася аб Колпінскім сходзе, што адбыўся 1 кастрычніка 1751 г. у в.Колпіна Себежскага павета на Віцебшчыне.

У напісаных І. І. Сабальшчыковым зборніках змяшчаліся і яго вершы. Акрамя паэзіі, ён паважаў замежныя мовы, усведамляў карысць іх ведання, аднак імі не валодаў і выказваў з гэтай прычыны шкадаванне. Іншы раз ён пісаў так, каб не кожны мог прачытаць напісанае, - такое пісьмо называлася “тарабаршчынай” [2. С. 55 – 58; 16. С. 262].

У 1973 г. у час археаграфічнай экспедыцыі ў Прыбалтыку гісторыкі і філолагі Пушкінскага Дома (Санкт-Пецярбург) знайшлі цікавы рукапіс – помнік сялянска-стараабрадніцкай літаратуры, так званы “Дегуцкий летописец”. Ён захоўваўся ў доме І. Ф. Паўлава, “головщика” Зарасайскай стараабрадніцкай абшчыны. Гэты рукапісны зборнік складаўся ў 1842 – 1851 гг., меў памер – “у 8-ку”, налічваў 187 аркушаў, перапісаны быў паўуставам аднаго почырку, пераплёт – дошкі, пакрытыя чорнай тканінай са скураным карашком і латуннай засцёжкай. Аўтарам перапісаных у першай частцы рукапісу “увещевательных грамот”, у якіх змяшчалася апалогія “истинного” надпісу на крыжы “Исус Христос Царь Славы” і выкрыццё “ложного” цітла “ІНЦІ”, з’яўляецца, відавочна, як лічаць аўтары “Дегуцкого летописца”, вядомы федасееўскі настаўнік з Вышняга Валачка Нікіта Маркаў (1742 – 1805 гг.), творы якога карысталіся папулярнасцю сярод федасееўцаў Віцебшчыны. У другой частцы рукапісу – “Хронограф Курляндско-литовский” – падаюцца падзеі з 1652 г. па 1850 г. у выглядзе розных па аб’ёме гадавых запісаў (ніводны год не прапушчаны). Падзеі “Дегуцкого летописца” датычаць гісторыі стараабрадніцтва як і ў Расіі, так і на беларускіх і літоўскіх землях. У тэксце ўпамінаюцца Масква, Рыга, Дынабург, Віцебск, Відзы, Браслаў, сустракаюцца імёны 180 вядомых і

раней не вядомых гісторыі асоб. Акрамя храналагічных запісаў, у “Дегуцком летописце” выкарыстаны ў якасці ўставак аповесці, бытавыя навелы, дакументы, творы вершаваных жанраў – ад сатыры да эпітафіі [7. С. 166 - 169].

Вялікую цікавасць уяўляе самадзейная творчасць стараабраднікаў. Пасля разарэння Лаўрэнцьеўскага манастыра невядомы аўтар (або аўтары) напісаў верш “О разорении Лаврентьева монастыря близъ Гомеля, сочинение”: У гэтым вершы аўтар расказаў, як добра стараабраднікам жылося на беларускіх землях, выказаў свой боль і жаль з той прычыны, што іх высяляюць з Лаўрэнцьеўскага манастыра і раз’ядноўваюць – высылаюць у розныя мясціны.

Боже, пріидоша времена до насъ,
О них пророкоша еще прежде насъ,
О них пророкоша еще прежде насъ.
Пустыня была всѢмъ прибѢжище,
НынѢ уже и там нѢть убѢжища.
Разсыпаютъ насъ, разлучают насъ,
Рады бъ неразлучны итти за Кавказъ.
Не противимся Божіей воли,
Идемъ во своя мы поневоли.
Весь свѢтъ намъ отечество,
Где-бъ не умирать,
Кто польстится на честь, гроба не миновать.
Оставляемъ храмы пречюдно созданы,
Златомъ и серебром богато убраны.
За царя молити у поли будемъ,
Про житие свое во вѢкъ не забудемъ.
Пущай владѢють чюжимъ насильно,
Скоро судія воздасть обильно
Равенъ у него царь и воинъ
Богату и пищу судія единъ.
Ирьзскія (Иргизскія?) воды въ море утекли,
Его жителей вонъ вытѢснили,
Поселили ихъ близъ Ленкорана,
Имъ свобода тамъ вполнѢ дана,
Арарат гора и Аркасъ рѢка
Въ сосѢдствѢ у нихъ въ последѢніи вѢка.
Каспійское море обливаеть ихъ,
Песчаные степи засыпають ихъ,
И рѢка Ефрать недалече ихъ.
Дождалися мы жестокой зимы,

Выслали всѢхъ безъ всякой вины.
Мы власти повинуемся,
За обидящихъ Богу молимся.
Построимъ мы кущи вмѢсто свѢтлыхъ келій,
Мы будемъ въ молчаньи, вмѢсто громкихъ пѢній,
Поминать мы будемъ про житье свое,
Жили при рѢкѢ быстрой УзѢ,
Но время быстрѢй сей нашей рѢки,
Оно унесло младые вѢки.
ЦвѢла обитель болѢе ста лѢтъ,
НынѢ опустѢла, уже ея нѢтъ.
Звонъ былъ удивленный, аки громъ гремелъ,
Соборъ разныхъ птицъ
Сладко пѢсни пѢлъ.
Теперь все замолкло и нѢтъ ничего,
Погибло, истлѢло, травой заросло.
Перестаньте пѢть веселые птицы!
Скоро улетайте за моря отъ насъ
Скажите за моремъ, что уже насъ тутъ нѢтъ;
Къ намъ не прилетайте къ будущему лѢту,
Пущай распѢваетъ здѢсь одна сова,
Летучія мыши и воробьевъ стада.
Прохожий не можетъ безъ слезъ пройти,
Разсматриваетъ разныя примѢты…
Никого не видитъ, никто не встрѢчаетъ,
Онъ все обзирая, главою качаетъ.
ГдѢ праведный судъ? Его не стало,
Какъ превратное время настало.
Коли жъ изволивъ Богови служить,
Не треба ему о себѢ тужить [1. С. 5 - 7].

Гэты верш быў пакладзены на стараабрадніцкі спеў, яго спявалі ў пасты, вызначаўся ён сумным напевам; мастерицы (настаўніцы) вывешвалі гэты верш у сваіх келлях.

Разнастайным быў песенны рэпертуар веткаўскіх стараабраднікаў. Іх песні прызначаліся розным жыццёвым падзеям. Напрыклад:

“Карагодная”.

У барина хараша была жена,
У въ лакея личши баринавой.
“Да давай лакей (2 раза)
ПомѢняемъ на жену”.
“Ахъ не хочу, баринъ (2 раза),

Твоя жена часто въ гости ходитъ,
А моя жена, - она съ дому никуда!"
- "Да дуракъ лакей (2 р.)
У салдаты отдамъ".
- "У салдаты пайду (2 р.)
Жену съ сабой вазьму".

"Карагодная".

Какъ усѢмъ царямъ служба явлена.
Ой ли, ой люли,
Маему дружку давно сказано,
Ему вопередъ иттить,
Большой карагодъ водить,
СебѢ дѢвку выбрати.
Ой-ли, ой лю-ли,
ДѢвчоначку бравую
БѢлую, румяную,
За рученьку правую.
"Ты жъ милая мая,
Уся волюшка твая,
Ты же заложь, заложь меня,
Купи ворона коня.
Какъ выпоишь, выкормишь,
Меня молодца выручишь".
Какъ усѢ цари
Са войны пришли;
Моево дружка ево и въ завѢтѢ нѢть;
Только конь бѢжить,
На лошади знакъ лежить, -
Шляпочка пуховая,
А въ шляпочкѢ еловай (?) платокъ.
МнѢ жъ не жаль платка,
Что платочикъ носится,
Только жаль дружка,
Что съ иной водится,
Что съ иной водится,
А со мной младой здорится".

"Карагодная".

Хажу я гуляю удоль карагоду,
Заинька сѢренький,

Сматрю, выбираю па всему народу.
Нашелъ же, выбралъ багатаго тестя.
Хажу я гуляю удоль карагоду
Заинька сЂренькій…
Сматрю выбираю харошую тещу.
Нашелъ же я выбралъ…
Хажу я гуляю и т.д.
СебЂ выбираю маладого шурина.
Нашелъ… и т.д.
Хажу я… и т.д.
Сматрю выбираю
Хорошу своячню и т.д.
Хажу я гуляю и т.д.
Харошу невЂсту…
ЖилЂю, милЂю,
Семь разъ поцалую.
Хажу я гуляю по всему карагоду,
Зову зазываю всёх людей на свадьбу, -
Пожалуйте, люди,
ВсЂ ко мнЂ на свадьбу,
А въ мине на свадьбЂ
Пива вина много,
ХлЂба, соли тожа.
Я жъ напивши пива,
Сваво тестя въ рыло,
Са таво же хмЂлю,
Сваю тещу въ шею.
А ты маладой шуринъ
СЂдлай добра коня,
СъЂзжай съ двора скоро.
А маладой своячинЂ подарю подарочекъ,
Шелковый платочекъ.
Ахъ веселъ я веселъ,
Что я одинъ остался
Съ молодой невЂстой.
ЖилЂю, милЂю, семъ разъ поцалую…

На дЂвишникЂ поють:

А чія въ поле жито не жато (2 р.)
Не жато жито Елизарово,
Не жато жито Ивановича.

Посылаитъ Марьюшку жито жать.
- "Не могу, сударь, головушку поднять,
Со головушки бѢло лицо горить,
Со бѢла лица вся не могу".
- "Марьюшка! ТебѢ въ гости завуть,
Сидоровна, тебѢ въ гости завуть!"
- "Сейчасъ, моя радость, соберусь,
Сама пайду, тибѢ въ домѢ пасажу,
Заставлю работу работáть,
Ужъ и первая работушка для тебѢ
Выгоняй съ огороду лебедень,
А вторая работушка для тебѢ –
Поставь самоваръ для мене,
Ужъ и третья работушка для тебѢ –
СустрѢнь среди двора меня,
Называй меня душечкою,
Ужъ ты душечка, Марьюшка,
Ужъ ты душечка Сидоровна!.."

Найбольш распаўсюджанымі былі песні:

Ишла Машенька сы дыбровки,
Разчерныя Маши бровки
Со мной говорить.
Пастушка дружка просила:
"Сударь пастушокъ,
Сударь, сударь пастушокъ,
Сударь миленькій дружочекъ,
Не спокинь меня!"
"Ахъ ни спокину я сиротину
При широкой при долинѢ
Во лужкахъ адну.
Ахъ, во лужкахъ адну…"
Въ лужкахъ Машинька гуляла,
За ракитовъ кустъ запала,
Пущай милъ прайдетъ,
Ахъ, пущай милъ прайдетъ.
Въ Маши серце не стерпѢло –
Громкимъ голосомъ кричала:
"Я, миленький, здѢсь!"
Мальчикъ голосу взрадовался,

За ратиковъ кустъ бросался
Началъ цаловать.
Онъ цалуить и милуить
Машею заветь.
Ужъ ты, Машенька чернаброва,
Почему любишь инова?
Потаму люблю инова,
Што даруить всево много,
А ты ничего.

Съ тебя снимуть кафтанъ,
Съ меня синій сарафанъ.
Тебя къ войту поведуть,
Меня къ старостѢ,
Тебя кнутомъ будуть сѢчь,
Меня розочкою [1. С. 22 - 27].

Глыбокім філасофскім сэнсам, разнастайнай жанравай кампазіцыяй вызначаліся духоўныя вершы, напісаныя веткаўскімі мудрацамі. Яны захоўваліся ў рукапісах келейніцамі. Гэтыя вершы выкарыстоўваліся для навучання дзяцей, яны былі своеасаблівымі настаўленнямі, мелі выхаваўчую функцыю.

Изъ пустыни старецъ.

Изъ пустыни старецъ въ царскій домъ приходитъ.
Онъ принесъ съ собою, онъ принесъ съ собою
Прекрасный камень драгій.
Іосафъ царевичъ спросилъ Варлаама:
- “Покажи сей камень. Сей камень я увижу,
Познаю цѢну его!”
- “УдобѢя ты можешь солнце рукою взяти,
А сего не можешь, а сего не можешь оцѢнити
Во вся вѢки безъ конца.
Родила сей камень Пречистая ДѢва,
Положенъ во ясли, положенъ во ясли
И являлся прежде пастухом”.
- “А купецъ премудрый, скажи, скажи мнѢ всю тайну,
Какъ на свѢть явился, какъ на свѢть явился,
И гдѢ пребываеть камень тотъ?”
- “Той нынѢ пребываеть выше звѢздъ небесных,
Солнца со свѢздами,
А земля съ морями безпрестанно славятъ завсегда”.

Остался царевичъ безъ Варлаама,
Сталъ плакать, навсегда сталъ плакать:
- “Не хочу я пребывать безъ старца;
Оставлю царство, во пустыню жить пойду,
Взыщу Варлаама, взыщу.
И я буду свѢтозаренъ отъ него,
И я ему буду служить вѢчно, какъ отцу”.
Сказала пустыня отроку младому:
- “Горько во мнѢ жити, горько во мнѢ жити,
Всегда быти во молитвѢ и въ постѢ!”
Іосафъ царевичъ: “Какъ тебе угодно,
Такъ я буду жити…
Всегда нынѢ присно и вовѢки вѢковъ”. Аминь.

У вершах стараабраднікі паказвалі і сваё паўсядзённае жыццё: здарэнні, пакуты, смутак.

“Стихъ – заключенному”.

Поздно, поздно вечеромъ,
Утихнетъ весь народъ,
Усыплется небо звѢздами,
Необъятный неба сводъ.
Тутъ въ безмолвіи глубокомъ
И унылой тишинѢ,
Въ заключеніи жестокомъ,
Запертой на единѢ
Узникъ тяжко вздыхаетъ,
За полночь сидя безъ сна
И пѢснь прощальну припѢваетъ,
У тюремного окна:
ВѢтры буйны, полетите
Въ мой любимой и родной (?)
ВѢсть отъ меня отнесите,
Что случилось здѢсь со мной.
Пусть друзья мои узнаютъ,
МнѢ чреда пришда страдать
И меня пусть не ожидаютъ
Въ край любимой никогда.
День тотъ вечно не настанетъ,
Что въ народѢ быть минѢ,
Жизнь моя въ грустяхъ завянетъ
Въ чюжой племенной странѢ.

Въ пиръ веселой разъ собрались
Наши ближніе друзья
И собравшись утЂшались,
Въ той бисЂдЂ былъ и я.
Забывъ горя и печали,
Вси сидЂли ввечеру,
Часы быстро пролетали,
Но я мраченъ былъ въ пиру,
Что то грусть мине смущала,
Горькой духъ мной обладалъ,
Буря в сердцЂ волновалась,
А отчиго, я самъ не зналъ.
Скоро жъ таинство открылось:
Этотъ пиръ несчастной былъ,
Не напрасно сердце билось,
Воли онъ мине лишилъ,
Въ клетку съ крЂпкими стЂнами
Заперет былъ, посаженъ за рЂшотками (?)
И замками, грозной стражей окруженъ.
КромЂ неба голубого
Ничего не видать мнЂ было,
Или штыкъ часового
Просверкаетъ мнЂ въ окно;
Какъ еще ударъ печальной
Надо мною будет разъ:
Отошлютъ мине въ край дальной
На изгнание въ Кавкасъ.
Прикуютъ мою свободу
Ко Болканскимъ горамъ,
ВсЂхъ лишатъ друзей и роду,
Заключатъ навЂчно тамъ.
Путь мине съ родными разлучаютъ,
Развели насъ навсегда,
Позабыть я ихъ не въ силахъ,
Не могу я никогда.
Не плачьте ро́дныя за мною,
Нидолго намъ грустить,
Все окончится съ могилой,
Мы тамъ будемъ вЂчно жить.
Мы тамъ будемъ жить вЂчно,
Безъ счету, безъ конца,

И будуть безпрестанно веселиться наши сердца.
Ни долинъ минѢ жаль цвѢтущихъ
Въ русской родинѢ моей,
Ни долинъ, ни ручьевъ текущихъ,
Селъ красивыхъ и полей, -
Какъ остался садъ прекрасный,
ГдѢ бывало я гулялъ,
Все по немъ грустно ужасно
Какъ бы садъ тотъ не увялъ!…

"Стихъ унылой."

Какъ уныло занываетъ
Томный тонъ стройныхъ пѢвцовъ,
Знать родного провожаютъ
Спать в долинѢ средь гробовъ.
Скоро ль, долго ль съ землею
ВсѢ сравняться не минемъ,
Можить завтра жа зарею
Я усну такимъ жа сномъ,
Можить также погребальный
Тонъ раздасться нада мной,
Павтарится стихъ пращальный
Со святыми упакой,
И никто маи радные
Ни поплачютъ нада мной
И на гробъ руки чюжія
Кинутъ горсть земли сырой,
И сердешнаво рыданья
ВѢкъ ни будетъ нада мной,
Изъ радныхъ ни будитъ знать,
Въ дни обычны поминанья
ВѢкъ ни будутъ посѢщать.
РазвѢ странники унылы
Только сядутъ пагруснѢть;
Или кто при пагребеньи
Сердцемъ къ Богу воздохнетъ,
И въ душевномъ умиленьи,
Слезку теплую пральетъ,
Или развѢ мимоходомъ
Кто изъ странниковъ зайдетъ.

И уставши на зеленомъ
Дерни сядетъ отдохнуть
И вздрогнувшися (?) душею
О усопшемъ воздохнетъ.
И никто, друзья былые,
Ни вспомянетъ аба мнѢ.
Погрустятъ маи радные
Тамъ, въ далекай старанѢ…[1. С. 27 - 31].

Стараабраднікі ў вершах выказвалі свае пачуцці, роздум, сваю тугу па радзіме. Погляды збеглых стараабраднікаў пераканаўча паказаны ў вершы, які захоўваўся ў веткаўскіх келейніц:

“Бахксизмъ при нарушении вѢры, отъ отступника Никона, бывшаго патріарха. Сія псальма составлена преосвященнымъ Анфимомъ епископомъ, который бѢжалъ за р.Дунай съ донскими казаками, сирѢчь некрасовцами”.

По грехомъ нашимъ на нашу страну
ОсѢни облакъ зѢло мрачный.
Солнце угаси лучи свѢтлые
И свѢтъ свой не яви на лицѢ земли.
Поздно съ вечера въ часы дневные
Наступила тьма несвѢтимая.
Но пророчеству Даніилову
Станетъ мерзость запустѢнія
На святемъ мѢстѢ,
Во церквахъ святыхъ.
Въ тысящи шесть сотъ
Шестьдесятъ шестой
Антихристъ возмути всю вселенную.
Отнялъ благолѢпіе церковное,
Издалъ же свою печать мерзкую.
Вместо Христова Креста – крыжъ латынскій,
За святыя иконы – картины.
Обладали святыми мѢстами вмѢсто учителей – злые мучители,
Издали свое лжи-ученіе – вместо святыхъ поученій;
За крещеніе – обливаніе; вмѢсто ладону табакъ мерзскую.
Въ знаменіе креста двоеперстнаго,
Щепоть гнусную троеперстную;

За благолЂпіе – брадобритіе;
Возлюбили тьму, ненавидимъ свЂтъ.
Никонъ лютый и съ поборники
Потребилъ книги старописмены,
Издалъ же свои – новоумыслены,
На погибель душамъ христіанскимъ,
Да увязнуть въ сЂть въ неизбЂжную,
Да наполненъ будетъ адъ вселютый
Тьма кромЂшная, огнь геенскій.
Никонъ лютый и способники
Воздвиже гоненіе великое,
На содержателей благочестія и пресвЂтлаго правовЂрія.
Погубилъ нашихъ вЂрныхъ пастырей:
Павла, епископа Коломенского,
Царского отца духовного архимандрита Никанора;
Разорилъ обитель киновію соловецкихъ чюдотворцевъ;
Погналъ вЂру христианскую въ темны лЂса и пустыню;
Истребилъ нашихъ вЂрныхъ пастырей;
ЗапустЂли церкви безъ учителей,
Разогналъ овецъ по лицу земли,
Наполненъ овцами востокъ и западъ,
Югъ и сЂверъ и вся концы,
Пожалъ пшеницу несозрЂлую,
Уморилъ вЂрныхъ безъ причастія.
Пришли ко овцамъ злые волки,
Губятъ вЂрныхъ пожератели.
Лютые бЂгуны и предатели,
Кровопійцы и ругатели;
Вземлютъ съ нищихъ за крещеніе.
Грабятъ съ больныхъ сиротъ за причастіе.
Оле (?) увы, горе, православніи,
Горько и люто сиротами.
НЂтъ уже прежнихъ нашихъ вЂрныхъ пастырей
Кои душъ своихъ не щадили,
За Христову вЂру положили,
Преставились наши патріархи.
Скрылись съ глазъ нашихъ цари и князи!
О горе, братіе, въ сіе время,
Аще помяну благочестіе
И пресвЂтлое правовЂрие,

Когда процвѢталъ кринъ церковный,
ЗѢло блисталъ чинъ священный,
То не можно быть безъ рыданія,
И безъ горькаго воздыханія!
Помолимся мы къ Высшему Творцу,
Да подасть намъ вѢрныхъ пастырей,
Отогнали отъ насъ злые волки,
Лжи учители и мучители,
Патріарха Никона ученики,
ЛицемѢры хищные ехидники.
И чего еще хощемъ ожидать,
Посредъ мира долго пребывать.
Уже жизнь наша скончавается,
А день судный приближается.

Адыгрываючы вялікую ролю ў асэнсаванні жыцця, раскрыцці чалавечых характараў і паказе рэчаіснасці, стараабрадніцкая літаратура і самадзейная творчасць уздзейнічалі на фарміраванне духоўна-маральных адносін у асяроддзі стараабраднікаў.

Сярод стараабраднікаў, у тым ліку і тых, што жылі на беларускіх землях, было шмат таленавітых пісьменнікаў і паэтаў, якія ў сваіх творах паказвалі цяжкасці жыцця не толькі абаронцаў старога абраду, але і ўсяго народа, выяўлялі тагачасныя праблемы. Адным з іх быў Лысенін Цімафей Матвееў (другая палавіна ХУІІ – пачатак ХУІІІ стст.). Сярод яго шматлікіх рукапісных прац такія як, “Описание прения старца Феодосия с Тимофеем Лысениным… и с его единоволниками”, “Сказание вкратце о брани протопопа Аввакума с Феодором дъяконом о вере и о несогласных письмах Аввакумовых. Их же многая лета держал и веровал Ануфрий, и как потом отложил и похулил” і шэраг іншых. Аб высокім узроўні тагачаснай стараабрадніцкай літаратуры на беларускіх землях сведчаць і той факт, што ў пачатку ХУІІІ ст. у Веткаўскім манастыры жылі і пісалі свае працы два філосафы Іаан Андрэеў і Фёдар. На Ветцы жыў Іван Філосаф – аўтар “Грамоткі” аб спосабе каджэння, напісанай у 1711 г. па просьбе веткаўскага старца Сергія. Значны след у стараабрадніцкай культуры пакінуў Іларыён Георгіевіч Кабанаў, які пэўны час пражываў на беларускай зямлі. Ім напісаны такія працы, як “История и обычаи Ветковской церкви”, “Окружное послание” і інш.

Наяўныя дадзеныя аб стараабрадніцкай літаратуры і самадзейнай творчасці дапамагаюць стварыць адзінае цэлае, якое па сваёй сутнасці з’яўляецца часткай культуры аб’ектыўнага свету. У творах стараабраднікі выказвалі свой светапогляд, сваю мадэль свету, адстойвалі ідэі духоўных айцоў, апісвалі канкрэтныя падзеі. Стараабрадніцкая літаратура і

самадзейная творчасць характарызуюцца цэльнасцю і вобразнасцю. Перажыванні за сваю веру, за лёс радзімы з'яўляюцца важнейшымі кампанентамі стараабрадніцкай культуры, а таму можна гаварыць аб патрыятызме стараабраднікаў, іх вернасці радзіме, вернасці ідэям старажытнарускага праваслаўя.

Гэтая забароненая і гнаная культура, - таксама як літаратура і самадзейная творчасць, увасабленнем якой яны з'яўляюцца, - шырока распаўсюджвалася ў народзе, выйшла далёка за межы ўласна стараабрадніцкага руху.

Свята захоўваючы веру і запаветы продкаў, стараабраднікі вялі традыцыйна абшчынны спосаб жыцця. У адказ на знявагу і ўціск з боку ўлад, у адказ на поўную немагчымасць атрымаць адукацыю і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці стараабраднікі, узяўшы ад старажытнага рускага праваслаўя вонкавую абраднасць, стварылі ў сваім асяроддзі своеасаблівую культуру, якая на беларускіх землях была адметнай і мала вялікае значэнне. Праявы гэтай культуры выявіліся ў архітэктуры, а больш правільна сказаць, у будаўніцтве стараабрадніцкіх манастыроў, цэркваў і малельняў, а таксама ва своеасаблівым іх унутраным афармленні, сістэме навучання, самадзейнай творчасці.

Стараабраднікі, будучы па сутнасці рускімі, па волі лёсу трапілі на беларускія землі і пакінулі станоўчы след у беларускай культуры. Але, на жаль, іх дзейнасць на Беларусі вывучана далёка не поўнасцю.

Неабходна адзначыць, што сярод прадстаўнікоў рускіх улад аж да пачатку XX ст. не было разумення таго, што стараабрадніцкі светапогляд, стараабрадніцкая царква і стараабрадніцкая культура ўяўляюць аб'ектыўную рэальнасць, якая мае права на існаванне і не можа знікнуць па загаду каго-небудзь.

## Літаратура


1. Абрамов И. Старообрядцы на Ветке. Спб., 1907.
2. Волков В.И. Сведения о начале, распространении и разделении раскола в Витебской губерни. Витебск, 1866.
3. Гарбацкі А.А. Царкоўны раскол і стараверы на Беларусі ў другой палове ХУІІ – першай палове XIX стст. // Беларускі гістарычны часопіс. 1997. №4.
4. Горбацкий А.А. Старообрядцы на Беларуси. // Падарожнік. 1998. №1.
5. Гарбацкі А.А. Да вытокаў духоўнай спадыны. // Народная асвета. 1998. №12.
6. Гарбацкі А.А. Перыядычны друк у стараавераў. // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400. (Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі). Брэст, 1997.
7. Дегуцкий летописец. В кн: Древлехранилище пушкинского дома. Материалы и исследования. Л., 1990.
8. Зеньковский С.А. Русское старообрядчество: Духовные движения семнадцатого века. М., 1995.
9. Ксенос И.Г. Окружное послание, составленное И.Г. Ксеносом и изданное старообрядческими епископами 24 февраля 1862 года с приложением Устава и Омышления, составленных тем же автором. Изд. Н. Субботиным с предисл., примеч. и портр. Ксеноса. М., 1893.

10. Лилеев М.И. Из истории раскола на Ветке и в Стародубье XУII – XУIII вв. Киев, 1895. Т. 1. Вып. 1.
11. Материалы для истории раскола старообрядчества в Могилевской губерни конца XУIII и начала XIX столетий. Могилев, 1902.
12. Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь.
13. Обзор Минской губерни за 1904 г. Минск, 1905.
14. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у С.-Пецярбургу.
15. Расійкая нацыянальная бібліятэка ў С.-Пецярбургу. Зал рукапісаў.
16. Старообрядчество. Опыт энциклопедического словаря. Составили: Вургафт С.Г., Ушаков И.А. М., 1996.
17. Сергий (Юршев). Зеркало для старообрядцев не покоряющихся православной церкви. Спб., 1799.
18. Смиронв П.С. История русского раскола старообрядчества. Рязань, 1893.
19. Старообрядческий церковный календарь. 1994.
20. Старообрядец. 1906. №3.
21. Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губерни. Могилев, 1882. Кн. 1.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

У дадзенай манаграфіі аўтарам разгледжана недастаткова вывучаная ў дарэвалюцыйнай і паслярэвалюцыйнай гістарыяграфіі тэма, якая датычыць стараабраднiцтва на Беларусі.

Раскол Рускай праваслаўнай царквы ў сярэдзіне XУII ст. не быў вынікам выпадковых сутычак ці няўдалых дзеянняў некалькіх уплывовых асоб або вынікам унутрыпалітычнага канфлікту. Раскол быў народжаны сацыяльнымі супярэчнасцямі самадзяржаўна-прыгоннага ладу, а царкоўная рэформа стала толькі фармальнай яго прычынай. “Раскольнікі” падзяліліся з-за спрэчных рэлігійных абрадаў на розныя напрамкі – папоўства і беспапоўства. Першапачаткова найбольш распаўсюджаным і ўплывовым быў кансерватыўны папоўскі рух, першымі правадырамі якога сталі багамольцы Авакум, Нярон аў, поп Казьма, Сцяпан Ваніфацьеў і інш., якія і пасля цяжкіх выпрабаванняў засталіся вернымі старарускаму царкоўнаму абраду. Потым з’явілася другая, эсхаталагічная, плынь у стараабрадніцтве – беспапоўства. Да яго адносілася найбольш прыгнечаная феадаламі і афіцыйнай царквою частка стараабраднікаў, якая адмаўляла ўсякі кампраміс з дзяржавай і Рускай праваслаўнай царквою. Ужо сама наяўнасць гэтых дзвюх плыняў, прыхільнікі якіх прытрымліваліся розных пунктаў погляду на сацыяльна-эканамічныя працэсы ў грамадстве і на абрад у царкве, паказвае, наколькі глыбокім і складаным па сваёй сутнасці быў раскол. На наш погляд, рускі цар Аляксей Міхайлавіч і патрыярх Нікан не ўяўлялі тых узрушэнняў і праблем, якія ўзніклі ў выніку царкоўнай рэформы. Адданасць старажытнаму праваслаўю большай часткі прадстаўнікоў розных саслоўяў трывожыла цара і баяр. Рух за захаванне старога царкоўнага абраду мог стаць сцягам, пад якім лёгка павесці народ,

незадаволены рэформамі царквы, тым больш у час, калі яшчэ не ўлёгся страх ад паўстання Сцяпана Разіна.

Сацыяльныя і палітычныя матывы, эканамічная незадаволенасць, недавер да царкоўнага і дзяржаўнага кіраўніцтва, азлобленасць супраць баяраў і асабістыя крыўды – усё гэта прывяло да таго, што стараабраднікі вымушаны былі перасяляцца на ўскраіны Рускай дзяржавы. У гэтых умовах іх лідэры вызначалі свае рэлігійныя “дактрыны”. Стараабраднікі-папоўцы, будучы аптымістамі, верылі ў магчымасць выратавання “мира” і, кіруючыся тэакратычнай ідэалогіяй, хацелі ператварыць Русь у Трэці Рым. Лідэры стараабраднікаў-беспапоўцаў намагаліся павесці сваіх паслядоўнікаў, якіх яны лічылі апошнімі вернымі прадстаўнікамі ўсходняга хрысціянства, у пустыню, у “вечны пост”. Гэта выклікала шматлікія выпадкі самаспальвання. Ва ўказаных дзвюх плынях судакрануліся два спрадвечныя бакі хрысціянства: адзін – аптымістычны, радасны (папоўцы) і другі – змрочны, песімістычны (беспапоўцы).

Сацыяльна-эканамічнае і ўнутрыпалітычнае становішча Рускай дзяржавы прымушала стараабраднікаў мігрыраваць і за мяжу. Апынуліся стараабраднікі на беларускіх землях, якія ў той час уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Талерантнасць у адносінах да стараабраднікаў была характэрнай для ўлад Рэчы Паспалітай. Рускія перасяленцы асвойвалі тут неабжытыя землі, стваралі пры гэтым даволі эфектыўную вытворчасць, але жыццё арганізавалі на ўзор жыцця сваіх бацькоў і дзядоў. Характэрна, што менавіта на беларускіх землях рускія стараабраднікі пабудавалі свае першыя манастыры і храмы, якія па храстве і багацці не ўступалі маскоўскім праваслаўным храмам. Беларуская Ветка на доўгі час стала цэнтрам усяго папоўства.

Побач з беларускай культурай узнікла культура перасяленцаў з Расіі – стараабраднікаў. Характэрным у гэтай сітуацыі было тое, што беларуская культура і культура рускай дыяспары мірна суіснавалі, аднак не змешваліся. След стараабрадніцкай культуры заставаўся ў будаўніцтве манастыроў, цэркваў, малельняў, гаспадарчых пабудоў, у развіцці саматужных промыслаў, ужытковага мастацтва, у сістэме навучання, самабытнай літаратуры і народнай творчасці, у побыце.

За два стагоддзі знаходжання на беларускіх землях стараабраднікі, жывучы абасоблена, здолелі захаваць сваю веру, рэлігійныя абрады, звычаі, сваю мараль. Іх культура і мова, як і ўсё іх духоўнае жыццё, не растварыліся на новым месцы пражывання. Жыццё ў дыяспары спрыяла таму, што яны захавалі сваю адметнасць. Іх узаемадапамога, кемлівасць і практыцызм дапамагалі наладжваць даволі заможнае жыццё, а матэрыяльны дастатак і ўменне выкарыстоўваць спрыяльныя палітычныя і эканамічныя ўмовы давалі магчымасць будаваць свае цэрквы і малельні.

На беларускіх землях абаронцы старога абраду, дзякуючы сваёй салідарнасці, узаемадапамозе, здолелі стварыць строгую цэнтралізацыю, свае кіруючыя асяродкі, стварыць свой статут. Пасля шматлікіх безвыніковых захадаў, накіраваных на тое, каб займець свайго епіскапа, дзякуючы і намаганням веткаўскіх стараабраднікаў стараабрадніцтва, галоўным чынам папоўцы займелі свайго епіскапа і стварылі адзіны стараабрадніцкі папоўскі цэнтр. (У Белай Крыніцы, у тагачаснай Аўстра-Венгрыі, цяпер Украіна).

Спрэчкі і разважанні па пытаннях пра веру і абрады, аналіз гістарычных падзей стараабраднікі адлюстроўвалі ў сваіх рукапісных працах. Яны складалі вершы і песні аб найбольш значных у іх жыцці падзеях, пісалі пра свае поспехі і няўдачы. У творах стараабраднікаў выяўляўся іх характар, светапогляд і духоўны кругагляд, іх творы сведчаць аб тым, што яны ўмела адчувалі ўплыў часу. У сваёй пісьмовай і размоўнай палеміцы яны карысталіся як тагачаснай літаратурна апрацаванай мовай, так і простанароднай. Часткова прычыну гэтага можна вытлумачыць і тым, што ХУІІ стагоддзе было стагоддзем бясконцых войнаў, што адбілася і на культуры маўлення рускага духавенства.

Гісторыя ўзаемаадносін расійскага баярства, а потым урада і стараабрадніцтва сведчыць аб тым, што ў аснове палітыкі баярскай думы і ўрада ляжала боязь антыдзяржаўных настрояў стараабраднікаў. Такая палітыка рускага ўрада прывяла да таго, што ў ХУІІІ ст. рускія войскі насільна ўрываліся ў межы Рэчы Паспалітай і “выганялі” (адсюль – “выганкі”) сваіх падданых – стараабраднікаў на рускія землі.

Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі змянілі спосаб жыцця стараабраднікаў на беларускіх землях. Тут важна падкрэсліць, што ў пачатку XIX ст. стараабраднікі пражывалі ва ўсіх беларускіх губернях. Уключэнне гэтых зямель у агульнарасійскую эканамічную сістэму аказала ўплыў на эканоміку ў стараабрадніцкіх раёнах, што выявілася ў першую чаргу ў змяненні напрамкаў гаспадарчай дзейнасці і ў сацыяльным жыцці: узмацніўся ўціск памешчыкаў не толькі на мясцовых сялян, але і на стараабраднікаў.

У другой палавіне XIX ст. палітычная дзейнасць рускага стараабрадніцтва пайшла на спад, менш стала антыўрадавых выступленняў. У новых умовах стараабраднікі зразумелі, што каб захаваць сваю веру, свае традыцыі і абрады, каб будаваць цэрквы і малельні, ім быў патрэбны капітал. І яны актывізавалі гаспадарчае жыццё, вялікую ўвагу ўдзялялі развіццю гандлю, промыслаў, рамёслаў, актыўна ўключаліся ў эканамічныя адносіны. Пасля прыгнёту, які працягваўся не адно стагоддзе, пасля перамен у эканоміцы Расіі стараабраднікі былі зацікаўлены галоўным чынам у стабільнасці палітычнага жыцця ў дзяржаве.

У другой палавіне XIX ст. змяняюцца ўрадавыя адносіны да стараабрадніцтва, урад рыхтаваўся да прызнання “раскольнікаў”. Паскорыла вырашэнне гэтага пытання паўстанне 1863 года, калі стараабраднікі на беларускіх землях выступілі на баку расійскага ўрада і прымалі ўдзел у падаўленні паўстання. Перад царскім урадам паўстанне паставіла немалаважную задачу: абараніць перасяленцаў-стараабраднікаў. Польскія памешчыкі пасля падаўлення паўстання пачалі прыгнятаць стараабраднікаў, што выклікала скаргі з боку апошніх. Разумеючы значэнне стараабрадніцтва на далучаных да Расіі беларускіх землях, а таксама яго ўплыў на сацыяльна-эканамічнае жыццё дзяржавы, цар і ўрад пад канец XIX ст. ужо не адмаўлялі ідэю прызнання стараабрадніцтва, аб чым сведчаць урадавыя ўказы і пастановы 1905 – 1906 гг. Іншымі былі адносіны афіцыйнай праваслаўнай царквы: толькі 31 мая 1971 г., г.зн. праз больш як трыста гадоў з таго часу, як узнік раскол, на Памесным Саборы Рускай праваслаўнай царквы былі адменены праклёны на стараабраднікаў.

Відавочным з’яўляецца, што сваімі дзеяннямі царскі ўрад не вырашаў, а толькі ўскладняў праблему: колькасць стараабраднікаў на беларускіх землях пасля іх далучэння да Расіі павялічвалася. На наш погляд, праблема стараабрадніцтва для царскага ўрада была невырашальнай да пачатку XX ст. з той прычыны, што ўрад даваў ацэнку расколу толькі як гістарычнай з’яве. Цар і ўрад не хацелі прызнаць таго, што стараабрадніцкі светапогляд, стараабрадніцкая царква, яе ідэі, абрады, традыцыі, культура ўяўлялі аб’ектыўную рэальнасць, якая мела права на існаванне.

Аналіз дзяржаўнай палітыкі Рэчы Паспалітай у адносінах да стараабрадніцтва паказвае, што ў любой палітычнай сітуацыі ўрад можа мірна суіснаваць з рэлігійнымі канфесіямі пры ўмове, што іх ідэалогія не з’яўляецца антыгуманнай і не вядзе да канфрантацыі ў грамадстве. Аналіз жа дзяржаўнай палітыкі Расіі ў адносінах да стараабрадніцтва паказвае ўсю неабгрунтаванасць сілавога вырашэння рэлігійных праблем. Расійскі ўрад да XX ст. “не знаходзіў у грамадстве месца” для стараабрадніцкага светапогляду.

Даныя нашага даследавання і сённяшняя палітыка ўрадаў у адносінах да канфесій даюць падставы зрабіць высновы: у любым чалавечым грамадстве мае месца розны рэлігійны светапогляд, таму задача дзяржавы ў тым, каб праводзіць палітыку мірнага суіснавання тых рэлігійных светапоглядаў, якія не супярэчаць нормам чалавечай маралі, выкарыстоўваць магчымасці любой рэлігійнай канфесіі для выхавання Чалавека.